**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
**Беларускі дзяржаўны універсітэт**
**культуры і мастацтваў**

**Я.Д.Грыгаровіч, А.І.Смолік**

# ПРЫКЛАДНАЯ КУЛЬТУРАЛОГІЯ

*Дапушчана Міністэрствам адукацыі*
*Рэспубліку Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка*
*для студэнтаў спецыяльнасці "культуралогія"*
*ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне*
*вышэйшай адукацыі*

**Мінск 2005**

УДК 008:374.71+379.8[78/79.077+745/749]+130.13:[349/395+398](476)
ББК 71.4(4Беи)
Г 917

Рэцэнзенты:
І.В.Марозаў, *доктар культуралогіі, прафесар;*
С.У.Данскіх, *кандыдат культуралогіі, дацэнт;*
кафедра філасофіі і культуралогіі Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы БДУ

Г 917 **Грыгаровіч Я.Д., Смолік А.І.**
Прыкладная культуралогія: вучэб. дапам. — Мн.: Адукацыя і выхаванне, 2005.— 228 с.

ISBN

Разглядаюцца праблемы тэорыі і методыкі інстытуцыянальных і пазаінстытуцыянальных узаемадзеянняў суб'ектаў культуры, формы і тэхналогіі фарміравання культуры асобы. Раскрываюцца асновы культурнай палітыкі, яе прынцыпы і мэты. Аналізуюцца функцыі сацыякультурных інстытутаў, формы засваення культуры індывідам і рознымі сацыяльнымі групамі.

Для выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ.

ББК 71.4 (4 Беи)

ISBN

# ЗМЕСТ

# УВОДЗІНЫ

Дынамічнасць працэсаў, якія ахапілі ўсе ўзроўні жыццядзейнасці сучаснага грамадства, асабліва глыбока закранула сацыякультурную сферу.

Логіка развіцця нашага грамадства прывяла да прынцыповай змены падыходаў у вызначэнні зместу духоўнага жыцця. Успрыманне культурнай дзейнасці як запраграміраванай і арыентаванай на агульнадзяржаўныя ідэалы мэтанакіраванай асветніцкай работы, у якой асобе з яе непаўторным духоўным светам адводзілася роля спажыўца дазіраваных і выверaных з пазіцый сацыялістычнай ідэалогіі грамадства культурных з'яў і каштоўнасцей, канула ў мінулае. Антыгуманістычны характар падобнай палітыкі звужаў поле для рэалізацыі каштоўных стваральных ініцыятыў, абмяжоўваў магчымасці культурнатворчай дзейнасці чалавека, прыводзіў яе да уніфікацыі.

Адмаўленне ад такога падыходу ў практыцы культурнага развіцця грамадства, пераарыентацыя яго на экзістэнцыяльныя жыццёвыя патрэбнасці чалавека раскрываюць шырокія перспектывы для ўзбагачэння духоўнага патэнцыялу, стымулявання ініцыятывы і самадзейнасці як розных сацыяльных груп, так і грамадства ў цэлым.

Разам з тым аналіз сучаснага стану сацыякультурнай сферы рэспублікі сведчыць аб энтрапійных з'явах у яе развіцці. У дзейнасці сацыякультурных устаноў выявілася небяспечная тэндэнцыя да скарачэння іх агульнай колькасці. Сярод важнейшых прычын гэтай з'явы — эканамічная нерэнтабельнасць зместу дзейнасці ўстаноў для правядзення вольнага часу ў маланаселеных пунктах, адмаўленне ад фінансавання іх з боку мясцовых адміністрацыйна-гаспадарчых органаў, недастатковая колькасць сродкаў, якія выдаткоўваюцца на сацыякультурную сферу, і недахоп кваліфікаваных, падрыхтаваных на ўзроўні сучасных патрабаванняў кадраў. Цалкам заканамерна, што дадзеныя абставіны негатыўна ўздзейнічаюць на змястоўны аспект і сістэмнасць правядзення мэтанакіраванай дзяржаўнай культурнай палітыкі. Вольны час як важная частка жыццядзейнасці чалавека, яго самарэалізацыі і самасцвярджэння стаў страчваць агульнагуманістычны змест, саступаючы месца аблегчаным, далёкім ад сапраўднай культурнай насычанасці відам і формам.



Разам з тым у развіцці сацыякультурнай сферы назіраюцца некаторыя новыя станоўчыя тэндэнцыі. З'явіліся ўстановы новага тыпу. Вялікую папулярнасць у апошні час атрымалі Дамы (цэнтры) народнай творчасці, народных рамёстваў, бібліятэкі-клубы, аматарскія аб'яднанні і інш. Часткова яны адкрываюцца на базе клубных устаноў, якія дзейнічалі раней, але нямала прыкладаў і абсалютна новых структур.

Значную цікавасць у насельніцтва выклікаюць сёння выяўленчае і харэаграфічнае мастацтвы, і гэта можна адзначыць як устойлівую тэндэнцыю, што таксама павінна быць улічана пры вызначэнні культурнай палітыкі.

У апошні час вызначыліся новыя, цікавыя тэндэнцыі ў пашырэнні спектра дзейнасці бібліятэчных устаноў. Яны ўсё больш бяруць на сябе функцыі бібліятэк-музеяў, бібліятэк-клубаў, што вымушае ставіць пытанне аб магчымасці атрымання бібліятэкарамі дадатковай кваліфікацыі праз сістэму перападрыхтоўкі.

Страта дасягнутых раней пазіцый з'яўляецца вынікам адмаўлення ад пазітыўнага вопыту, які складваўся на працягу дзесяцігоддзяў, а таксама непадрыхтаванасці работнікаў сферы культуры і мастацтва да таго, каб вызначыць жыццяздольныя формы арганізацыі культурна-творчай дзейнасці мас і мадыфікаваць іх у адпаведнасці з патрабаваннямі часу. Нельга не пагадзіцца з тым, што неадэкватны сучаснасці ўзровень падрыхтоўкі работнікаў сферы культуры і мастацтва (а па даных статыстыкі больш за 50% работнікаў устаноў вольнага часу складаюць людзі сталага ўзросту, якія атрымалі дыплом спецыяліста яшчэ ў даперабудовачны перыяд) не толькі зніжае сацыяльную і духоўную значнасць вольнага часу, але і ператварае яго ў грамадска небяспечны механізм, які таіць у сабе непрадказальныя праявы антысацыяльнай накіраванасці.

Узнікла неабходнасць у пераацэнцы і рэарганізацыі зместу і структуры культурна-адпачынкавай сферы, пераасэнсаванні функцый розных культурных устаноў. Стрыжнёвымі напрамкамі

дзейнасці ўстаноў сацыякультурнай сферы з’яўляюцца сцвярджэнне прыярытэтнасці інтарэсаў чалавека, прызнанне яго вышэйшай каштоўнасцю ў процівагу тэхнакратычнаму падыходу, існаваўшаму многія дзесяцігоддзі. Папярэдняя абсалютызацыя сацыяльна-функцыянальнага падыходу да ўспрымання сутнасці чалавека, якая вызначае важнасць яго прыналежнасці да той або іншай сацыяльнай групы, прыводзіла да маніпуляцыі духоўным патэнцыялам асобы, дэгуманізацыі яе каштоўнасных арыентацый. Падобная канцэптуальная пазіцыя абмяжоўвала свабоду творчай дзейнасці, звужала магчымасці ў стварэнні духоўнай апоры сваёй жыццёвай стратэгіі, што садзейнічала паглыбленню крызіснай сітуацыі ў грамадстве.

У перыяд сістэмнай трансфармацыі грамадства ўзрастае роля культуралогіі як навукі, што вывучае, плануе і распрацоўвае методыку мэтанакіраванага прагназавання, кіравання працэсамі фарміравання індывіда — суб’екта культуры — і яго пераўтварэння з чалавека разумнага, што валодае тэхналогіяй вытворчасці, у чалавека творчага, які паўсядзённа ўвасабляе высокія крытэрыі культуры ва ўсіх сферах жыццядзейнасці. Вывучэнне і фарміраванне прынцыпаў і тэхналогій мэтанакіраванага рэгулявання культурнымі працэсамі, арганізацыя дзейнасці асобы ў сферы культуры складаюць змест спецыяльнай галіны навуковага пазнання — прыкладной культуралогіі.

У дадзеным вучэбным дапаможніку разглядаюцца ключавыя праблемы, задачы, кірункі і аспекты прыкладной культуралогіі.

# 1. СУЧАСНЫ СТАН НАВУКОВЫХ ВЕДАЎ АБ КУЛЬТУРЫ

## 1.1. Культуралогія і яе месца сярод сацыяльна-гуманітарных навуковых дысцыплін

Культуралогія, як ніякая іншая навуковая дысцыпліна, у апошнія гады зведвае вельмі сур’ёзныя змены. Яшчэ некалькі гадоў назад на постсавецкай прасторы гісторыю і тэорыю культуры — вядучыя культуралагічныя дысцыпліны — вывучалі толькі студэнты асобных універсітэтаў. Сёння гэтыя дысцыпліны ўвайшлі ў вучэбныя планы ўсіх гуманітарных універсітэтаў не толькі нашай краіны, але і Расіі, Украіны, Польшчы і інш.

Імкліва расце колькасны аб’ём навуковых даследаванняў, слоўнікаў (аўтары Л.Г.Іонін, А.Я.Левіт, А.А.Круглоў, К.М.Харужанка, А.Я.Фліер і інш.), падручнікаў для ВНУ культуры, гуманітарных і тэхнічных універсітэтаў і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў (К.Г.Багдасар’ян, І.І.Горлава, А.С.Каргін, А.Я.Левяш, С.П.Мамантаў, П.А.Сапронаў, Я.У.Сакалоў, В.І.Палішчук, В.М.Розін, А.І.Чарнакозаў), методык выкладання культуралогіі (Ю.Ю.Гафарава, Г.Я.Нікіціна, С.С.Мінц, І.Б.Томан і інш.).

Нельга не заўважыць значнай актывізацыі даследчай і навукова-метадычнай работы ў галіне культуралогіі ў Беларусі. Працы І.І.Антановіча, Э.К.Дарашэвіча, П.Р.Ігнатовіча, М.І.Крукоўскага, А.А.Макаравай, І.В.Марозава, У.Ф.Мартынава, Р.Я.Мінянкова, В.У.Пазнякова, У.Д.Разенфельда, У.П.Скараходава, А.І.Смоліка, Ю.В.Чарняўскай, І.Я.Шыршова і іншых раскрываюць тэарэтычныя асновы, сутнасць, структуру і формы культуры.

Асабліва паспяхова праводзіцца даследчая праца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, Рэспубліканскім

інстытуце вышэйшай школы БДУ, Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, Беларускім інстытуце праблем культуры.

Аднак пры пабудове культуралагічных ведаў як сістэмнай сукупнасці каштоўнасцей, назапашаных чалавецтвам на працягу яго развіцця, узнікаюць значныя цяжкасці, і ў першую чаргу ў змястоўным плане.

Праблемы тэарэтыка-метадалагічнага характару выкліканы тым, што культуралогія як навуковая і вучэбная дысцыпліна яшчэ знаходзіцца ў стадыі станаўлення, удакладнення свайго зместу і метадаў, яе абрысы як навуковай дысцыпліны не набылі завершанага тэарэтычнага зместу. Цяжкасці станаўлення культуралогіі ў ВНУ перш за ўсё вынікаюць са складанасці і мнагапланавасці паняцця культуры як анталагічнага феномена. Шматзначнасць паняцця “культура” адзначаюць не толькі беларускія, але і замежныя культуролагі: М.Каган, Б.Ерасаў, Ю.Якавец, П.Гурвіч з Расіі, М.дэ Серто з Францыі, К.Джэнкс з Англіі і інш. У літаратуры можна сустрэць розныя спробы ўпарадкаваць гэтае мноства азначэнняў. У прыватнасці, некаторыя навукоўцы вылучаюць віды азначэнняў: апісальныя, антрапалагічныя, каштоўнасныя, нарматыўныя, гістарычныя, герменеўтычныя, псіхалагічныя, сацыялагічныя і інш. Ва ўсіх пералічаных відах азначэнняў ёсць рацыянальны змест, кожны з іх указвае пэўныя істотныя рысы культуры. Але як спалучаюцца паміж сабой гэтыя рысы? Што аб’ядноўвае іх у адно цэлае? Для адказу на гэтыя пытанні неабходныя тэарэтычнае асэнсаванне культуры як адзінай цэласнай сістэмы, разуменне заканамернасцей, што абумоўліваюць яе функцыянаванне і развіццё.

Стракатасць поглядаў даследчыкаў беларускай і замежнай культуралагічнай думкі тлумачыцца многаэлементнасцю і разнароднасцю культуры па сваім складзе. Таму пры вывучэнні яе неабходна даследаваць не толькі розныя бакі, аспекты, грані, уласцівасці, але і розныя формы існавання культуры (мастацтва, мараль, рэлігія, навука і інш.), розныя яе інстытуты (палітычныя, прававыя, сістэму адукацыі, масавыя камунікацыі), розныя культурныя працэсы, формы кіравання, абслугоўвання, зносін людзей. З гэтага вынікае, што існуе не толькі магчымасць, але і істотная неабходнасць у рэдукаванні культуры рознымі дысцыплінамі з улікам той ці іншай канкрэтнай формы яе быцця. У кожнай з навук культура раскрываецца пэўнымі бакамі. Так, археолагам культура разглядаецца як сукупнасць прадуктаў чалавечай дзейнасці, у якіх арэчаўлены сляды духоўнага свету і паводзін людзей. Этнограф пад культурай разумее спецыфічны для



пэўнага этнасу комплекс звычаяў, абрадаў, вераванняў, асаблівасцей працы і быту людзей. Сацыёлаг бачыць у культуры галоўным чынам фактар інтэграцыі грамадства, сістэму сродкаў, з дапамогай якіх арганізуецца і рэгулюецца сумеснае жыццё людзей.

Польскі культуролаг К.Жыгульскі, які прысвяціў шэраг сваіх прац даследаванню мноства разнародных культуралагічных тэорый, прыйшоў да высновы, што адзіная навука аб культуры наогул немагчыма. Сапраўды, калі разглядаць культуралогію як навуку, што спрабуе падсумаваць падыходы і вывады розных дысцыплін, якія вывучаюць культуру, то існаванне адзінай дысцыпліны аб культуры немагчыма.

М.Каган лічыць, што культуралогія можа быць самастойнай навукай, калі будзе разглядаць культуру не як суму разнастайных формаў і прадуктаў дзейнасці, спосабаў дзейнасці і інстытутаў, а як сістэмна-цэласнае адзінства.

Такім чынам, задачай культуролагаў з’яўляецца асэнсаванне культуры ў яе рэальнай цэласнасці і паўнаце канкрэтных формаў існавання, у яе будове, функцыянаванні і развіцці.

## 1.2. Структура культуралагічных ведаў

Сярод разнастайнасці ўяўленняў аб культуралогіі мэтазгодна вылучыць тры асноўныя падыходы. Адны разглядаюць культуралогію як комплекс дысцыплін, што вывучаюць розныя аспекты культуры. Пры такім падыходзе галоўнай мэтай культуралогіі з’яўляецца вывучэнне культуры ў яе гістарычным развіцці і сацыяльным функцыянаванні, у выніку чаго фарміруецца сістэма ведаў аб культуры.

Другія лічаць, што культуралогія ўваходзіць у склад дысцыплін, што вывучаюць культуру. У гэтым выпадку адбываецца атаясамліванне з культуралогіяй філасофіі культуры, культурнай антрапалогіі, сацыялогіі культуры і нават вылучэнне філасофскай культуралогіі як навукі аб сэнсах, значэннях, якія бяруцца ў іх цэласнасці ў адносінах да пэўнага рэгіёна ці часавага перыяду.

Трэція бачаць у культуралогіі самастойную навуковую дысцыпліну са сваім прадметам і метадамі даследавання, вызначаюць ёй пэўнае месца ў сістэме сацыяльна-гуманітарных ведаў.

Безумоўна, гэтыя і іншыя метадалагічныя падыходы да разумення культуралогіі маюць права на жыццё. Але ў якасці зыходнага меркавання для станаўлення культуралогіі як навуковай і вучэбнай дысцыпліны неабходна выкарыстоўваць уяўленні аб ёй як сістэме ведаў, што складаецца з некалькіх блокаў (схема 1.1).

Схема 1.1

**Сістэма ведаў аб культуры**




Культуралогія, разглядаемая ў *тэарэтычным аспекце*, з'яўляецца гуманітарнай навукай, якая заснавана на спасціжэнні ўнутраных заканамернасцей і структур культуры. У межах



тэарэтычнай культуралогіі склалася мноства навуковых школ і кірункаў, якія даследуюць найбольш агульныя праблемы гістарычнага і сацыяльнага быцця культуры, а галоўнае — фарміруючыя яе эпістэмалогію — сістэму прынцыпаў, метадалогіі і метадаў пазнання, сістэматызацыі і аналізу вывучаемага матэрыялу аб культуры. Рэальна культуралогія акцэнтуе ўвагу на сацыякультурных працэсах і з'явах, якія ўзніклі ў выніку сумеснай жыццядзейнасці людзей. Яна вывучае розныя культурныя феномены: сродкі камунікацыі паміж грамадствам і асобай; сістэму інфармацыйных носьбітаў; іерархію культурных каштоўнасцей, нормаў, патэрнаў і г.д. Вывучэнне тэорыі культуры дазваляе сфарміраваць навуковыя ўяўленні аб сутнасці, прадмеце, катэгорыях, структуры і функцыях культуры.

Мэтай *гістарычнай культуралогіі* з'яўляецца даследаванне генезісу і гістарычных этапаў развіцця культуры. Пры гэтым ставіцца задача разглядаць нацыянальную культуру ў кантэксце гісторыі сусветнай культуры. Пры вывучэнні культуралагічных дысцыплін гістарычнага блока пажадана пазбегнуць еўрапацэнтрызму, маналінейнага разумення культурна-гістарычнага развіцця, у якім еўрапейская культура разумеецца не па сваім укладзе ў культуру сучаснасці, а па мяркуемай універсальнасці шляхоў яе гістарычнага развіцця. Па гэтай прычыне ўзнікае неабходнасць рэканструкцыі многаварыянтнага генезісу культуры, вывучэння асноўных тыпаў старажытных культур, ментальных палёў культур, якія належаць да рэгіёнаў Еўразіі, Усходняй, Сярэдняй, Паўднёвай, Паўднёва-Усходняй Азіі, Цэнтральнай Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, Паўночнай Амерыкі. На гэтым фоне становіцца магчымым выяўленне своеасаблівасці і унікальнасці еўрапейскай культуры.

Паколькі поўнае гістарычнае вывучэнне культурных рэгіёнаў свету немагчыма, мэтазгодна сканцэнтраваць намаганні на гісторыі еўрапейскай культуры, а пры знаёмстве з традыцыйнымі культурамі прасачыць, як рэалізаваўся ў іх еўрапейскі імпульс, як ён трансфармаваўся ва ўмовах дыялога культур.

Пры вывучэнні гісторыі беларускай культуры неабходна выявіць уласную логіку развіцця беларускай культуры, яе самабытнасць. Безумоўна, гістарычны шлях, які прайшла беларуская культура, трэба вывучаць у цеснай сувязі з культурнымі працэсамі, што адбываліся ў суседніх краінах, а таксама ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе.

Пэўныя культуралагічныя веды ўтрымліваюцца ў шэрагу *гуманітарных навуковых дысцыплін*, якія звязаны пэўным чынам

з культуралогіяй і садзейнічаюць фарміраванню сістэмы ведаў аб культуры. Так, агульная філасофія звязана з культуралогіяй праз філасофію культуры, што вывучае ментальныя характарыстыкі асобы чалавека як прадстаўніка пэўнай культуры і як своеасаблівую “канфігурацыю”, складанае “перакрыжаванне” множства культур. Зразумець мнагазначнасць і складанасць паняцця культуры, якое ўключае ў сябе станаўленне чалавека як суб’екта творчай дзейнасці, гістарычна канкрэтныя формы гэтай дзейнасці на розных этапах грамадскага развіцця ў рамках этнасаў, эпох і фармацый, апрадмечаных у яе выніках, дасягненнях чалавецтва ў розных канкрэтных сферах грамадскага жыцця, можна праз вывучэнне не толькі гісторыі і тэорыі культуры, а цэлага комплексу гуманітарных дысцыплін.

У структуры культуралагічных ведаў значнае месца займаюць мастацтвазнаўчыя дысцыпліны. Гэта абумоўлена тым, што мастацтва адлюстроўвае культурна-гістарычную сітуацыю ў цэлым і рэалізуе, акрамя пазнавальнай, яшчэ і геданістычную функцыю. Важна, што ў мастацкай культуры найбольш поўна і яскрава праяўляюцца творчыя сілы чалавека. Вывучэнне мастацкай культуры адкрывае шырокія магчымасці фарміравання маралі асобы праз вылучэнне і творчае ўвасабленне універсальных праблем, якія маюць непасрэдныя адносіны да кожнага чалавека, такіх як сэнс жыцця і шчасця, дабро і зло, любоў і нянавісць, сумленне, віна і адказнасць і інш.

Мастацкая культура з’яўляецца падсістэмай культуры, сярэдзінным яе пластом, дзе духоўнае і матэрыяльнае, унутранае і знешняе, змест і форма выступаюць у пэўнай, хоць і вельмі рухомай раўнавазе. Таму ў культуралогіі мастацтва разглядаецца як частка культуры. Мастацкая культура — гэта, як вядома, мастацтва, якое ў сваю чаргу складаецца з паасобных канкрэтных відаў і жанраў. У сувязі з гэтым асоба, вывучаючы музыку, выяўленчае мастацтва, тэатр, архітэктуру, кіно, пашырае культуралагічную прастору, паглыбляе веды аб культуры як цэласнай сістэме.

### 1.3. Асноўныя галіны культуралогіі

У культуралогіі, як, між іншым, і ў большасці сацыяльна-гуманітарных навук, выдзяляюцца некалькі галоўных кірункаў. Безумоўна, вывучэннем культурных працэсаў і з’яў, якія ўзнікаюць і функцыянуюць на падставе агульных заканамернасцей развіцця сацыякультурнага жыцця людзей, займаецца ***фундаментальная культуралогія***. У ёй сфарміраваліся тры асноўныя галіны даследаванняў, што вызначаюцца па аб’ектнай сферы.



Рэальна ў практыцы з большай або меншай верагоднасцю вылучаецца ***сацыяльная культуралогія***, якая вывучае сацыякультурныя працэсы і з’явы, створаныя людзьмі ў працэсе іх сумеснага жыцця, і “аб’ектываванага” чалавека ў формах яго сацыяльнай практыкі. Асноўныя задачы гэтага ўзроўню абагульненняў ведаў аб культуры — стварэнне сістэмы спосабаў і інструментарыя для даследавання культуры. Сацыякультуралогія імкнецца не столькі растлумачыць, што такое культура, колькі высветліць, якім чынам можна пазнаць культуру, сістэматызаваць веды аб ёй, пабудаваць тэарэтычныя мадэлі культурных функцый і працэсаў. Сацыяльныя культуролагі таксама спрабуюць выкарыстаць тэарэтычныя веды ў кіраванні сацыяльна-культурнымі працэсамі.

Добра вядома, што значная частка культурных феноменаў існуе не аўтаномна, а аб’ядноўваецца ў функцыянальныя структуры сістэмнага парадку. Кампаненты такіх культурных сістэм цесна ўзаемазвязаныя, узаемаабумоўленыя і сацыяльна эфектыўныя ў сваіх функцыях толькі ва ўзаемасувязі. Так, мова, напрыклад, па-сапраўднаму функцыянальная толькі ў сістэмным адзінстве сваіх лексічных, граматычных, фанетычных, графічных, артыкуляцыйных, інтанацыйных і іншых складаючых.

У сацыяльнай культуралогіі можна вылучыць яшчэ і ўзровень, звязаны з даследаваннямі і абагульненнямі феноменаў, якія хаця і не вызначаецца добра выражанымі прыметамі сістэмнага характару, але адрозніваецца ўстойлівым паўтарэннем ва ўжыванні і ўпарадкаванні спосабу практычнага выкарыстання ў тых ці іншых сітуацыях. Да феноменаў такога кшталту можна аднесці нормы і стэрэатыпы свядомасці і паводзін у разнастайных жыццёвых сферах, эталонныя ўзоры, варыятыўна ўзнаўляемыя ў розных канкрэтных сітуацыях; патэрны свядомасці, якія звычайна аднаўляюцца аўтаматычна; рознага роду рытуальныя і цырыманіяльныя формы паводзін і інш. Іх прынята называць *культурнымі формамі*.

Адным з кірункаў фундаментальнай культуралогіі з’яўляецца ***псіхалогія культуры***, якая вывучае праблемы асобы як стваральніка і спажыўца культуры, механізмы сацыялізацыі і інкультурацыі асобы, генезіс чалавечай індывідуальнасці ў культурнай прасторы. Разглядаемы кірунак засяроджвае ўвагу на агульнай сацыякультурнай тэорыі груп і асобы, гэтая тэорыя вывучае індывідуальную арганізацыю структуры сацыяльнага вопыту і звязвае з ім групавое ўзаемадзеянне.

У межах псіхалогіі культуры ажыццяўляецца абагульненне з'яў сістэмнага парадку, які акцэнтуе намаганні на тэорыі і метадыцы сацыякультурнага выхавання асобы. Найбольш сістэмным у гэтым працэсе сацыякультурнага быцця чалавека ўяўляецца менавіта функцыянаванне механізмаў інтэграцыі індывіда ў комплексе нормаў і ўстанаўленняў, уласцівых культуры міжасобасных узаемадзеянняў дадзенага грамадства.

У першую чаргу ў якасці самастойнай падсістэмы мэтазгодна вылучыць механізмы сацыялізацыі асобы, у выніку якой чалавек засвойвае сукупны гістарычны вопыт супольнага сацыяльнага жыцця і ўзаемадзеяння, назапашанага пэўным соцыумам. Важнай задачай гэтай галіны культуралогіі з'яўляецца вывучэнне механізмаў інкультурацыі асобы, г. зн. уводзенне яе ў сістэму нарматыўна-каштоўнасных рэгулятараў сацыяльнай практыкі, у іерархію яе каштоўнасцей, семантычную сістэму іх сімвалізацыі, нормы іх ужывання, выкарыстання, разумення і г.д.

Нарэшце, да кампетэнцыі псіхалогіі культуры можна аднесці механізмы сацыякультурнай самаідэнтыфікацыі асобы, пад якой разумеецца самавызначэнне чалавека ў сацыякультурнай прасторы яго пражывання, устанаўленне ім сваёй палітычнай, этнічнай, сацыякультурнай і канфесіянальнай ідэнтычнасці.

Шэраг культуролагаў вылучаюць такі ўзровень абагульненняў у псіхалогіі культуры, як культуралогія інавацыйнай (творчай) дзейнасці людзей. Здольнасці чалавека да інавацыйнай дзейнасці, да творчага пераўтварэння свету, выхаду за межы жорсткіх нарматыўна-рэгулятыўных стэрэатыпаў свядомасці і паводзін — найважнейшы феномен сацыякультурнага развіцця чалавецтва.

Ключавым кірункам фундаментальнай культуралогіі з'яўляецца ***культурная семантыка***, якая вывучае знакавую і камунікатыўную функцыі культуры. Названыя вышэй функцыі культуры адлюстроўваюць працэсы, што адбываюцца толькі ў час пастаянных стасункаў паміж людзьмі ўнутры супольнасці, паміж супольнасцямі, іх рэгіянальнымі групоўкамі і г.д. Таму ўсякі культурны працэс, за выключэннем яго арганізацыйнай, рэгулятыўнай і селектыўнай складаючых, абавязкова ўключае яшчэ і камунікатыўную функцыю, механізмы абмену інфармацыяй паміж людзьмі. Для ўзгаднення мэты, намераў, планаў і спосабаў па ажыццяўленні розных формаў жыццядзейнасці людзям неабходна распрацаваць комплекс некалькіх функцыянальных спецыялізаваных моў, якія зразумелыя і прымальныя для ўсіх членаў супольнасці. Пры гэтым аб'екты назіраемага, рэальнага свету прадметаў, працэсаў і з'яў знаходзяць сваіх сімва-



лічных "двайнят" — кадзіруючыя знакі. Яны абазначаюць гэтыя аб'екты ва ўмеранай форме лексічных сімвалаў, піктаграм (малюнкі), графічных сімвалаў (лічбы, нотныя знакі, эмблемы, гербы, сцягі і інш.), рэчавых сімвалаў (стылявыя прыметы рэчаў і збудаванняў, рысы сацыяльнай прэстыжнасці ў адзенні і прадметах ужытку, рэлігійная сімволіка прадметаў культу і г.д.), сімвалічных дзеянняў (абрады, рытуалы, гульні, этыкетныя і цырыманіяльныя паводзіны) і інш.

Даследаваннем усіх разнастайных моў сацыяльнай камунікацыі, механізмаў іх дзейнасці, прынцыпаў фарміравання і функцыянавання гэтага "сімвалічнага свету" культуры як спосабу абазначэння і трансліравання сацыяльнага вопыту і займаецца семіётыка. Яна ўключае ў сябе семантыку, сінтаксіс і прагматыку.

Мы разгледзелі ў агульных рысах асноўныя кірункі фундаментальнай культуралогіі, якая даследуе працэсы і формы інтэграцыі і ўзаемадзеяння людзей на аснове іх агульных каштоўнасцей. Але гэтыя сацыяльна-гуманітарныя веды, безумоўна, не вычэрпваюць усіх неабходных ведаў аб чалавеку і грамадстве.

На постсавецкай прасторы актыўна ідзе працэс фарміравання яшчэ адной галіны культуралагічнай навукі, якая мае прыкладны характар. Мы маем на ўвазе навуковую дысцыпліну, што займаецца вывучэннем усёахопнага працэсу далучэння чалавека да свету культуры і сацыяльна-культурнай творчасці. Гэты ўзровень пазнання культуры ўяўляе сабой трансфармацыю тэарэтычных ведаў у тэхналогію эфектыўнага ўзаемадзеяння чалавека з акружэннем. Дадзеную галіну культуралагічных ведаў прынята называць ***прыкладной культуралогіяй***.

### 1.4. Перадумовы фарміравання прыкладной культуралогіі як навуковай дысцыпліны

У краінах, якія перажываюць глыбокую сістэмную трансфармацыю, усё шырэй распаўсюджваецца прыкладное выкарыстанне сацыяльных навук. Яно абумоўлена ўзрастаючым запытам на спецыялістаў-культуролагаў у розных галінах сацыякультурнага жыцця. У сферы рэгіянальнага і лакальнага кіравання патрэбны спецыялісты, здольныя распрацоўваць і рэалізоўваць праграмы і праекты, якія звязаны з сацыякультурным развіццём, фарміраваннем арганізацыйнага асяроддзя.

У сувязі з гэтым для фарміравання ведаў аб культуры неабходна ўзмацніць рацыянальна-навуковую тэарэтычную арыен-

тацыю ў культуралогіі, з аднаго боку, і акцэнтаваць тэарэтычную абгрунтаванасць прыкладных распрацовак — з другога.

Асноўнымі праблемамі прыкладной культуралогіі з'яўляюцца вырашэнне комплексу пытанняў, звязаных з вывучэннем і распрацоўкай методыкі фарміравання культуры індывіда, выяўленне аб'ектыўных магчымасцей забеспячэння рознабаковага развіцця асобы ў сферы працы, пазнання і адпачынку, маральна-эстэтычнага патэнцыялу сацыяльна-культурнай дзейнасці, якая ажыццяўляецца культурнымі інстытутамі і грамадскімі арганізацыямі. Сёння ў галіне прыкладной культуралогіі складваюцца некалькі выразных кірункаў.

Значная частка культуралагічных прац звязана з распрацоўкай ***агульнай тэорыі культурнай палітыкі***. Як правіла, большасць з іх абмяжоўваюцца задачамі захавання культурных аб'ектаў і не тычацца іх сацыякультурнага функцыянавання. Але на постсавецкай прасторы, у тым ліку і ў Беларусі, пачалі з'яўляцца працы, дзе размова ідзе аб сацыякультурнай палітыцы як аб культурных працэсах у кантэксце сацыяльных узаемадзеянняў. У такіх тэарэтычных работах вывучаюцца базавыя параметры іерархіі сацыякультурных каштоўнасных арыентацый грамадства, сістэма прыярытэтаў яго сацыяльнага быцця, сацыякультурныя нормы ўзаемадзеяння паміж асноўнымі дзяржаўнымі, грамадскімі інстытутамі і асобай. Тут таксама фармулююцца сацыякультурныя асновы і канкрэтныя мэты дзейнасці ўласна культурных інстытутаў, вядзецца маніторынг дынамікі сацыякультурных запытаў сацыяльных і прафесійных груп, вызначаюцца галоўныя арыенціры нацыянальнай і рэлігійнай палітыкі, суадносяцца прынцыпы культурнай палітыкі з параметрамі сацыяльнай, эканамічнай, навуковай і адукацыйнай палітыкі.

Прыкладная культуралогія таксама ўключае пытанні, звязаныя з даследаваннем ***тэорыі і методыкі дзейнасці культурных інстытутаў***. Як вядома, галоўнай функцыяй культурных інстытутаў з'яўляецца рэалізацыя той самай культурнай палітыкі па сацыялізацыі і інкультурацыі асобы, якая праводзіцца мэтанакіравана і сістэматычна ў разнастайных формах уздзеяння на індывіда і ўстойлівыя групы насельніцтва. Безумоўна, намаганнямі толькі культурных інстытутаў немагчыма вырашыць задачу сацыялізацыі і інкультурацыі асобы. Эфектыўнасць культурнай палітыкі ў значнай меры залежыць ад яе міжгаліновага характару і скаардынаванасці работы разнастайных кіруючых структур сацыяльна-культурнай сферы.



Задачамі прыкладной культуралогіі ў адносінах да дзейнасці культурных інстытутаў з'яўляюцца распрацоўка агульных сацыяльных і метадычных асноў іх работы ў сучасных умовах; удакладненне сацыяльных функцый, мэт і задач іх дзейнасці; распрацоўка сучасных метадаў і тэхналогій інстытуцыянальнай сацыякультурнай работы, міжгаліновага і ўнутрыгаліновага ўзаемадзеяння разнапрофільных культурных інстытутаў, спецыялізаваных методык сацыякультурнай работы з асобнымі групамі насельніцтва (інвалідамі, ветэранамі, асобамі з дэвіянтнымі паводзінамі і інш.).

Не менш цікавы аб'ект даследавання прыкладной культуралогіі — ***звычайная народная і масавая культура***. Шэраг праблем народнай культуры неабходна разглядаць у кантэксце інстытуцыянальных аспектаў. Да іх адносяцца некаторыя сацыяльныя абрады, якія маюць рэлігійнае паходжанне і ажыццяўляюцца нярэдка пад кіраўніцтвам святароў па традыцыйных сцэнарыях (вяселле, хрэсьбіны, пахаванне і інш.); палітычныя мітынгі і маніфестацыі, дэманстрацыі і іншыя ідэалагічныя імпрэзы.

Масавая культура займае прамежкавае становішча паміж спецыялізаванымі формамі дзейнасці і звычайнай культурай насельніцтва. Пры гэтым функцыя масавай культуры бачыцца перш за ўсё ў ролі своеасаблівага адаптара, "перакладчыка" з'яў спецыялізаванай культуры на мову звычайнага ўспрымання. У паўсядзённым жыцці людзі сутыкаюцца з феноменам масавай культуры часцей за ўсё ў найбольш камерцыялізаваных праявах — эстрадна-музычным, эратычным і забаўляльным шоу-бізнесе, у "нізкіх" жанрах кіно і літаратуры, навязлівай і безгустоўнай рэкламе, нізкапробных публікацыях і перадачах СМІ. Па гэтай прычыне ў грамадстве склалася некалькі аднабокае ўяўленне аб масавай культуры як аб камерцыйнай, безгустоўнай і амаральнай "контркультурнай" тэндэнцыі. Безумоўна, масавая культура з'яўляецца "эрзац-прадуктам" спецыялізаваных, "высокіх" галін культуры. Яна не стварае ўласныя сэнсы, а толькі імітуе з'явы спецыялізаванай культуры, карыстаецца яе формамі, сэнсамі, нярэдка парадзіруе іх, рэдукуе да ўзроўню ўспрымання "малакультурнага" спажыўца. Тым не менш не варта ацэньваць гэту з'яву адназначна негатыўна.

Магчыма, што масавая культура з'яўляецца эмбрыянальным папярэднікам нейкай звычайнай культуры, якая толькі нараджаецца і адлюстроўвае сацыяльны вопыт жыцця ўжо на постіндустрыяльным этапе развіцця, і ў працэсах селекцыі можа вырасці новы сацыякультурны феномен, параметры якога яшчэ не выразныя.

Важным кірункам прыкладной культуралогіі з'яўляецца распрацоўка ***тэорыі і методыкі пазаінстытуцыянальных узаемадзеянняў***. У гэтым выпадку культуролагам даводзіцца мець справу не з палітычнымі і іншымі сацыякультурнымі інстытутамі, а са слаба сістэматызуемымі і фармалізуемымі па сваім характары міжасобаснымі сацыякультурнымі кантактамі і ўзаемадзеяннямі рознага ўзроўню інтэнсіўнасці. Між іншым гэтыя недахопы не сведчаць аб нізкай эфектыўнасці такога ўздзеяння. Кожны з нас добра ведае, наколькі эфектыўным можа быць уздзеянне на падлетка "дваровай кампаніі" — аднаго з найбольш тыповых узораў пазаінстытуцыянальных сацыякультурных ячэек узаемадзеяння.

Культуралагічны аспект гэтага кола праблем звязаны з даследаваннем механізмаў фарміравання і функцыянавання ў сацыяльных сетках, іх ячэйках і іншых малых сацыяльных групах агульных і спецыфічных каштоўнасна-нарматыўных установак, абумоўленасці іх характарыстык тыпалогіяй гэтых груп. Перад навукоўцамі стаіць задача выпрацаваць прынцыпы і метады апасродкаванага рэгулятыўнага ўплыву на сацыяльна-каштоўнасную накіраванасць установак падобных груп.

Нарэшце, да прадмета прыкладной культуралогіі неабходна аднесці ***індывідуальныя міжасобасныя сацыякультурныя ўзаемадзеянні***. На гэтым узроўні вядзецца пошук індывідуальных формаў псіхалагічна камфортных міжасобасных стасункаў, агульных інтарэсаў, супадзенняў у поглядах, ацэнках, інтэрпрэтацыях.

Падсумоўваючы вышэйсказанае, адзначым, што прыкладная культуралогія — гэта навука, якая знаходзіцца на стыку фундаментальнай культуралогіі з паліталогіяй, юрыспрудэнцыяй, сацыялогіяй, псіхалогіяй, педагогікай, выкарыстоўвае іх методыкі і тэхналогіі па практычным уздзеянні на свядомасць і паводзіны людзей у інтарэсах рэгулявання іх культурна-каштоўнасных установак.

У апошні час з'явілася шмат навукова-тэарэтычных прац па сацыяльным праектаванні, сацыяльным удзеле, якія арыентаваны на распрацоўку метадаў і формаў далучэння насельніцтва да сацыяльна карыснай дзейнасці. Пашыраецца таксама навукова-метадычная праца па вызначэнні структуры і функцый сацыяльнай работы як галіны дзейнасці. У некаторых работах даследуюцца асаблівасці яе асобных кірункаў: дабрачыннасць, арганізацыя ўзаемадапамогі ў лакальных супольнасцях, сямейнае кансультаванне, пазашкольная работа з падлеткамі, работа з групамі рызыкі.



Аналіз такога роду даследаванняў дае падставу сцвярджаць, што сацыяльнае праектаванне, сацыяльная работа, сацыяльны ўдзел, тэхналогія арганізацыі сацыяльнага ўзаемадзеяння складаюць аснову фарміравання прыкладных ведаў.

## 1.5. Метадалагічныя асновы прыкладной культуралогіі

Фарміраванне прыкладной культуралогіі абумоўлена аб'ектыўнымі патрэбнасцямі грамадскага развіцця. Ва ўмовах сістэмнай трансфармацыі постсавецкіх краін яна з'яўляецца звяном, што злучае культуру як інтэгральную з'яву духоўнага жыцця і канкрэтнага індывіда, уключанага ў сацыякультурную дзейнасць.

Як навука аб культурных працэсах, заканамернасцях іх развіцця і механізмах рэгулявання прыкладная культуралогія абапіраецца на канцэпцыі, абгрунтаваныя фундаментальнай культуралогіяй. Важнае значэнне для развіцця гэтай галіны культуралагічных ведаў маюць канцэпцыі эвалюцыянізму (Э.Тайлар, Л.Морган, А.Басціян, Ш.Летурно), дыфузіянізму (Ф.Ратцэль, Л.Фрабеніус, Т.Хеердал), этнічныя канцэпцыі культуры і гульнёвыя формы сацыякультурнай дзейнасці (Э.Берн, Й.Хёйзінга), канцэпцыя фарміравання духоўнага свету чалавека і асобасна арыентаванага працэсу далучэння індывіда да культуры (Л.Карсавін, К.Маркс, В.В.Разанаў, С.Л.Франк, З.Фрэйд, Э.Фром, Ф.Энгельс і інш.).

Навуковае вызначэнне механізмаў культурна-асветніцкай дзейнасці і методыкі стымулявання сацыяльна-культурнай творчасці магчыма з дапамогай філасофскіх ідэй аб захаванні і далейшым развіцці духоўнага жыцця і духоўнай спадчыны народа (І.Абдзіраловіч, М.Бярдзяеў, М.Багдановіч, Я.Купала, Д.Ліхачоў, У.Салаўёў і інш.).

Істотную ролю ў навуковым асэнсаванні сацыяльна-культурнай дзейнасці адыгралі вучэнне аб прынцыпах сацыядынамікі культуры (М.Вэбер, А.Моль, П.Сарокін), закон прыярытэтнасці культуры ў грамадскім развіцці (С.Аверынцаў, А.Арнольдаў, У.Біблер, Э.Маркаран, Х.Артэга-й-Гасэт, А.Швейцар, К.Ясперс). Абапіраючыся на гэтыя прынцыпы, заснавальнікі прыкладной культуралогіі змаглі вызначыць эфектыўныя механізмы забеспячэння культуры працы, пазнання, быту, адпачынку, сацыяльных адносін, дзелавых і асобасных стасункаў.

Метадалагічнай базай дыферэнцыяцыі і інтэграцыі сучасных тэхналогій далучэння розных груп насельніцтва да свету культуры

з'яўляецца тэорыя культурна-гістарычных тыпаў і лакальных цывілізацый (М.Данілеўскі, А.Тойнбі, О.Шпенглер).

У прыкладной культуралогіі шырока выкарыстоўваюцца ідэі аб маральна-эстэтычным патэнцыяле культуры (І.Кант), аб мастацкай культуры як сродку духоўнага развіцця асобы (М.Каган, М.Крукоўскі, К.Сакалоў і інш.).

Для вызначэння арыенціраў культурнай палітыкі істотнае значэнне маюць прагнастычныя канцэпцыі культуры, якія ўзніклі на мяжы XX—XXI стст. (І.Бястужаў-Лада, Ж.Дзюмазедзье, А.Тофлер, Ф.Фукуяма і інш.).

Такім чынам, прыкладная культуралогія як навука аб заканамернасцях, сродках, метадах і формах далучэння чалавека да свету культуры знаходзіцца на сумежжы фундаментальнай культуралогіі з іншымі галінамі сацыяльна-гуманітарных навук, што дазваляе выпрацоўваць тэарэтычныя канцэпцыі і практычныя рэкамендацыі, накіраваныя на ўдасканаленне ўмоў фарміравання і развіцця суб'ектаў культуры, на аптымізацыю працэсаў сацыялізацыі, інкультурацыі і самарэалізацыі асобы.

### 1.6. Аб'ект, функцыі і задачы прыкладной культуралогіі

У рамках культуралогіі як адзінай навукі аб культуры прыкладная культуралогія цесна звязана з сістэмай чалавеказнаўства, метадалагічныя і метадычныя прынцыпы якой грунтуюцца на заканамернасцях самарэалізацыі творчых патэнцый асобы, абапіраюцца на сацыяльна-псіхалагічныя механізмы задавальнення і далейшага развіцця яе духоўных інтарэсаў і патрэбнасцей.

Фарміраванне асобы прадугледжвае працэс засваення індывідам сфарміраваных стагоддзямі ідэалаў і каштоўнасцей. Каштоўнасці культуры, якія спасцігаюцца сродкамі прыкладной культуралогіі, адлюстроўваюць багацце і разнастайнасць культуралагічнай дзейнасці чалавека і шырыню крытэрыяў яе ацэнкі. Механізмы іх засваення, безумоўна, павінны ўлічваць спецыфіку пэўных каштоўнасцей, грунтавацца на тэхналогіі, якая арганічна спалучае метады фарміравання грамадскай свядомасці і метады ўцягнення ў сацыякультурную дзейнасць, праз якую веды пераўтвараюцца ў перакананні, нормы і прынцыпы паводзін.

У сувязі з гэтым роля прыкладной культуралогіі бачыцца ў выяўленні эфектыўных механізмаў пагружэння чалавека ў сацыяльна-культурнае асяроддзе праз засваенне ведаў і духоўных каштоўнасцей. Механізм засваення каштоўнасцей культуры



ўзаемазвязаны са спецыфікай існуючага культурнага асяроддзя, з узроўнем развіцця сродкаў трансляцыі гэтых каштоўнасцей, з асаблівасцямі ўспрымання тых ці іншых з'яў і працэсаў культуры. Каштоўнасці культуры нельга навязаць сілай, яны могуць быць вынікам толькі свабоднага, актыўнага, асобасна асэнсаванага выбару. Агульначалавечыя, нацыянальныя, рэгіянальныя ці іншыя каштоўнасці культуры павінны ўспрымацца сэрцам, а гэта магчыма пры ўздзеянні на эмацыянальную сферу чалавека.

На падставе вышэйсказанага можна зрабіць выснову, што ***аб'ектамі*** прыкладной культуралогіі з'яўляюцца працэс фарміравання культурнага асяроддзя; механізмы сацыялізацыі, інкультурацыі і самарэалізацыі асобы; тэхналогія вывучэння, задавальнення і далейшага развіцця духоўных патрэбнасцей і інтарэсаў людзей; метадалогія і методыка далучэння асобы ці сацыяльнай супольнасці да свету культуры, сацыяльна-культурнай творчасці.

Вызначэнне аб'екта і прадмета прыкладной культуралогіі дазваляе выявіць важнейшыя яе ***функцыі***. Галоўныя з іх наступныя:

- *распрацоўка* метадалогіі і методыкі фарміравання культурнай прасторы;
- *вывучэнне, задавальненне і паслядоўнае развіццё* духоўных інтарэсаў і патрэбнасцей людзей;
- *далучэнне* чалавека да свету культуры, развіццё яго духоўна-эўрыстычных і мастацка-творчых патэнцый;
- *навукова-метадычнае забеспячэнне* культурна-асветніцкай і культуратворчай дзейнасці разнастайных сацыяльна-культурных інстытутаў;
- *раскрыццё шляхоў і сродкаў* укаранення маральна-эстэтычных пачаткаў у сямейна-бытавую, вучэбна-пазнавальную, працоўную, рэкрэацыйна-забаўляльную сферы, дзелавыя і адпачынкавыя стасункі;
- *пошукі* эфектыўных механізмаў аптымізацыі працэсу сацыялізацыі, інкультурацыі і самарэалізацыі асобы, пераўтварэнне яе з аб'екта культурна-асветніцкага ўздзеяння ў суб'ект сацыякультурнай творчасці.

Названыя функцыі дазваляюць сцвярджаць, што прыкладная культуралогія як галіна навуковых ведаў і сацыяльнай практыкі дапамагае ў вырашэнні шэрага складаных задач, якія стаяць перад сучасным грамадствам.

Прыкладная культуралогія, будучы галіной гуманітарных ведаў, займаецца выяўленнем заканамернасцей, прынцыпаў, сродкаў, метадаў і формаў стварэння, захавання, трансляцыі і засваення культурных каштоўнасцей і нормаў у сферы мастацка-

эстэтычнай, рэлігійнай, маральнай, сацыяльна-псіхалагічнай, палітычнай, прававаой, эканамічнай, экалагічнай культуры і выпрацоўвае на гэтай аснове ўмовы і спосабы іх аптымізацыі.

***Задачы*** прыкладной культуралогіі наступныя: сістэматызацыя практычна арыентаваных ведаў аб заканамернасцях фарміравання і развіцця разнастайных суб'ектаў культуры (асобы, сацыяльнай групы, сацыякультурнай супольнасці) і пошук аптымальных механізмаў рэгулявання сацыяльна-культурных працэсаў на адпаведных узроўнях.

У ліку важнейшых задач прыкладной культуралогіі можна вылучыць фарміраванне тэарэтычных асноў і механізмаў распрацоўкі і ажыццяўлення дзяржаўнай культурнай палітыкі, вызначэнне ўмоў аптымізацыі дзейнасці сацыякультурных інстытутаў і неінстытуцыянальных аб'яднанняў, праектаванне функцыянальна змястоўных мадэляў устаноў, якія садзейнічаюць самаразвіццю суб'ектаў культуры.

Да названых задач дадаецца задача распрацоўкі тэарэтычных і арганізацыйна-метадычных асноў падрыхтоўкі і паслядоўнага павышэння кваліфікацыі прафесіянальных кадраў сацыяльна-культурнай сферы.

#### Пытанні і заданні

1. Чым тлумачыцца разнастайнасць навуковых поглядаў на прадмет культуралогіі?
2. Назавіце асноўныя галіны культуралогіі.
3. Якія кірункі фундаментальнай культуралогіі сфарміраваліся ў апошнія гады?
4. На стыку якіх навук знаходзіцца прыкладная культуралогія?
5. Назавіце асноўныя канцэпцыі прыкладной культуралогіі.
6. Вызначце праблематыку інстытуцыянальных узаемадзеянняў.

#### Літаратура

*Ариарский, М.А.* Прикладная культурология.— СПб.: С.-Петербург. гос. ун-т культуры и искусств, 1999.— 530 с.

*Каган, М.С.* Философия культуры.— СПб.: Петрополис, 1996.— 416 с.

*Кармин, А.С.* Основы культурологии: морфология культуры.— СПб.: Лань, 1997.— 512 с.

*Культурология.* XX век: словарь.— СПб.: Университетская книга, 1997.— 640 с.

*Культурология:* учеб. пособие для студ. высш. учеб. заведений/ под ред. Г.В.Драча.— Ростов-на-Дону: Феникс, 1998.— 576 с.

# 2. КУЛЬТУРА ЯК ПРАДМЕТ ПРЫКЛАДНОЙ КУЛЬТУРАЛОГІІ

## 2.1. Сутнасць паняцця "культура"

Да нашага часу не існуе адзінага падыходу да разумення паняцця "культура". На ўзроўні штодзённай свядомасці яно звужаецца да мастацкага пласта чалавечай дзейнасці (мастацкая культура), этычнага боку (маральная культура) або паводзінскіх асаблівасцей чалавека (культура паводзін), характарыстыкі функцыянавання сацыяльных інстытутаў і часцей за ўсё асацыіруецца з інтэлігентнасцю, адукаванасцю і выхаванасцю. Прынятыя публіцыстычныя штампы "навука і культура", "навіны культурнага жыцця" сведчаць аб няправільным уяўленні аб аб'ёме гэтага паняцця і звядзенні яго да сумы пэўных каштоўнасцей.

Не меншыя разыходжанні ў поглядах на гэта паняцце сярод культуролагаў і антраполагаў. Лэслі А.Уайт, вядучы амерыканскі вучоны, пісаў, што кожны разумее тэрмін "культура" па-свойму. Ён адзначаў, што для адных культура — навучаемыя паводзіны, для другіх — не паводзіны самі па сабе, а іх абстракцыя, для адных антраполагаў каменныя сякеры і керамічныя сасуды — культура, для другіх ні адзін матэрыяльны прадмет такім не з'яўляецца; адны мяркуюць, што культура існуе толькі ў свядомасці людзей, другія лічаць культурай толькі прадметы, якія ўспрымаюцца дотыкам, і з'явы знешняга свету. Некаторыя антраполагі ўяўляюць культуру сукупнасцю ідэй, або разумеюць культуру як абарончы механізм фізічнага свету, або як сукупнасць складаючых.

Вычарпальная характарыстыка дэфініцыі "культура" яшчэ больш ускладнілася за апошнія дзесяцігоддзі з прычыны ўвядзення культуралогіі і антрапалогіі ў вучэбныя планы вышэйшых

навучальных устаноў Еўропы і з’яўлення мноства не толькі філасофскіх, але і педагагічных, мастацтвазнаўчых, прыкладных культуралагічных прац.

Відавочна, што вытокі слова “культура” — у паняцці “культ”. Рускі філасоф М.Бярдзяеў пісаў: “Культура нарадзілася з культу, вытокі яе сакральныя”. М.Рэрых трактаваў яе як ушанаванне святла (“культ” — ушанаванне, “ур” — святло). Часцей за ўсё слова “культура” разглядаюць як вытворнае ад лацінскага “cultura” — апрацоўваць, даглядаць — і звязваюць з апрацоўкай зямлі (cultura agri) і прадуктаў прыроды, вынікаў і плёну чалавечай працы. Нямецкім філосафам В.Вундтам слова “культура” трактуецца як клопат, наданне высакароднасці жыццю і пашыраецца на духоўную творчасць людзей, абазначаючы дасведчанасць, адукаванасць, выхаванасць чалавека.

А.Крэбер і К.Клакхан падлічылі, што з 1871 г. па 1917 г. дадзена толькі сем азначэнняў культуры, за наступныя трыццаць гадоў — яшчэ сто пяцьдзесят сем. А.Моль у кнізе “Сацыядынаміка культуры” (1968) налічыў ужо дзвесце пяцьдзесят азначэнняў, цяпер іх колькасць падвоілася. Гэта сведчыць, па-першае, пра вялікую цікавасць прадстаўнікоў сацыяльна-гуманітарных навук да даследавання дадзенага феномена, па-другое — пра шырокі спектр і разнастайнасць з’яў, якія складаюць паняцце культуры, па-трэцяе — пра высокі ўзровень абстракцыі, на якім адбываецца яго асэнсаванне. Акрамя таго, гэта сведчыць таксама аб рознасці метадалагічных падыходаў і разнапланавасці навук, якія спрабуюць вывучаць гэтую з’яву.

Гісторыя паняцця “культура” пачынаецца з канца XVIII ст. і звязваецца з імёнамі выдатных асветнікаў, пераважна нямецкіх, якія далі новае жыццё гэтаму паняццю, адкінуўшы “agri” і іншыя залежныя словы (культура паводзін, культура мыслення). Іаган Готфрыд Гердэр трактаваў культуру як гістарычную ступень удасканалення чалавецтва, абумоўленую развіццём навук і асветы. Імануіл Кант разглядаў культуру як дасканаласць розуму, як свабоду духу; Вільгельм фон Гумбальт лічыў, што з дапамогай навукі і рамёстваў культура кіруе прыродай.

Фармулёўка культуры англійскім этнографам Эдуардам Б.Тайларам лічыцца першым навуковым азначэннем: “Культура, або цывілізацыя ў шырокім этнаграфічным сэнсе, складаецца ў сваім цэлым з ведаў, вераванняў, мастацтва, маральнасці, законаў, звычаяў і некаторых іншых здольнасцей і звычак, засвоеных чалавекам як членам грамадства”.



Распрацоўка сучаснай тэорыі культуры звязана з імёнамі еўрапейскіх філосафаў О.Шпенглера, антраполагаў Б.Маліноўскага, А.Радкліф-Браўна, К.Леві-Строса, культуролагаў і гісторыкаў Л.Уайта, Д.Мёрдака, А.Тойнбі, А.Кробера, А.Кафаны, П.Сарокіна і інш.

Глыбокая распрацоўка паняцця “культура”, прадметнае выкладанне пытанняў функцыянавання культуры, узаемасувязі элементаў, якія яе складаюць, абагульненне працэсаў духоўнай дзейнасці, а таксама разгляд духоўнага аспекту любой дзейнасці прадстаўлены ў працах А.І.Арнольдава, Э.А.Балера, С.С.Баценіна, Я.А.Вавіліна, У.Я.Давідовіча, Ю.А.Жданава, В.В.Жураўлёва, В.Г.Іоўчука, С.М.Іконнікавай, А.С.Карміна, В.М.Мяжуева, Э.А.Арловай, В.М.Розіна, В.С.Сцёпіна, В.Б.Чурбанава, А.Я.Фліера, Б.Д.Якаўлева і многіх іншых даследчыкаў.

У філасофскай літаратуры пакуль няма адназначна прынятага разумення складанага і поліфункцыянальнага феномена культуры. У працах В.А.Бабахава, У.С.Біблера, М.С.Кагана, Л.М.Когана, М.І.Крукоўскага, С.П.Мамантава, У.Ф.Мартынава, І.В.Марозава, Р.Я.Мінянкова, Э.У.Сакалова, І.Я.Чучайкінай і іншых зроблена спроба групоўкі розных дэфініцый культуры.

Культура вызначаецца як гістарычна пэўны ўзровень развіцця грамадства, творчых сіл і здольнасцей чалавека, выяўлены ў тыпах і формах арганізацыі жыццядзейнасці людзей, а таксама ў ствараемых імі матэрыяльных і духоўных каштоўнасцях. У больш вузкім сэнсе культура — гэта сфера духоўнага жыцця людзей, якая ўключае вынікі дзейнасці, чалавечыя сілы і здольнасці, рэалізуемыя ў ёй (веды, уменні, узровень інтэлекту, светапогляд, маральнае і эстэтычнае развіццё, спосабы і формы зносін).

Расійскі вучоны В.М.Мяжуеў, разглядаючы дзве формы існавання культуры — знешнюю і ўнутраную, адзначае, што галоўнае ў культуры — гэта яе другі, унутраны бок. Ён лічыць, што сапраўдным зместам культуры аказваецца працэс паступальнага гістарычнага развіцця чалавечых сіл і здольнасцей, які знаходзіць сваё знешняе і непасрэднае выяўленне ва ўсім багацці і разнастайнасці ствараемай людзьмі прадметнай рэчаіснасці. Праўда, далей В.М.Мяжуеў ураўноўвае гэтыя дзве формы па іх значэнні і робіць выснову, што культура, набываючы форму прадмета, які знаходзіцца ў спакоі, або неспакойную форму актыўнай чалавечай дзейнасці, аказваецца тым самым працэсам грамадскага развіцця і фарміравання чалавечай асобы.

Супярэчлівасць дадзеных азначэнняў і высноў заўважана філосафам Л.Талызінай і дапоўнена дзейнасным падыходам да

фармулёўкі паняцця культуры, разглядаемай ёй як працэс фарміравання і рэалізацыі сутнасных сіл чалавека, спосабы і формы раскрыцця іх ва ўсіх відах чалавечай дзейнасці, яе выніках. У лагічным і сэнсавым планах аўтар акцэнтуе ўвагу на працэсуальнасці разумення культуры як дзейнасці, а не толькі сукупнасці выпрацаваных каштоўнасцей; падкрэслівае таксама менавіта чалавечы характар гэтай дзейнасці, гэта значыць носьбітам культуры можа быць толькі грамадскі суб'ект ва ўсім багацці сваіх сувязей і адносін.

Вядомы расійскі даследчык Э.А.Арлова падрабязна апісвае значэнне паняцця ў сучасных сацыягуманітарных ведах, сферы яго функцыянавання і спосабы засваення асобай: катэгорыя "культура" абазначае змест грамадскага жыцця і дзейнасці людзей, якія ўяўляюць сабой біялагічна не наследуемыя, штучныя, створаныя людзьмі аб'екты (артэфакты). Пад культурай разумеюцца арганізацыйныя сукупнасці матэрыяльных аб'ектаў, ідэй і вобразаў; тэхналогій іх вырабу і аперыравання імі; устойлівых сувязей паміж людзьмі і спосабаў іх рэгулявання; ацэначных крытэрыяў, якія ёсць у грамадстве. Гэта створанае самімі людзьмі штучнае асяроддзе існавання і самарэалізацыі, крыніца рэгулявання сацыяльных узаемадзеянняў і паводзін. Такім чынам, культуру можна вызначыць як непрыроднае асяроддзе, надбудову над ім, створаную чалавечымі намаганнямі, розумам, духоўнай дзейнасцю, — "ноосферу", паводле рускага генія У.І.Вярнадскага.

Блізка да гэтага сэнсу вызначае культуру А.Я.Фліер. Ён разглядае яе як сукупнасць штучных парадкаў і аб'ектаў, створаных людзьмі ў дадатак да прыродных, завучаных формаў чалавечых паводзін і дзейнасці, набытых ведаў, вобразаў самапазнання і сімвалічных абазначэнняў навакольнага свету.

### 2.2. Культура як свет знакаў

У сучаснай культуралогіі культуру разумеюць як нешта адметнае ад прыроды, тое, што перадаецца па традыцыі сродкамі мовы і сімвалаў, практычна вывучаецца і непасрэдна пераймаецца, а не біялагічна наследуецца. Мовай культуры звычайна называюць тыя сродкі, веды, сімвалы, тэксты, формы, якія дазваляюць людзям арыентавацца ў прасторы культуры і ўступаць адно з адным у камунікатыўныя сувязі.

Мова культуры — гэта універсальная форма асэнсавання рэальнасці, у якую арганізуюцца ўсе ўзніклыя або ўжо існуючыя



ўяўленні, успрыманні, паняцці, вобразы і іншыя падобныя сэнсавыя канструкцыі (носьбіты сэнсу). Такім чынам, усё гэта — сродак разумення паміж людзьмі і народамі.

Праблема разумення даволі актуалізуецца ў апошнія гады XX ст. Лакальныя канфлікты, этнічныя войны, рэлігійная і расавая нецярпімасць працягваюцца, нягледзячы на рост адукацыі, тэхнічных ведаў, новых інфармацыйных тэхналогій. Абвастрэнне геапалітычнай і грамадска-палітычнай сітуацыі, супярэчнасці, якія пранізваюць чалавецтва, "распадзенне сувязі часоў" (Х.Г.Гадамер), па сутнасці, вядуць да змены тыпаў культуры, парушэння звыклых паняційных сувязей паміж нацыямі і народамі, рэгіёнамі і пакаленнямі. Праблема мовы культуры — гэта праблема разумення, эфектыўнасці культурнага дыялога як па вертыкалі, гэта значыць дыялога паміж культурамі розных эпох, так і па гарызанталі, гэта значыць дыялога розных культур, існуючых адначасова, паміж сабой.

Мова, з'яўляючыся "праблемай сэнсу культуры", сінтэзуе сацыяльныя, культурна-гістарычныя, псіхалагічныя, эстэтычныя аспекты жыцця чалавека. Але дзеля таго, каб падзея культуры стала яе з'явай, яна павінна быць пераведзена ў тэкст. Значыць, мова ўяўляе ядро сістэмы культуры, менавіта пры дапамозе яе чалавецтва засвойвае каштоўнасці, ацэнкі, уяўленні, усё тое, што вызначае карціну свету. Такім чынам, мова культуры — гэта спосаб захоўвання і перадачы культуры ад пакалення да пакалення.

Асобае значэнне валодання мовай культуры ў тым, што яно дазваляе чалавеку ўключыцца ў культурны кантэкст, усвядоміць сваё месца ў ім, зарыентавацца ў складаных і дынамічных сацыякультурных працэсах. І чым вышэй узровень валодання мовай культуры, чым больш шырокі і разнастайны дыяпазон ведаў, уяўленняў аб культуры, тым вышэй здольнасць чалавека да ўспрымання і гармоніі з навакольным светам, таму што мовы — гэта іерогліфы, у якія чалавек умяшчае свет і сваё ўяўленне. Праз разнастайнасць моў для нас адкрываюцца багацце свету і разнастайнасць таго, што мы спазнаём у ім, і чалавечае быццё робіцца для нас шырэйшым, паколькі мовы ў выразных і дзейсных рысах даюць нам розныя спосабы мыслення і ўспрымання.

Мова ўвасабляе асновы культуры: яе прадукт і структурныя элементы, умовы развіцця. Такім чынам, мовай культуры з'яўляецца любая мова (вербальная, жэставая, графічная, вобразная, фармалізаваная), якая мае прыродныя перадумовы фарміравання, але сама не адносіцца да прыроднай, апрыоры зададзенай чалавеку ўласцівасці (схема 2.1).

Схема 2.1

**Віды моў**




### 2.3. Культура як сфера духоўнай вытворчасці

Складанасці выклікаюць разуменне структуры і іерархічныя ўзроўневыя падзелы культуры. Усталяваным у навуцы можна лічыць падзел культуры на матэрыяльную і духоўную. Як правіла, у якасці крытэрыю разглядаецца канчатковы прадукт, атрыманы ў выніку чалавечай дзейнасці па аналогіі з відамі вытворчасці (напрыклад, у працах У.Я.Давідовіча, Ю.А.Жданава, Э.У.Сакалова і інш.). Так, да матэрыяльнай культуры адносяць рэчы, прылады, веды, якія з'яўляюцца прадуктамі матэрыяльнай вытворчасці або абслугоўваюць матэрыяльнае жыццё грамадства. А да духоўнай культуры належаць прадукты духоўнай вытворчасці, змест формаў грамадскай свядомасці, эстэтычныя каштоўнасці, выяўленыя сродкамі мастацтва.

Разгляд праблемы культуры, перш за ўсё духоўнай, часта звязваецца з праблемай развіцця і ўдасканалення патрэбнасцей асобы. Гэтая псіхалагічная ўласцівасць настолькі звязана з узроўнем развіцця грамадства, што ўся гісторыя чалавецтва фактычна пацвярджае: аб'ём так званых першых жыццёвых патрэбнасцей і спосаб іх задавальнення практычна залежаць ад стану культуры грамадства і яе праламлення на ўзроўні канкрэтнага індывіда. Філосаф Э.В.Ільянкоў сцвярджае, што чалавечую асобу можна з поўным правам разглядаць як адзінкавае ўвасабленне культуры, гэта значыць усеагульнага ў чалавеку.

Культуры адводзіцца важная роля аднаго з дэтэрмінантаў спосабу жыцця чалавека, надання высакароднасці яго патрэбнасцям. Многія даследчыкі падкрэсліваюць дыялектычную сувязь паміж актуальным станам духоўнай культуры і спосабам жыцця людзей, паміж каштоўнасным аспектам культурнай дэтэрмінацыі, з аднаго боку, і выніковасцю працэсу пранікнення духоўных каштоўнасцей у індывідуальнае быццё — з другога. Праявай



духоўнай культуры ў структуры спосабу жыцця выступае культура патрэбнасцей і спажывання. Так, прызнаючы важнасць разгляду праблемы культуры патрэбнасцей і спажывання, філосаф М.В.Іванчук мяркуе, што культура спажывання — такая ж неад'емная частка духоўнай культуры, як і культура маральная, эстэтычная, што яна з'яўляецца мерай і спосабам рэалізацыі сутнасных сіл чалавека, накіравана на ўсебаковае развіццё асобы.

Аднак зводзіць выхаванне чалавека толькі да фарміравання арганічнай сістэмы патрэбнасцей не зусім правільна. Гаворка павінна ісці аб адпаведнасці патрэбнасцей канкрэтнага чалавека сукупнасці духоўных каштоўнасцей грамадства, аб "акультураванні" патрэбнасцей, таму што пра далучэнне асобы да багаццяў культуры мы можам меркаваць па яе патрэбнасцях. Яны выяўляюцца як матывы дзейнасці і ўчынкаў: культура спажывання — гэта праекцыя за межы ўнутранага свету чалавека.

У сувязі з гэтым актуалізуюцца праблемы кіравання асобай сваімі жаданнямі, патрэбнасцямі, уменне надаваць ім сацыяльна прымальную форму, бо імкненне да неадкладнага задавальнення патрэбнасцей, якое аб'ектыўнае нават на самым высокім узроўні развіцця вытворчасці, не можа быць адразу рэалізавана і прывядзе да адмоўных эмоцый, незадаволенасці, песімізму, зніжэння жыццёвага тонусу, можа нанесці непапраўны ўрон развіццю асобы.

Патрабавальнае стаўленне да сваіх патрэбнасцей, уменне вызначыць ступень іх надзённасці, спалучэнне індывідуальных запатрабаванняў з грамадскімі, выбар сродкаў іх рэалізацыі характарызуюць унутраныя якасці чалавека, глыбіню яго выхаванасці, таму што структура патрэбнасцей, іх сацыяльная скіраванасць вызначаюцца аб'ёмам і якасцю засвоеных чалавекам культурных каштоўнасцей.

Працэс фарміравання культуры чалавека з'яўляецца бясконцым працэсам станаўлення, самавыяўлення, індывідуалізацыі асобы. Чым вышэй духоўнае развіццё асобы, тым больш актыўным з'яўляецца яе стаўленне да культурнага асяроддзя. Паводле пераканання акадэміка Д.С.Ліхачова, культурнае асяроддзе неабходна чалавеку для яго духоўнага і маральнага жыцця, для яго "духоўнай аседласці", маральнай самадысцыпліны і сацыяльнай актыўнасці.

Падзел культуры на матэрыяльную і духоўную, безумоўна, адносны і мае абмежаванае значэнне ў гнасеалагічным аспекце. Пры разглядзе гэтага члянення ў анталагічным рэчышчы заўсёды аказваецца, што матэрыяльнае ўвасабляе ідэальную мэту, гэта

значыць, мае духоўны аспект, а ўсе духоўныя каштоўнасці, у сваю чаргу, прадстаўлены ў той або іншай матэрыяльнай абалонцы, але яны служаць пэўнай асновай, крытэрыем вызначэння структуры культуры. Аднак некаторыя вучоныя наогул адмаўляюць наяўнасць матэрыяльнай культуры, разглядаючы яе як нейкае прадметнае ўвасабленне ідэальнага ўяўлення аб навакольным асяроддзі, або лічаць, што размежаванне матэрыяльнай і духоўнай культур знаходзіцца ў сферы ўсведамлення чалавекам таго, якую патрэбнасць задавальняе дадзены прадмет або від дзейнасці.

Вычляненне відаў культуры — працэс складаны, заўсёды можна знайсці элементы, якія не ўвайшлі ў прапанаваную схему і маюць амбівалентную прыроду. Духоўная культура ёсць праява ідэальнага, родавага, сутнаснага пачатку чалавека, які на універсальнай аснове здольны ўзвышаць любую дзейнасць, забяспечваць яе высокія вынікі. Матэрыяльныя аб'екты самі па сабе не з'яўляюцца ўвасабленнем культуры. Яны разглядаюцца як такія ў тым выпадку, калі становяцца ідэальным узорам чалавечай працы і накіраваны на ўдасканаленне асобы. Духоўная культура чалавека, укладзеная ў матэрыяльныя аб'екты, вяртаецца да яго ў выглядзе больш гуманістычна афармленага прадметнага асяроддзя, якое ўзвышае чалавека. Чалавек таму і ёсць мера ўсіх рэчаў, што рэчы, у сваю чаргу, служаць мерай уласнай яго чалавечнасці.

Залежнасць прадукцыйнасці і якасці працы ад узроўню духоўнай культуры пераканаўча даказана вядомым сацыёлагам, мастацтвазнаўцам, педагогам Ю.У.Фохт-Бабушкіным. Праведзеныя ім даследаванні сярод рабочых многіх гарадоў Расіі паказалі непасрэдны ўплыў цікавасці да мастацтва на вынікі іх працы: у наведвальнікаў тэатра, кіно, музеяў, канцэртаў прадукцыйнасць працы на 7—10% вышэй за сярэднюю па горадзе. Павелічэнне сярэдняй наведвальнасці тэатра ў 0,68 раза ў год вядзе да перавыканання плана на 10%.

Чалавек з неразвітым густам, нізкім узроўнем духоўнай культуры, неразвітым успрыманнем эстэтычных катэгорый абыякавы да выконваемай работы, да яе якасці, вынікаў і эстэтычнага афармлення, і, што самае галоўнае, працэс работы не прыносіць яму радасці, задавальнення, разумення ўласнай значнасці, асабаснага самаадчування.

Найбольш распаўсюджаным з'яўляецца азначэнне духоўнай культуры як сукупнасці духоўных каштоўнасцей, якія характарызуюць узровень і арганізацыю духоўнага жыцця грамадства, ступень развіцця грамадскай свядомасці, сацыяльных



ведаў, адукацыі і выхавання людзей. Ядро духоўнай культуры складае грамадская свядомасць: палітыка, права, мараль, мастацтва, рэлігія, філасофія. Сюды ж адносяць эмпірычныя і навуковыя веды людзей, характар і сістэму адукацыі і выхавання, культуру мовы і зносін.

Да духоўнай культуры мы адносім навуку, літаратуру, мастацтва, сістэму адукацыі людзей і іншае, гэта значыць агульны ўзровень інтэлектуальнага і маральнага развіцця людзей, сукупнасць ведаў і навыкаў, поглядаў, пазіцый і звычаяў, узровень эстэтычнага і эмацыянальнага развіцця, разнастайнасць густаў і пачуццяў.

Такім чынам, духоўная культура — сукупнасць духоўных каштоўнасцей, якія характарызуюць узровень і арганізацыю духоўнага жыцця грамадства, а ў дачыненні да асобы — сукупнасць якасцей, якія характарызуюць асобу або дадзеную сацыяльную групу з пункту гледжання меры асваення духоўнай культуры грамадства.

Традыцыйна прынята ў адпаведнасці з азначэннем духоўнай культуры вылучаць галоўныя прыметы, крытэрыі ўзроўню яе развіцця ў канкрэтнай асобы. Як правіла, гэта:

- дасведчанасць у сферы агульнай або духоўнай культуры, яна характарызуецца аб'ёмам і якасцю культурнай інфармацыі;
- выбіральнасць у сферы агульнай або духоўнай культуры, якая характарызуецца зместам, скіраванасцю культурнай інфармацыі ў гэтай галіне;
- ступень актыўнага стаўлення да агульнай або духоўнай культуры, якая характарызуецца актыўным прымяненнем культурных навыкаў, удзелам у распаўсюджванні культурнай інфармацыі, у стварэнні культурных каштоўнасцей;
- ступень вызначальнага ўплыву агульнай або духоўнай культуры на сацыялізацыю асобы, на яе сацыяльныя паводзіны і самасвядомасць, на яе светапогляд.

Гэтыя прыметы фармальныя, агульныя, аднак яны могуць служыць для правядзення сацыялагічных і педагагічных даследаванняў у якасці асноўных крытэрыяў узроўню развіцця духоўнай культуры асобы.

У філасофскай літаратуры ў паняцце культуры ўключаюцца як сама дзейнасць чалавека, так і яе тэхналагічная аснова, гэта значыць сукупнасць сродкаў і механізмаў, дзякуючы якім яна матывуецца і ажыццяўляецца, а таксама агульны ўзровень валодання культурнымі каштоўнасцямі. Важна і тое, што вучоныя разглядаюць культуру як цэласную з'яву, цэнтральным звяном якой выступае чалавек як суб'ект культурнага развіцця.

Паняцце “культура” ў самым шырокім сэнсе выражае якасную характарыстыку таго, наколькі канкрэтныя людзі здолелі ўзвысіцца над сваёй натуральнай біялагічнай прыродай, развіўшы сваю другую, сацыяльную прыроду. Таму культурай з’яўляецца толькі тое з выробленага чалавекам, што накіравана на самаразвіццё і самаўдасканаленне самога чалавека. Адпаведна культура спецыяліста — гэта яго здольнасць да развіцця і ўдасканалення сваіх творчых магчымасцей у вырашэнні нестандартных задач, у ажыццяўленні сваіх прафесійных функцый. Культура — гэта таксама і свядомая, мэтанакіраваная, творчая актыўнасць індывідаў і супольнасці: імкненне падтрымаць традыцыі, палепшыць і ўпарадкаваць жыццё, ажыццявіць якія-небудзь змены, супрацьстаяць разбуральным, антыгуманным тэндэнцыям і інш.

Варта адзначыць, што для сучаснага перыяду характэрны інтэгральны сацыяльны феномен, які В.С.Біблер называе “социумам культуры”. Культура ўсё больш ссоўваецца ў эпіцэнтр сучаснага быцця, дзе адначасова суіснуюць каштоўнасці ўсходняй і заходняй культур, антычныя, сярэдневяковыя, адраджэнцкія, асветніцкія і інш. Культурныя спектры маюць сэнс у дачыненні адзін да аднаго ў дыялогу нашай рэальнай сённяшняй свядомасці. Гэта праблема не толькі мыслення, але і сапраўднага быцця кожнага сучаснага чалавека. Чалавек бліжэйшай будучыні будзе пастаўлены перад неабходнасцю выбару свайго соцыуму культуры, у якім ён і будзе ажыццяўляць сваё духоўнае самавызначэнне.

### 2.4. Аксіялагічны падыход да сутнасці культуры

Ва ўмовах пераходнага перыяду, фарміравання новага глабальнага мыслення чалавека XXI ст. выспявае новая культуралагічная парадыгма, за аснову якой бяруцца ўяўленні аб гуманістычным тыпе асобы, мадэль чалавека, які не толькі спажывае культурныя каштоўнасці, але стварае і развівае іх па прычыне прафесійнай і асабаснай патрэбнасці, асобы як самакаштоўнасці, самагоднасці чалавека — не толькі мэты, але і сродку грамадскага развіцця.

Найбольш зручнай мадэллю культуры для структуравання зместу культуралагічных ведаў з’яўляецца канцэпцыя, распрацаваная вядомым беларускім філосафам і культуролагам М.І.Крукоўскім. У яго іерархічнай тыпалагізацыі культура разглядаецца ў двух разрэзах: уздоўж вертыкалі іерархічных узроўняў (сінхранія) і па гарызанталі, уздоўж лініі яе гістарычнага развіцця ў часе (дыяхранія). Такі погляд, узыходзячы да гегелеўскай традыцыі рухомасці дыялектыка-супярэчлівага адзінства агульнага і прыватнага, сутнасці і з’явы, ідэальнага і матэрыяльнага, зместу і формы, скіраваны ў будучыню, у перспектыву развіцця чалавецтва і выкарыстання сучасных агульнанавуковых падыходаў.



У адпаведнасці з гэтай трактоўкай ***культура*** — гэта сістэмная сукупнасць духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей, якая ўяўляе сабой іерархічную структуру, дзе асноўнымі ўзроўнямі з’яўляюцца духоўная, мастацкая і матэрыяльная культуры, яны, у сваю чаргу, маюць уласныя, больш дробныя мікраструктуры. І так аж да асобных прадметаў і фактаў культуры, кожны з якіх уяўляе індывідуальную мікраструктуру як шкалу мікраўзроўняў паміж полюсамі сутнасці і з’явы, зместу і формы (схема 2.2).

Але культура — гэта не толькі мноства асобных фактаў і з’яў духоўнага, мастацкага або матэрыяльнага характару, а і даволі высокаарганізаваная сістэма са сваёй уласнай структурай, з больш ці менш стабільным наборам элементаў, якія знаходзяцца ва ўзаемасувязі і ўзаемадзеянні. Таму важна вывучаць не толькі яе асобныя элементы (напрыклад, жанр музыкі, выкананне), але і бачыць усю сістэму ў цэлым.

Схема 2.2

**Формы культуры**

| КУЛЬТУРА | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ДУХОЎНАЯ | | | | МАСТАЦКАЯ | | | | МАТЭРЫЯЛЬНАЯ |
| Прадукты і працэс інтэлектуальнай дзейнасці | | | | Сістэма асобных відаў мастацтва | | | | Гатункі раслін, пароды жывёл, камунікацыі, транспарт, будынкі і матэрыялы, абсталяванне, тэхналогіі і інш. |
| навука | філасофія | рэлігія | права | выяўленчае мастацтва | музыка | архітэктура | дызайн | |

Звернем увагу на стройнасць і лагічнасць сістэмы вертыкальных, сінхранічных узроўняў культуры. Вылучэнне мастацкай культуры як самастойнага віду нароўні з духоўнай нязвыкла для еўрапейскай філасофіі, таму што яна большасцю вучоных класіфікуецца як частка духоўнай. Аднак калі ўлічыць, што да духоўнай культуры адносяць прадукты і працэс інтэлектуальнай дзейнасці (навука, філасофія, рэлігія, права і інш.), то мастацтва

як вынік эмацыянальнага асваення і ўспрымання карціны свету, разнастайнага і living рознатыповага, з развітой уласнай тыпалогіяй структурна можа быць разгледжана па-за або ў рамках духоўнай культуры. Гэта асабліва плённа і зручна ў навукова-педагагічным плане, бо дае магчымасць даволі поўна ўявіць і апісаць цэльную структуру гэтага феномена.

На наступным узроўні мастацкая культура распадаецца на сістэму асобных відаў мастацтва: выяўленчае, музыка, мастацкая літаратура, архітэктура, дызайн і інш. У сваю чаргу, кожны з відаў мае ўласную структуру ўжо на ўзроўні жанраў як падвідаў канкрэтнага мастацтва: графіка, жывапіс, скульптура — у выяўленчым мастацтве; паэзія, проза, драма — у мастацкай літаратуры; сімфонія, опера, песня — у музыцы і гэтак далей. Затым кожны падвід, у сваю чаргу, распадаецца на яшчэ больш дробныя падструктуры: так, графіка падзяляецца на станковую, кніжную, газетна-часопісную, прыкладную і інш.; жывапіс — на алейны, тэмперны, васковы і гэтак далей — аж да канкрэтных твораў, якія маюць сваю мікраструктуру, пэўны стыль, вобразы, мову і інш.

Надзвычай цяжка іерархізаваць сінтэтычныя віды мастацтва, такія як кіно, тэатр, харэаграфія, дзе ўжо на трэцім узроўні, жанравым, адбываецца вельмі цеснае перапляценне з іншымі мастацтвамі, напрыклад кіно — з музыкай, выяўленчым мастацтвам, літаратурай, дызайнам, харэаграфіяй і інш.

Мастацкая культура непарыўна звязана з двума іншымі відамі культуры. Грунтуючыся на матэрыяльнай культуры (спажывецкія тавары, прадметы быту, машыны, матэрыялы і інш.), мастацкая культура вяртаецца ў матэрыяльны свет у выглядзе ўзвышаных прадметаў і з'яў, якія служаць чалавеку ў яго паступальным руху да духоўнай культуры (навука, рэлігія, філасофія, права, мараль і інш.). Мастацтва, як мост, злучае паміж сабой два пласты, утвараючы трэці, даволі самастойны ўзровень.

Такім чынам, паводле структуры культуру можна ўявіць у выглядзе цэласнай сістэмы, шматступеньчатага пірамідальнага ўтварэння, асновай якога служыць свет створаных рукамі людзей рэчаў — культура матэрыяльная; вяршыняй — стратасферныя вышыні чыстай духоўнасці, духоўная культура; сэрцавінай, якая сілкуе і стварае крайнія полюсы, — культура мастацкая.

Канцэпцыя культуры як сістэмная сукупнасць духоўных, мастацкіх і матэрыяльных каштоўнасцей, створаных чалавецтвам на працягу яго гісторыі, дазваляе вывучаць культуру з сінхранічнага пункту гледжання і ў працэсе гістарычнага развіцця ў часе — з дыяхранічнага.



Паколькі і верхнія, і ніжнія ўзроўні іерархічнай піраміды культуры аднолькава важныя, паколькі ўсе яе элементы ўяўляюць значную каштоўнасць, усе культуралагічныя навукі даследуюць менавіта культуру ў кантэксце гэтай цэласнасці, а не вузкапрафесійнай замкнёнасці.

## 2.5. Антрапалагічная трактоўка культуры

У апошні час актыўна развіваецца на постсавецкай прасторы антрапалагічны падыход да вывучэння культурных працэсаў, заснаваны на шматгадовых культуралагічных і антрапалагічных распрацоўках буйнейшых заходнееўрапейскіх вучоных мінулых дзесяцігоддзяў (С.Бідні, Р.Карнейра, А.Кафанья, А.Кробер, К.Леві-Строс, Э.Ліч, Б.Маліноўскі, Д.Мёрдак, А.Радкліф-Браўн, Л.Уайт, Д.Фэйблман і інш.). Актыўна працягваецца развіццё антрапалагічнага падыходу да вызначэння паняцця культуры, інфармацыйнага, сацыялагічнага і іншых аспектаў яе функцыянавання.

У антрапалогіі і культуралогіі культурны працэс разглядаецца як адзіны паток, у якім узаемадзейнічаюць, дапаўняючы і ўзбагачаючы адно аднаго, узроўні і формы культуры. Асновай класіфікацыі выступаюць канцэпцыі культурных працэсаў (эвалюцыйныя, цыклічныя і інш.), тыпалагічныя тэорыі ў залежнасці ад культурна-дэтэрмінаваных паводзін чалавека (універсальная мадэль, патэрны), канцэпцыі ўзроўняў сацыякультурнай інтэграцыі (розныя стадыі развіцця сям'і, народа, дзяржавы і інш.), канцэпцыя адзінага плана пабудовы культуры, або універсальная мадэль культуры з выбарам элементаў, агульных для ўсіх вядомых культур (узроставы падзел, рытуалы, сістэма рознасці, падзел працы, этыка, святы, фальклор, гульні і інш.), канцэпцыя элітарнасці культуры (Ф.Ніцшэ, П.Эліот) і г.д. У залежнасці ад прынятай асновы фіксуюцца розныя тыпы і віды структур, якія разам даюць поўную карціну функцыянавання культурнага феномена.

З вышыні сучасных ведаў на падставе шматгадовых даследаванняў заходніх вучоных усё часцей пераглядаюцца канцэптуальныя палажэнні постсавецкай культуралогіі, з новага пункту гледжання аналізуюцца сутнасць культуры і яе структура.

Да 90-х гадоў XX ст. неаспрэчна вылучаліся два віды культуры — матэрыяльная і духоўная. У святле сучасных пазіцый разгляду культуры як сістэмнай сукупнасці чалавечых каштоўнасцей, як механізма іх паслядоўнай выпрацоўкі, замацавання і

трансляцыі, як балансу спалучэння безупыннай мадэрнізацыі з найбольш высокай ступенню пераемнасці, пры якім захаванне ёсць бясспрэчны закон цывілізаванасці, што абумоўлівае натуральнагістарычнасць чалавечай дзейнасці, узнікае больш пытанняў, чым адказаў.

Ці з'яўляецца правільным вылучэнне матэрыяльнай культуры як адной з дзвюх яе складаючых, бо прадметы, будынкі, прылады працы ўяўляюць вынік чалавечай дзейнасці, вынік функцыянавання прадметнага тыпу культуры і ўзроўню прафесіяналізму чалавека або групы людзей, якія вырабілі гэты прадмет? Узровень дзейнасці чалавека можа быць або з'яўляцца паказчыкам культуры пэўнага часу, месца і ступені валодання ёю гэтым чалавекам. Аб'ект можа быць праявай канкрэтнай культуры, але сам па сабе наўрад ці з'яўляецца культурай.

Лагічнай і дзейснай таксама ўяўляецца канцэпцыя Э.А.Арловай, якая вылучае два ўзроўні культуры: спецыялізаваны і звычайны. Спецыялізаваны ўзровень падзяляецца на кумулятыўны (дзе назапашваюцца найбольш каштоўны прафесійны сацыякультурны вопыт і ўсе каштоўнасці грамадства) і трансляцыйны. На кумулятыўным узроўні культура выступае як узаемасувязь складаючых элементаў, кожны з якіх уяўляе сабой вынік схільнасці чалавека да якой-небудзь дзейнасці: палітычнай, прававой, філасофскай, навукова-тэхнічнай, мастацкай, эканамічнай і інш.

Кожнаму з гэтых элементаў "высокай" культуры адпавядае элемент на звычайным узроўні: палітычнай — норавы і звычаі, прававой — мараль, філасофскай — звычайны светапогляд, навукова-тэхнічнай — практычныя тэхналогіі, мастацкай — штодзённая эстэтыка (упрыгожванне жылля, архітэктура і інш.), эканамічнай — хатняе гаспадаранне.

На трансляцыйным узроўні адбываюцца абмен інфармацыяй, узаемадзеянне паміж кумулятыўным і звычайным узроўнямі праз адукацыю, дзе каштоўнасці кожнага з элементаў структуры трансліруюцца наступным пакаленнем і людзьмі розных узростаў, якія жадаюць іх атрымаць. Сродкі масавых камунікацый: тэлебачанне, радыё, друк, Internet — служаць мэце ўзаемадзеяння паміж "высокімі" каштоўнасцямі і каштоўнасцямі штодзённага жыцця, творамі мастацтва, традыцыямі, нормамі і інш. Сацыяльныя інстытуты: установы культуры, пазашкольныя ўстановы, паркі, музеі, бібліятэкі, тэатры — робяць веды культуры і культурныя каштоўнасці даступнымі для шырокай публікі.



Відаць, для стройнасці сістэмы было б апраўданым не адносіць трансляцыйны ўзровень да спецыялізаванага, а пакінуць яго сувязным, гэта значыць каналам сувязі паміж спецыялізаваным і звычайным узроўнямі культуры, тым больш, што сувязі гэтыя двухбаковыя: інфармацыя ідзе ў абодвух напрамках. Больш лагічным уяўляецца і больш дакладная назва ўзроўню, дзе назапашваюцца, канцэнтруюцца сацыякультурны вопыт, лепшае, што зроблена соцыумам, яго найвышэйшыя інтэлектуальныя і дзейнасныя набыткі (менавіта словам "кумулятыўны", які акумуліруе ўсё лепшае).

Канцэпцыя Э.А.Арловай, прынятая расійскімі вучонымі, уведзена ў навуковы ўжытак і падручнікі культуралогіі, выдадзеныя ў апошнія гады, не толькі ў выніку сваёй сучаснасці і актуальнасці, але і дзякуючы навуковаму рацыяналізму, структурнай стройнасці, якая дазваляе па-новаму асэнсаваць практычныя аспекты культуралагічнай адукацыі, больш дакладна сістэматызаваць рэестр спецыяльнасцей у галіне культуры, упарадкаваць змест культуралагічных прадметаў. На наш погляд, яна стане тэарэтычнай асновай пераструктуравання гуманітарнай адукацыі на постсавецкай прасторы.

## 2.6. Культура як творчасць і асобая сфера дзейнасці

Сучасны этап грамадскага развіцця характарызуецца дынамічнасцю і пераўтварэннем культурных кампанентаў штодзённай жыццядзейнасці людзей. Пры гэтым істотна змяняецца сутнасць сацыяльнай дзейнасці. Яна вызваляецца ад ідэалагізацыі, адміністравання, павярхоўна-павучальнага асветніцтва і набывае гуманістычны, агульначалавечы змест. У дзейнасці актуалізуюцца індывідуальныя асаблівасці чалавека, нацыянальная самабытнасць, аўтарскі пачатак.

Дынаміка функцыянальнага прызначэння культуры абумовіла пашырэнне традыцыйна прынятых формаў і спосабаў ажыццяўлення культурнай дзейнасці, змяніла змест гэтай дзейнасці: яна арыентуецца на рэалізацыю не толькі патрэб адпачынку, але і агульнасацыяльных запатрабаванняў і інтарэсаў розных груп насельніцтва.

Культуролагі разглядаюць прынцып дзейнасці як уласна чалавечы, а не прыродны. Ён нараджаецца разнастайнымі формамі сацыяльнага жыцця і прадуктаў культуры. Універсальнасць гэтай катэгорыі дазваляе ўключаць у яе мэтазгодную вытворчую

дзейнасць, накіраваную як на змяненне навакольнага асяроддзя, так і на кампаненты паводзін, якія робяць магчымай вытворчасць або выступаюць як формы, адцягненыя ад вытворчасці. Культуролагамі і сацыёлагамі вылучаюцца самыя разнастайныя віды дзейнасці, кожны з якіх можа быць ахарактарызаваны з улікам мэты, бюджэту часу, сацыяльнай накіраванасці і інш. На сацыяльныя і культурныя аспекты дзейнасці звяртаюць увагу А.М.Лявонцьеў, Э.Г.Юдзін, В.М.Лаўрыненка, М.А.Нартаў, Б.А.Шабанава, Г.С.Лукашова. Яны падкрэсліваюць, што нельга разглядаць культуру толькі як пазавытворчую дзейнасць, гэта значыць зводзіць яе да таго, чым чалавек займаецца пасля працы.

Разам з тым нельга распыляць культуру па ўсіх напрамках дзейнасці чалавека. Так, расійскі культуролаг М.С.Каган, даючы сістэмнае апісанне культуры, уключае ў яе ўсю чалавечую дзейнасць і ўсё, што ўзнікае ў ёй, — прадукты, сацыяльныя якасці чалавека і інш. Пры такім поглядзе спецыфіка культуры губляецца, і да ліку культурных феноменаў, па сутнасці, адносіцца ўсё, што ёсць у грамадстве. А гэта вядзе да таго, што мяжа паміж паняццямі “культура” і “грамадства” размываецца, розніца паміж імі становіцца хісткай.

Культуролагі К.М.Харужанка, Б.С.Ерасаў налічваюць звыш ста відаў дзейнасці.

Прыкладная культуралогія займаецца аналізам агульнай структуры дзейнасці і вызначэннем месца ў ёй культурных фактараў. У сваёй сукупнасці грамадства неабходна разглядаць як усёабдымную суперсістэму, якая складаецца з узаемазвязаных, але ўсё ж самастойных сістэм (або сфер) дзейнасці: эканоміка-гаспадарчай, сацыяльнай, духоўнай і палітычнай. Кожная з іх, таксама як і грамадства ў цэлым, мае свае характарыстыкі і механізмы, структуры, функцыі, інстытуты і інш.

Эканоміка-гаспадарчая сістэма, напрыклад, забяспечвае матэрыяльную жыццядзейнасць грамадства, сацыяльная — структуру адносін паміж рознымі групамі і слаямі. Палітычная сістэма ўяўляе сабой механізм рэалізацыі ўлады, волі і інтарэсаў састаўных элементаў грамадства і яго сукупнасці. Духоўная сістэма ўзнаўляе нарматыўна-каштоўнасныя, інфармацыйныя і камунікатыўныя кампаненты сацыяльнай рэгуляцыі.

Распрацоўка тэарэтычных поглядаў на культуру ў сучасных умовах ідзе па двух асноўных кірунках. Прадстаўнікі аднаго з іх, адаптацыянізму, разглядаюць культуру як спецыфічны спосаб узаемадзеяння чалавека з навакольным асяроддзем. Цэнтральнае месца тут у тлумачэнні культурных з’яў адводзіцца паняццю



дзейнасці. У рэчышчы гэтага кірунку развіваецца функцыянальная канцэпцыя культуры, у якой разглядаецца культура як сістэма спосабаў задавальнення патрэбнасцей. Прыхільнікі другога кірунку разумеюць культуру як галіну ідэальнага, што ўключае духоўную творчасць чалавека. У выніку зместам культуры, яе вызначальным і ўтваральным пачаткам яны лічаць толькі пэўную абмежаваную сферу духоўнай творчасці, галоўным чынам навуку і мастацтва. Менавіта тут ствараюцца сімвалы, ідэі, каштоўнасці, у святле якіх людзі ўспрымаюць і разумеюць рэчаіснасць і будуюць сваё жыццё.

Найбольш грунтоўна дзейнасць прааналізавана прадстаўнікамі інфармацыйна-семіятычнага падыходу да культуры. Э.Касірэр, Ю.М.Лотман, Х.Г.Гадамер, А.Моль і іншыя прытрымліваліся адаптацыяніcцкага тэзіса аб тым, што ў культуры ўвасабляюцца сродкі, спосабы і вынікі чалавечай дзейнасці. Імі паказана адрозненне ўласна чалавечай, разумнай дзейнасці ад біялагічных паводзін жывёлы. Чалавечая дзейнасць характарызуецца свядомай пастаноўкай мэты. Менавіта ў каштоўнаснай і асэнсаванай сферах культуры фіксуюцца мэты, перспектывы і праекты чалавечай дзейнасці. Функцыя мэтамеркавання ўласцівая як культуры, так і палітычнай сістэме. Характар мэтамеркавання залежыць ад узроўню культуры. Вылучаюць узроўні высокі, спецыялізаваны і звычайны.

Культура высокага ўзроўню ўключае агульназначныя каштоўнасці, далучэнне да якіх патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі і падтрыманне якіх забяспечваецца асобнымі сацыяльнымі інстытутамі. Праз высокую культуру гэтага ўзроўню фарміруецца духоўны свет асобы, соцыуму, нацыі, цывілізацыі, гэтая культура дапамагае людзям надаваць сэнс не толькі словам і рэчам, але і сваім паводзінам. Мы маем на ўвазе як асобныя ўчынкі, так і жыццё ў цэлым.

Розніца паміж спецыялізаваным і звычайным узроўнямі культуры ў значнай ступені выяўляецца пры разглядзе таго значэння, якое надаецца на кожным узроўні прынцыпу рацыянальнасці і яго суадносінам з каштоўнасцямі і мэтавымі арыентацыямі. Паняцце рацыянальнасці ўведзена ў культуралогію М. Вэберам і выкарыстоўваецца для абазначэння не гнасеалагічнага падзелу разумнага і стыхійнага, а накіраванасці чалавечых дзеянняў як працэсу паслядоўнага ўладкавання і падтрымання пераемнасці ў дасягненні тых ці іншых каштоўнасцей і мэт. Рацыяналізацыя прадугледжвае высвятленне суадносін мэта — план або мэта — сродак, каб сканцэнтраваць намаганні на

дасягненні пастаўленай мэты пры разумным выкарыстанні магчымых сродкаў на аснове ўнутранага ўзгаднення этапаў, уліку магчымых вынікаў, вызначэння парадку выбару канчатковых і прамежкавых мэт. Таму ў дзейнасці пастаянна адбываецца перамяшчэнне ўвагі ад мэты да сродкаў. З цягам часу ва ўсёй сферы дзейнасці стварэнне і ўдасканаленне яе сродкаў становяцца асобнай самастойнай мэтай, і работа, накіраваная на гэтую мэту, адасабляецца ў самастойную галіну дзейнасці.

Такім чынам, духоўная дзейнасць, без якой немагчымае існаванне культуры, узнікае як сродак, што садзейнічае ўдасканаленню практычнай дзейнасці па вытворчасці матэрыяльных даброт. Але з развіццём грамадства яна ператвараецца ў самастойную галіну дзейнасці, што параджае такія сферы культуры, як мастацтва, рэлігія, навука.

Абагульненне назапашанага ў культуралогіі тэарэтычнага і практычнага матэрыялу дазваляе разглядаць ***дзейнасць*** як мэтанакіраваную, структураваную, рацыянальна асэнсаваную актыўнасць суб'екта, у працэсе якой адбываецца развіццё чалавека і грамадства.

Для асэнсавання сутнасці культурнай дзейнасці пэўную каштоўнасць уяўляе агульная тэорыя дзейнасці, заснавальнікам якой быў Т.Парсанс, адзін з галоўных прадстаўнікоў структурна-функцыянальнага аналізу ў сацыялогіі. Паводле Т.Парсанса, духоўныя і матэрыяльныя здабыткі людзей з'яўляюцца вынікамі грамадска абумоўленых дзеянняў на ўзроўні дзвюх сістэм: сацыяльнай і ўласна культурнай. У рамках гэтай тэорыі ў структуры дзейнасці вылучаюцца дзеяч і сітуацыя. У аснове сацыяльнай сістэмы знаходзяцца сумесныя дзеянні людзей, якія абумоўлены мэтамі іх біялагічнага самазахавання ва ўмовах пэўнага грамадскага асяроддзя. Тут адносіны паміж дзеячам і сітуацыяй уключаюць: а) адаптацыйную арыентацыю, якая патрабуе вылучэння з навакольнага асяроддзя асобных аб'ектаў, іх абазначэння па якасцях, месцы і інш.; б) мэтамеркаванне як імкненне да дасягнення значымых патрэбнасцей; в) ацэначную арыентацыю, якая мае на мэце ўстанаўленне станоўчага ці адмоўнага значэння аб'ектаў з пункту гледжання чалавечых патрэбнасцей; г) узаемадзеянне сацыяльных суб'ектаў, зняцце напружанасці паміж рознымі групамі, падтрыманне дыферэнцыяцыі і стабільнасці грамадства.

У другой сістэме, уласна культурнай, пазбаўленай біялагічнай абумоўленасці, культура выступае як складаная сістэма сімвалаў і нормаў, якія пастаянна змяняюцца, удасканальваюцца людзьмі.



**Пытанні і заданні**

1. Дайце азначэнне культуры, якое, на ваш погляд, найбольш адпавядае яе сутнасці.
2. Якая навуковая дысцыпліна разглядае культуру як сутнасць разнастайных знакавых сістэм?
3. Што ўключае ў сябе сфера духоўнай культуры?
4. Раскрыйце сутнасць аксіялагічнага і антрапалагічнага падыходаў да вызначэння паняцця "культура".
5. Хто з'яўляецца заснавальнікам тэорыі дзейнасці?

**Літаратура**

*Бердяев, Н.А.* Философия неравенства.— М.: ИМА-пресс, 1990.— 286 с.

*Ерасов, Б.С.* Социальная культурология: пособие для студентов высш. учеб. заведений.— 2-е изд., испр. и доп.— М.: Аспект Пресс, 1997.— 591 с.

*Иванчук, В.Н.* Потребности социалистической личности.— М.: Мысль, 1986.— 192 с.

*Ильенков, Э.В.* Диалектическая логика: очерки истории и теории.— М.: Политиздат, 1984.— 271 с.

*Кармин, А.С.* Основы культурологии: морфология культуры.— СПб.: Лань, 1997.— 512 с.

*Культурология.* XX век: словарь.— СПб.: Университетская книга, 1997.— 640 с.

*Межуев, В.М.* Культура и история: проблемы культуры в философско-исторической теории марксизма.— М.: Политиздат, 1977.— 199 с.

*Орлова, Э.А.* Введение в социальную и культурную антропологию: учеб. пособие / Рос. ин-т культурологии. Рос. акад. наук.— М.: Изд-во МГИК, 1994.— 214 с.

*Пелик, А.А., Резник Ю.М.* Социокультурная антропология (историко-теоретическое введение): учеб. пособие.— М.: Изд-во МГСУ "Союз", 1998.— 320 с.

*Тайлор, Э.Б.* Первобытная культура.— М.: Политиздат, 1989.— 573 с.

# 3. ІНСТЫТУЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ КУЛЬТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### 3.1. Сутнасць сацыяльных інстытутаў і іх віды

Кожны кампанент сацыяльнай жыццядзейнасці мае адпаведныя формы арганізацыі, якія забяспечваюць як яго падтрымку, так і ўздзеянне на грамадскае жыццё ў цэлым. Эканоміка, напрыклад, не можа існаваць без пэўных формаў уласнасці на сродкі вытворчасці, працоўных калектываў, арганізацый, прадпрымальнікаў і інш. Палітыка атрымлівае сваё выражэнне перш за ўсё ў дзейнасці дзяржавы і палітычных партый.

У грамадстве існуе комплекс фармальных і нефармальных правіл, нормаў, прынцыпаў, установак, якія рэгулююць розныя сферы чалавечай дзейнасці і арганізоўваюць іх у сістэму ролей і статусаў, утвараючы ўстойлівую структуру сацыяльных дзеянняў. Англійскі сацыёлаг Г.Спенсер, заснавальнік арганічнай школы ў сацыялогіі, назваў гэтыя ўстойлівыя формы арганізацыі сумеснай дзейнасці людзей сацыяльнымі інстытутамі. Ён падрабязна прааналізаваў і апісаў шэсць тыпаў сацыяльных інстытутаў: прамысловы, прафсаюзны, палітычны, абрадавы, царкоўны, дамашні. Г.Спенсер параўноўваў сацыяльныя інстытуты з жывым арганізмам, для якога характэрна раздзяленне функцый паміж органамі.

Б.Ерасаў лічыць, што сацыяльныя інстытуты арганізоўваюць і каардынуюць дзейнасць людзей у кожнай сферы, без чаго гэтая дзейнасць набывае разрозненны, непаслядоўны і няўстойлівы характар. Ю.Левада разглядае сацыяльны інстытут як вузел дзейнасці людзей, які існуе пэўны час і забяспечвае стабільнасць усёй сацыяльнай сістэмы.

Аналіз працэсу інстытуцыяналізацыі сведчыць аб тым, што сацыяльныя інстытуты з'яўляюцца ў грамадстве як буйныя непла-



нуемыя прадукты сацыяльнага жыцця. Яны заклікаы забяспечыць надзейнасць, рэгулярнасць задавальнення патрэбнасцей суб'ектаў, груп, грамадства ў цэлым. Гэтыя інстытуты прадвызначаюць жыццяздольнасць кожнага грамадства. Аднак сярод сацыёлагаў няма поўнай згоды ў разуменні паняцця "сацыяльны інстытут". Таму гэты тэрмін выкарыстоўваецца ў самых разнастайных значэннях.

Паняцце "інстытуцыяналізацыя" мэтазгодна выкарыстоўваць у адносінах да ўсякіх упарадкаванняў, фармалізацыі грамадскіх сувязей і адносін. Працэс вызначэння і замацавання сацыяльных нормаў і правіл, статусаў і ролей, прывядзенне іх у сістэму, здольную дзейнічаць у кірунку задавальнення пэўнай грамадскай патрэбнасці, і ёсць інстытуцыяналізацыя. Гэты працэс немагчымы пры адсутнасці адпаведнай сацыяльнай патрэбнасці: матэрыяльнай, фізіялагічнай або духоўнай. Адсюль вынікае, што інстытуцыяналізацыя — гэта замена спантанных і эксперыментальных паводзін на прадказальныя, якія чакаюцца, мадэлiруюцца, рэгулююцца. Пры з'яўленні інстытуцыянальных момантаў у грамадстве пачынаецца фарміраванне пэўных правіл і нормаў паводзін, якія падтрымліваюцца большасцю яго паслядоўнікаў. Адначасова пачынае складвацца сістэма сацыяльных статусаў і ролей.

Усебаковае асэнсаванне працэсу інстытуцыяналізацыі дазваляе сцвярджаць, што ***сацыяльны інстытут*** уяўляе сабой высокаарганізаваную сацыяльную сістэму, якая характарызуецца ўстойлівай сацыяльнай структурай, глыбінёй інтэграванасці элементаў, разнастайнасцю, гнуткасцю і дынамічнасцю іх функцый, а значыць, і ўсёй сістэмы.

Шэраг культуролагаў разглядаюць сацыяльны інстытут як сукупнасць пэўных устаноў, якія адпавядаюць сацыяльнай структуры грамадства; сукупнасць сацыяльных нормаў і культурных узораў, што вызначаюць устойлівыя формы сацыяльных паводзін і дзеянняў.

Нельга зводзіць сацыяльны інстытут да наяўнасці арганізацый ці ўстаноў, якія займаюцца адпаведнай дзейнасцю, хаця гэта асноўная і найбольш істотная з'ява ў працэсе інстытуцыяналізацыі. Інстытут уключае таксама пэўныя сістэмы мэтанакіраванай дзейнасці, праз якія падтрымліваецца грамадскае жыццё: каштоўнасці, нормы, ідэалы, узоры дзейнасці і паводзін усіх суб'ектаў сацыякультурнага працэсу. Гэтыя сістэмы абумоўліваюць падобныя паводзіны індывідаў, усіх суб'ектаў сацыяльнага дзеяння, узгадняюць іх імкненні, вызначаюць формы, спосабы

задавальнення іх патрэбнасцей і інтарэсаў, садзейнічаюць вырашэнню канфліктаў, на пэўны час забяспечваюць стан раўнавагі ў рамках той ці іншай супольнасці. Для эфектыўнага функцыянавання сацыяльнага інстытута неабходна, каб сацыякультурныя элементы сталі часткай унутранага свету асобы, перараслі ў сацыяльныя ролі і статусы.

Такім чынам, працэс фарміравання каштоўнасных арыентацый асобы з'яўляецца важнейшым кампанентам інстытуцыяналізацыі. Канцэпцыя інстытуцыяналізацыі ўключае тэарэтычныя палажэнні аб відах і функцыях сацыяльных інстытутаў.

У залежнасці ад сферы дзеяння выконваемых функцый ***сацыяльныя інстытуты*** падраздзяляюцца на рэляцыйныя, якія вызначаюць ролевую структуру грамадства па розных прыметах (пол, узрост, адукацыя, від заняткаў, здольнасці), і рэгуляцыйныя, якія вызначаюць межы незалежных ад нормаў грамадства дзеянняў індывіда для дасягнення асабістых мэт. Яны прымаюць адпаведныя санкцыі, прадугледжаныя пры выхадзе за гэтыя межы. Да такіх інстытутаў адносяцца ўсе механізмы сацыяльнага кантролю.

Інстытуты могуць быць і культурнымі, у гэтым выпадку яны звязаныя з ідэалогіяй, адукацыяй, мастацтвам. Неабходна адзначыць існаванне ў культуралогіі меркавання аб тым, што культура менш за іншыя сферы паддаецца інстытуцыянальнаму ўпарадкаванню. Аднак аналіз гісторыі існавання сацыяльных інстытутаў паказвае, што на ўсіх этапах развіцця грамадства заўсёды меліся розныя інстытуты, якія накіроўвалі культурнае жыццё. Асноўныя з іх рэлігія, дзяржава, бізнес і інш. На характар рэгулявання духоўнага жыцця, безумоўна, уплываюць узровень развіцця грамадства і характар яго эканамічных і культурных сувязей з іншымі краінамі.

Сацыяльна-культурныя інстытуты знаходзяцца ў пастаянным развіцці і змяняюць свае формы. Крыніцай іх развіцця з'яўляюцца эндагенныя (унутраныя) і экзагенныя (знешнія) фактары. Змяненні сацыяльных інстытутаў пад уплывам развіццёвых культурных падсістэм абумоўлены перш за ўсё назапашваннем чалавецтвам новых ведаў. Акрамя таго, вялікі ўплыў на іх эвалюцыю аказваюць змены ў каштоўнасных арыентацыях, асабліва спосабы ацэнкі аб'ектыўнай рэальнасці, якія фарміруюць светапогляд канкрэтнай культурнай супольнасці.

Эндагенныя змяненні сацыяльна-культурных інстытутаў адбываюцца ў асноўным з-за таго, што яны перастаюць эфектыўна выконваць тую або іншую культурную патрэбнасць. Калі такая патрэбнасць становіцца нязначнай ці зусім знікае, то існаванне інстытута аказваецца бессэнсоўным, бо ён пачынае негатыўна ўплываць на культурнае жыццё. Такі інстытут па прычыне інерцыі сацыяльных сувязей пэўны час яшчэ можа функцыянаваць як даніна традыцыі, але ў большасці выпадкаў яго жыццё хутка спыняецца. Надаць новы імпульс дзейнасці сацыяльна-культурнага інстытута можна шляхам яго рэарганізацыі, паглыбленай спецыялізацыі, стварэння новых, больш дыферэнцыраваных структур, якія будуць дзейнічаць на аснове іншых нормаў.



Аналіз сацыяльна-палітычнай трансфармацыі беларускага грамадства паказвае, што разам з пераўтварэннем грамадства істотна змянілася структура сацыяльна-культурных інстытутаў. У гэты перыяд назіраюцца актыўнае ўмяшанне дзяржавы ў рэгуляцыю культурнага жыцця, фарміраванне палітычных суб'ектаў, якія імкнуцца паўплываць на сацыякультурную дынаміку. Побач з дзяржаўнымі ўстановамі значнае месца ў культурным жыцці пачалі займаць няўрадавыя арганізацыі, як нацыянальныя, так і міжнародныя. Розныя супольнасці, пісьменніцкія і журналісцкія арганізацыі, разнастайныя творчыя калектывы і асацыяцыі, прыватныя выдавецтвы, музеі стварылі шырокую сетку, якая забяспечвае культурную дзейнасць краіны.

Акрамя разгледжаных вышэй знешніх інстытутаў, што ажыццяўляюць культурную палітыку ў грамадстве і ўздзейнічаюць на яе рэгуляцыю, у самой культуры ёсць структуры яе самазабеспячэння. У сучасным грамадстве існуюць розныя культурныя ўстановы і арганізацыі, якія можна класіфікаваць па функцыянальных прыметах: а) сацыяльныя інстытуты, прызначаныя для ажыццяўлення духоўнай вытворчасці; б) інстытуты, якія выкарыстоўваюцца для распаўсюджвання культуры; в) установы, якія займаюцца арганізацыяй і планаваннем культурнай дзейнасці, ажыццяўляюць кіраванне культурным працэсам. Безумоўна, такі падзел даволі адносны. Часцей за ўсё культурныя ўстановы і арганізацыі поліфункцыянальныя, ажыццяўляюць адначасова і вытворчасць, і распаўсюджанне каштоўнасцей культуры.

Такім чынам, ***сацыяльна-культурныя інстытуты*** — гэта спецыфічныя ўтварэнні, якія рэгулююць развіццё культуры ў тым ці іншым грамадстве і прызначаны для арганізацыі сумеснай дзейнасці людзей, трансляцыі ведаў і традыцыйных элементаў культуры.

## 3.2. Функцыі сацыяльна-культурных інстытутаў

Вызначэнне сутнасці сацыяльна-культурных інстытутаў немагчымае без аналізу іх функцый, якія забяспечваюць дасягненне мэты. Грамадства з'яўляецца складаным сацыяльным утварэннем, і сілы, што дзейнічаюць унутры яго, цесна ўзаемазвязаныя, таму бывае цяжка прадбачыць вынікі кожнага асобна ўзятага дзеяння. У сувязі з гэтым пэўны інстытут выконвае свае, спецыфічныя функцыі. Іх сукупнасць складае агульныя сацыяльныя функцыі інстытутаў як элементаў, відаў тых ці іншых сістэм.

Важную ролю ў вызначэнні відавочных функцый сацыяльна-культурных інстытутаў адыгралі навуковыя працы М.Вэбера, Э.Касірэра, Й.Хёйзінга. Імі і іншымі культуролагамі ў структуры духоўнай вытворчасці вылучаюцца рэгулятыўная, інтэгратыўная і камунікатыўная функцыі.

У кожным грамадстве ствараюцца складаныя шматузроўневыя сістэмы, спецыяльна прызначаныя для выпрацоўкі агульных і канкрэтных ведаў, уяўленняў аб свеце і самім чалавеку, а таксама арыентацый і мэт не толькі штодзённых, але і разлічаных на перспектыву паводзін. У сувязі з гэтым сацыяльна-культурны інстытут павінен мець сістэму правіл і нормаў паводзін, якія ў рамках духоўнай культуры замацоўваюць, стандартызуюць паводзіны сваіх членаў і робяць іх прагназіруемымі. Пры аналізе кампанентаў культурнай рэгуляцыі неабходна мець на ўвазе, што рэалізацыя нормаў чалавечых каштоўнасцей і іх значэнняў адбываецца праз іх прывучэнне да сацыяльных ролей і нарматыўных паводзін, засваенне пазітыўных матывацый і прынятых у грамадстве значэнняў. Гэтыя механізмы і складаюць перш за ўсё працэс сацыялізацыі, важнымі часткамі якога з'яўляюцца выхаванне, зносіны, самасвядомасць. Сацыялізацыя падтрымліваецца як асобнымі інстытутамі (сям'я, школа, працоўны калектыў і інш.), так і ўстановамі, арганізацыямі, прадпрыемствамі культуры і мастацтва.

Даследаванне тэндэнцый развіцця працэсу сацыялізацыі сведчыць, што з ускладненнем сацыякультурнага асяроддзя механізм сацыялізацыі і яго культурнае забеспячэнне становяцца таксама больш складанымі.

Такім чынам, ***рэгулятыўная*** функцыя заключаецца ў тым, што функцыянаванне сацыяльна-культурных інстытутаў забяспечвае рэгуляванне ўзаемаадносін паміж членамі грамадства шляхам выпрацоўкі нормаў паводзін. Тым самым культурна-статусныя адносіны садзейнічаюць устойлівасці сацыяльнай структуры грамадства.



Спецыфічнай функцыяй сацыяльна-культурных інстытутаў з'яўляецца ***інтэгратыўная***, якую вылучаюць С.С.Фралоў, А.С.Каргін, Г.В.Драч і іншыя даследчыкі. У сацыяльнай супольнасці адбываецца распаўсюджванне сукупнасці поглядаў, перакананняў, каштоўнасцей, ідэалаў, характэрных для пэўнай культуры, яны вызначаюць свядомасць і паводзіны людзей. Установы і арганізацыі культуры забяспечваюць захаванне культурнай спадчыны, нацыянальных традыцый, гістарычнай памяці, што садзейнічае ўстанаўленню сувязей паміж пакаленнямі, згуртаванню нацыі. Трэба адзначыць, што інтэгратыўная функцыя мае складаны і супярэчлівы характар. У сусветнай супольнасці існуюць розныя культуры. Культурныя адрозненні ўскладняюць зносіны людзей, часам перашкаджаюць іх узаемаразуменню. Гэтыя адрозненні нярэдка выступаюць як бар'еры паміж сацыяльнымі групамі і супольнасцямі. Сацыяльна-культурныя інстытуты імкнуцца сродкамі культуры і мастацтва пераадолець культурныя адрозненні, умацаваць кантакты культур, актывізаваць іх узаемадзеянне і ўзаемапранікненне і тым самым аб'яднаць людзей як у рамках адной культуры, так і за яе межамі.

Грамадства не можа развівацца без перадачы сацыяльнага вопыту аднаго пакалення другому, без абмену гэтым вопытам унутры грамадства, паміж краінамі і народамі. Культура захоўвае сацыяльны вопыт пакаленняў у паняццях і словах, сімвалах, своеасаблівых мовах мастацтва, якія расказваюць аб чалавеку, яго творчых сілах і магчымасцях. У гэтым сэнсе культура ўяўляе сабой памяць грамадства, кладоўку назапашанага ім вопыту, захавальніцу часу, які ўпарадкоўвае вопыт.

У якасці сродкаў захавання і назапашвання інфармацыі выступаюць прыродная памяць індывіда, калектыўная памяць, зафіксаваная ў мове і духоўнай культуры, сімвалічныя і рэчавыя сродкі. Ва ўсіх выпадках захаванне і перадача інфармацыі патрабуюць падтрымання знакавых сістэм, пэўнага метаду ўпарадкавання, арганізацыі інфармацыі па яе каштоўнасцях і змесце. У сувязі з гэтым у грамадстве ствараюцца сацыяльныя інстытуты, функцыяй якіх з'яўляецца ***трансляцыя культурнага вопыту*** ад аднаго народа другому, ад папярэдняга пакалення наступнаму, з адной краіны ў другую з дапамогай розных сродкаў вербальнага і невербальнага характару, сродкаў масавай інфармацыі.

Усе кампаненты культуры: каштоўнасці, веды, нормы і звычаі — у той ці іншай ступені выконваюць функцыю ***пераемнасці***, ажыццяўляючы сувязь сучаснай дзейнасці і паводзін з папярэднімі ўзорамі. Механізм узнаўлення культурнай дзейнасці, пры якой

гэтая дзейнасць паўтарае мінулыя ўзоры і прызнаецца нарматыўнай з-за іх наяўнасці ў мінулым, называецца традыцыяй. У якасці традыцый выступаюць пэўныя грамадскія ўстаноўкі, нормы паводзін, каштоўнасці, ідэі, звычаі, абрады і інш. Таму важнейшымі функцыямі сацыяльна-культурных інстытутаў з’яўляюцца захаванне, перадача і развіццё элементаў сацыяльнай і культурнай спадчыны.

Развіццё формаў і спосабаў камунікацыі з’яўляецца важнейшым аспектам дзейнасці розных устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый культуры. Вучоныя разглядаюць развіццё ў працэсе працоўнай дзейнасці, калі людзі ўступаюць у адносіны паміж сабой. Культура можа стварацца супольна, сумеснымі дзеяннямі. Т.Парсанс падкрэсліваў, што без камунікацыі немагчымыя ніякія формы адносін і дзейнасці. Без наяўнасці пэўных формаў культурнай камунікацыі нельга ажыццяўляць выхаванне індывіда, узгадненне дзеянняў, падтрыманне супольнасці ў цэлым. Таму неабходна пастаянная, устойлівая, разнастайная і мабільная сістэма камунікацый, якая падтрымлівае прымальную ступень адзінства і дыферэнцыраванасці грамадскага быцця. Культура фарміруе ўмовы і сродкі чалавечых зносін, яна аб’ядноўвае людзей. Дзякуючы зносінам людзі могуць ствараць, захоўваць і развіваць культуру, вучацца карыстацца знакавымі сістэмамі, фіксаваць у іх свае думкі і асвойваць зафіксаваныя ў іх думкі іншых людзей.

У сучасную эпоху, па меркаванні канадскага культуролага М.Маклуэна, значна павялічылася колькасць кантактаў асобнага індывіда з іншымі людзьмі. Але гэтыя кантакты часта маюць апасродкаваны і аднабаковы характар, а магчымасці, напрыклад гледача тэлепраграм, абмяняцца з суразмоўцамі сваімі думкамі вельмі абмежаваныя. Сацыялагічныя даследаванні сведчаць аб тым, што такія аднабаковыя зносіны часта толькі садзейнічаюць развіццю пачуцця адзіноты. У сувязі з гэтым сацыяльна-культурныя інстытуты праз засваенне культурных каштоўнасцей садзейнічаюць развіццю сапраўдных чалавечых формаў зносін. Культура дае людзям і сродкі зносін — знакавыя сістэмы, мовы. Даследаванні паказваюць, што ў людзей высокай культуры, якія любяць і разумеюць паэзію, музыку, узрастае значэнне духоўных і псіхалагічных фактараў у зносінах, выпрацоўваецца павышаная здольнасць да ўзаемаразумення, суперажывання.

Такім чынам, ***камунікатыўная*** функцыя сацыяльна-культурных інстытутаў заключаецца ва ўпарадкаванні працэсаў трансляцыі сацыяльна важнай інфармацыі, інтэграцыі грамадства і



сацыяльных груп, унутранай дыферэнцыяцыі соцыуму і груп, аддзяленні соцыуму і розных груп адзін ад аднаго ў іх зносінах.

У сацыяльна-культурнай тэорыі існуюць розныя канцэпцыі, пункты гледжання, трактоўкі на прынятыя ў пэўным соцыуме формы адпачынку, забаў, псіхічнай разрадкі. Кожная культура мае свае традыцыі і звычаі, якія рэгламентуюць спосабы зняцця напружанасці ў людзей у працэсе штодзённага жыцця. Так, А.С.Каргін вылучае ў якасці эфектыўных спосабаў гульні, спорт, масавае мастацтва, вячоркі, разнастайнае хобі, святы. Духоўную кампенсацыю, адзначае Б.С.Ерасаў, чалавек можа атрымаць ад выканання рэлігійных абрадаў, містычнага зліцця з “вышэйшай рэальнасцю”, заняткаў мастацкай культурай, турызмам, творчых захапленняў, калекцыяніравання, выхавання дзяцей ці ад удзелу ў непрафесійнай палітычнай дзейнасці. Вольны час В.В.Ромах разглядае як сферу адукацыі, выхавання асобаснай і сацыяльнай культуры, асобасных і грамадзянскіх якасцей, пашырэння культурнага кругагляду і абмену духоўнымі каштоўнасцямі, знаёмства з культурна-гістарычнымі помнікамі, спадчынай народа.

У сацыялогіі сфера, якая дазваляе людзям адпачываць ад жыццёвых праблем, разглядаецца ў большасці выпадкаў як вольны час, вызвалены ад непасрэднага ўдзелу ў вытворчасці. Адпачынкавая дзейнасць значна шырэй па сваім змесце, таму што можа ўключаць самыя разнастайныя тыпы творчай дзейнасці. Мэтазгодна вольны час разглядаць у кантэксце рэалізацыі інтарэсаў асобы, звязаных з рэкрэацыяй, самаразвіццём, самарэалізацыяй, зносінамі, задавальненнем, аздараўленнем, творчай дзейнасцю. У сувязі з гэтым задачай сацыяльна-культурных інстытутаў з’яўляецца пераўтварэнне вольнага часу ў сферу культурнай дзейнасці, дзе адбываецца рэалізацыя творчага і духоўнага патэнцыялу грамадства.

Аналіз фактараў фарміравання адпачынку насельніцтва сведчыць, што месцам рэалізацыі культурна-адпачынкавых ініцыятыў выступаюць бібліятэкі, клубы, тэатры, філармоніі, музеі, кінатэатры, паркі і іншыя ўстановы культуры і мастацтва.

***Рэкрэацыйная і кампенсатарная функцыі*** сацыяльна-культурных інстытутаў Беларусі набываюць асаблівую значнасць у сувязі з масавым распаўсюджваннем сярод вялікай колькасці насельніцтва посткатастрофнага соцыуму сацыярадыелагічных стрэсавых парушэнняў. Суб’ектам сацыяльна-культурнай дзейнасці неабходна распрацоўваць і ажыццяўляць забаўляльныя, гульнявыя, аздараўленчыя, мастацка-творчыя адпачынкавыя

праграмы для розных груп насельніцтва з мэтай аднаўлення сіл, страчаных у выніку чарнобыльскай аварыі.

Такім чынам, відавочнымі функцыямі сацыяльна-культурных інстытутаў з'яўляюцца *рэгулятыўная, інтэгратыўная, камунікатыўная, пераемнасці, трансляцыі культурнага вопыту, сацыялізацыі, рэкрэацыйная і кампенсатарная*. Яны лёгка распазнаюцца як частка мэты інстытута, скіраванай на забеспячэнне сумеснай дзейнасці людзей, што імкнуцца да задавальнення культурных патрэбнасцей (схема 3.1).

Даследаванне дзейнасці ўстаноў, прадпрыемстваў і арганізацый культуры і мастацтва паказала, што побач з непасрэднымі вынікамі дзеянняў сацыяльных інстытутаў існуюць іншыя вынікі, якія знаходзяцца па-за непасрэднымі мэтамі чалавека. За культурнай з'явай нярэдка можна заўважыць іншыя сацыякультурныя фактары, якія здаюцца на першы погляд схаванымі. Гэтая розніца паміж з'явай і сутнасцю, паміж відавочнымі і латэнтнымі функцыямі ўсебакова прааналізавана К.Марксам і Ф.Энгельсам у вядомай працы "Нямецкая ідэалогія", напісанай у 1846 г. У ёй аўтары паказалі, як ідэйныя ўтварэнні можна растлумачыць зыходзячы з матэрыяльнай практыкі і класавых адносін.

Схема 3.1

**Структура функцый сацыяльных інстытутаў**




Найбольш поўна канцэпцыя функцыянальнасці распрацавана культуролагамі Р.Мертанам і Т.Вебленам. Менавіта Р.Мертанам было ўведзена паняцце "***латэнтная функцыя***". Пры наяўнасці гэтай функцыі культуролагу важна раскрыць той унутраны сэнс



міфа, уяўлення, мастацкага твора, акта творчасці ці яго ўспрымання крытыкамі або публікай, што і складае прызнаны змест грамадскай свядомасці.

***Відавочная функцыя***, паводле меркавання Р.Мертана, уяўляе сабой аб'ектыўны вынік, які садзейнічае адаптацыі сістэмы, выкліканы наўмысна і прызнаецца ў якасці такога ўдзельнікамі гэтай сістэмы. Адпаведна латэнтная функцыя вядзе да выніку, які не ўваходзіў у намер удзельнікаў і не прызнаваўся такім. Пры гэтым вынік можа быць пазітыўным або негатыўным для дадзенай супольнасці, але сам факт выяўляецца толькі пры разглядзе збоку, пры глыбокім вывучэнні рэальных працэсаў. Гэтыя вынікі могуць мець вялікае значэнне для соцыуму.

Такім чынам, толькі пры вывучэнні відавочных і латэнтных функцый сацыяльных інстытутаў магчыма вызначыць сапраўдную сутнасць культурнага жыцця, мэты суб'ектаў сацыяльна-культурнай дзейнасці. Наяўнасцю латэнтных функцый можна растлумачыць існаванне шэрага ўстаноў культуры, структурных падраздзяленняў, якія не толькі не выконваюць сваіх функцый, але і перашкаджаюць іх рэалізацыі. Па гэтай прычыне неабходна выявіць схаваныя функцыі, з дапамогай якіх інстытут задавальняе патрэбы пэўных груп соцыуму, улічваючы інтарэсы кожнай. Сацыяльна-культурныя інстытуты ўзаемадзейнічаюць з сацыяльным асяроддзем, у якасці якога выступае соцыум. Але працэсы, што адбываюцца ў грамадстве, пастаянна мяняюць патрэбнасці розных суб'ектаў, значыць, мяняецца характар узаемадзеяння інстытутаў з сацыяльным асяроддзем. На пэўным этапе наступае такая сітуацыя, пры якой змяненне патрэбнасцей не знаходзіць адлюстравання ў структуры і функцыях сацыяльна-культурнага інстытута і ў яго дзейнасці ўзнікае дысфункцыя. Яна выяўляецца ў невыразнасці мэты дзейнасці ўстановы, арганізацыі, няпэўнасці функцый, зніжэнні сацыяльнага аўтарытэту, трансфармацыі асобных функцый у дзейнасць, скіраваную не на дасягненне рацыянальнай мэты, а на падтрымку ўласнага існавання. Такі інстытут пачынае адчуваць розныя цяжкасці: недахоп матэрыяльных сродкаў, патрэбных кадраў, узрастанне арганізацыйнага бязладдзя.

Аналіз дзейнасці сацыяльна-культурных інстытутаў Беларусі паказаў, што ў такой сітуацыі ў перыяд трансфармацыі апынуліся некаторыя ўстановы і прадпрыемствы культуры. У першую чаргу гэта ўстановы клубнага тыпу, якія не перабудавалі сваю дзейнасць з улікам сучасных сацыяльна-культурных працэсаў і посткатастрофных умоў жыццядзейнасці. Клубы канца 80—пачатку 90-х

гадоў XX ст. не змаглі забяспечыць рэалізацыю разнастайных патрэбнасцей асобы, арганізаваць адпаведным чынам творчую, нерэгламентаваную дзейнасць саміх наведвальнікаў. Яны не сталі спецыялізаваным сацыяльна-культурным цэнтрам арганізацыі разнапланавай творчай дзейнасці людзей і зносін. Таму значная колькасць клубаў была заменена іншымі падсістэмамі.

Не задаволеныя падобнымі інстытутамі сацыяльна-культурныя патрэбнасці выклікалі да жыцця нарматыўна не рэгуляваныя віды дзейнасці, якія запаўнялі недахопы ў працы шэрага ўстаноў культуры. Акцэнт дзейнасці ўстаноў культуры павінен быць сканцэнтраваны на забеспячэнні і абароне інтарэсаў чалавека як актыўнага суб'екта культурнай дзейнасці, падтрымцы груп, чые культурныя патрэбнасці адрозніваюцца ад патрэбнасцей большасці насельніцтва. Пераарыентацыя культурнай практыкі на стварэнне ўмоў для свабоднага выбару разнастайных відаў культурна-асветніцкай дзейнасці на асновах самаарганізацыі вядзе да размывання адзначаных функцый сацыяльна-культурных інстытутаў, замены іх стандартных тыпалогій і стварэння гнуткіх функцыянальных сістэм сацыяльна-культурнай дзейнасці розных катэгорый насельніцтва.

### 3.3. Асаблівасці функцыянавання сацыякультурных інстытутаў у Беларусі ў сучасных умовах

У грамадстве ўзнікаюць розныя культурныя ўстановы і арганізацыі, якія маюць на мэце ажыццяўленне духоўнай вытворчасці, трансляцыю культуры, арганізацыю і планаванне культурнай дзейнасці, фарміраванне высокіх духоўных патрэб, стварэнне ўмоў для выяўлення і рэалізацыі дзейнасці людзей. З улікам гэтых задач дзяржава сфарміравала разгорнутую сетку ўстаноў культуры. Бібліятэкі, клубы, музеі, тэатры, школы, паркі ўтварылі адзіны сацыяльна-культурны комплекс. У іх ёсць агульныя мэты, склаліся аднародныя прынцыпы працы і падобныя гаспадарчыя механізмы. Іх дзейнасць будуецца на прынцыпах даступнасці, добраахвотнасці, апоры на грамадскую ініцыятыву і самадзейнасць, спалучэння індывідуальнай, групавой і масавай работ, галоснасці, кіравання і самакіравання, выкарыстання розных (законных) крыніц фінансавання, абавязковага ўліку мясцовых асаблівасцей у гістарычным і культурным развіцці, дыферэнцыяцыі і спецыялізацыі.

Вывучэнне дзейнасці ўстаноў культуры дазваляе выявіць даволі разгалінаваную сетку іх, дзе працуюць тысячы прафесійных работнікаў (табл.3.1).



Табліца 3.1

**Колькасны склад культурна-асветных і тэатральна-відовішчных устаноў Беларусі (на 1.01.2004 г.)**

| Установы | Колькасць | |
|---|---|---|
| | устаноў | супрацоўнікаў |
| Бібліятэкі | 4327 | 9411 |
| Клубы | 3917 | 10738 |
| Музеі | 131 | 896 |
| Паркі | 19 | 845 |
| Тэатры | 27 | 1577 |
| Канцэртныя ўстановы | 15 | 1215 |
| Цыркі | 2 | 310 |
| Усяго | 8438 | 24992 |

Наяўнасць значнай колькасці ўстаноў сацыяльна-культурнага комплексу дазваляе сцвярджаць, што Беларусь мае высокі сацыяльна-культурны патэнцыял, умелае выкарыстанне якога дазваляе паспяхова вырашаць праблемы нацыянальнай культурнай палітыкі.

### 3.4. Бібліятэкі

У сучаснай інфрастуктуры культуры вялікую ролю адыгрывае такое сацыякультурнае ўтварэнне, як бібліятэка. Яна выконвае шэраг важнейшых агульных і спецыфічных сацыяльных функцый. У сацыяльным плане бібліятэка з'яўляецца адным са сродкаў забеспячэння сацыяльнай камунікацыі, перш за ўсё дзякуючы стварэнню, захаванню інфармацыі і забеспячэнню доступу да яе. У культурным плане бібліятэка ажыццяўляе гістарычную трансляцыю ведаў у рамках культурнай камунікацыі.

Аналіз гістарычнага развіцця ўстаноў культуры сведчыць, што глабальныя сацыяльныя змены непазбежна фарміруюць дзейнасць і пазіцыю любога сацыяльнага інстытута, што адбіваецца на яго функцыянаванні. Безумоўна, крызісная сітуацыя, якая пачала складвацца ў Беларусі ў 80-х гадах XX ст. і абвастрылася пасля чарнобыльскай тэхнагеннай катастрофы, істотна паўплывала на сацыяльны прэстыж бібліятэчнай дзейнасці. Вывучэнне гэтай сітуацыі паказвае, што назіраецца павелічэнне разрыву паміж бібліятэкай і грамадствам у цэлым і паміж бібліятэкай і асобай у прыватнасці. Працэсы мадэрнізацыі грамадства спалучаюцца са зменай сацыяльнага ўладкавання і эканамічным крызісам, і гэта значна ўскладняе становішча

бібліятэк. Даследаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы, фондаў бібліятэк Беларусі паказала, што ў іх звыклымі сталі пастаянны недахоп сродкаў для ажыццяўлення бягучай работы, цяжкасці тэхнічнага пераабсталявання, праблемы падрыхтоўкі кадраў, адэкватных сучаснай сітуацыі.

Аналізуючы дзейнасць бібліятэк за гэты час, трэба адзначыць, што гэта быў вельмі складаны перыяд у іх рабоце, бо эканамічны крызіс і сацыяльна-эканамічныя наступствы аварыі на ЧАЭС прывялі да значнага скарачэння іх фінансавання. Асаблівую трывогу выклікае інтэнсіўнае скарачэнне бібліятэчнай сеткі ў сельскай мясцовасці. Гэты працэс пачаўся некалькі раней, але тады ён быў абумоўлены аб'ектыўнай прычынай – змяншэннем колькасці сельскага насельніцтва. Толькі за 1990—1995 гг. у сельскай мясцовасці былі зачынены 677 бібліятэк. Калі ўлічыць, што кожная з іх абслугоўвала не адзін, а некалькі невялікіх населеных пунктаў, то атрымліваецца, што жыхары прыкладна 1800 вёсак пазбавіліся магчымасці карыстацца бібліятэчнымі фондамі і страцілі, па сутнасці, адзіную ўстанову, дзе маглі з карысцю для сябе правесці вольны час і далучыцца да духоўных каштоўнасцей.

Не здолелі масавыя бібліятэкі захаваць у ранейшым выглядзе і сваю стацыянарную сетку. Калі ў 1993 г. бібліятэчныя пункты працавалі пры 2167 бібліятэках, то ў 1995 г. – пры 1640. І зноў жа гэта закранула ў першую чаргу сельскую мясцовасць, дзе з дапамогай бібліятэк абслугоўваліся маланаселеныя і аддаленыя ад стацыянарных бібліятэк вёскі. Закрыццё бібліятэк, скарачэнне колькасці бібліятэчных пунктаў сталі першапрычынай скарачэння чытачоў у сельскай мясцовасці.

Тэндэнцыі змяншэння колькасці бібліятэк адлюстраваны на рыс. 3.1.

Рыс. 3.1

**Дынаміка колькасці дзяржаўных публічных бібліятэк**




Даныя сведчаць, што з 1990 г. па 2004 г. у Рэспубліцы Беларусь адбылося скарачэнне бібліятэчнай сеткі на 1219 адзінак. Зменшылася колькасць чытачоў на 247,8 тыс. чалавек, аб'ём



фонду скараціўся на 17 805,4 тыс. кніг, часопісаў і брашур. Гэта значыць, што дзяржаўныя бібліятэкі перажывалі вялікія цяжкасці, якія былі выкліканы скарачэннем фінансавання, ростам кошту друкаваных выданняў, негатыўнымі тэндэнцыямі ў выдавецкай палітыцы. Не атрымлівалі абавязковага рэспубліканскага экземпляра абласныя бібліятэкі. Асабліва ў складаным становішчы апынуліся цэнтралізаваныя сістэмы.

У асобныя гады колькасць паступленняў у сярэднім на адну бібліятэку не перавышала 15 назваў. Такім чынам, да многіх сельскіх бібліятэк новыя кнігі амаль не даходзілі, у лепшым выпадку паступалі 5—6 экземпляраў за год. Часта нават тыя невялікія сродкі, што выдаткоўваліся на камплектаванне, паступалі ў бібліятэкі нерэгулярна. У выніку некаторыя з іх атрымлівалі магчымасць папаўняць фонды ўсяго адзін—два разы ў год і станавіліся даўжнікамі бібкалектараў. Масавыя бібліятэкі амаль страцілі магчымасць падпісвацца на расійскія перыядычныя выданні. Большасць сельскіх бібліятэк атрымлівалі па дзве назвы рэспубліканскіх газет і па тры назвы часопісаў.

Бібліятэкі інтэнсіўна шукалі дадатковыя сродкі. Дзяржаўныя бібліятэкі ў дадатак да паступленняў з бюджэту сталі атрымліваць сродкі ад платных паслуг насельніцтву, ад здачы ў арэнду плошчаў, ад узносаў і ахвяраванняў.

У апошнія гады бібліятэкі сталі больш рацыянальна выкарыстоўваць назапашаныя раней кніжныя багацці і станоўчы вопыт, улічваючы рэальныя патрэбы чытачоў.

Міністэрства культуры, мясцовыя органы ўлады, грамадскасць вырашалі пытанні жыццяздольнасці бібліятэк, выпрацоўвалі мадэлі іх далейшага развіцця. У якасці перспектыўнага кірунку прапаноўвалася інтэграцыя бібліятэк з іншымі сацыякультурнымі ўстановамі. Праводзіцца эксперымент па аб'яднанні сельскіх і школьных бібліятэк у 31 населеным пункце шасці раёнаў Брэсцкай (Івянецкі і Баранавіцкі), Магілёўскай (Горацкі) і Мінскай (Барысаўскі, Салігорскі, Слуцкі) абласцей.

Дынамічнасць працэсаў інфарматызацыі, іх выразная мадэрнізуючая накіраванасць патрабуюць ад бібліятэк вырашэння праблемы інфарматызацыі бібліятэчнай справы. Некаторыя бібліятэкі правялі пэўны аб'ём работы па камп'ютэрызацыі сваёй сістэмы. Так, у 2003 г. у абласных бібліятэках узровень аўтаматызацыі дасягнуў 68%, у раённых і гарадскіх цэнтральных бібліятэчных сістэмах — 30%.

Разам з тым адбывалася ўдакладненне статусу бібліятэк, функцый, мэт, задач і формаў іх дзейнасці. Акрамя інфармацый-

най функцыі, бібліятэкі, будучы сацыякультурным інстытутам, арыентаваліся на дзейнасць па падтрымцы культурнай традыцыі ў грамадстве, адаптацыі чалавека да розных сацыяльных сітуацый. Многія бібліятэкі сталі сапраўднымі культурнымі цэнтрамі ў сваіх населеных пунктах, куды чытачы прыходзяць не толькі ўзяць неабходную кнігу, але і сустрэцца з цікавымі людзьмі, творчай інтэлігенцыяй, убачыць творы мастакоў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

### 3.5. Установы клубнага тыпу

Установы клубнага тыпу ва ўмовах змены сацыяльна-эканамічнай арганізацыі грамадства таксама сутыкнуліся з шэрагам праблем. Сучасныя працэсы, якія адбываюцца ў нашым грамадстве, закранаюць духоўную сферу і выводзяць яе на якасна іншы ўзровень функцыянавання. Клубная справа як частка агульнакультурнага будаўніцтва змянялася пад уздзеяннем гэтых працэсаў і ўжо стала набываць прыметы новага часу.

У савецкі перыяд клубныя ўстановы выконвалі шэраг не ўласцівых ім функцый: інфармацыйнага забеспячэння насельніцтва, рэтрансляцыі мастацтва, выхавання, адукацыі, прапаганды і інш. Вывучэнне дзейнасці клубных устаноў у заходнееўрапейскіх краінах і вопыту работы клубаў Беларусі ў апошнія гады пераконвае ў тым, што асноўнай функцыяй устаноў клубнага тыпу павінна быць арганізацыя адпачынкавай дзейнасці. Вядомы расійскі футуролаг, прэзідэнт Акадэміі прагназіравання І.В.Бястужаў-Лада лічыць, што сучасны клуб можа даць чалавеку магчымасць далучэння да калектыўнай творчасці, эстэтычнага суперажывання, самасцвярджэння ў абранай сферы творчасці. На актуальнасць праблемы выкарыстання вольнага часу звяртаюць увагу іншыя даследчыкі. Спецыялістамі падлічана, што ўжо цяпер мы маем у сярэднім 2700 гадзін вольнага часу (для параўнання: у 60-я гады — не больш за 1000 гадзін). Прагноз агульнай сітуацыі ў тым, што вольны час у будучым павялічыцца. Не страціла сваёй актуальнасці палажэнне аб тым, што вольны час – гэта прастора для развіцця асобы, якая можа быць запоўнена не толькі тым, што стварае чалавека ў чалавеку (мастацкая творчасць, чытанне літаратуры, дабрачыннасць), але і тым, што разбурае прыроду чалавека, разбэшчвае асобу (п’янства, наркаманія і інш.).

Для пэўнай часткі насельніцтва адпачынак застаецца важнай формай жыццядзейнасці, з’яўляецца не толькі ўмовай аднаўлення растрачанай энергіі, але і праявай сэнсу жыцця, сродкам духоўнага абнаўлення, самаўдасканалення і самарэалізацыі.



Аналіз структуры, зместу і формаў дзейнасці ўстаноў клубнага тыпу паказаў, што ў 90-я гады XX ст. клубы не былі падрыхтаванымі да рэалізацыі сучаснай палітыкі вольнага часу, асабліва да выкарыстання творчай дзейнасці як сродку сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі насельніцтва, пацярпелага ад чарнобыльскай катастрофы. Менавіта гэтым у пэўнай ступені можна растлумачыць колькасныя і якасныя змены ў структуры ўстаноў клубнага тыпу.

Аналіз статыстычных даных аб стане дзяржаўных устаноў культуры клубнага тыпу ў рэспубліцы дазваляе вызначыць асноўныя прыярытэты сацыяльна-культурнай дзейнасці, прасачыць дынаміку розных культурных працэсаў, што адбываюцца ў сферы вольнага часу.

Агульная колькасць устаноў культуры клубнага тыпу застаецца даволі значнай – 3917 адзінак. Большая іх частка (93%) знаходзіцца ў сельскай мясцовасці. Гэта ў асноўным клубы, сельскія Дамы культуры, цэнтралізаваныя клубныя сістэмы, якія займаюць трывалае месца ў сваім тэрытарыяльным асяродку, маюць пэўны арганізацыйна-творчы патэнцыял і разнастайны набор культурных паслуг насельніцтву (рыс. 3.2).

Нельга не адзначыць, што ў сучасны перыяд сістэма дзяржаўных клубных устаноў была значна рэфармавана. Так, амаль на 22% скарацілася сетка ўстаноў клубнага тыпу. Такі працэс ідзе ў розных рэгіёнах, аднак найбольшую дынаміку ён набыў у Гомельскай, Магілёўскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцях, дзе па розных прычынах былі зачынены многія клубы.

Рыс. 3.2

**Дынаміка колькасці клубных устаноў**



Застаецца даволі значнай колькасць устаноў культуры, будынкі якіх патрабуюць капітальнага рамонту. Можна прадбачыць, што ў бліжэйшыя гады колькасць такіх устаноў будзе расці з прычыны пастаяннага дэфіцыту мясцовага бюджэту і павелічэння кошту будаўнічых матэрыялаў і паслуг. У ходзе пашпартызацыі, якую ажыццявіў Беларускі інстытут праблем культуры, высветлілася, што асноўнай праблемай клубаў з'яўляецца іх слабая матэрыяльна-тэхнічная база: толькі 64% ад агульнай колькасці маюць спецыяльна пабудаваныя памяшканні, а 17% патрабуюць капітальнага рамонту; 34% устаноў не маюць баянаў і акардэонаў, 58% — тэлевізараў, 89% — магнітафонаў, 49% — кінаўстановак, 53% устаноў — камплектаў сцэнічных касцюмаў для самадзейных калектываў (табл. 3.2).

Аналіз культурна-творчай дзейнасці ўстаноў клубнага тыпу паказвае наступнае: у апошнія гады ў рэспубліцы пачаўся пошук сучасных тыпаў мона- і шматпрофільных устаноў культуры і вольнага часу, а таксама новых падыходаў да арганізацыі іх дзейнасці. Амаль паўсюдна ствараюцца цэнтры народнай творчасці, фальклору і нацыянальнай культуры. Штогод павялічваецца колькасць Дамоў рамёстваў і традыцыйных відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, цэнтраў культуры і вольнага часу. Распаўсюджанымі сталі клубы-бібліятэкі, якія ў сваёй дзейнасці выконваюць адносна розныя функцыі.

Адной з найбольш папулярных формаў арганізацыі адпачынку і культурна-творчай дзейнасці застаюцца клубы па інтарэсах і

Табліца 3.2

**Колькасныя змены ў дзяржаўных установах клубнага тыпу (1990—2004 гг.)**

| Установы і аб'яднанні | 1990 | 1991 | 1992 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 | 1997 | 2004 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Клубы і Дамы культуры | 5030 | 4946 | 4745 | 4687 | 4558 | 4400 | 4237 | 4246 | 3917 |
| Гурткі і калектывы мастацкай самадзейнасці | 21740 | 20253 | 19328 | 19222 | 18075 | 17595 | 17882 | 18388 | 19895 |
| Клубы па інтарэсах, аматарскія аб'яднанні | 3352 | 3471 | 4139 | 4033 | 3470 | 3352 | 3327 | 3469 | 3497 |



розныя аматарскія аб'яднанні. Іх дзейнасць спрыяе актывізацыі творчай актыўнасці грамадзян, а ў шэрагу месцаў аб'яднанні па інтарэсах і клубныя суполкі даюць пэўны імпульс для стварэння новых тыпаў устаноў культуры. Прыкладамі могуць служыць клубы народных майстроў, якія з цягам часу перарастаюць у Дамы рамёстваў. Больш за 3 тыс. аматарскіх аб'яднанняў, што функцыянуюць у дзяржаўных установах культуры, сведчаць пра паступовае развіццё формаў самаарганізацыі вольнага часу людзей.

Заслугоўваюць спецыяльнага даследавання аб'яднанні самадзейнай мастацкай творчасці, бо жыццяздольнасць сучаснага клуба вызначаецца менавіта праз культурна-творчую і канцэртна-відовішчную дзейнасць. Амаль у кожным рэгіёне сіламі аматарскіх калектываў праводзяцца канцэртна-філарманічныя выступленні. Падтрымка нормаў канцэртна-філарманічнага жыцця ў раёнах патрабуе як жанравай разнастайнасці мастацкіх аб'яднанняў, так і дастаткова высокага ўзроўню іх выканальніцкага майстэрства. Аматарскія аб'яднанні з'яўляюцца сапраўднымі цэнтрамі развіцця народнай творчасці і сацыяльна-культурных ініцыятыў, дапамагаюць надаць арганізаваны характар розным відам і формам мастацкай дзейнасці насельніцтва.

Падсумоўваючы сказанае, адзначым: у рэспубліцы развіваецца тэндэнцыя да рэфарміравання клубных устаноў у адпаведнасці з сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі і прыярытэтамі развіцця нацыянальнай культуры.

### 3.6. Музеі як скарбніца народнай культуры

Сярод культурна-асветных і навукова-даследчых устаноў важную ролю адыгрываюць музеі, задачамі якіх з'яўляюцца вывучэнне і асэнсаванне гісторыі, культуры ў мэтах развіцця інтэлектуальных, маральных і творчых магчымасцей чалавека, далучэння яго да нацыянальнай і агульначалавечай культур. У адрозненне ад устаноў клубнага тыпу ў канцы XX—пачатку XXI ст. назіраецца паступовы рост дзяржаўнай музейнай сеткі (гл. с.65).

Як бачна, музейная сетка папоўнілася 20 новымі ўстановамі. Найбольш актыўна працэс музеефікацыі адбываўся ў першыя пасляперабудовачныя гады, з 1990 г. па 1993 г. Пасля гэты працэс быў запаволены, але зараз ён мае досыць стабільны характар. Пэўны спад у музейным будаўніцтве тлумачыцца перш за ўсё эканамічнымі прычынамі, у адносінах да Гомельскай і Магілёўскай абласцей — яшчэ і вынікамі чарнобыльскай катастрофы.

Там не толькі не назіраецца росту ўстаноў музейнага тыпу, але і бачны адваротны працэс. На тэрыторыях радыеактыўнага забруджання быў зачынены шэраг музеяў, загінула шмат неацэнных экспанатаў. Так, у Гомельскай вобласці спынілі сваю дзейнасць музеі ў Брагіне і Чачэрску.

*Рост колькасці музеяў у Рэспубліцы Беларусь*




У сучасны перыяд істотна актывізавалася экспазіцыйна-выставачная работа. Так, калі ў 1990 г. беларускімі музеямі было праведзена 733 выставы, то ў 2003 г. іх колькасць павялічылася да 1773. Супрацоўнікі музеяў займаюцца таксама зборам і папаўненнем калекцый, навукова-даследчай работай, паляпшэннем умоў захавання музейных рэчаў, выхаваўчай і папулярызатарскай працай. Нават з улікам складаных сацыяльна-эканамічных абставін, што існавалі ў краіне, можна зазначыць, што пераважная большасць музеяў не згарнула асноўных напрамкаў сваёй работы. Аднак нягледзячы на тое, што павялічылася колькасць музеяў і выстаў, якія праводзяцца ў іх, назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя да зніжэння ліку наведвальнікаў. Калі ў 1987 г., напрыклад, музеі краіны наведалі 4797 тыс. чалавек, то ў 2003 г. — усяго 3683 тыс. Гэта тлумачыцца не толькі ўздзеяннем сацыяльна-эканамічных фактараў, але і тым, што беларускія музеі яшчэ не сталі ў поўнай меры цэнтрамі адраджэння і творчай актуалізацыі гістарычнай памяці народа, месцамі актыўнага інтэлектуальнага



*Размеркаванне наведванняў абласных музеяў і музеяў рэспубліканскага падпарадкавання*




адпачынку, пунктамі камунікатыўнага перакрыжавання сучаснасці з духоўнай і матэрыяльнай спадчынай. Развіццё матэрыяльнай базы музеяў залежыць таксама ад узроўню экспазіцыйна-выставачнай дзейнасці, камунікатыўнай палітыкі і, несумненна, кваліфікацыі кадраў.

### 3.7. Паркі культуры і адпачынку

Месцам правядзення культурных мерапрыемстваў з'яўляюцца паркі, мэты якіх — рэкрэацыя і аздараўленне людзей. Аналіз статыстычных даных аб дзейнасці дзяржаўных паркаў культуры і адпачынку за 1990—2003 гг. сведчыць аб некаторых агульных тэндэнцыях у развіцці іх як часткі сацыяльнай інфраструктуры галіны культуры. Можна сцвярджаць, што паркі культуры і адпачынку па-ранейшаму застаюцца своеасаблівым комплексным тыпам устаноў, якія арганізуюць адпачынак грамадзян і адначасова задавальняюць духоўныя патрэбы асобы.

За 13 гадоў агульная колькасць дзяржаўных паркаў культуры і адпачынку скарацілася на 13 адзінак. Так, у Гомельскай вобласці ў 1987 г. працавалі сем паркаў, засталіся чатыры; толькі адзін парк захаваўся ў Магілёўскай вобласці. Але большасць з іх маюць слабую матэрыяльна-тэхнічную базу, неразвітую сістэму аб'ектаў рэкрэацыйна-забаўляльнага прызначэння, вельмі абмежаваную колькасць механізаваных атракцыёнаў. Таму доля паступленняў ад аказання платных паслуг насельніцтву (платныя мерапрыемствы, пракат спартыўнага інвентару, эксплуатацыя гульнявых аўтаматаў і механізаваных атракцыёнаў, арэнда памяшканняў і інш.) нязначная.

Узровень тэхнічнага абсталявання айчынных атракцыёнаў далёка не ў поўнай меры адпавядае сучасным патрабаванням наведвальнікаў паркаў, што, зразумела, не спрыяе развіццю платных паслуг, пашырэнню іх камерцыйных магчымасцей. Пытанні ж набыцця новай, рамонту і эксплуатацыі старой атракцыённай тэхнікі вырашаюцца з вялікімі цяжкасцямі.

*Размеркаванне фарміраванняў пры парках па напрамках дзейнасці*




Вывучэнне аб’ектаў паркавай гаспадаркі сведчыць аб неўрэгуляванасці, нестабільнасці выкарыстання танцавальных пляцовак, эстрадных тэатраў, спартыўных будынкаў, залаў гульнявых аўтаматаў, механізаваных атракцыёнаў і інш. Назіраецца працэс скарачэння аматарскіх аб’яднанняў, гурткоў мастацкай самадзейнасці, спартыўных клубаў, клубных фарміраванняў, якія працуюць непасрэдна на базе паркаў культуры і адпачынку (табл. 3.3).

Табліца 3.3

**Колькасць паркаў культуры і адпачынку, аб’ектаў паркавай гаспадаркі (1990—2004 гг.)**

| Паркі і аб’екты ў іх | 1990 | 1993 | 1996 | 1999 | 2004 |
|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць паркаў | 32 | 27 | 24 | 24 | 19 |
| Аматарскія аб’яднанні, гурткі, клубы | 95 | 46 | 51 | 42 | 41 |
| Эстрадныя тэатры | 30 | 26 | 18 | 16 | 12 |
| Танцавальныя залы | 31 | 34 | 34 | 31 | 27 |
| Спартыўныя аб’екты | 50 | 49 | 35 | 37 | 46 |
| Атракцыёны | 237 | 250 | 255 | 261 | 234 |



Найбольшае распаўсюджанне набылі тэатралізаваныя канцэрты, выстаўкі, народныя святы, фэсты, гульнёва-забаўляльныя праграмы, дыскатэкі, танцавальныя вечарыны, спартыўна-рэкрэацыйныя мерапрыемствы. Можна сцвярджаць, што работа паркаў усё больш набывае характар сацыяльна-культурных паслуг і арганізацыйна-творчай падтрымкі ініцыятыў насельніцтва. Разам з тым назіраецца небяспечная тэндэнцыя: амаль у 3,5 раза за апошнія гады скарацілася агульная колькасць культурных мерапрыемстваў, адрасаваных наведвальнікам паркаў, у тым ліку праграм для дзяцей і падлеткаў (якія, вядома, з’яўляюцца значнай часткай пастаяннай аўдыторыі парка).

А галоўнае ж сацыяльнае прызначэнне паркаў — гэта стварэнне спрыяльных умоў для фізічнага і маральна-псіхалагічнага аднаўлення сіл чалавека. Рэалізацыя гэтай задачы немагчыма без вырашэння складаных эканамічных, сацыяльна-псіхалагічных, рэкрэацыйных, прыродаахоўных, экалагічных, маркетынгавых, арганізацыйна-вытворчых і іншых пытанняў.

### 3.8. Тэатральна-відовішчныя ўстановы

Кардынальныя зрухі і змены, якія адбываліся ў грамадстве ў канцы 80—пачатку 90-х гадоў XX ст. на постсавецкай прасторы, унеслі новае ў сцэнічнае мастацтва. Тэатральныя дзеячы Рэспублікі Беларусь пераасэнсоўвалі многія маральныя, духоўныя каштоўнасці і прынцыпы, на якія абапіраецца цывілізаваны свет. Рэжысёрам, акцёрам, драматургам, артыстам сцэны давялося працаваць у прынцыпова іншай атмасферы, іншым соцыуме, сацыяльна-эканамічных умовах. Пошук і фарміраванне новай сцэнічна-мастацкай палітыкі ажыццяўляліся з улікам разнастайных творчых, групавых і асабістых канцэпцый і каштоўнасных арыентацый.

Пераасэнсаванне ролі, месца, значэння, функцый мастацкай творчасці ў жыцці чалавека і грамадства адбывалася з улікам сусветнага вопыту і ўласных нацыянальных традыцый і асаблівасцей. Адметнасцю грамадскага развіцця постсавецкіх краін, у тым ліку Беларусі, з’яўляецца тое, што ствараецца так званае грамадства спажыўцоў, грамадства, дзе ўсталёўваецца прыярытэт матэрыяльных каштоўнасцей. Сацыялагічныя даследаванні сведчаць, што ў 90-я гады пагоршылася маральна-псіхалагічная атмасфера жыцця грамадства і чалавека, была разбурана псіхаэмацыянальная ўстойлівасць асобы, узмацнілася

канфліктнасць людзей, былі дэфармаваны духоўна-маральныя асновы супольнага жыцця.

Рэальнасцю сцэнічнага жыцця стала такая з’ява, як камерцыялізацыя мастацкай творчасці, што не рэгулюецца цывілізаванымі заканадаўчымі актамі. У структуру жыццёвых каштоўнасцей значнай часткі грамадства ўварваліся амерыканізацыя і празмерная эратызацыя мастацтва. Гэтыя і іншыя прагматычныя варункі тым не менш не пазбавілі тэатральна-відовішчныя ўстановы нацыянальнай арыентацыі, этычнай самакаштоўнасці, якія характарызуюцца маральнасцю, духоўным пачаткам, пачуццём адказнасці творцаў перад мастацтвам і грамадствам.

Аналіз мастацка-творчай дзейнасці беларускіх тэатраў, канцэртных і цыркавых мерапрыемстваў паказвае, што яны ў асноўным захавалі творчы патэнцыял, кадры, эканамічную і арганізацыйную базы. Пра складаны, супярэчлівы працэс творчых пошукаў на зломе культуры сведчаць і даныя статыстычнага аналізу дзейнасці тэатральна-відовішчных установ.

Як бачна з табл.3.4, нягледзячы на надзвычай цяжкае становішча, у якім апынулася краіна, тэатральна-відовішчныя ўстановы не толькі захаваліся, але і выраслі колькасна. У тэатрах рэспублікі працуюць 3255 чалавек, а іх мастацка-артыстычны персанал налічвае 1376 чалавек, прычым значная яго частка — людзі пасля 35 гадоў і старэйшыя.

Табліца 3.4

**Колькасць тэатральна-відовішчных установ сістэмы Міністэрства культуры (1990—2004 гг.)**

| Тэатральна-відовішчныя ўстановы | 1990 | 1993 | 1996 | 1999 | 2004 |
|---|---|---|---|---|---|
| Тэатры | 21 | 24 | 24 | 27 | 27 |
| Канцэртныя ўстановы | 12 | 13 | 13 | 13 | 15 |
| Цыркі | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 |

Насцярожвае падзенне запаўняльнасці глядзельных залаў. На жаль, агульная колькасць наведвальнікаў тэатраў Беларусі зніжаецца. У параўнанні з 1998 г. яна зменшылася на 47,0 тыс. чалавек. У некаторай ступені гэта тлумачыцца, з аднаго боку, зніжэннем узроўню жыцця насельніцтва, ростам кошту білетаў, з другога, прычыны спаду цікавасці да тэатра неабходна шукаць у рэпертуары тэатраў. У тэатральным мастацтве адбываецца пераасэнсаванне і ўдакладненне яго ролі і месца ў сучасным грамадстве. Такая работа набывае канкрэтны характар і мае вялікае



значэнне пры пабудове перспектывы. Вялася яна перш за ўсё па лініі пашырэння мастацкага плюралізму, абнаўлення і дэмакратызацыі формаў творчай дзейнасці, а таксама пэўных спроб калектываў і ўстаноў культуры спалучаць у рабоце прынцыпы дзяржаўнага рэгулявання і рыначныя механізмы.

*Сярэдняя колькасць спектакляў на адзін тэатр па Рэспубліцы Беларусь за год*




Аналіз дзейнасці канцэртна-відовішчных устаноў дазволіў прыйсці да высновы, што ў гэтай сферы творчай дзейнасці адзначалася тэндэнцыя да скарачэння колькасці канцэртаў і адтоку слухачоў і гледачоў. Так, за 1990—2004 гг. колькасць наведванняў тэатральна-відовішчных устаноў скарацілася больш чым у два разы. Дзяржаўнымі канцэртнымі ўстановамі ў 2004 г. былі дадзены 7938 канцэртаў, што на 1419 менш, чым у 1998 г.

Вывучэнне сітуацыі, якая склалася ў галіне тэатральнага і эстрадна-цыркавога мастацтваў, сведчыць пра неабходнасць пэўнай творчай рэканструкцыі асобных тэатральна-відовішчных устаноў, высвечвае творчую і кадравую кансерватыўнасць у тэатрах, іх немагчымасць знайсці сваё месца ў сучасным дыялогу “тэатр—глядач”. Між тым асноўнай мэтай мастацтва было і застаецца ўстанаўленне зваротнай сувязі гледача і тэатра, тэатра і гледача.

У творчым жыцці краіны маецца шэраг вострых для тэатра праблем. Галоўная з іх – кадравая. Складаная сітуацыя і з маладымі акцёрскімі кадрамі, асабліва ў абласных і гарадскіх тэатрах. Вельмі супярэчлівай з’яўляецца праблема сучаснай

*Колькасць канцэртаў на працягу года*




рэжысуры: тэатры адчуваюць недахоп маладых рэжысёраў. А менавіта рэжысура, яе стан, творчыя магчымасці вызначаюць агульны ўзровень і перспектывы тэатральнай культуры.

#### Пытанні і заданні

1. Дайце азначэнне паняцця “інстытуцыяналізацыя”.
2. Назавіце віды сацыяльных інстытутаў, іх функцыі.
3. Што вы ведаеце пра знешнія і ўнутраныя фактары развіцця сацыяльна-культурных інстытутаў?
4. Якое адрозненне паміж відавочнымі і латэнтнымі функцыямі сацыяльна-культурных інстытутаў?
5. Якія тыпы культурных інстытутаў існуюць у сучасным беларускім грамадстве?

#### Літаратура

*Беларуская* культура сёння: гадавы агляд (2001).— Мн.: Бел. дзярж. ін-т праблем культуры, 2002.— 68 с.
*Беларуская* культура сёння: гадавы агляд (2002).— Мн.: Бел. дзярж. ін-т праблем культуры, 2003.— 208 с.
*Ерасов, Б.С.* Социальная культурология: пособие для студентов высших учебных заведений. — 2-е изд., испр. и доп. — М.: Аспект Пресс, 1996.— 591 с.
*Каган, М.С.* Философия культуры. — СПб.: Петрополис, 1996.— 416 с.
*Кармин, А.С.* Основы культурологии: морфология культуры.— СПб.: Лань, 1997.— 512 с.
*Леонтьев, А.Н.* Деятельность, сознание, личность. — 2-е изд.— М.: Политиздат, 1977.— 304 с.
*Лотман, Ю.М.* Культура и взрыв. — М.: Гнозис; Изд. группа “Прогресс”, 1992.— 271 с.
*Моль, А.* Социодинамика культуры. — М.: Прогресс, 1973.— 406 с.
*Парсонс, Т.* Система координат действия, общая теория систем действия: культура, личность и место социальных систем// Американская социологическая мысль / Р.Мертон, Дж. Мид, Т.Парсонс, А.Шюц. — М., 1994.— С.448—464.
*Смолік, А.І.* Сацыядынаміка культуры ў посткатастрофным соцыуме.— Мн.: Бел. ун-т культуры, 1999.— 247 с.

# 4. ДЗЯРЖАВА І КУЛЬТУРА

## 4.1. Формы дзяржаўнага рэгулявання культурна-творчай дзейнасці

Сацыяльным інстытутам, які стварае ўмовы для развіцця духоўнай дзейнасці ў грамадстве, на ўсіх этапах цывілізацыі была дзяржава. Паводле англійскага гісторыка XX ст. А.Тойнбі, асноўнымі яе элементамі з’яўляюцца палітыка, культура і эканоміка. Шэраг культуролагаў схільныя сцвярджаць, што культура ў адрозненне ад іншых сфер менш за ўсё паддаецца інстытуцыянальнаму ўпарадкаванню. Яна звязана з індывідуальнай дзейнасцю пісьменнікаў, музыкантаў, мастакоў, якая не ўкладваецца ў спробы яе рэгламентацыі. Такой пазіцыі прытрымліваюцца многія дзеячы культуры і мастацтва, якія заўсёды выступалі супраць умяшання дзяржавы або іншых сацыяльных інстытутаў у духоўную творчасць.

Сусветная практыка і айчынны вопыт сведчаць аб выключнай ролі рэгулявання культурнага жыцця ў любой краіне. Асабліва гэта тычыцца пераломных момантаў грамадскага быцця.

У развіцці сучаснага культурнага працэсу ўзнікаюць сітуацыі паміж тэндэнцыямі да цэнтралізацыі культурнай дзейнасці з боку дзяржавы і яе дэмакратызацыяй, якой патрабуюць няўрадавыя арганізацыі. Але ўмяшанне ўрадавых органаў у работу культурных арганізацый і груп часта проста неабходна, бо без дзяржаўнай падтрымкі яны не могуць вытрымаць тых ці іншых цяжкасцей, не толькі фінансавых, але і прававых, палітычных і інш. Разам з тым умяшанне можа стварыць пагрозу залежнасці культурнай дзейнасці ад улады, ад кіруючых колаў, што можа прывесці да дэфармацыі культурнага жыцця.

Гісторыя дае шмат прыкладаў, калі дзяржава і царква, з аднаго боку, былі галоўнымі інстытутамі, што падтрымлівалі навуку, літаратуру, мастацтва, а з другога – яны ж забаранялі пэўныя кірункі або адмаўлялі ў пратэжыраванні і апякунстве тым мастакам, творчасць якіх не адпавядала “грамадскім нормам” ці наносіла ўрон дзяржаве або царкве.

На больш позніх этапах функцыі рэгуляцыі ў сферы культуры пачынаюць падпарадкоўвацца рынку. Але прававыя прынцыпы нязменна карэкціравалі рыначную стыхію. У дапаўненне сфарміраваліся дзяржаўныя органы, інстытуты і формы рэгуляцыі культурнай жыццядзейнасці. І хаця ні сутнасць, ні дынаміка, ні лёс дзяржавы не супадаюць прама з дынамікай культуры, у кожным грамадстве дзяржава ў тым ці іншым аб’ёме падтрымлівае сферу культуры як праз бюджэтнае фінансаванне, так і спецыяльным заканадаўствам або спецыяльнай палітыкай. Але ажыццяўленне прынцыпаў плюралізацыі і дэмакратызацыі і іншыя фактары прыводзяць да таго, што падтрымка з боку дзяржавы непазбежна абмежавана. Таму культура ў значнай ступені функцыянуе ва ўзаемадзеянні з іншымі сферамі дзейнасці і рэгуляцыі, перш за ўсё з гаспадарчай сферай, рынкам, у тым ліку і рынкам культуры.

У сённяшняй Беларусі склалася мадэль кіравання культурай, заснаваная на моцнай урадавай адміністрацыі, якая не толькі падтрымлівае культуру фінансава, але і каардынуе работу іншых урадавых і няўрадавых структур у іх узаемаадносінах з культурай (схема 4.1).

Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і законам “Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь” вызначаны наступныя задачы ў галіне культуры:

• фарміраванне сродкамі культуры інтэлектуальных і маральных асноў стварэння дэмакратычнай прававой дзяржавы;

• захаванне гісторыка-культурнай спадчыны;

• кансалідацыя дзеячаў нацыянальнай культуры на аснове арганічнага спалучэння гуманістычных традыцый народнай культуры беларусаў і іншых культур, сусветнай культурнай спадчыны;

• прызнанне ідэалагічнай значнасці культуры;

• забеспячэнне спалучэння духоўнай культуры насельніцтва рэспублікі з палітычнай,прававой, эканамічнай і экалагічнай культурай;

• здзяйсненне нацыянальнай моўнай палітыкі, якая забяспечвае высокую культуру беларускай мовы ва ўсіх сферах культуры разам з выкарыстаннем рускай мовы, моў нацыянальных менша-



сцей, што жывуць у рэспубліцы, іншых моў і знакавых сістэм, неабходных для багацця ўнутраных і знешніх зносін беларускай нацыі.

Схема 4.1

**Структура кіравання сферай культуры ў Рэспубліцы Беларусь**



Важнай задачай з’яўляецца таксама забеспячэнне прасторы для міжнацыянальных і міждзяржаўных культурных кантактаў паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі краінамі.

У перыяд пераходу да дэмакратычнага грамадства, заснаванага на рыначных адносінах, дзяржава – асноўны сацыяльны інстытут, здольны кампенсаваць недахопы інфраструктуры, якая сама не ў стане забяспечыць развіццё культуры ў адпаведнасці з агульнанацыянальнымі патрабаваннямі. Без падтрымкі і рэгуляцыі з боку дзяржавы мастацтва і навука не змогуць выжыць і будуць асуджаны на скарачэнне сваіх маштабаў і функцый. Дзяржаўная культурная палітыка Рэспублікі Беларусь на сучасным этапе ўяўляе прадуманы і адказны выбар мэт і прыярытэтаў, садзейнічае стварэнню механізмаў іх ажыццяўлення і мэтанакіраванаму выдзяленню рэсурсаў.

У час пабудовы незалежнай прававой дзяржавы ў Беларусі склалася якасна іншая інстытуцыянальная структура ўрадавых устаноў, якія сутыкаюцца з пытаннямі культуры або вырашаюць такія пытанні. У Рэспубліцы Беларусь існуюць некалькі тыпаў міністэрстваў: па-першае, міністэрствы агульнага характару, такія, як Міністэрства эканомікі, Міністэрства фінансаў; па-другое, блізкія да галіны культуры міністэрствы (напрыклад, Міністэрства адукацыі); па-трэцяе, структуры, якія кіруюць такімі галінамі культуры, як архіўная справа і выдавецкая, радыё і тэлебачанне (Міністэрства інфармацыі). Але ж ведамасны падзел сферы культуры, думаецца, не вельмі спрыяе рэалізацыі дзяржаўнай культурнай палітыкі.

У выніку адбываюцца нездаровае суперніцтва, канфлікты паміж ведамствамі (сярод якіх Міністэрства культуры займае не самыя моцныя пазіцыі). Безумоўна, Міністэрства культуры адыгрывае рашаючую ролю, і пры аналізе дадзенай праблемы трэба зыходзіць перш за ўсё з гэтай пасылкі.

Існаванне паўнацэннага Міністэрства культуры неабходнае таму, што дзяржаўны сектар у культуры мае вялікае значэнне. Да таго ж, існуе значная колькасць устаноў, якімі кіруе дзяржава, а фінансаванне іх з пазабюджэтных крыніц яшчэ толькі складваецца. Даследаванне праблем фінансавання культурнага жыцця паказвае, што, нягледзячы на асобныя адхіленні ў агульнай долі расходаў на культуру ва ўнутраным валавым прадукце, назіраецца тэндэнцыя да яе зніжэння. Так, у Рэспубліцы Беларусь штогод выдаткоўваецца на культуру не больш за 1%, хаця законам прадугледжана 3%. Неабходна заўважыць, што Міністэрства культуры ў асобныя гады недаатрымлівала нават тых сродкаў, якія былі



закладзены ў бюджэце. Такім чынам, размеркаванне дзяржаўных сродкаў паміж галіновымі міністэрствамі паказвае, што культура ў нашай краіне фінансуецца ў апошнюю чаргу. Доля затрат на яе ў дзяржаўным бюджэце хутчэй мае дэкларатыўны характар. Так, выдаткі на культуру з дзяржаўнага бюджэту складалі ў 2002 г. 0,1% ад валавога ўнутранага прадукту.

Такім чынам, эканамічны крызіс адмоўна адбіўся на фінансаванні і матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні культурных устаноў.

Падобны стан фінансавання вымушае культурныя ўстановы і арганізацыі, а таксама творцаў і спажыўцоў культуры шукаць недзяржаўныя крыніцы матэрыяльнага забеспячэння. Характэрнай з’явай у механізме камерцыйнай рэгуляцыі мастацкага жыцця на сучасным этапе стала падключэнне бізнесу да масавай культуры і нават да розных кірункаў контркультуры. Ва ўмовах паўсюднага ўмацавання рыначных адносін і новых формаў гаспадарання шэраг клубаў, бібліятэк, Дамоў і Палацаў культуры, тэатраў, паркаў, іншых устаноў вымушаныя займацца рознымі відамі культурна-камерцыйнай дзейнасці, прадпрымальніцтвам. Аналіз культурных працэсаў у краінах з развітой эканомікай пераконвае, што прадпрымальніцтва заўсёды адыгрывала там значную ролю ў рэгуляцыі культурнай дзейнасці. Гэтая роля ўзмацнялася па меры ўдасканалення грамадства.

Дадзеная форма фінансавання толькі складваецца ў Беларусі. Яна яшчэ нягдольная значна ўплываць на стан рознага тыпу ўстаноў культуры. Так, удзельная вага ўласных даходаў тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў складае толькі 38%. Культурна-асветныя ўстановы нашай краіны штогод атрымліваюць у выніку вытворчай гаспадарчай дзейнасці прыкладна 8,6 млрд. рублёў, што складае ўсяго 7,4% ад агульных паступленняў.

У гэты перыяд узнікае такая форма матэрыяльнай падтрымкі сферы культуры, як фонды. На стварэнне ўмоў, спрыяльных для творчага развіцця асобы, сацыяльную падтрымку, захаванне гістарычнай спадчыны, культурных традыцый скіраваны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва. Мерапрыемствы, накіраваныя на пошук, станаўленне, творчае развіццё таленавітай моладзі, фінансуюцца фондам Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі. Сродкі названых фондаў ствараюцца за кошт асігнаванняў з рэспубліканскага бюджэту, дабрачынных узносаў і рэзервовага фонду Прэзідэнта. У 1998 г. уведзены прэміі і гранты Прэзідэнта дзеячам культуры і мастацтва. Штогод прысуджаюцца 27 прэмій за дасягненні ў

галіне культуры і мастацтва, уклад у выхаванне творчай моладзі, развіццё міжнародных культурных сувязей.

Вывучэнне крыніц фінансавання паказвае, што ў Беларусі паспяхова развіваецца сістэма фінансавання культуры з бюджэтаў самакіравання. Кожны год на культурную дзейнасць мясцовыя ўлады выдаткоўваюць пэўную суму грашовых сродкаў. Доля ўкладання ў культуру з мясцовых бюджэтаў вагаецца ў межах 2,08—3,41% ад усяго бюджэту. Міністэрства культуры не мае магчымасці ўплываць на фінансаванне патрэб культуры мясцовымі ўладамі. На Парламенцкіх слуханнях у 1998 г., прысвечаных дзяржаўнай нацыянальнай праграме "Культура", адзначалася, што патрэбы раённых устаноў культуры задавальняюцца толькі на 44%, у тым ліку капітальны рамонт — на 9%, набыццё інвентару — на 18%, перыядычныя выданні і літаратура — на 10%.

У рэспубліцы складваецца такая форма патраніравання сферы культуры, як спонсарства.

Аналіз сістэмы фінансавання галіны культуры ў Беларусі паказвае, што ў 90-я гады XX ст. пачалі фарміравацца прынцыпова новыя крыніцы матэрыяльнай падтрымкі культурнага жыцця. Скарачэнне паступленняў у сферу культуры з дзяржаўнага бюджэту тлумачылася эканамічным крызісам, які адмоўна адбіўся на ўсёй сацыяльнай сферы, і асабліва на галіне культуры. Негатыўна ўплывае на сацыяльна-эканамічнае развіццё Рэспублікі Беларусь эканамічны цяжар чарнобыльскай катастрофы. Дзяржава штогод выдаткоўвае значныя фінансавыя сродкі на медыцынскае абслугоўванне насельніцтва, пацярпелага ад аварыі, на перасяленне з небяспечных раёнаў, сацыяльную абарону грамадзян, кантроль за навакольным асяроддзем і г.д. На ліквідацыю наступстваў аварыі выдаткоўваецца больш за 17% нацыянальнага даходу Беларусі.

Сацыяэкалагічныя фактары паўплывалі на структуру самарэгуляцыі культуры. Акрамя дзяржавы, якая вызначае культурную палітыку ў грамадстве і ўздзейнічае на яе рэалізацыю, у самой культуры ўтрымліваюцца структуры яе забеспячэння, адносна аўтаномныя ад знешняга ўплыву. Яны могуць мець разнастайны характар, адрозніваюцца адна ад адной узроўнем гаспадарчага развіцця грамадства, палітычнымі сістэмамі, уплывам рэлігіі, цывілізацыі, ступенямі развіцця творчых арганізацый і інш.

Вывучэнне сучаснай сітуацыі ў галіне культуры дазваляе выказаць меркаванне аб тым, што ў структуры самарэгуляцыі беларускай культуры адбываюцца імклівыя змены. Як адзначае прафесар Пецярбургскага універсітэта М.С.Каган, мы сутыкаемся з дзеяннем сінергетычнага закона развіцця складаных сістэм: чалавецтва спрабуе вызначыць шляхам спроб і памылак спосабы рэарганізацыі культурнай сістэмы для пераводу яе ў новы, устойлівы стан.



## 4.2. Дзяржаўная культурная палітыка

Культурная палітыка кожнай краіны распрацоўваецца ўсімі вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады пры пастаяннай кансультатыўнай і экспертнай падтрымцы з боку навуковых арганізацый, рэлігійных структур, творчай інтэлігенцыі. Вызначэнне асноўных арыенціраў культурнай палітыкі ў канчатковым выніку — гэта клопат усяго грамадства. Палітыка разглядаецца як водгук на комплекс аб'ектыўных патрэбнасцей соцыуму ў тых ці іншых каштоўнасных прынцыпах і ўстаноўках. Функцыі навуковых падраздзяленняў, якія займаюцца гэтымі пытаннямі, заключаюцца ў зборы, абагульненні і сістэматызацыі "сацыяльнага заказу", а таксама ў прадастаўленні яго дзяржаўным органам у якасці навукова абгрунтаванага прагнозу адносна асноўных прынцыпаў і кірункаў культурнай палітыкі ў краіне.

***Палітыка дзяржавы*** ў галіне культуры заключаецца перш за ўсё ў стварэнні эканамічных і арганізацыйна-прававых умоў развіцця культуры, захаванні і забеспячэнні эфектыўнай дзейнасці яе прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, падрыхтоўкі і сацыяльнай абароны работнікаў культуры, дзеячаў мастацтва, стымуляванні аматарскіх аб'яднанняў і самадзейнай народнай творчасці. Дзяржаўныя органы ва ўзаемадзеянні з грамадскімі арганізацыямі павінны забяспечыць развіццё культуры, яны нясуць адказнасць за духоўнае, маральнае, эстэтычнае выхаванне грамадзян. У Беларусі гэта, напрыклад, дэкларуецца ў раздзеле "Абавязкі дзяржавы ў галіне культуры" Закона аб культуры. Дзяржаўныя органы абавязаны ўдасканальваць сістэму сацыяльных, арганізацыйна-прававых і эканамічных гарантый развіцця культуры і мастацтва, ствараць неабходныя ўмовы для далучэння грамадзян да нацыянальнай і сусветнай культурнай спадчыны, а таксама фарміраваць сістэму прадпрыемстваў і ўстаноў, выдзяляць неабходныя сродкі, забяспечваць правядзенне навуковых даследаванняў і распрацоўку навуковых праектаў у галіне культуры, падрыхтоўку кваліфікаваных кадраў, ствараць гарантыі і стымулы для мастацкай творчасці, захавання традыцый культуры (фальклор, народныя промыслы і рамёствы), выкарыстання дасягненняў культуры.

Гэтыя мэты, задачы і прыярытэты арганічна суадносяцца з напрамкамі культурнай палітыкі, сфармуляванымі ЮНЕСКА на Міжнароднай канферэнцыі па палітыцы ў сферы культуры і інтарэсах грамадскага развіцця (Стакгольм, 1998). У адпаведнасці з выпрацаванай на канферэнцыі канцэпцыяй пэўныя эканамічныя дасягненні магчымыя пад уздзеяннем культурных з'яў. Канферэнцыя рэкамендавала дзяржавам – членам ЮНЕСКА – наступныя мэты развіцця:

• расшырэнне маштабаў палітыкі ў сферы культуры і пераўтварэнне яе ў адзін з цэнтральных кампанентаў палітыкі ў галіне развіцця;

• павелічэнне матэрыяльнай падтрымкі культуры;

• актывізацыя творчасці ў галіне культуры ў якасці фактару ўстойлівага развіцця;

• перагляд палітыкі і практычнай дзейнасці ў сферы захавання спадчыны для ўмацавання творчасці і садзейнічання развіццю індустрыі культуры;

• забеспячэнне ўстойлівасці культурнай разнастайнасці ўнутры інфармацыйнага грамадства і на яго карысць.

Безумоўна, гэта вельмі складаны, смелы, стратэгічна аптымістычны падыход на ўзроўні міжнароднай супольнасці. З яго вынікае, што да таго часу, пакуль не будзе з боку дзяржаў і ўплывовых недзяржаўных органаў і арганізацый разумення вызначальнай ролі культуры ў адносінах да іншых сфер, у тым ліку і эканомікі, будзе захоўвацца рэшткавы прынцып фінансавання культуры, а ў эканоміцы не адбудзецца значных станоўчых перамен.

Асноўныя кірункі культурнай палітыкі нашай дзяржавы сфармуляваны ў шэрагу заканадаўчых актаў. Перш за ўсё гэта Закон аб культуры, дзе вызначаны асноўныя мэты і задачы культурнай палітыкі.

У сучасных умовах дзяржаўная культурная палітыка заклікана:

• забяспечыць ахову і ўлік культурнай спадчыны, захаванне і пераемнасць нацыянальна-культурных традыцый і ўзмацненне працэсаў міжкультурных камунікацый;

• ажыццяўляць маральную і матэрыяльную падтрымку сацыяльных інстытутаў і дзеячаў, якія ствараюць сапраўдныя каштоўнасці культуры і садзейнічаюць далейшаму развіццю нацыянальна-культурнага багацця;

• забяспечыць агульнадаступнасць бібліятэк, музеяў, тэатраў, канцэртных залаў і іншых цэнтраў нацыянальнай і агульначалавечай культуры;



• ствараць рэальныя сацыяльна-палітычныя і эканамічныя ўмовы для станаўлення і развіцця на тэрыторыі рэспублікі нацыянальнай культуры, захавання і папулярызацыі скарбніц беларускай нацыянальнай спадчыны;

• спрыяць адраджэнню і развіццю нацыянальных традыцый, культур іншых этнасаў, што жывуць на тэрыторыі рэспублікі;

• праводзіць рацыянальную моўную палітыку, якая забяспечвае высокую культуру беларускай мовы, умовы для развіцця моў нацыянальных меншасцей, што жывуць на тэрыторыі рэспублікі.

Гэтага можна дасягнуць пры наступных умовах:

• пераемнасці і непарыўнасці традыцый, апоры на фундаментальныя агульначалавечыя каштоўнасці, культурную і гістарычную спадчыну;

• гуманізацыі, умацавання асобаснага зместу сацыяльнай і культурнай дзейнасці;

• раўнапраўнага развіцця культур прадстаўнікоў усіх этнасаў, якія пражываюць у Беларусі;

• навуковай распрацоўкі праблем культуры, творчай дзейнасці навуковых і навучальных устаноў, творчых аб'яднанняў і саюзаў па прагназіраванні развіцця беларускай культуры;

• дэмакратызацыі кіравання культурай, умацавання самадзейных асноў культурнай дзейнасці, распрацоўкі новых падыходаў, якія ўлічваюць сучасныя тэндэнцыі і кірункі развіцця культуры, шырокіх знешніх сувязей з замежнымі партнёрамі, перш за ўсё ў рамках Саюза Беларусі і Расіі і СНД.

Адна з важнейшых задач — гарманізацыя ўзаемаадносін паміж культурамі розных этнасаў, якія складаюць народ Беларусі.

З выкладзенага вынікае, што ***культурная палітыка*** — гэта сукупнасць ідэалагічных прынцыпаў і практычных мер, якія ажыццяўляюцца праз адукацыю, асветніцкія, адпачынкавыя, навуковыя, рэлігійныя, творчыя, выдавецкія, камунікацыйныя, сацыяльна-арганізацыйныя і іншыя дзяржаўныя і грамадскія інстытуты па ўсебаковай і паглыбленай сацыялізацыі і інкультурацыі насельніцтва.

Культурная палітыка не можа ажыццяўляцца без яе абгрунтавання і сур'ёзнай навуковай працы ў гэтай галіне. Таму ў Беларусі прынята комплексная праграма "Культура", фінансуемая з рэспубліканскага бюджэту. Галоўныя яе мэты — распрацоўка навукова-метадычных асноў паглыбленага даследавання беларускай культуры, вызначэнне фактараў, якія абумоўліваюць яе сучасныя формы і перспектывы развіцця. Праграма прадугледжвае вывучэнне культурных патрэб і рынку культурных даброт

грамадства ў цэлым, розных яго слаёў і груп. Вывучаюцца пытанні забеспячэння галіны высокакваліфікаванымі кадрамі, ажыццяўлення палітыкі ў культуры. Выканаўцы — супрацоўнікі навукова-даследчых устаноў і ВНУ сталіцы Рэспублікі Беларусь, у тым ліку Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў. Галоўнай арганізацыяй-выканаўцам з'яўляецца Беларускі інстытут праблем культуры. Праграма мае шматгранны характар.

У апошнія гады ў Інстытуце сацыялогіі НАН Беларусі вядуцца значныя даследаванні ў сферы сацыядынамікі культуры і яе суадносін з працэсамі засваення духоўных каштоўнасцей і нормаў рознымі этнанацыянальнымі, сацыяльна-прафесійнымі, сацыяльна-дэмаграфічнымі, канфесійнымі групамі. На аснове абагульнення вынікаў даследаванняў рознымі навуковымі падраздзяленнямі ўнесены шмат прапаноў у заканадаўчыя і выканаўчыя органы дзяржавы па ўдасканаленні кіравання сацыяльнай сферай, галінамі культуры і адукацыі, выхавання моладзі.

Такім чынам, дзяржаўная палітыка Рэспублікі Беларусь у галіне культуры на сучасным этапе ўяўляе прадуманы і адказны выбар прыярытэту, мэт, механізмаў іх ажыццяўлення. І ўсё ж яна носіць супярэчлівы характар. А гэта, у сваю чаргу, выклікае адначасова як станоўчыя, так і адмоўныя тэндэнцыі.

Аналіз развіцця культуры на сучасным этапе пераконвае, што, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці ў краіне, у галіне культуры ёсць сур'ёзныя поспехі. Беларусь актыўна і рэгулярна прымае ўдзел у міжнародных мастацкіх конкурсах і фестывалях. Гонарам краіны сталі традыцыйныя музычныя фестывалі "Славянскі базар" у Віцебску, "Залаты шлягер" у Магілёве, кінафестываль "Лістапад" у Мінску і мноства іншых мерапрыемстваў. У краіне штогод праходзяць сотні аглядаў, конкурсаў, выставак, фестываляў, свят мастацтваў.

І ўсё ж у культуры назіраюцца многія негатыўныя тэндэнцыі: недастатковае дзяржаўнае фінансаванне; ведамствы і прафсаюзы ў некаторых выпадках наогул спынілі фінансаванне культуры, у выніку скарачаюцца штаты, многія ўстановы закрываюцца і інш. Да гэтага часу заканадаўства ў сферы культуры не сістэматызавана, не адменены шэраг устарэлых нарматыўных дакументаў. Існуюць супярэчнасці як у самім заканадаўстве, так і паміж нормамі права і практыкай іх выкарыстання. Некаторыя грамадскія адносіны ў сферы культуры наогул не адрэгуляваны, напрыклад у сферы развіцця мастацкага рынку, кіна- і відэатворчасці, спонсарскай і мецэнацкай дзейнасці і інш.



Улічваючы разнастайнасць адносін у сферы культуры, усе змены і дапаўненні ў заканадаўстве павінны знайсці адлюстраванне ў рэгламентацыі адносін уласнасці, падаткаабкладання, бюджэтнага рэгулявання, працоўнага, грамадскага, мытнага заканадаўстваў у сферы аховы і выкарыстання помнікаў гісторыі і культуры, узаемадзеяння дзяржаўных органаў з грамадскімі аб'яднаннямі культурнага кірунку.

Важнай праблемай з'яўляюцца каардынацыя дзейнасці ў сферы культуры, рацыянальныя і аптымальныя суадносіны паміж органамі культуры на рэспубліканскім і мясцовым узроўнях.

**Пытанні і заданні**

1. Якія задачы дзяржавы ў галіне культуры вызначаны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і законам "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь"?
2. Дайце азначэнне паняцця "культурная палітыка".
3. Вызначце мэты і задачы культурнай палітыкі дзяржавы на сучасным этапе.
4. Назавіце недзяржаўныя крыніцы фінансавання дзейнасці ўстаноў, арганізацый і прадпрыемстваў сацыяльна-культурнай сферы.
5. Як вы адносіцеся да меркавання асобных культуролагаў, што сфера культуры не паддаецца інстытуцыянальнаму ўпарадкаванню?

**Літаратура**

*Аб культуры* ў Беларускай ССР: Закон БССР, 4 чэрв. 1991, № 832 // Ведамасці Вярх. Савета БССР. — 1991.— № 20. — С.291.

*Аванесова, Г.А., Астафьева, О.Н.* Особенности региональной социокультурной политики в современной России // Панорама культурной жизни Российской Федерации: Информ.сб./РГБ. Информ-культура.— 2002. — Вып.3. — С.2—26.

*Дзяржаўная* нацыянальная праграма "Культура" і ўдасканаленне заканадаўчай базы галіны ў Рэспубліцы Беларусь: Парламенцкія слуханні (11 чэрв. 1998 г.) / Нац.сход РБ. Палата прадстаўнікоў. — Мн., 1998. — 132 с.

*Культурная* политика в Европе: выбор стратегии и ориентиры: сб. материалов/М-во культуры РФ. Рос.нац.б-ка; сост.: Е.И.Кузьмин, В.Р.Фирсов. — М.: Либерея, 2002. — 240 с. — (Альманах "Приложение к журналу "Библиотека"; 1-е полугодие 2002 г.)

*Лукашенко, А.Г.* Государство и творческая личность: лекция Президента Респ. Беларусь в Бел. гос. академии искусств. Минск, 15 мая 2003 г.— Мн.: Бел. гос. акад. искусств, 2003.— 72 с.

*Міхневіч, А.Я.* Дзяржаўная палітыка: пошук прынцыпаў і кірункаў: [Дзярж. палітыка ў галіне культуры ў Рэсп. Беларусь] // Веснік Бел.дзярж. ін-та праблем культуры.— Мн., 2001.— С.3—5.

*Национальная* культура – важнейший стратегический ресурс Белорусского государства: материалы респ. совещ. "О мерах по решению проблем культуры и искусства", Минск, 1 февр. 2001 г. /Администрация Президента Респ. Беларусь; редкол.: В.П.Заметалин и др. – Мн.: Минск. ф-ка цветной печати, 2001.— 120 с.

# 5. САЦЫЯЛЬНА-КУЛЬТУРНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ЯК ГРАМАДСКАЯ СІСТЭМА

## 5.1. Змест і асноўныя прынцыпы сацыяльна-культурнай дзейнасці

Сацыякультурныя змены ў грамадстве адбываюцца ў выніку мэтанакіраванай дзейнасці людзей, якая складаецца з асобных сацыяльных дзеянняў і ўзаемадзеянняў. У працэсе сумесных аднолькава накіраваных, узаемна спалучаных дзеянняў змяняюцца культурныя комплексы, склад груп, узаемаадносіны паміж людзьмі. У сацыяльнай культуралогіі існуе шмат тэорый, з дапамогай якіх вучоныя спрабуюць раскрыць сутнасць гэтых змен.

Паводле меркавання А.Конта, сутнасць грамадства вызначаюць развіццё і дзейнасць усіх яго суб'ектаў. Сваё разуменне сацыяльнай эвалюцыі выказаў Г.Спенсер. На яго думку, сацыяльны працэс — гэта прагрэсіўнае развіццё грамадства па шляху ўскладнення і ўдасканалення дзейнасці сацыяльных інстытутаў.

У сваёй тэорыі *сацыяльнага рэалізму* Э.Дзюркгейм зыходзіў з таго, што прыроду сацыяльных з'яў неабходна тлумачыць сацыяльнымі фактарамі. Ён лічыў, што зыходным момантам аналізу паводзін людзей, іх разнастайнай дзейнасці з'яўляецца грамадства як сістэма, дзе галоўным выступае ўзаемадзеянне індывідаў, сацыяльных груп і адпаведных сацыяльных інстытутаў. Вялікую ролю ён надаваў непасрэднаму ўздзеянню на чалавека сацыяльнага асяроддзя.

М.Вэбер стварыў і развіў канцэпцыю *зразумелай сацыялогіі*. Сацыяльныя дзеянні, паводле Вэбера, складаюць сістэму свядомага, асэнсаванага ўзаемадзеяння. Таму задачай вучоных з'яўляецца аналіз суб'ектыўных матываў гэтай дзейнасці, тых духоўных каштоўнасцей, якімі кіруецца суб'ект.



Разам з тэорыямі А.Конта, Г.Спенсера, Э.Дзюркгейма і М.Вэбера шырокае распаўсюджанне ў XX ст. атрымала *марксісцкая тэорыя*, распрацаваная К.Марксам, Ф.Энгельсам, Г.В.Пляханавым, У.І.Леніным, А.Лабрыёлам, А.Грамшы і інш. Гэтая тэорыя дае сваё тлумачэнне матэрыяльных асноў грамадства, аб'ектыўнай накіраванасці яго развіцця і ролі свядомай дзейнасці людзей у ім. Марксісцкая канцэпцыя ўяўляе матэрыялістычнае разуменне гісторыі, выпрацаванае на аснове даследавання рэальнага гістарычнага працэсу, яго аб'ектыўных заканамернасцей.

На сучасным этапе развіцця грамадства шэраг даследчыкаў спалучаюць марксісцкае вучэнне аб фармацыях з так званым *цывілізацыйным*, сутнасць якога заключаецца ва ўсебаковым уліку ролі і значэння розных цывілізацый у гістарычным працэсе. Сучасная культуралогія характарызуецца масавым развіццём і ўдасканаленнем эмпірычных даследаванняў і распрацоўкай новых метадаў вывучэння сацыякультурных з'яў.

Прыкладная культуралогія займаецца даследаваннем сацыяльных заканамернасцей развіцця культуры і формамі іх праяўлення ў чалавечай дзейнасці. Гэтая дзейнасць звязаная са стварэннем, засваеннем, захаваннем і распаўсюджваннем ідэй, уяўленняў, культурных нормаў і каштоўнасцей, узораў паводзін, якія рэгулююць адносіны ў грамадстве, а таксама паміж грамадствам і прыродай.

У інтэрпрэтацыі з'яў культуры шырока выкарыстоўваецца *дзейнасны падыход*. Пры такім падыходзе культура разглядаецца як сістэма рэпрадукцыйна-прадукцыйных тэхналогій чалавечай актыўнасці, якія вядуць да сэнсавых палажэнняў і іх увасаблення ў форме каштоўнасна-нарматыўных арыентацый, што арганізуюць чалавечую дзейнасць. Значыць, згодна з дзейнаснай канцэпцыяй аналізу культуры даследуюцца тыпы і формы жыццядзейнасці людзей, якія вызначаюць спецыфічныя асаблівасці той ці іншай культуры. Калі культура абазначае небіялагічнае існаванне чалавецтва, то прадметная дзейнасць людзей, звязаная з выкарыстаннем прылад і знакаў, нормаў і правіл паводзін, каштоўнасцей і сімвалаў культуры, раскрывае спецыфічныя формы і змест сацыякультурных працэсаў у розных сферах грамадства.

Пры даследаванні генезісу культурнага аб'екта, яго станаўлення і трансфармацыі магчымае выкарыстанне *дынамічнага аналізу*. Культура ў дадзеным выпадку выступае ў якасці альтэрнатыўных відаў практыкі ў развіцці соцыуму. Яны вызначаюць напрамак руху ў культуры, асаблівасці яго лінейных і нелінейных інтэрпрэтацый.

Культуралогія разглядае не толькі аб'ектыўныя аспекты існавання элементаў і структур культуры, але і суб'ектыўныя, увасобленыя ва ўнутраным свеце чалавека. Уласцівасці індывіда не вычэрпваюцца яго сацыяльнай ці культурнай прыналежнасцю. Існуе ўнутраны свет асобы, у якім аб'ектыўныя фактары знаходзяць рознае праламленне. З аднаго боку, культура фарміруе той ці іншы тып асобы, а з другога — асоба ўносіць у нормы, патрэбнасці і паводзіны людзей свае карэктывы. Без звароту да асобасных фактараў немагчыма зразумець рэальнае функцыянаванне ўласцівых культуры нормаў і каштоўнасцей, а таксама і тыя адхіленні ад нормаў, што непазбежна адбываюцца ў грамадстве.

Такім чынам, толькі з дапамогай *асобаснага падыходу* можна высветліць супярэчнасці і канфлікты, якія выклікае ў чалавеку неадпаведнасць паміж сцвярджаемай нормай і сітуацыяй, што прыводзіць да цяжкіх псіхалагічных стрэсаў ці сацыяльных узрушэнняў.

У кожным грамадстве адбываюцца працэс сацыялізацыі асобы, развіццё актыўнага, паўнавартаснага члена грамадства. Гэты працэс, з дапамогай якога ажыццяўляюцца падключэнне індывіда да сацыяльнай памяці дадзенай супольнасці, засваенне ім назапашаных традыцый, даследавалі многія сацыёлагі. Дж.Мід, напрыклад, распрацаваў тэорыю, у якой тлумачыцца сутнасць успрымання індывідам іншых асоб. Гэта тэорыя вядомая пад назвай *абагульненага іншага*. У адпаведнасці з ёй індывід у працэсе зносін спрабуе стаць на месца іншых індывідаў і бачыць сябе іншай асобай.

А.Халер у дапаўненне да тэорыі Дж.Міда распрацаваў канцэпцыю *значнага іншага*, у якасці якога могуць выступаць аўтарытэтныя і папулярныя асобы. Згодна з дадзенай канцэпцыяй індывід імкнецца прыняць іх ролі, браць прыклад з іх і такім чынам ажыццяўляць працэс сацыялізацыі праз “значнага іншага”.

Працэс фарміравання асобы даследаваў Э.Фром. Паводле Э.Фрома, шлях да аздараўлення сучаснага грамадства, не сумяшчальнага з гуманістычнымі патрабаваннямі чалавечай прыроды, ляжыць праз маральнае абнаўленне, духоўнае ачышчэнне чалавека.

Нягледзячы на некаторую розніцу ў акцэнтах ва ўсіх названых тэорыях, сутнасць працэсу сацыялізацыі разумеецца як засваенне індывідам неабходнага для жыцця ў дадзеным социуме сацыякультурнага вопыту. Асаблівасці сацыялізацыі залежаць ад канкрэтнай сацыяльна-эканамічнай структуры і тыпу культуры. Абазначаючы дэтэрмінанты сацыялізацыі, неабходна мець на ўвазе



сацыяльна-групавую, культурна-рэлігійную і этнічную прыналежнасць індывіда, а таксама характар дзейнасці супольнасці. На лёс асобы ўплываюць суадносіны паміж сацыяльнымі ўмовамі, з аднаго боку, і суб'ектыўнымі імкненнямі і магчымасцямі асобы, звязанымі з унутранай культурай, з другога.

Такім чынам, мнагамерны, поліметрычны характар сацыякультурных працэсаў, абумоўленых сацыяльным быццём, абмяжоўвае магчымасці іх даследавання ў якасці “чыстых”, ідэальна тыповых феноменаў. У практыцы культуралагічнага пазнання аналіз феноменаў культурнага жыцця можна ажыццявіць у адпаведнасці з рознымі вектарамі тэарэтыка-метадалагічнага аналізу сацыякультурных з'яў. Індывід засвойвае неабходныя вытворчыя навыкі, практычныя веды аб прыродным і сацыяльным асяроддзі, культурныя каштоўнасці і нормы праз розныя сацыяльныя механізмы і інстытуты.

У наш час радыкальна мяняюцца змест, дынаміка і механізмы сацыялізацыі асобы. Карэнныя пераўтварэнні ў эканамічным, сацыяльна-палітычным і духоўным жыцці раскрылі істотныя супярэчнасці ў развіцці культуры, абумовілі прынцыповыя змены ў сістэме адукацыі і выхавання, выявілі неадпаведнасць шэрага кампанентаў культурна-асветніцкай дзейнасці. Сітуацыя, якая склалася ў культуры, аб'ектыўна патрабуе пераходу да новых прынцыпаў культурнай дзейнасці. Істотныя змены ў развіцці нацыянальнай беларускай культуры актуалізавалі неабходнасць вывучэння як мінулага, так і сучаснага зместу культурнай дзейнасці. Галоўным стала страта старога ідэалагічнага канструкту ўяўлення аб грамадстве ў цэлым як адзіным суб'екце культурнай дзейнасці, менавіта з ім звязваўся выбар адзінай сістэмы каштоўнасцей. Высветлілася, што ў сацыяльна дыферэнцыраваным грамадстве няма адзінай сістэмы каштоўнасцей, а адзіная культурная прастора існуе як абстракцыя, разумовая канструкцыя, а не рэалія культурнага жыцця, дзе гэтых прастораў мноства і знаходзяцца яны ў супярэчлівым узаемадзеянні. У якасці прыярытэтнай вызначылася каштоўнасць індывідуальна-асобаснага пачатку. Дзейнасць у сферы вольнага часу характарызуецца разнастайнасцю заняткаў, абумоўленых непаўторнасцю, унікальнасцю і самабытнасцю асобы чалавека.

Аналіз практыкі культурнай дзейнасці паказаў, што ў сацыяльна-культурнай сферы існуюць глыбокія *супярэчнасці*, якія складваліся на працягу дзесяцігоддзяў. Гэта супярэчнасці паміж:

• рэальнымі культурнымі запатрабаваннямі і інтарэсамі насельніцтва і ступенню іх задавальнення;

• неабходнасцю карэннага абнаўлення матэрыяльнай базы і матэрыяльна-гаспадарчым забеспячэннем галіны па астаткавым прынцыпе;

• дэмакратычнай прыродай культурнай дзейнасці і аўтарытарна-бюракратычнай сістэмай кіравання культурай;

• ростам плюралізму ў рэфармуемым грамадстве і старой парадыгмай культурнага развіцця.

Вывучэнне сацыякультурнай сітуацыі Беларусі сведчыць аб тым, што ў краіне назіраюцца недастатковае развіццё грамадскіх структур, крызіс галіновай мадэлі арганізацыі і кіравання культурнымі працэсамі, глыбокае адставанне ўсёй культурна-асветнай сферы.

Такім чынам, выяўляючы пазітыўныя тэндэнцыі развіцця масавых культурных працэсаў (пашырэнне сацыяльнай прасторы і відаў штодзённай культурна-адпачынкавай дзейнасці, павышэнне ўдзельнай вагі самадзейных формаў культурнай актыўнасці і арганізацыі вольнага часу, з'яўленне новых субкультурных утварэнняў і ініцыятыўных суб'ектаў сацыякультурнага дзеяння), неабходна аднначасова ўлічваць пры даследаванні развіццё негатыўных і супярэчлівых тэндэнцый у рамках гэтых жа працэсаў.

Метадалагічнай перадумовай сучаснай культурнай палітыкі, такім чынам, становіцца асэнсаваная патрэбнасць у выпрацоўцы сістэмнага ўяўлення аб культурным жыцці грамадства, прынцыпова іншай мадэлі арганізацыі культуры, вольнага часу, асветы насельніцтва. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў у аснове сацыяльна-культурнай дзейнасці знаходзілася *суб'ект–аб'ектная* тэарэтычная *мадэль* арганізацыі вольнага часу людзей. Сутнасць гэтай мадэлі заключалася ў тым, што насельніцтва разглядалася не ў якасці суб'екта арганізацыі ўласнага адпачынку і тым больш суб'екта сацыяльна-культурнай дзейнасці, а ў якасці аб'екта ўздзеяння з боку дзяржаўных і грамадскіх структур, аб'екта, які яны закліканы выхаваць. Кардынальная перабудова грамадства стварыла перадумовы пераходу да *суб'ект–суб'ектнай мадэлі* арганізацыі культурнай дзейнасці. У гэтай мадэлі само насельніцтва становіцца суб'ектам культурнай дзейнасці.

На канцэптуальным узроўні шматлікія сацыяльныя інстытуты, грамадскія арганізацыі ў духоўных працэсах таксама з'яўляюцца суб'ектамі, але іншага кшталту. Увесь сэнс іх дзейнасці заключаецца ў тым, каб стварыць умовы, неабходныя для развіцця ініцыятывы, актыўнай творчасці людзей у сацыяльна-культурнай сферы. У сувязі з гэтым дзяржаўныя і грамадскія структуры паступова вызваляюцца ад не ўласцівых ім функцый і канцэнтруюць намаганні на трансляцыі і развіцці культуры, арганізацыі культурных зносін і адпачынку насельніцтва. Безумоўна, яны аднначасова павінны займацца і фарміраваннем масавай грамадскай свядомасці, выхаваннем усіх катэгорый насельніцтва ў духу агульначалавечых каштоўнасцей, гуманізму, дэмакратычных ідэалаў.



Такім чынам, пераход да якасна новага стану сацыяльна-культурнай сферы патрабуе пераарыентацыі дзейнасці ўстаноў, прадпрыемстваў і арганізацый культуры і мастацтва. У працэсе вывучэння зместу і відаў культурнай дзейнасці неабходна ўлічваць некаторыя *агульныя прынцыпы*, характэрныя для гэтага віду *грамадскай практыкі*. У ліку прынцыпаў мэтазгодна вылучыць наступныя:

• гуманізацыя зместу і ўсяго выхаваўчага патэнцыялу, іх усёабдымнага падначалення інтарэсам, запатрабаванням і ўстаноўкам асобы;

• свабода творчай дзейнасці і самаразвіцця культурных працэсаў, плюралізму кірункаў і стыляў у творчасці, адмова ад манапалізму ў культуры;

• усеагульная масавая культуратворчасць, самаарганізацыя, самасцвярджэнне асобы як дамінуючай прыметы;

• дыялектычнае адзінства і пераемнасць культурна-гістарычнага, нацыянальна-этнічнага вопыту, традыцый і інавацый;

• спалучэнне дзяржаўных і грамадскіх пачаткаў у арганізацыі культурнай дзейнасці.

Тэарэтычнае асэнсаванне якасна новых прынцыпаў арганізацыі культурнай дзейнасці толькі пачынаецца, хаця ў Беларусі ўжо назапашаны пэўны вопыт сацыякультурнай дзейнасці як грамадскай сістэмы. Яго асэнсаванне магчымае на стыку такіх фундаментальных навук, як філасофія, культуралогія, сацыялогія, гісторыя, псіхалогія, эканоміка, педагогіка і інш. Прырода і прызначэнне культурнай дзейнасці разглядаюцца ў культуралагічным аспекце. Гэты аспект ахоплівае шырокі спектр зместу і сучасных відаў дзейнасці, уключае цэлы блок першапачатковых паняццяў культурных каштоўнасцей, здабыткаў сферы культурнай дзейнасці, прынцыпаў і функцый творчай дзейнасці, прыватных і галіновых методык айчыннага і замежнага вопыту.

Для разумення самой сутнасці сацыяльна-культурнай дзейнасці прынцыпова важна даць азначэнне гэтай дзейнасці. У культуралогіі і іншых гуманітарных навуках ужываецца мноства азначэнняў сацыяльна-культурнай дзейнасці. Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць паняцці "сацыяльна-культурная дзейнасць", "культурная дзейнасць", "сацыяльная дзейнасць", "сацыяльная

актыўнасць". Але гэтыя паняцці не сінанімічныя, хаця і ўзаемазвязаныя, узаемаабумоўленыя і маюць некаторыя агульныя якасныя характарыстыкі.

Аналіз існуючых канцэпцый сацыяльна-культурнай дзейнасці дазваляе прапанаваць наступнае азначэнне гэтага паняцця: ***сацыяльна-культурная дзейнасць*** — гэта дзейнасць сацыяльных суб'ектаў, сутнасць і змест якой складаюць працэсы захавання, трансляцыі, засваення і развіцця традыцый, каштоўнасцей, нормаў у сферы мастацкай, гістарычнай, духоўна-маральнай, экалагічнай, палітычнай культуры.

## 5.2. Асноўныя рысы сацыяльна-культурнай дзейнасці і яе суб'екты

Абапіраючыся на паняцце і прынцыпы сацыяльна-культурнай дзейнасці, можна вызначыць асноўныя ўласцівыя ёй рысы. Перш за ўсё трэба адзначыць, што гэтая дзейнасць ажыццяўляецца ў *вольны час*. Праблема вольнага часу належыць да ліку найбольш значных і адносіцца да культурных універсалій чалавечага быцця. Даследаванне культурнай дзейнасці ў вольны час паказала, што сфера вольнага часу мае даволі развітую інфраструктуру, разнастайныя віды і формы дзейнасці, узроўні і ступені каштоўнасцей для развіцця асобы. Суб'ектамі гэтай дзейнасці з'яўляюцца аматарскія гурткі, суполкі, разнастайныя грамадскія аб'яднанні і ўстановы культуры. Сфера вольнага часу дае магчымасць індывідуальнага выбару сродкаў, спосабаў і формаў дзейнасці. Сацыялагічныя даследаванні сведчаць, што толькі гарадская культура прапануе чалавеку каля 500 розных відаў культурна-творчай дзейнасці.

Такім чынам, сацыякультурная дзейнасць характарызуецца свабодай выбару, разнастайнасцю відаў на базе агульнакультурных, мастацкіх, пазнавальных, палітычных, сацыяльных, бытавых, сямейных, прафесійных і іншых інтарэсаў дарослых, моладзі, дзяцей. Шырокая варыятыўнасць відаў сацыяльна-культурных інстытутаў стварае ўмовы для гэтай дзейнасці.

Асаблівасцямі сацыякультурнай дзейнасці з'яўляюцца *добраахвотнасць, актыўнасць розных груп насельніцтва і індывідуумаў*. У сацыяльна-культурнай сферы вольнага часу адбываецца не толькі ўзнаўленне здольнасці да вытворчай працы, але і развіццё асобасных якасцей чалавека, перадача жыццёвага вопыту ад старэйшых малодшым, ажыццяўляецца шэраг сацыяльна значных функцый. У сучасны перыяд назіраецца тэндэнцыя да самаарганізацыі культурнай дзейнасці, росту колькасці прафесійных і маладзёжных клубаў, аматарскіх аб'яднанняў, жаночых культурных супольнасцей, культурных таварыстваў нацыянальных меншасцей. Толькі ў 2002 г. у Беларусі налічвалася звыш 18 тыс. аматарскіх гурткоў і калектываў. Свабодны выбар адпачынкавых заняткаў, звязаных з рэкрэацыяй, самаразвіццём, самарэалізацыяй, зносінамі, рознымі інтарэсамі, аздараўленнем, ажыццяўляўся з улікам інтарэсаў і запатрабаванняў чалавека.



Сацыяльна-культурная дзейнасць вызначаецца глыбокай *асобаснай накіраванасцю*, таму што дазваляе рэалізаваць індывідуальныя інтарэсы, абумоўленыя біялагічнымі асаблівасцямі і сацыяльна-псіхалагічнай структурай асобы. Гэтая дзейнасць можа быць як індывідуальнай, так і калектыўнай. Ёй уласцівая пэўная мэтанакіраванасць, якая вызначае характар дзейнасці.

Вылучаючы асноўныя рысы сацыяльна-культурнай дзейнасці, неабходна адзначыць яе *гуманістычны, культуралагічны, развіццёвы* характар.

Адной з рыс сацыякультурнай дзейнасці з'яўляецца тое, што яна рэалізуецца ў *інстытуцыянальных і неінстытуцыянальных формах*. Аналіз формаў дзейнасці паказаў, што сістэма сацыяльных інстытутаў нашай краіны, якія арганізоўваюць і рэгулююць працэсы стварэння, захавання і спажывання духоўнай прадукцыі, разгалінаваная. Да суб'ектаў сацыяльна-культурнай дзейнасці адносяцца ўстановы і арганізацыі, якія займаюцца распрацоўкай стратэгіі і ажыццяўленнем палітыкі ў сферы духоўнай культуры, кантралююць і арганізоўваюць распаўсюджванне мастацкай прадукцыі. Дзяржаўныя і мясцовыя органы ўлады выступаюць як паўнамоцныя суб'екты распрацоўкі і рэалізацыі агульнадзяржаўнай і рэгіянальнай сацыяльна-культурнай палітыкі, эфектыўных праграм сацыяльна-культурнага развіцця рэгіёнаў і абласцей. Яны ва ўзаемадзеянні з грамадскімі арганізацыямі ўдасканальваюць сістэму сацыяльных, арганізацыйна-прававых і эканамічных гарантый развіцця мастацтва і культуры і ствараюць неабходныя ўмовы для далучэння насельніцтва да нацыянальнай і сусветнай культурнай спадчыны.

Тэарэтычнае асэнсаванне сучаснай сацыякультурнай дынамікі паказала, што ў грамадскай свядомасці фарміруецца адпаведнае аб'ектыўнаму стану рэчаў уяўленне аб тым, што пытанні культуры вырашаюцца не толькі дзяржаўнымі ўстановамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі. У сферы культуры, як і ў іншых галінах жыцця, адбываецца актыўнае раздзяржаўленне, ствараюцца нетрады-

цыйныя культурна-асветныя структуры, фінансуемыя недзяржаўнымі суб’ектамі.

Развіццё сацыяльна-культурнага жыцця адбываецца па двух паралельных каналах: праз сістэму ўстаноў, прадпрыемстваў культуры і праз розныя аматарскія арганізацыі культурна-адпачынкавай актыўнасці насельніцтва, ініцыятыўныя фарміраванні. Апошні канал актыўна развіваецца і аказвае пэўны ўплыў на фарміраванне культурнага патэнцыялу асобы.

Масавыя грамадскія фарміраванні (рухі, аб’яднанні, фонды і інш.) знітаваныя з палітычным, эканамічным і духоўным жыццём людзей. Сацыяльна-культурныя функцыі імі ажыццяўляюцца як на агульнадзяржаўным узроўні, так і ў мясцовым, лакальным маштабе ў вытворчай, культурна-выхаваўчай, бытавой, адпачынкавай сферах. Аналіз напрамкаў работы грамадскіх фарміраванняў сведчыць аб тым, што яны даюць чалавеку магчымасць рэалізаваць свае сілы і здольнасці ў розных відах сацыяльна-культурнай дзейнасці. Грамадска-добраахвотныя фарміраванні як суб’ект інавацый у сферы культуры і вольнага часу з’явіліся спрыяльным асяроддзем, дзе жывіцца сацыяльна-культурная актыўнасць людзей, маецца прастор для выяўлення ініцыятывы, пошуку, творчасці. Такое асяроддзе дазваляе падтрымліваць максімальна высокі ўзровень спантаннай актыўнасці людзей у сферы культуры і вольнага часу.

Узроўні ўзаемасувязі дзяржаўных і грамадскіх структур у сацыяльна-культурнай сферы далёка не аднолькавыя. Адсутнасць моцных і пастаянных кантактаў паміж сацыяльна-культурнымі і грамадскімі фарміраваннямі тлумачыцца мноствам прычын. Папершае, суб’екты дзейнасці не заўсёды маюць дастаткова поўнае ўяўленне аб мэтах, змесце і формах супрацоўніцтва; недастатковая ўвага ім удзяляецца мясцовымі органамі ўлады. Акрамя таго, у соцыуме назапашаны небагаты вопыт дзейнасці фондаў, рухаў, грамадскіх арганізацый. Разам з тым у дзяржаўных органаў, устаноў і добраахвотных фарміраванняў іншы раз не размяжоўваюцца функцыі. Кожнае аб’яднанне, абапіраючыся на сваё асноўнае сацыяльнае прызначэнне, звязанае з той ці іншай сферай грамадскага жыцця, выступае з шэрагам сацыяльна-культурных ініцыятыў сумесна з дзяржаўнымі ўтварэннямі, якія блізкія ім па кірунку або ўзроставых, сацыяльных, прафесійных узроўнях насельніцтва.

Працоўныя калектывы таксама вельмі істотна ўплываюць на сацыяльна-культурную сферу соцыуму. Працоўны калектыў як сацыяльны інстытут валодае неабходнымі матэрыяльнымі, фінансавымі, кадравымі рэсурсамі, сілай грамадскай думкі. На сродкі прадпрыемстваў задавальняюцца інтарэсы і патрэбнасці членаў калектываў у тых ці іншых відах сацыяльна-культурнай дзейнасці. Асобныя прадпрыемствы аказваюць сваім супрацоўнікам цэлы комплекс сацыяльна-культурных паслуг, такіх як наведванне выстаў, канцэртаў, спектакляў, спартыўных спаборніцтваў і інш.



Сацыяльна-культурнае асяроддзе заўсёды цесна звязана са зменамі ў вытворчым, грамадскім жыцці калектыву. Негатыўныя працэсы ў сацыяльна-эканамічнай дзейнасці прадпрыемства самым непасрэдным чынам адбіваюцца на сацыяльна-культурнай сферы. У выніку эканамічнага крызісу спынілі існаванне многія бібліятэкі, клубы, дзіцячыя музычныя школы, калектывы мастацкай самадзейнасці. Спрыяльныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы, наадварот, дабратворна ўплываюць на дзейнасць устаноў культуры, маральна-псіхалагічны клімат калектыву.

Такім чынам, сацыяльна ўзважаная палітыка працоўнага калектыву ў сферы культуры і вольнага часу вызначаецца яго істотнымі рысамі. Калектыў выступае ў якасці носьбіта пэўных прынцыпаў дзейнасці і паводзін, этычных і эстэтычных нормаў і каштоўнасцей. Узровень калектыўнай свядомасці як важнейшага фактару, што вызначае адносіны калектыву да культуры, уключае маральныя ўстаноўкі і матывы паводзін.

З культурна-асветніцкай дзейнасцю ў той ці іншай ступені звязана арганізацыя вольнага часу ў санаторна-курортных, спартыўна-аздараўленчых і турыстычна-экскурсійных цэнтрах, якія садзейнічаюць інтэграцыі адпачынку, умацаванню здароўя, духоўнаму ўзбагачэнню і развіццю асобы.

Інструментам гуманізацыі, кансалідацыі грамадства, сацыялізацыі асобы, стварэння спрыяльных умоў для яе духоўнага развіцця з’яўляецца сям’я. Кола праблем сучаснай сям’і надзвычай шырокае, што не можа не адбівацца на яе ўдзеле ў сацыяльна-культурнай дзейнасці. У сістэме каштоўнасных арыентацый сям’і ідзе працэс перамяшчэння ад сферы непасрэднага спажывання духоўных даброт да сферы культурнай дзейнасці, якая дапамагае самаразвіццю і самасцвярджэнню сям’і, забяспечвае ёй права на свабоду волі і выбар сваёй сістэмы каштоўнасцей. Сацыяльна-культурная дзейнасць уяўляе сабой бясконцую прастору для палітычнай, сацыяльнай, культурнай творчасці кожнай сям’і, творчага развіцця традыцый сямейнай педагогікі.

Абагульняючы сказанае, падкрэслім, што шматлікія сацыяльныя інстытуты нашай краіны цесна звязаныя не толькі з эканамічнай, сацыяльна-палітычнай, але і з духоўнай сферай жыцця

насельніцтва соцыуму. Яны аб’ядноўваюць людзей для сумеснай дзейнасці па задавальненні сацыяльна-культурных патрэб чалавека, вырашэнні канкрэтных сацыяльна-культурных задач.

### 5.3. Метады рэалізацыі культурных запытаў і інтарэсаў насельніцтва

Трансфармацыя зместу і структуры сацыяльна-культурнай дзейнасці патрабуе такой методыкі, якая б садзейнічала эфектыўнай рабоце ўстаноў культуры. Развіццё методыкі ў значнай ступені вызначаецца каштоўнаснымі арыентацыямі работніка сацыяльна-культурнай сферы ў прафесійна-прадметных адносінах, яго метадычнай думкай. Фарміраванне ў кожнага чалавека грамадства ўстойлівай унутранай патрэбнасці ў актыўнай творчай дзейнасці і пад’ёме свайго культурнага ўзроўню звязана з уздзеяннем на такія важнейшыя структурныя элементы свядомасці асобы, як матывы, інтарэсы, каштоўнасныя арыентацыі, устаноўкі і ў канчатковым выніку на яе светапогляд і светаадчуванне. Індывідуальныя спосабы і прыёмы дзейнасці, прыклады метадычных падыходаў складаюць розныя кірункі метадычнай думкі і практыкі. Сукупнасць іх і каштоўнасных установак, з дапамогай якіх забяспечваецца арганізацыя культурнай работы, супрацьстаіць канкурэнцыі індывідуальнай дзейнасці, дае магчымасць у пэўным парадку і сістэме вызначыць прыёмы і спосабы прафесійнай дзейнасці.

Установамі культуры сёння выкарыстоўваецца мноства метадаў, з дапамогай якіх фарміравалася і інтэнсіўна асвойвалася сацыяльна-культурнае асяроддзе. Неаднародны, разнапланавы характар сацыякультурных праграм прадвызначае прымяненне сукупнасці эканамічных, прававых, арганізацыйных, педагагічных і сацыяльна-псіхалагічных метадаў.

Паняцце аб метадзе было распрацавана яшчэ французскім філосафам Р.Дэкартам. Ён адзначаў, што метад з’яўляецца інструментам пазнання свету, які пераўтварае навуковыя пазнанні з кустарнага промыслу ў прамысловасць, са спарадычнага і выпадковага знаходжання ісцін у іх сістэматычную і планамерную вытворчасць. У філасофіі пад метадам разумеецца сукупнасць прыёмаў і аперацый практычнага і тэарэтычнага асваення рэчаіснасці.

У сацыяльна-культурнай рабоце ***метады*** — гэта абгрунтаваныя способы, пэўныя дзеянні, скіраваныя на найбольш рацыянальнае дасягненне мэт дзейнасці: пазнавальнай, творчай, рэкрэацыйнай, кампенсатарнай. Карацей кажучы, метады намі разглядаюцца як сукупнасць спосабаў і прыёмаў, з дапамогай якіх вырашаюцца задачы рэалізацыі культурных запатрабаванняў і інтарэсаў людзей. Паколькі такіх задач мноства, то выкарыстоўваюцца разнастайныя метады. Найбольш актыўна ўжываюцца чатыры іх асноўныя групы.



Да першай групы адносяцца *метады фарміравання свядомасці, жыццёвых установак і каштоўнасных арыентацый*, якія ўяўляюць сабой галоўныя формы функцыянавання каштоўнасцей, ступені іх пераходу ў дзейнасць. У каштоўнасных арыентацыях суб’ект узаемадзейнічае з аб’ектамі. Дыяпазон гэтага ўзаемадзеяння ўключае ўсе аб’екты, якія цікавяць асобу. Пры гэтым каштоўнасныя арыентацыі выступаюць у якасці апасродкаванага звяна паміж аб’ектыўным для чалавека сацыяльным асяроддзем і яго індывідуальнай свядомасцю, з аднаго боку, свядомасцю і дзейнасцю, паводзінамі, з другога.

У перыяд сістэмнай трансфармацыі адбываецца крызіс свядомасці і светапогляду людзей, звязаны з татальнай як па маштабе, так і па змесце зменай адных каштоўнасных сістэм другімі. Таму выхаваўчая работа сацыяльна-культурнымі інстытутамі будуецца як сістэма прадуманых уздзеянняў, якія фарміруюць устойлівыя адносіны да людзей і іншых аб’ектаў навакольнага асяроддзя. Для гэтага выкарыстоўваюцца метады перакanання, прыкладу, заахвочвання, ганьбавання і інш. Вялікая роля адводзіцца прафесійнаму і аматарскаму мастацтву, а таксама літаратуры. Тут адбываюцца непасрэдныя зносіны людзей з мастацкімі каштоўнасцямі; яны ўжываюцца як ілюстрацыі, калі прапагандуемы матэрыял трэба зрабіць больш наглядным, даступным, пераканальным; нарэшце, мастацтва выкарыстоўваецца для афармлення рэальных жыццёвых сітуацый (абрадаў, свят і г.д.).

Аналіз дзейнасці сацыяльна-культурных інстытутаў сведчыць, што фарміраванне каштоўнасных арыентацый адбываецца на двух узроўнях: дзяржаўным (калі ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі культуры фарміруюць пэўныя ідэалагічныя канцэпцыі, якія з’яўляюцца прадуктам тэарэтычнай свядомасці, а распаўсюджванне гэтых каштоўнасцей складае асноўны змест іх культурна-асветніцкай дзейнасці) і асобасным, спантанным, самарэгулюемым (калі людзі не толькі асвойваюць, але і самі выпрацоўваюць пэўныя погляды, ацэнкі, адносіны). Па гэтай прычыне важна ўлічваць дыялектыку суадносін каштоўнасных арыентацый грамадства і асобы.

Другую групу складаюць *метады арганізацыі творчай дзейнасці*. Культурна-творчая дзейнасць развіваецца ў разна-

стайных формах і кірунках. Найбольш папулярнай з'яўляецца дзейнасць у сферы мастацтва. Шырокае распаўсюджванне атрымала аматарскае выкананне, якое не звязваецца са спецыяльным паказам дасягнутых вынікаў і не з'яўляецца арганізаваным. Такія віды аматарства, як бытавая харэаграфія, песеннае выкананне, музіцыраванне, літаратурная творчасць і іншыя, найбольш папулярныя ў сельскіх раёнах.

Масавае развіццё атрымлівае аматарская мастацкая творчасць. Яна існуе ў форме мастацка-выканальніцкай і мастацка-творчай дзейнасці.

Спецыфічнай формай эстэтычнай актыўнасці чалавека выступае мастацка-крытычная дзейнасць, у працэсе якой не проста ўсведамляецца якасць тых ці іншых мастацкіх твораў, але і вызначаецца іх эстэтычная вартасць. Мастацка-крытычная дзейнасць адбываецца ў працэсе штодзённых зносін, калі людзі абменьваюцца думкамі аб спектаклях, кнігах, фільмах і інш. Акрамя гэтага, бібліятэкі, клубы, тэатры наладжваюць дыскусіі, канферэнцыі чытачоў і гледачоў, выставы, на якіх абмяркоўваюцца мастацкія творы. Гэты від творчай дзейнасці найбольш актыўна развіваецца ў аматарскіх аб'яднаннях і клубах па інтарэсах.

Шырокае распаўсюджванне ва ўстановах культуры набывае дзейнасць па развіцці народнага мастацтва, промыслаў і рамёстваў; збіранне, захаванне і экспанаванне помнікаў этнаграфіі і традыцыйнага мастацтва з забруджаных радыенуклідамі тэрыторый.

Эфектыўнасць разгледжаных відаў культурна-творчай дзейнасці дасягаецца шляхам вылучэння творчай задачы, арганізацыі творчай садружнасці, размеркавання творчых абавязкаў, наладжвання творчага спаборніцтва і інш. Усебаковае вывучэнне і асэнсаванне зместу, відаў і формаў сацыяльна-культурнай дзейнасці дазволіла вылучыць групу *метадаў, найбольш шырока ўжываемых у культурна-асветніцкай дзейнасці*. Адной з прычын наведвання ўстаноў культуры з'яўляецца жаданне авалодаць новымі ведамі, уменнямі і навыкамі. На гэтай аснове сацыяльна-культурныя ўстановы імкнуцца разгарнуць разнастайную вучэбна-пазнавальную дзейнасць. У адрозненне ад навучальных устаноў клубы, Палацы і Дамы культуры, цэнтры народных рамёстваў не ставяць сваёй мэтай сістэматычную адукацыю людзей. Але гэта не азначае, што культурна-асветніцкая дзейнасць ажыццяўляецца там стыхійна. У гуртках, школах народнай творчасці, студыях, майстэрнях, на курсах склаліся арганізаваныя інфармацыйна-тэарэтычныя, наглядна-дэманстрацыйныя, вучэбна-інструктыўныя і пошукава-творчыя тыпы заняткаў. На іх не толькі паведамляецца матэрыял, але і выкарыстоўваюцца паказ, практыкаванні, скіраваныя на замацаванне ведаў, выпрацоўку ўменняў і навыкаў.



Сацыяльна-псіхалагічны сіндром, які сфарміраваўся ў выніку сацыяльна-эканамічнага крызісу ў вялікай колькасці людзей, вылучае на першы план кампенсатарную і рэкрэацыйна-забаўляльную дзейнасць. Установы культуры і мастацтва даюць насельніцтву магчымасць змяніць працоўную дзейнасць, пераключыцца на новы від актыўнасці. Сусветны вопыт, назапашаны псіхолагамі, медыкамі, культуролагамі, сведчыць аб тым, што сацыякультурная дзейнасць дапамагае зняць назапашаную стомленасць і нервовую напружанасць, забяспечыць дабратворную псіхічную і фізічную разрадку. У мастацка-выканальніцкай і мастацка-творчай дзейнасці, пры ўспрыманні мастацкіх твораў людзі адчуваюць цэлую гаму станоўчых эмоцый. Яны захапляюцца і здзіўляюцца, перажываюць, радуюцца, хвалююцца. Прытым гэта не проста хваляванне, а хваляванне, якое прыносіць задавальненне. Чалавек у такіх сітуацыях не можа заставацца абыякавым, таму што сапраўдная прыгажосць мае прыцягальную сілу, вымушае людзей шукаць новых сустрэч з прыгожым, рабіць гэтыя пошукі патрэбнасцю.

Вывучэнне асаблівасцей аматарскіх заняткаў у вольны час паказвае, што пры іх арганізацыі не павінна быць значных абмежаванняў, жорсткай бясспрэчнасці. Лепш, каб аматарская дзейнасць мела па магчымасці забаўляльна-гульнявы характар. Гульня як ніякая іншая чалавечая дзейнасць мае цэлы шэраг лагічных узаемапераходаў. Яна можа ператварацца ў гульню-творчасць, гульню-навучанне, у арыентацыйна-дзейнасную гульню, звязаную з мадэліраваннем, прафесійнай дзейнасцю чалавека, у гульнетэрапію.

Арганізоўваючы разнастайныя віды кампенсатарнай і рэкрэацыйнай дзейнасці, сацыяльна-культурныя інстытуты абапіраюцца на наступныя *метады: уцягванне ў забаўляльна-гульнявыя заняткі, выцясненне малакаштоўных забаўляльных праграм эфектыўнымі, арганізацыю гульнявых спаборніцтваў, аднаўленне сістэмы народных свят, абрадаў, рытуалаў* і інш.

Безумоўна, у сацыяльна-культурнай дзейнасці магчымае выкарыстанне і іншых метадаў. Даследаванне сацыяльных тэхналогій у сферы культуры і вольнага часу паказала, што вялікую ролю адыгрываюць метады, звязаныя з прымяненнем сродкаў мастацтва і творчага самавыяўлення. За мяжой і ў шэрагу

краін СНД шырокае распаўсюджванне набылі бібліятэрапія, арттэрапія, музыкатэрапія, гештальттэрапія, харэатэрапія і інш.

Сфера культуры і вольнага часу вызначаецца дынамізмам, мае сацыяльна адкрыты характар, у ёй дзейнічае вялікая колькасць разнапрофільных сацыяльных інстытутаў са сваімі спецыфічнымі асаблівасцямі. Гэта і абумоўлівае выкарыстанне разнастайных метадаў, формаў і сродкаў культурнай дзейнасці.

### 5.4. Формы сацыяльна-культурнай дзейнасці

Па сваёй прыродзе і сутнасці сацыяльна-культурная дзейнасць можа быць толькі сумеснай дзейнасцю суб'екта і аб'екта. Але для таго, каб гэтая дзейнасць адбылася, яе неабходна аформіць арганізацыйна. Таму побач з метадамі ў якасці абавязковых кампанентаў сацыякультурнай дзейнасці павінны існаваць яе *арганізацыйныя формы*. У філасофіі пад формай разумеецца прынцып упарадкавання, сінтэзавання матэрыі. ***У педагогіцы формы культурнай дзейнасці*** – гэта спосабы мэтазгоднай арганізацыі сумеснай дзейнасці сацыяльна-культурных інстытутаў і насельніцтва соцыуму.

Аналіз сацыякультурнай дзейнасці дазваляе вылучыць масавыя, групавыя і індывідуальныя формы культурна-асветніцкай і мастацка-творчай работы. У адрозненне ад метаду арганізацыйная форма не ўказвае, якім чынам будуць дзейнічаць суб'ект і аб'ект сацыякультурнай дзейнасці для дасягнення пастаўленай мэты. Яна толькі адлюстроўвае выбраны спосаб арганізацыі людзей.

Установы, прадпрыемствы і арганізацыі культуры актыўна выкарыстоўваюць аб'ект-суб'ектную мадэль, якая абапіраецца на правядзенне *масавых формаў работы*. У агульнай сістэме культурнай дзейнасці існуе шэраг яе відаў, якія развіваюцца ўнутры супольнасці, так званай масавай аўдыторыі. Змест такіх заняткаў самы разнастайны. Вядучае месца сярод іх займаюць віды дзейнасці, аснову якіх складае ўспрыманне масавай аўдыторыяй пазнавальных праграм і мастацкіх відовішчаў. У гэтым выпадку людзі выступаюць не ў якасці суб'екта арганізацыі ўласнага адпачынку і тым больш суб'екта культурна-гістарычнага працэсу, а ў якасці аб'екта ўздзеяння з боку кіруючых работнікаў і работнікаў культурна-асветнай сферы, аб'екта, які яны абавязаны выхоўваць, пераконваць, адукаваць.

Найбольш распаўсюджанымі формамі такой арганізацыі з'яўляліся грамадска-палітычныя чытанні, лекторыі, канферэнцыі



чытачоў, тэматычныя вечары, канцэрты, спектаклі, тэатральныя відовішчы і святы. Вывучэнне эфектыўнасці формаў сацыякультурнай дзейнасці сведчыць аб тым, што пры такіх формах не ўлічваюцца інтарэсы канкрэтнага чалавека або канкрэтнай групы насельніцтва. Работа сацыякультурных інстытутаў арыентавалася на вялікую колькасць мерапрыемстваў без уліку інтарэсаў іх наведвальнікаў. Менавіта гэтым тлумачыцца тэндэнцыя да зніжэння папулярнасці клубаў, удзельнай вагі клубных формаў правядзення вольнага часу. Сацыялагічныя апытанні, праведзеныя ў шэрагу раёнаў краіны, паказалі, што каля 90% маладых рэспандэнтаў не задаволены культурна-масавай дзейнасцю клубаў, Дамоў культуры. Прычын гэтаму нямала. Сярод іх шэраг фактараў, звязаных з глыбіннымі працэсамі развіцця сучаснай культуры, якія не былі ўлічаны своечасова і ў поўнай меры сацыяльна-культурнымі інстытутамі. Сацыяльна-палітычная трансфармацыя грамадства выклікала рост патрэбнасцей у актыўных формах культурнай дзейнасці, у той час як установы культуры па-ранейшаму галоўным чынам зарыентаваны на правядзенне мерапрыемстваў, дзе наведвальніку адводзіцца пасіўная роля гледача і слухача. Такім чынам, некаторыя сацыяльна-культурныя інстытуты, як і ў мінулым, арыентуюцца пераважна на культурнае абслугоўванне, а не на стварэнне ўмоў сацыяльна-культурнай самадзейнасці насельніцтва. Чалавек тут застаецца не суб'ектам, а аб'ектам культурнай дзейнасці.

Дэмакратызацыя і гуманізацыя трансфармаванага грамадства прадугледжваюць уключэнне чалавека ў сацыяльныя, палітычныя, духоўныя, вытворчыя, іншыя працэсы ў большай ступені ў якасці актыўнага ўдзельніка, суб'екта (а не аб'екта), мэты (а не сродку). Таму сацыяльна-культурныя інстытуты перабудоўваюць сваю работу з улікам асэнсавання палажэнняў канцэпцыі індывідуальных стыляў дзейнасці. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што індывідуальны падыход садзейнічае станаўленню асобы як сапраўднага суб'екта ў сэнсе ажыццяўлення індывідуальна своеасаблівых і камфортных для яе спосабаў дзеяння. Найбольш поўна адчувае сябе суб'ектам асоба ў дзейнасці, якая носіць творчы характар. У ёй чалавек і трансфармуе прадмет дзейнасці, і выкарыстоўвае ўласцівыя яму індывідуальна своеасаблівыя спосабы працы.

Практыка пацвярджае, што сацыяльна-культурныя інстытуты паступова пераходзяць ад суб'ект-аб'ектнай да прынцыпова іншай, суб'ект-суб'ектнай мадэлі арганізацыі вольнага часу. Работнікі ўстаноў, прадпрыемстваў і арганізацый культуры і мастацтва з'яўляюцца таксама суб'ектамі, але іншага тыпу. Яны

ствараюць максімальна спрыяльныя ўмовы (псіхолага-педагагічныя, арганізацыйныя, фінансава-эканамічныя, нарматыўна-прававыя і інш.), неабходныя для развіцця народнай творчасці, культурна-адпачынкавай актыўнасці насельніцтва. У сувязі з гэтым ключавое значэнне набывае ўсталяванне суб'ект-суб'ектных адносін на ўзроўні ўзаемадзеяння, па-першае, дзяржаўных органаў, заснавальнікаў устаноў і прадпрыемстваў як сацыяльных інстытутаў, і саміх устаноў; па-другое, паміж суб'ектамі дзейнасці і чалавекам. Установы культуры атрымліваюць арганізацыйна-кіруючую і творчую самастойнасць. Чалавек для работнікаў сацыяльных інстытутаў выступае як мэта, мера і вынік усёй работы, а не яе сродак, інструмент ці прадмет дзейнасці культуразнаўчых сіл. У такім кантэксце адпачынак, вольны час сталі формай і спосабам арганізацыі іх самім чалавекам, які, маючы патрэбу, звяртаецца за парадай і кансультацыяй ва ўстановы культуры і мастацтва.

Такім чынам, асноўная задача сацыяльна-культурных інстытутаў заключаецца ў тым, каб знайсці шляхі, формы і спосабы аказання дапамогі чалавеку ў яго самаразвіцці, самаўдасканаленні і самарэалізацыі ў вольны час.

Найбольш эфектыўнай формай ***раскрыцця сацыяльных сіл***, іх творчай рэалізацыі з'яўляецца дзейнасць розных груп і аматарскіх аб'яднанняў. Аматарскі рух заснаваны на наяўнасці агульных інтарэсаў, на сумеснай дзейнасці, што стварае ўмовы для ўзаемнага абмену вопытам, самавыяўлення і самасцвярджэння асобы, для яе сацыяльна-культурнай творчасці.

Характэрныя прыметы аматарскіх аб'яднанняў вызначаюцца, у першую чаргу, грамадска значнымі мэтамі і грунтуюцца на актыўнай сумеснай дзейнасці, добраахвотнасці, агульнай зацікаўленасці, наяўнасці органаў самакіравання, зліцці асабістых і грамадскіх інтарэсаў. Паступова некаторыя фонды сацыяльных інстытутаў, розныя бюро і цэнтры, аматарскія аб'яднанні і клубы па інтарэсах выходзяць на ўзровень арганізаванага сацыяльнага дзеяння, і менавіта на гэтай аснове фарміруецца сацыяльна актыўная асоба. Абагульненне вопыту работы аматарскіх аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах паказала, што іх дзейнасць развіваецца эфектыўна на аснове ўзаемадзеяння розных грамадскіх інстытутаў і дзяржаўных структур, а клубы, бібліятэкі, музеі, Дамы культуры па прычыне сваёй спецыфікі з'яўляюцца цэнтрам такога ўзаемадзеяння. Безумоўна, гэта патрабуе рэарганізацыі сістэмы планавання і штодзённай дзейнасці ўстаноў культуры, падрыхтоўкі кадраў для работы з аматарскімі аб'яднаннямі і клубамі па інтарэсах, пошукаў шляхоў іх узаемаадносін.



Аналіз формаў сацыяльна-культурнай дзейнасці дазволіў выявіць тэндэнцыю да *індывідуалізацыі самадзейнасці* насельніцтва, г.зн. узмацнення самарэалізацыі чалавека не ў прафесійнай дзейнасці, а ў сферы вольнага часу. Гэтая тэндэнцыя мае пазітыўны характар і выклікана імкненнем чалавека да цэласнасці, гарманічнасці, найбольш поўнага выяўлення сваіх творчых магчымасцей. Работнікі ўстаноў культуры будуюць сваю дзейнасць з улікам індывідуальных асаблівасцей наведвальнікаў.

Бібліятэкарамі, метадыстамі, кіраўнікамі цэнтраў народнай творчасці, калектываў аматарскай мастацкай творчасці актыўна выкарыстоўваецца сістэма асобасна-ролевага падыходу як спосабу індывідуалізацыі асобы ва ўмовах арганізацыі сацыякультурнай дзейнасці. Выкарыстанне прынцыпаў асобасна-ролевага падыходу прадугледжвае вывучэнне індывідуальных асаблівасцей, інтарэсаў наведвальнікаў; распрацоўку ролевага дыяпазону канкрэтных сацыяльна-культурных акцый з улікам іх выхаваўчых магчымасцей; суб'ект-суб'ектныя ўзаемаадносіны; стварэнне магчымасцей для рэалізацыі не ажыццёўленых у іншых сферах жыццядзейнасці ролевых магчымасцей асобы.

Практыка і сацыялагічныя даследаванні сведчаць, што індывідуалізацыя і дыферэнцыяцыя сацыякультурнай дзейнасці ствараюць спрыяльныя ўмовы як для выяўлення прыродных задаткаў, так і для іх самаўдасканалення. Дыферэнцыраванасць дзейнасці, яе разнастайнасць дапамагаюць чалавеку выступаць у найбольш спрыяльнай для яго ролі, знаходзіць найлепшае выкарыстанне сваіх здольнасцей.

### 5.5. Сродкі эмацыянальнага ўздзеяння на асобу

Прынцыповае тэарэтычнае і практычнае значэнне мае асвятленне такога паняцця методыкі сацыяльна-культурнай дзейнасці, як яе сродкі. У навуковай літаратуры існуюць розныя азначэнні гэтага паняцця. Т.А.Стэфаноўская, напрыклад, да асноўных сродкаў педагагічнага працэсу адносіць віды дзейнасці, мікраасяроддзе, прадметы прыстасавання для якой-небудзь дзейнасці. Т.Р.Кісялёва і Ю.Д.Красільнікаў да сродкаў эмацыянальнага ўздзеяння адносяць вуснае слова, наглядныя дапаможнікі, зносіны, самадзейнасць, гульню, відовішчы, забавы. Я.А.Зазерскі і А.Г.Саламонік сродкамі клубнай работы называюць прылады або інструменты эмацыянальнага ўздзеяння на псіхіку наведвальнікаў клубаў. У кантэксце сацыякультурнай дзейнасці

мэтазгодна пад ***асноўнымі сродкамі*** разумець віды дзейнасці, прадметы і прыстасаванні, неабходныя для захавання, трансляцыі, засваення і развіцця традыцый, каштоўнасцей, нормаў у сферы мастацкай, духоўна-маральнай культуры.

Асаблівае месца сярод іх займаюць ***сродкі масавай камунікацыі***, да якіх адносяцца арганізацыйныя структуры і камунікацыйныя каналы, што рыхтуюць і перадаюць сацыяльна-культурную інфармацыю масавай аўдыторыі. Друк, радыё, тэлебачанне, спалучэнне камп'ютэра з відэатэхнікай і найноўшымі сродкамі сувязі ў многім змянілі прынцыпы функцыянавання культуры, развіццё і змест духоўных працэсаў, формы ведаў і тыпы мыслення. Даступнасць і разнастайнасць інфармацыі, якая атрымліваецца па сучасных каналах сувязі, вядзе, з аднаго боку, да значнай аднароднасці сусветнай культурна-інфармацыйнай прасторы, да аслаблення і зняцця ўсіх бар'ераў, а з другога — да вялікай разнастайнасці гэтай інфармацыі, з якой чалавек можа выбіраць тое, што адпавядае яго арыентацыі.

Безумоўна, сучасная сістэма камунікацый не выключае ***пісьмовага тэксту*** і ***вуснага (жывога) слова***, якія сярод разнастайных сродкаў эмацыянальнага ўздзеяння займаюць устойлівае месца і складаюць аснову культурнай дзейнасці. У бібліятэках, клубах, музеях, Дамах культуры часта праводзяцца публічныя лекцыі, гутаркі, дыспуты, канферэнцыі чытачоў, экскурсіі, сустрэчы з дзеячамі навукі, культуры, адукацыі. Зносіны, калі яны садзейнічаюць задавальненню і пашырэнню духоўных інтарэсаў людзей, становяцца магутным стымулам развіцця асобы на аснове ўзаемнага ўзбагачэння ведамі, вопытам сацыяльнага жыцця. У развіццёвай і інфармацыйна-асветніцкай дзейнасці сацыяльна-культурныя інстытуты шырока выкарыстоўваюць друкаванае слова. Кніжная прадукцыя аказвае значны ўплыў на працэс фарміравання чалавека. Сацыялагічныя даследаванні паказалі, што значную частку вольнага часу рэспандэнты адводзяць чытанню мастацкай літаратуры, публіцыстыкі. У сувязі з гэтым работнікі ўстаноў культуры і мастацтва ў сваёй дзейнасці актыўна выкарыстоўваюць навуковыя, інфармацыйныя, мастацкія і іншыя тэксты.

Эмацыянальнаму ўспрыманню чалавекам рэальных прадметаў і з'яў садзейнічаюць ***наглядныя сродкі***. Выкарыстанне іх у розных галінах культурна-асветніцкай работы павышае яе эфектыўнасць. Малюнкі, плакаты, экспанаты, рэліквіі, рэпрадукцыі, фотаздымкі дапамагаюць канкрэтызаваць практычнае значэнне таго ці іншага тэарэтычнага палажэння, робяць працэс засваення ведаў, сацыяльнага вопыту больш цікавым і жывым.



Выклікаць пачуцці эмацыянальнага ўздыму, хвалявання, замілавання здольныя мастацтва і літаратура. Тэатр, музыка, жывапіс, харэаграфія, мастацкая літаратура, кіно даносяць да гледача канкрэтныя вобразы. Мастацтва дапамагае зрабіць абстрактныя тэарэтычныя паняцці яркімі мастацкімі ці мастацка-публіцыстычнымі вобразамі. Вартасцю мастацкага матэрыялу з'яўляецца тое, што ён дае магчымасць паглыблена паказаць унутраны свет чалавека, яго думкі і пачуцці, матывы дзейнасці.

Узмацненню і трансфармаванню традыцыйных магчымасцей уздзеяння садзейнічаюць ***дапаможныя сродкі***. Размова ідзе аб выкарыстанні тэхнічнай апаратуры – праекцыйнай, гуказапісвальнай, гукаўзнаўляльнай, асвятляльнай, якая ўзмацняе эстэтычнае эмацыянальнае ўздзеянне розных сродкаў на слухачоў і гледачоў.

Практыка сацыяльна-культурнай дзейнасці паказвае, што асноўныя сродкі культурна-творчага працэсу найбольш эфектыўна ўздзейнічаюць тады, калі яны ўзаемаўплываюць, узаемазалежаць адзін ад аднаго. Галоўнай задачай суб'ектаў дзейнасці з'яўляецца тое, каб кожны сродак асобна і ўсе яны разам уздзейнічалі на асобу, садзейнічалі сацыяльнай рэабілітацыі, прыводзілі да жаданых вынікаў – гармоніі, развіцця і фарміравання асобы.

Такім чынам, у працэсе сацыяльна-культурнай дзейнасці ўстановамі, арганізацыямі і прадпрыемствамі культуры выкарыстоўваюцца розныя прынцыпы, метады, формы і сродкі, з дапамогай якіх фарміруецца і інтэнсіўна асвойваецца сфера адпачынку і вольнага часу. Суб'екты, якія дзейнічаюць у сацыяльна-культурнай сферы, скарыстоўваюць разнастайныя тэхналогіі. Гэта абумоўлена тым, што сацыякультурная дзейнасць не з'яўляецца статычнай, у ёй практычна няма канчатковых рашэнняў. Культурная дзейнасць уяўляе дынамічны працэс, развіццё якога само па сабе пастаянна патрабуе творчага падыходу да вырашэння праблем. Дзейнасць у сацыякультурнай сферы, акрамя таго, з'яўляецца яшчэ і многафункцыянальнай, сацыяльна значнай, творчым кірункам чалавечай практыкі. Суб'ектамі сацыякультурнай дзейнасці назапашаны вопыт асветніцкай, выхаваўчай, культуратворчай работы з насельніцтвам. Усе гэтыя кірункі дзейнасці маюць свае асаблівасці, унутраныя сувязі і адносіны, своеасаблівыя формы і метады работы.

## 5.6. Тэхналогіі сацыякультурнай дзейнасці

Тэхналогіі, напрацаваныя ў сферы культуры вольнага часу, набылі агульнасацыяльнае значэнне, ператварыліся ў сацыяльныя тэхналогіі. Тэрмін "тэхналогія" ў культуралогіі яшчэ не набыў

шырокага распаўсюджвання, можа быць, таму што ён заўсёды звязваўся з вытворчасцю. Так, у Філасофскім энцыклапедычным слоўніку запісана, што тэхналогія – гэта сукупнасць метадаў апрацоўкі, вырабу, змянення стану, уласцівасцей, формы сыравіны, матэрыялу ці паўфабрыкату, ажыццяўляемых у працэсе вытворчасці прадукцыі. Даследаванне дзейнасці сацыяльна-культурных інстытутаў паказала, што працэс культуратворчай дзейнасці прадугледжвае адказ не толькі на пытанне “Што?”, але і “Як?” Да таго ж элементамі майстэрства работнікаў культурна-асветных устаноў з’яўляюцца веды, уменні і тэхніка, якія пры ўдала выкарыстаных зносінах, спалучаных з прафесійным захапленнем, пераканальнасцю, верай і імправізацыяй, лагічна аб’яднаць у тэрмін “тэхналогія”. Дзейнасць многіх устаноў, прадпрыемстваў культуры краіны стала базай для стварэння новых сацыяльных тэхналогій у сферы культуры. Безумоўна, распрацоўка сацыяльных тэхналогій у сацыякультурнай сферы звязана з пэўнымі складанасцямі, паколькі гэтая сфера характарызуецца дынамізмам, мае сацыяльна адкрыты характар, у ёй дзейнічае вялікая колькасць разнапрофільных сацыяльных інстытутаў. Тым не менш шэраг даследчыкаў культурнай дзейнасці ўвялі ў свой тэзаўрус разглядаемае паняцце.

С.Брусаў разглядае тэхналогіі як сродкі абмену чалавечымі здольнасцямі і патрэбнасцямі асобы, паміж духоўнай і матэрыяльнай вытворчасцю. Грунтоўнае апісанне сучасных педагагічных тэхналогій даецца Т.Стэфаноўскай у кнізе “Педагогіка: навука і мастацтва”. Усебакова прааналізавана тэхналогія метадычнага працэсу культурна-адпачынкавай дзейнасці В.Чыжыкавым. Працэс праектавання сацыяльных тэхналогій раскрыты Ю.Красільнікавым, Т.Лукманам, П.Бергерам, К.Манхеймам, У.Івановым. У іх даследаваннях разглядаюцца пытанні арганізацыі сацыяльна-культурнай дзейнасці ў адпаведнасці з канкрэтнай культуралагічнай парадыгмай, г.зн. сацыяльнай тэхналогіі.

Тэарэтычнае і практычнае даследаванне розных методык сацыяльна-культурнай дзейнасці дазваляе сцвярджаць, што ***тэхналогія*** ахоплівае асноўныя заканамернасці распрацоўкі і выкарыстання сродкаў, формаў і метадаў у цэлым, найбольш тыповыя ўмовы і універсальныя спосабы культурнай дзейнасці. У аснове сацыяльна-культурных тэхналогій ляжыць праграмна-мэтавы прынцып. Фарміраванне і рэалізацыя гэтых тэхналогій вызначаюцца сацыяльным заказам, які вымагае педагагічна правільнай пастаноўкі і інструментоўкі мэт і задач дзейнасці. Мэта ў гэтым выпадку выступае як спосаб інтэграцыі розных



дзеянняў і намаганняў суб’ектаў сацыяльна-культурнай дзейнасці ў пэўнай паслядоўнасці. Яна вызначаецца з пункту гледжання канкрэтных задач, якія стаяць перад соцыумам, з улікам спецыфікі і магчымасцей канкрэтнага сацыяльна-культурнага інстытута, запытаў і інтарэсаў насельніцтва, характару іх працоўнай дзейнасці і вытворчых умоў, з улікам каардынацыі намаганняў з іншымі сацыяльнымі структурамі і інстытутамі.

У сучасны перыяд назіраецца ўзбагачэнне развіццёвай, інфармацыйна-пазнавальнай тэхналогій. У духоўнае жыццё, сферу вольнага часу соцыуму арганічна ўвайшлі дыялогавыя формы дзейнасці, адзначаецца пераход аб’ектаў сацыякультурнай сферы да больш інтэнсіўнага выкарыстання новых носьбітаў інфармацыі, уключаючы відэа- і камп’ютэрную тэхніку. Пашырыўся дыяпазон інфармацыйнага працэсу, які побач з данясеннем інфармацыі ўключае абмеркаванне, абмен і вытворчасць новай інфармацыі. Сацыяльныя інстытуты забяспечваюць свабодны доступ да інфармацыі праз стварэнне незалежных бібліятэк, збор і распаўсюджванне альтэрнатыўных выданняў, правядзенне сустрэч з людзьмі, якія прытрымліваюцца неардынарных меркаванняў.

Істотныя змены адбываюцца ў методыцы культурна-творчай і мастацка-творчай дзейнасці. Тэхналогіі ўзбагаціліся за кошт калекцыйна-збіральніцкай, аналітычнай і навукова-даследчай дзейнасці ў галіне культуры і мастацтва, аўтарскай творчасці. Напрыклад, у сферы музычнай самадзейнасці ўзрасла цікавасць да аўтарскай песні, рок-творчасці, збіральніцтва, апрацоўкі і ўзнаўлення музычнага фальклору. Узрасла цікавасць да традыцый бытавога музіцыравання, адраджаецца сямейная самадзейнасць. Дыферэнцыяцыя мастацкіх патрэбнасцей і інтарэсаў абумовіла з’яўленне шматлікіх аматарскіх аб’яднанняў, школ народнай творчасці, курсаў, цэнтраў эстэтычнага выхавання. Самадзейнае мастацтва, якое доўгі час існавала пераважна ў відовішчна-сцэнічных формах, вяртаецца да сваіх вытокаў.

Трансфармацыя сацыякультурнай сферы выклікала аб’ектыўную неабходнасць у новай тэхналогіі кіравання мастацка-творчай дзейнасцю, створанай з улікам сучасных патрабаванняў практыкі ў арганічным спалучэнні з традыцыйнымі формамі. У Беларусі развіваецца працэс дэмакратызацыі сістэмы кіравання ў сферы культуры. Канструяванне дэмакратычных механізмаў кіравання ажыццяўляецца ў некалькіх кірунках. Асноўным прынцыпам развіцця сацыякультурнай дзейнасці становіцца прынцып плюралізму. Ён выяўляецца, у прыватнасці, у цярплівасці да культурных з’яў, якія раней адмаўляліся сацыяльна-культурнымі

інстытутамі. Нарматыўнымі дакументамі замацавана права на мастацкі эксперымент, стварэнне аўтарскай школы.

Галоўным ва ўдасканаленні сістэмы кіравання ў сацыяльна-культурнай сферы з'яўляецца фактар яе самарэгуляцыі. Дзяржаўнымі і мясцовымі органамі ўлады спрошчаны планаванне, улік і справаздачнасць, сістэма рэгістрацыі аматарскіх аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах, што, у сваю чаргу, уплывае на характар кантролю. Адменены жорсткі кантроль за рэпертуарам, выставачнай і канцэртнай дзейнасцю, работай неінстытуцыянальных формаў самадзейнай творчасці. Гэта дазволіла пашырыць маштабы самадзейнасці, якая развіваецца па-за рамкамі ўстаноў культуры.

Дзяржаўныя і мясцовыя органы ўлады больш увагі надаюць дыягностыцы, прагназіраванню і праектаванню сацыяльна-культурных працэсаў, стварэнню неабходнага банка інфармацыі даных аб сучасных тэндэнцыях і заканамернасцях вольнага часу. На пасяджэннях калегіі Міністэрства культуры, абласных упраўленняў культуры ўсебакова вывучаюцца, глыбока аналізуюцца праблемы культурнай дзейнасці.

Важная роля ў даследаванні заканамернасцей развіцця сацыякультурнай сферы, абагульненні і распаўсюджванні вопыту работы ўстаноў культуры і мастацтва належыць Беларускаму інстытуту праблем культуры, вышэйшым навучальным установам культуры і мастацтва.

Такім чынам, у канцы XX—пачатку XXI ст. адбыліся глыбінныя змяненні ў культуралагічных працэсах, якія патрабавалі ўдакладнення функцый, задач, мэт, метадаў і сродкаў дзейнасці сацыяльна-культурных інстытутаў. Трансфармацыя сацыяльна-культурнага асяроддзя ўнесла істотныя карэктывы ў традыцыйныя тэхналогіі суб'ектаў сацыякультурнай дзейнасці.



**Пытанні і заданні**

1. Дайце азначэнне паняцця "сацыяльна-культурная дзейнасць".
2. Якія суб'екты сацыякультурнай дзейнасці існуюць у сучасны перыяд?
3. Вылучыце групы метадаў дзейнасці сацыякультурных інстытутаў.
4. Назавіце вядомыя вам формы культурна-асветніцкай і мастацка-творчай работы ўстаноў культуры.
5. Чым адрозніваюцца суб'ект-аб'ектная і суб'ект-суб'ектная мадэлі арганізацыі сацыякультурнай дзейнасці?
6. Дайце азначэнне паняцця "сродкі сацыякультурнай дзейнасці".
7. У чым сутнасць працэсу праектавання сацыяльных тэхналогій?

**Літаратура**

*Бергер, П., Лукман, Т.* Социальное конструирование реальности: трактат по социологии знания: пер. с англ.— М.: Медиум, 1995.— 323 с.

*Иванов, В.Н.* Социальные технологии в современном мире.— 2-е изд., испр. и доп.— М.: Славян. диалог, 1996.— 335 с.

*Красильников, Ю.Д.* Методика социально-культурного проектирования: учеб. пособие / Моск. гос. ун-т культуры.— М., 1993.— 73 с.

*Смолік, А.І.* Сацыяльна-культурная дзейнасць у постчарнобыльскім соцыуме: вучэб. дапам. для вышэйш. і сярэдніх спецыяльных навуч. устаноў.— М.: Бел. ун-т культуры, 1999.— 228 с.

*Философский* энциклопедический словарь / редкол.: С.С.Аверинцев и др.— 2-е изд.— М.: Сов. энцикл., 1989.— 815 с.

*Чижиков, В.М.* Методическое обеспечение культурно-досуговой деятельности: учеб. пособие.— М.: Моск. гос. ин-т культуры, 1991.— 142 с.

*Социально-культурная* деятельность: поиски, проблемы, перспективы: сб.ст.— М.: Моск. гос. ун-т культуры, 1996.— 148 с.

*Хоруженко, К.М.* Культурология: энцикл. словарь.— Ростов-на-Дону: Феникс, 1997.— 640 с.

# 6. МЕНЕДЖМЕНТ У СФЕРЫ КУЛЬТУРЫ

### 6.1. Сацыяльна-культурная сфера як аб'ект кіравання

Важнейшай асаблівасцю сацыяльна-культурнай сферы з'яўляецца тое, што кіруючыя сувязі ў ёй ажыццяўляюцца праз адносіны людзей. Кіраванне існуе ў кожнай сістэме. Як мы ўжо ўстанавілі, культура таксама ўяўляе сабой сістэму, у якой галоўнае не элементы, а ўзаемасувязі паміж імі, іх узаемадзеянне, узаемаадносіны. Таму кіраванне служыць інтарэсам узаемадзеяння элементаў, якія складаюць тую ці іншую сістэму.

Асноўныя рысы, якія характарызуюць агульнае паняцце "кіраванне", могуць служыць асновай і для разумення ***кіравання ў сацыяльна-культурнай сферы***. Гэта паняцце выкарыстоўваецца для характарыстыкі грамадскай дзейнасці тых структур, у рамках якіх ажыццяўляецца сацыякультурнае ўзнаўленне. Іншымі словамі, гэта сукупнасць прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і органаў, якія ажыццяўляюць вытворчасць, размеркаванне, захаванне і арганізацыю спажывання тавараў і паслуг сацыяльна-культурнага і інфармацыйнага прызначэння, забяспечваючы тым самым задавальненне культурных патрэбнасцей і інтарэсаў насельніцтва.

Да яе прынята адносіць усе віды і галіны сацыяльнай дзейнасці па развіцці чалавечага патэнцыялу як мэты грамадскага развіцця (схема 6.1). У сучасных умовах сфера культурнай дзейнасці дасягнула пэўнага развіцця, яна набывае самастойнасць і пераўтвараецца ў асобную галіну народнай гаспадаркі. Функцыянаванне дадзенай галіны накіравана на стварэнне прадукта, здольнага фарміраваць і задавальняць культурныя патрэбнасці людзей. Гэтая новая галіна грамадскай працы адрозніваецца ад іншых галін тым, што пэўныя падсістэмы ду-



хоўных і культурных патрэбнасцей задавальняюцца асобым спосабам. З пункту гледжання як суб'екта, так і аб'екта ўздзеяння, гэты асобы спосаб задавальнення патрэбнасцей і з'яўляецца асноўным крытэрыем для вылучэння спецыфічнага працоўнага працэсу ў галіне культуры.

Схема 6.1

**Структура сацыякультурнай сферы**




Прыметай, па якой можна вызначыць, ці адносіцца той або іншы від чалавечай дзейнасці да галіны культуры, з'яўляецца вырашэнне пытання аб тым, у якіх мэтах ажыццяўляецца яна індывідам, — для сябе ці для іншых людзей. Справа ў тым, што культурная дзейнасць сфарміравалася ў самастойную галіну менавіта таму, што яна ў шырокім маштабе ўключылася ў працэс затрат грамадскай працы і стала пастаянным элементам у сістэме грамадскага падзелу працы і абмену дзейнасцю.

Акрамя пералічаных вышэй асаблівасцей галіны культуры, неабходна адзначыць, што ў гэтай сферы дзейнасць ажыццяўляецца на прафесійнай, паўпрафесійнай і нават на непрафесійнай (аматарскай) аснове. У апошнім выпадку яна адбываецца ў вольны час, і створаны ў выніку яе прадукт можа таксама прызначацца для іншых людзей. Ствараемы прадукт, які прызначаецца для задавальнення патрэбнасцей іншых людзей, у многіх падсістэмах дзейнасці ў галіне культуры можа мець непасрэдныя адносіны да фарміравання і задавальнення культурных патрэбнасцей самога суб'екта дзейнасці.

Асаблівасцю сучаснай сацыякультурнай дзейнасці з'яўляецца тое, што яна ажыццяўляецца арганізацыямі, установамі, прадпрыемствамі рознай ведамаснай прыналежнасці (дзяржаўнымі, прыватнымі, грамадскімі) і формай уласнасці, а таксама

прыватнымі асобамі. Сучасная сацыяльна-культурная сфера ўжо не можа існаваць і развівацца як сфера выключна дзяржаўных інтарэсаў. Выкарыстанне пазабюджэтных крыніц фінансавання, усё больш актыўнае супрацоўніцтва сацыяльна-культурнай сферы з фінансавым, прамысловым і гандлёвым капіталам, грамадскімі рухамі і арганізацыямі — адна з важнейшых умоў захавання культурнай спадчыны, узнаўлення творчага патэнцыялу, развіцця культурнага жыцця. Супрацоўніцтва бізнесу і сферы культуры, камерцыйнай і некамерцыйнай, але сацыяльна значымых сфер, іх сацыяльнае партнёрства з'яўляюцца эфектыўным механізмам і інструментам фарміравання цывільнага грамадства, здольнага да самаразвіцця.

Уклад сферы культуры ў эканоміку, адукацыю, навуку і іншыя сацыяльныя сферы вымяраецца і іншымі паказчыкамі. Так, культура выступае сродкам цывілізацыйнага ўплыву і сацыяльнай арганізацыі, стымулюе творчасць, павышае здольнасць грамадства да ўспрымання і пошуку новага, пераадолення аджыўшых стэрэатыпаў свядомасці і паводзін.

Роля культуры ўзрастае ў сацыяльнай кумунікацыі, адукацыі і выхаванні моладзі. Яна садзейнічае інтэлектуальнаму і эмацыянальнаму развіццю асобы, прафілактыцы дэвіянтных паводзін.

Такім чынам, можна адзначыць, што культура з'яўляецца сістэмаўтваральным фактарам кансалідацыі і развіцця грамадства ў нацыянальным і рэгіянальным маштабе.

З улікам таго, што культура ў сучасным грамадстве ўсё больш усведамляецца не як вынік сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця, а як неабходная ўмова, важнейшы фактар гэтага развіцця, маральная апора асобы і грамадства, асаблівую актуальнасць набывае вызначэнне метадаў і прынцыпаў кіравання культурай.

### 6.2. Сутнасць паняцця "менеджмент"

Вышэй намі адзначалася, што асаблівасцю сацыяльна-культурнай сферы з'яўляецца тое, што кіраўніцкія сувязі ў ёй ажыццяўляюцца праз адносіны людзей. ***Грамадства*** — гэта сацыякультурная сістэма, якая ўяўляе сабой сукупнасць формаў сумеснай дзейнасці людзей, што склаліся гістарычна. Яно характарызуецца працягласцю існавання і самадзейнасцю, г. зн. грамадства валодае ўсімі неабходнымі і дастатковымі рэсурсамі для свайго ўзнаўлення і нармальнага развіцця. Сувязь і адзінства сацыякультурных працэсаў забяспечваюцца сацыяльным кіраваннем, якое з'яўляецца адным з важнейшых умоў нармальнага функцыянавання культуры.



Кіраванне як атрыбут грамадскага жыцця мае шэраг прымет. *Па-першае*, яно існуе там, дзе адбываецца сумесная дзейнасць людзей, і забяспечвае неабходнае іх узаемадзеянне, эфектыўнае выкананне пастаўленых перад удзельнікамі задач і дасягненне адзінай мэты.

*Па-другое*, дзякуючы кіраванню людзі аб'ядноўваюцца для сумеснай дзейнасці ў пэўныя калектывы. Яно заклікана ўпарадкаваць гэтую дзейнасць, надаць узаемадзеянню людзей арганізаванасць, забяспечыць узгодненасць індывідуальных дзеянняў.

*Па-трэцяе*, у якасці галоўнага аб'екта ўздзеяння ў працэсе кіравання выступаюць паводзіны ўдзельнікаў сумеснай дзейнасці, іх узаемаадносіны. Кіраванне выступае ў ролі рэгулятара гэтых паводзін і дасягае пэўнай мэты ў рамках грамадскіх сувязей.

Кіраванне сацыяльна-культурнай сферай ажыццяўляецца ў розных формах. Арганізацыяй грамадскіх сувязей у першую чаргу займаюцца дзяржаўныя органы, незалежна ад іх канкрэтнага прызначэння. У якасці аб'екта кіравання выступаюць усе формы і віды культурнай дзейнасці, усе варыянты грамадскіх сувязей. Пытанні дзяржаўнага кіравання сферай культуры разглядаюцца Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь, Саветам Міністраў. Так, у перыяд з 1994 г. па цяперашні час былі прыняты законы "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь", "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны", "Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб народным мастацтве, народных промыслах (рамёствах) у Рэспубліцы Беларусь" і інш. Распрацавана і дзейнічае дзяржаўная праграма "Функцыянаванне і развіццё культуры Рэспублікі Беларусь да 2005 года". Саветам Міністраў і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь у гэты ж перыяд прынята вялікая колькасць нарматыўна-прававых актаў, якія тычацца рэгулявання культурнай дзейнасці ў нашай краіне.

Актыўны ўдзел у кіраванні культурай прымаюць грамадскія аб'яднанні. Адной з найбольш масавых грамадскіх арганізацый, якія праводзяць значную работу па стварэнні ўмоў для развіцця культуры, з'ўляюцца прафсаюзы. Акрамя іх, існуе вялікая колькасць іншых грамадскіх арганізацый, фондаў і рухаў, якія даюць людзям магчымасць займацца мастацкай і прыкладной творчасцю.

Такім чынам, у сістэме кіравання назіраецца пэўная ўпарадкаванасць у выглядзе іерархічнай структуры органаў кіравання.

Кіраванне ў сферы культуры мае сваю спецыфіку, якая вынікае з асаблівасцей "духоўнай вытворчасці". Прадуктам культурнай дзейнасці ўласцівы не толькі рэчавы характар, паколькі яны звя-

заны з феноменам свядомасці (успрымання, разумення, мыслення, перажывання і г.д.), не паддаюцца непасрэднаму ўліку, звычайнаму назапашванню. У адрозненне ад прадуктаў матэрыяльнай вытворчасці, якія ў працэсе спажывання знішчаюцца, культурныя каштоўнасці ў працэсе спажывання павялічваюць сваю каштоўнасць.

Сфера сацыяльна-культурнай дзейнасці з'яўляецца пераважна некамерцыйнай сферай. Яе фінансавыя сродкі ўтвараюцца галоўным чынам за кошт прыцягнення сродкаў самых розных сіл і інстанцый: органаў улады, спонсараў, дабрачынных арганізацый і іншых донараў. Гэта спецыфіка, безумоўна, накладвае адбітак на змест, прынцыпы, формы і метады кіравання культурай.

Навука, якая займаецца выяўленнем заканамернасцей, распрацоўкай прынцыпаў, функцый і метадаў мэтанакіраванай дзейнасці людзей у сферы культуры ў працэсе кіравання, называецца *менеджментам*. Менеджмент уласцівы практычна ўсім сферам жыццядзейнасці грамадства: эканоміцы, палітыцы, навуцы, адукацыі і інш. Але пранікненне рыначных адносін у сацыяльна-культурную сферу постсацыялістычных краін абумовіла неабходнасць пошуку мэт і задач яе функцыянавання, абнаўлення метадаў і прынцыпаў кіравання культурай.

Заснавальнікам навуковага менеджменту лічаць амерыканскага вучонага *Фрэдэрыка Уінслоў Тэйлара*. Яшчэ ў XIX ст. ён распрацаваў і рэалізаваў на практыцы метады кіравання, якія выкладзены ў яго фундаментальнай працы “Прынцыпы і метады навуковага кіравання”. Тэйлар і яго прыхільнікі займаліся пытаннямі павышэння эфектыўнасці работы на канкрэтных працоўных месцах. Па-іншаму да гэтай праблемы падыходзіў французскі навуковец *Анры Фаёль*, стваральнік адміністрацыйнай школы менеджменту. Ён спрабаваў вырашыць праблему ўдасканалення кіраўніцтва фірмай у цэлым. У шырокавядомай працы “Агульнае і прамысловае кіраванне” ўпершыню даецца класіфікацыя кіраўніцкіх функцый, выконваемых на фірме.

Тэорыя кіравання, створаная Тэйларам і Фаёлем, мела істотны недахоп: яна не ў поўнай меры ўлічвала ролю чалавечага фактара як асноўнага элемента працэсу дасягнення высокай эфектыўнасці работы фірмы. Імі вылучаліся ў асноўным два стымулы заахвочвання да працы — пагроза пакарання і грашовае стымуляванне.

Амерыканскі сацыёлаг *Мэры Паркер Фалет* прытрымлівалася супрацьлеглых поглядаў. Яна лічыла, што функцыі кіравання заключаюцца ў стымуляванні творчасці працоўных, у далучэнні рабочых да кіравання прадпрыемствам, вырашэння канфліктаў у працоўных калектывах. Разам з *Элтанам Меё*, прафесарам Гарвардскай школы бізнесу, яна развівае гуманістычны кірунак у менеджменце. Названыя вучоныя сцвярджалі, што важнымі фактарамі, якія ўплываюць на вытворчасць працы, з'яўляюцца псіхалагічны клімат і маральныя стымулы. Паслядоўнікі школы чалавечых адносін Дуглас Мак Грэгар, Абрахам Н. Маслоў, Роберт Р. Блэйк, Рэмсіс Лайкерт, Фрэдэрык Грэнберг рэкамендавалі адміністрацыі ўстаноў праяўляць больш клопату аб падначаленых, даваць ім шырокія магчымасці для стасункаў на працы, пазбягаць жорсткасці, кіраваць адносінамі паміж удзельнікамі дзейнасці.



Шырокае распаўсюджванне мелі таксама і іншыя падыходы да кіравання. Развіццё атрымалі колькасныя (эканоміка-матэрыяльныя) метады, працэсны, сістэмны, сітуацыйны падыходы. Вяршыняй развіцця сучаснага менеджменту можна лічыць маркетынгавае кіраванне, пры якім у цэнтры ўвагі арганізацыі, установы, прадпрыемства знаходзяцца патрэбы і запыты як канкрэтнага сегмента рынку, так і грамадства ў цэлым.

Вышэйсказанае дае падставу для азначэння паняцця “менеджмент”. Пад ***менеджментам*** разумеецца сукупнасць сучасных прынцыпаў, метадаў, сродкаў і формаў кіравання, якія забяспечваюць паспяховае функцыянаванне сацыяльных інстытутаў, закліканых ажыццяўляць пэўную сацыяльна значную дзейнасць.

Менеджмент на постсавецкай прасторы ўзнік і аформіўся ў своеасаблівую канцэпцыю як тып кіравання, што нарадзіўся ва ўмовах пераходу да свабоднага прадпрымальніцтва, канкурэнцыі, эканамічнай матывацыі. Яго антыподам з'яўляецца камандна-адміністрацыйнае, тэхнакратычнае, планава-дырэктыўнае, аўтарытарнае кіраванне. Ва ўмовах нармальна функцыянуючай рыначнай эканомікі гэта найбольш эфектыўны тып кіравання.

Абазначым важнейшыя ***прыметы менеджменту*** як тыпу кіравання.

1. У падыходах, прынцыпах і метадах кіравання перавага аддаецца эканамічным сродкам і метадам кіравання. Найбольш яскрава гэта праяўляецца ў маркетынгу, дзе ў цэнтры ўвагі знаходзяцца інтарэсы спажыўца.

2. Тэорыя і практыка менеджменту зыходзяць з таго, што чалавечы фактар аказвае значны ўплыў на выніки працы. Таму чалавек, яго інтарэсы, патрэбнасці, матывы, каштоўнасці, устаноўкі з'яўляюцца зыходным момантам у арганізацыі кіравання і яго ажыццяўленні.

3. Менеджмент патрабуе прафесіяналізму кіравання. Менавіта прафесіяналізм — адно з галоўных патрабаванняў да менеджэра і персаналу. Галоўнымі асабістымі якасцямі менеджэра павінны быць камунікабельнасць, упэўненасць, прадпрымальнасць.

4. Менеджмент характарызуе гнуткая арганізацыя кіравання, здольная хутка перабудоўвацца ў адпаведнасці са зменай умоў, арганізацыя інавацыйнага тыпу.

Такім чынам, менеджмент — гэта тып кіравання, які ў найбольшай ступені адпавядае патрэбнасцям і ўмовам сучаснага грамадства. Кіраванне як складаная з'ява ў развіцці грамадства можа быць вельмі разнастайным. Гэта разнастайнасць вызначаецца многімі фактарамі. Яна залежыць ад узроўню развіцця аб'екта кіравання, яго асаблівасцей, узроўню яго тэхналагічнага, сацыяльна-псіхалагічнага і іншага развіцця. Важную ролю адыгрываюць фактары сацыяльна-культурнай сферы, у якой функцыянуе аб'ект кіравання, яго адносіны да дзяржавы, а таксама чалавечы фактар, яго роля ў кіраванні, ступень прафесіяналізму працаўнікоў, сацыяльна-арганізацыйныя традыцыі.

У сферы культуры нельга выкарыстоўваць камандныя, галіновыя і нават тэрытарыяльныя прынцыпы кіравання. Менеджмент у сферы культуры павінен заключацца ў стварэнні арганізацыйных і эканамічных умоў самаразвіцця культурнага жыцця. У гэтым і ёсць сапраўдны змест спецыфікі менеджменту ў сферы культуры.

### 6.3. Прынцыпы і функцыі менеджменту

Менеджмент як навука аб рэгуляванні сацыяльна-культурных працэсаў мае свае асноўныя, зыходныя палажэнні і правілы, якія прынята называць *прынцыпамі*. У адпаведнасці з імі ажыццяўляецца кіраванне сацыяльна-культурнай сферай, іх прытрымліваюцца менеджэры ў сваёй практычнай дзейнасці.

Прынцыпы павінны адпавядаць законам развіцця прыроды і грамадства, адлюстроўваць галоўныя палажэнні, характэрныя для ўсіх відаў прадпрыемстваў і ўстаноў, аб'ектыўна адлюстроўваць сутнасць з'яў і рэальных працэсаў кіравання арганізацыяй і, нарэшце, быць асновай кіравання. Гэтыя прынцыпы прадвызначаюць перш за ўсё разуменне працэсу кіравання, яго элементаў, у прыватнасці мэт, спосабаў і сродкаў уплыву на калектыў, правілаў дзеяння суб'екта і аб'екта кіравання.

Да ***асноўных прынцыпаў*** менеджменту адносяцца:

• *мэтанакіраванасць,* зыходным пунктам якой з'яўляецца неабходнасць дасягнення мэты арганізацыі;

• *улік інтарэсаў:* вельмі важна, каб супрацоўніка цікавіў не толькі практычны інтарэс, але і дасягненне мэты арганізацыі;

• *адзінаначалле:* кожная асоба не павінна даваць справаздачу больш чым перад адным кіраўніком і атрымліваць наказ толькі ад аднаго і таго ж кіраўніка;



• *спецыялізацыя ў сферы кіравання:* усе дзеянні, што рэгулярна паўтараюцца, неабходна размяркоўваць паміж супрацоўнікамі апарату і не дубліраваць іх;

• *пастаяннае абмежаванне* колькасці іерархічных узроўняў у структуры арганізацыі: чым больш вялікая ўстанова, тым складаней кіраваць;

• *дэлегіраванне паўнамоцтваў:* кіраўнік не павінен рабіць сам таго, што можа зрабіць падначалены;

• *эканамічнасць:* эканамічнасць на ўсіх узроўнях арганізацыі з'яўляецца важным фактарам для таго, каб яна магла выжыць і дасягнуць поспеху ва ўмовах рынку.

Безумоўна, на кіраванне сацыяльна-культурнай сферай распаўсюджваюцца і такія прынцыпы, як планавасць, аператыўнасць, аб'ектыўнасць, канкрэтнасць, аптымальнасць, эфектыўнасць і інш.

У працэсе сваёй дзейнасці менеджэрам даводзіцца выконваць шэраг функцый, пад якімі разумеюцца адносна адасобленыя напрамкі кіраўніцкай дзейнасці, што дазваляюць у сукупнасці ажыццяўляць неабходнае ўздзеянне. Функцыі цесна звязаны паміж сабой, выконваюцца бесперапынна і паслядоўна, ад пастаноўкі задачы да яе вырашэння, і ўтвараюць так званы кіраўніцкі цыкл. Сярод важнейшых ***функцый*** менеджменту вылучаюць наступныя:

• *стратэгічнае планаванне,* з дапамогай якога вызначаюцца мэты дзейнасці, неабходныя для гэтага сродкі, а таксама распрацоўваюцца метады, найбольш эфектыўныя ў канкрэтных умовах. Пачатковым элементам планавання з'яўляецца складанне прагнозаў, якія паказваюць магчымыя кірункі будучага развіцця сацыякультурнага аб'екта. З дапамогай прагнозаў на будучае і стратэгічных планаў ажыццяўляецца работа ўстаноў культуры;

• *арганізацыя*, яна прадугледжвае фарміраванне структуры аб'екта культуры, а таксама забеспячэнне ўсім неабходным для яго нармальнай дзейнасці — кадрамі, матэрыяламі, абсталяваннем, будынкамі, фінансавымі сродкамі і інш. Такім чынам, функцыя арганізацыі заключаецца ў тым, каб стварыць рэальныя ўмовы для дасягнення запланаванай мэты;

• *матывацыя*, яе роля — у актывізацыі працуючых. Для гэтага ажыццяўляецца матэрыяльнае і маральнае стымуляванне супрацоўнікаў, ствараюцца ўмовы для праяўлення творчага патэнцыялу работнікаў і іх развіцця;

• *кантроль,* яго задача заключаецца ў якаснай і колькаснай ацэнцы і ўліку вынікаў працы. Галоўныя інструменты выканання гэтай функцыі — назіранне, праверка ўсіх бакоў дзейнасці, улік

і аналіз. Сярод функцый кіравання кантроль выступае як элемент зваротнай сувязі, па яго даных карэкціруюцца раней прынятыя рашэнні, планы, а таксама нормы і нарматывы;

• *каардынацыя*, гэта цэнтральная функцыя, якая забяспечвае бесперабойнасць і бесперапыннасць кіравання. Галоўная задача каардынацыі — дасягненне ўзгодненасці ў рабоце ўсіх звёнаў сістэмы шляхам устанаўлення рацыянальных сувязей паміж імі. Найбольш часта выкарыстоўваюцца справаздачы, інтэрв'ю, сходы, сродкі масавай інфармацыі, дакументы. З дапамогай гэтых і іншых формаў устанаўліваецца ўзаемадзеянне паміж падсістэмамі, ажыццяўляецца манеўраванне рэсурсамі, забяспечваюцца адзінства і ўзгодненасць усіх функцый кіравання.

Безумоўна, мы разгледзелі далёка не ўсе функцыі кіравання, іх значна больш. Ёсць шэраг спецыяльных функцый, якія вынікаюць са спецыфікі работы прадпрыемстваў розных галін, устаноў і арганізацый. Кіраванне тэатрам, музеем, клубам значна адрозніваецца ад кіравання трактарным заводам, бальніцай, вышэйшай навучальнай установай. Падрабязна функцыі, прынцыпы менеджменту разглядаюцца ў вучэбных дысцыплінах, звязаных з падрыхтоўкай менеджэраў для сацыякультурнай сферы. Такая падрыхтоўка ў нашай краіне вядзецца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў.

### 6.4. Сістэма механізмаў менеджменту

Намі ўжо адзначалася, што кіраванне сферай культуры і мастацтва мае пэўную спецыфіку. Перш за ўсё неабходна ўлічваць, што іх развіццё адбываецца не ізалявана, а залежыць ад іншых сфер грамадства. Так, у эканамічнай сферы вырабляюцца матэрыяльна-тэхнічныя прылады і рэсурсы для фарміравання матэрыяльнай базы ўстаноў культуры. Неабходна таксама фарміраваць і развіваць каардынацыйныя сувязі арганізацый культуры са сферамі адукацыі, аховы здароўя, фізкультуры і спорту і інш. У сучасных умовах важнае значэнне набывае дзейнасць па фарміраванні эфектыўных механізмаў і інструментаў, якія дазваляюць рэгуляваць работу ўстаноў культуры і спрыяць самарэгуляванню іх дзейнасці.

Сучасны менеджмент у сферы культуры можна разглядаць як сістэму, якая складаецца з чатырох асноўных механізмаў.

Эфектыўнае развіццё сацыяльна-культурнай сферы немагчыма без *эканамічнага механізма* (фінансавых, матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, гаспадарчага разліку, эканамічнага стымулявання і інш.). Пераход да рынкавых адносін суправаджаецца



стварэннем новых рынкавых структур і інфраструктур розных формаў уласнасці. Гэта дазваляе некамерцыйным і камерцыйным структурам у статусе розных аб'яднанняў самастойна вызначаць формы гаспадарання, віды дзейнасці, спосабы выкарыстання прыбытку. На практыцы некамерцыйныя сацыякультурныя ўстановы звычайна маюць мноства крыніц фінансавання: бюджэтнае, ахвяраванні карпарацый і прыватных асоб, прыбытак ад продажу тавараў і паслуг, членскія ўзносы, добраахвотная (бясплатная) праца. У сувязі з гэтым менеджэр абавязаны не толькі выявіць істотныя крыніцы рэсурсаў, якія ўплываюць на дзейнасць установы культуры, але і знайсці спосабы іх захавання.

У сферы культуры пераходнага грамадства, у тым ліку і беларускага, значную ролю адыгрывае *арганізацыйна-адміністрацыйны механізм,* які ўяўляе сабой сістэму размеркавання паўнамоцтваў (праў і абавязкаў), зафіксаваных у дакументах (статутах, палажэннях, інструкцыях). Пры стварэнні арганізацыйных структур у сацыякультурнай сферы фарміруюцца службы, аддзелы, сектары, групы ўстаноў, якія надзелены адпаведнымі функцыянальнымі абавязкамі. Паміж імі існуюць пэўныя сувязі: вертыкальныя, гарызантальныя, лінейныя, функцыянальныя і кааператыўныя.

Структура кіравання выконвае аб'яднальную ролю, надае сацыякультурнай установе цэласнасць, стварае ўзаемазалежнасць аб'ектаў кіравання. Кіраванне аб'ектамі культуры павінны здзяйсняць менеджэры з улікам якасных карэнных змен, якія адбываюцца на рынку культуры і мастацтва. Калі гэтыя змены не ўлічваюцца менеджэрамі па суб'ектыўных прычынах, тады такая арганізацыйная структура кіравання перастае адпавядаць рэальным умовам дзейнасці ўстаноў і прыходзіць у заняпад.

Кіраванне не можа заключацца толькі ў стварэнні арганізацыйна-адміністрацыйнага механізма. Мы ўжо адзначалі, што сучасны менеджмент арыентуецца на чалавечы фактар, у адпаведнасці з якім работнік успрымаецца не як вытворчая сіла, а як творчая асоба. У сувязі з гэтым ва ўстановах культуры значная ўвага надаецца *рабоце з персаналам.* У савецкі час спецыяліст фарміраваўся ў асноўным як выканаўца ўказанняў, установак, а то і непасрэдных загадаў, якія зыходзілі з розных узроўняў дзяржаўнай і партыйнай іерархіі. У сучасных умовах складваюцца персанала-арыентаваныя тэхналогіі, задача якіх заключаецца ў фарміраванні і развіцці матывацыі да актыўнай дзейнасці, сістэматычным пошуку новага і ўдасканаленні якасці вынікаў працы. Сённяшні спецыяліст павінен самастойна, у межах сваёй кам-

петэнцыі, вызначаць сутнасць, кірункі, мэты, задачы, сродкі, метады, формы, іншыя параметры культурнай дзейнасці.

Са сказанага вынікае, што работу з кадрамі трэба разглядаць як адносна самастойны механізм менеджменту, правільнае выкарыстанне якога прыносіць радыкальныя вынікі ў маштабах як асобнай установы, так і сацыякультурнай сферы ў цэлым. Названы механізм уяўляе сістэму работы па падрыхтоўцы, падбору і расстаноўцы кампетэнтных спецыялістаў, а таксама ўліку, фарміраванні і развіцці матывацыі да ініцыятыўнай, адказнай і эфектыўнай працы. Правільна спраектаваны працэс кіравання прыводзіць арганізацыю да значных поспехаў. Вынік дзейнасці ўстановы культуры ў многім залежыць ад рашэнняў, якія прымаюць кіраўнікі. Уласна кажучы, у прыняцці правільнага рашэння і заключаецца галоўнае звяно менеджменту. Кожны менеджэр адыгрывае пэўную ролю ў міжасобасных стасунках, інфармацыйных абменах і прыняцці рашэнняў.

Прынятыя рашэнні звычайна дапаўняюцца заданнем кантролю над іх выкананнем. Кантроль — гэта працэс, звязаны з дасягненнем установай пастаўленай мэты, працэс, з дапамогай якога менеджэры ўсіх узроўняў правяраюць правільнасць сваіх рашэнняў, абгрунтаванасць прынятых стандартаў, крытэрыяў і паказчыкаў, якія даведзены да выканаўцаў. Рашэнні часта звязваюцца з пэўнымі мэтамі, чакаемымі вынікамі і шляхамі іх дасягнення, г. зн. з планаваннем. Апошняе, у сваю чаргу, прадугледжвае сістэму ўліку і справаздачнасці: тое, што плануецца, павінна ўлічвацца. Улік і справаздачнасць з'яўляюцца передумовамі дзейснага кантролю, які абапіраецца, з аднаго боку — на прынятае рашэння, а з другога — на даныя ўліку і справаздачнасці.

Схема 6.2

**Сістэма механізмаў менеджменту**






Такім чынам, суадносіны і ўзаемасувязь кіраўніцкіх рашэнняў, планавання, кантролю, уліку і справаздачнасці, дакументаабароту і ўтвараюць *інфармацыйны механізм.* Інфармацыйным яго прынята называць па двух прычынах. Па-першае, сутнасць гэтага механізма заключаецца ў падрыхтоўцы адпаведнай інфармацыі і дакументальным яе афармленні. Па-другое, сама гэта інфармацыя структуруецца як бы ў "сілавым полі напружання" паміж двума полюсамі: характарыстыкай чакаемага выніку і характарыстыкай рэальна атрыманага выніку (схема 6.2).

Сістэма разгледжаных чатырох механізмаў з'яўляецца неабходнай і дастатковай для рэалізацыі менеджменту ў сферы культуры. Вопыт укаранення сучасных прынцыпаў і метадаў кіравання ў сацыяльна-культурную сферу паказвае, што адсутнасць ці бяздзейснасць хаця б аднаго з механізмаў прыводзіць да таго, што паспяхова арганізаваць працу немагчыма.

### 6.5. Менеджмент як галіна прыкладной культуралогіі

Высвятленне сутнасці, прынцыпаў, функцый і механізмаў менеджменту дае падставу сцвярджаць, што дадзены тып кіравання культурай адыгрывае значную ролю ў арганізацыі інстытуцыянальных сацыякультурных узаемадзеянняў. А гэта праблема, як адзначалася намі, з'яўляецца аб'ектам вывучэння прыкладной культуралогіі. Названая праблема актуалізуецца ў сувязі з узмацненнем ролі вольнага часу ў духоўным жыцці сучаснага грамадства. Па даных Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, многія заходнія краіны ўкладваюць у матэрыяльную базу і працэс арганізацыі адпачынкавай дзейнасці каля 50% свайго бюджэту. У нашай краіне ўстановамі культуры асвойваецца пакуль вельмі нязначная частка вольнага часу людзей. Гэта абумоўлена тым, што сацыякультурныя інстытуты займаюцца ў асноўным арганізацыяй традыцыйных формаў культурна-адпачынкавай дзейнасці. У той жа час рэальная творчасць розных груп насельніцтва, іх інтарэсы і патрэбнасці даўно перараслі гэтыя рамкі.

У цяперашні час адбываецца пераасэнсаванне сутнасці вольнага часу як сацыяльна-культурнай катэгорыі ў жыцці грамадства. На працягу многіх дзесяцігоддзяў ён з'яўляўся дадаткам вытворчай сферы. Сёння вольны час ператвараецца ў самастойную галіну сацыякультурнай дзейнасці, дзе адбываецца самарэалізацыя творчага і духоўнага патэнцыялу грамадства. Наяўнасць культурна-адпачынкавых патрэбнасцей насельніцтва, рост попыту на шматлікія віды адпачынку непазбежна патрабуюць стварэння спецыяльнай галіны культурна-адпачынкавага, рэа-

крэацыйнага абслугоўвання і развіцця сферы адпачынкавых паслуг, індустрыі вольнага часу і забаў.

Такім чынам, наспела вострая неабходнасць стварэння разгалінаванай інфраструктуры культурна-адпачынкавай сферы, пераходу на прынцыпова іншыя сацыяльна-кіраўніцкія канцэпцыі.

У савецкі перыяд канцэпцыя кіравання культурай грунтавалася на жорсткай рэгламентацыі дзейнасці сацыякультурных установ, усіх відаў і формаў адпачынку з дапамогай рознага роду нормаў і нарматываў. Прыярытэтную ролю адыгрывалі грамадска-палітычныя, ідэалагічныя, адміністрацыйныя, пазаэканамічныя рычагі кіравання сацыякультурнай сферай. У выніку ў арганізацыі культурна-адпачынкавай дзейнасці склаліся пэўныя стэрэатыпы і ідэалы, якія не адпавядаюць патрабаванням нашага часу.

Прыкладная культуралогія імкнецца вызначыць шляхі эфектыўнага выкарыстання культурастваральнага патэнцыялу вольнага часу, выпрацаваць навуковыя падыходы да рэалізацыі эфектыўных тэхналогій задавальнення культурных інтарэсаў і патрэбнасцей насельніцтва. Прынцыпы, заканамернасці і метады прыкладной культуралогіі з’яўляюцца метадалагічнай асновай менеджменту, з дапамогай якой вызначаюцца функцыі, задачы, формы, сродкі, тэхналогіі кіравання сацыяльна-культурнай сферай. Разуменне працэсаў фарміравання культурнага асяроддзя, механізмаў сацыялізацыі і інкультурацыі асобы, метадалогіі і методыкі ўцягнення індывіда або сацыяльнай супольнасці ў свет культуры, у сацыякультурную творчасць дазваляе менеджэру выкарыстоўваць эфектыўныя механізмы кіравання сацыяльна-культурнай сферай.



**Пытанні і заданні**

1. Вызначце структуру сацыяльна-культурнай сферы.
2. Якія тэорыі арганізацыі вытворчасці XIX—XX стст. вы ведаеце? Назавіце іх аўтараў.
3. Назавіце асноўныя прынцыпы і функцыі менеджменту.
4. Вызначце спецыфіку кіравання сацыякультурнай сферай.
5. З якіх механізмаў складаецца менеджмент як сістэма?
6. Якія змены ўносяць рынначныя адносіны ў структуру кіравання сферай культуры?

**Літаратура**

*Мескон, М.Х., Альберт, М., Федоури, Ф.* Основы менеджмента.— М., 1992.— 386 с.

*Михеева, Н.А., Галенская, А.Н.* Менеджмент в социально-культурной сфере: учеб. пособие.— СПб.: Изд-во Михайлова В.А., 2000.— 170 с.

*Поплавский, М.М.* Менеджер культури: підручнік.— Київ: МП “Леся”, 1996.— 416 с.

*Словарь-справочник* менеджера / под ред. М.Г.Лапусты.— М.: ИНФРА-М, 1996.— 680 с.

*Тульчинский, Г.Л.* Менеджмент в сфере культуры.— СПб.: Лань, 2000.— 384 с.

# 7. ФАРМІРАВАННЕ ДУХОЎНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ У ПРАЦЭСЕ ЗАСВАЕННЯ ТРАДЫЦЫЙНАЙ КУЛЬТУРЫ

## 7.1. Дзейнасць сацыякультурных інстытутаў па захаванні і развіцці народнай спадчыны

Неацэннай каштоўнасцю, на якую не ўплываць сацыяльна-палітычныя змены, у культуры кожнага грамадства, кожнага народа з'яўляецца спадчына. Размова ідзе аб культуры ў яе апрадмечанай форме — помніках, вырабах майстроў традыцыйных рамёстваў, малюнках, паданнях, абрадах, звычаях і інш. У культурнай спадчыне захоўваецца ўсё тое, што на тым або іншым этапе было створана ў духоўнай культуры народа, нават і тое, што часова было адкінута, не выкарыстоўвалася, але з цягам часу можа знайсці сваё месца ў сістэме каштоўнасцей грамадства. Пад культурнай спадчынай мы разумеем суму ўсіх культурных дасягненняў дадзенага грамадства, яго гістарычны вопыт, які захоўваецца ў грамадскай памяці і выкарыстоўваецца ў матэрыяльным і духоўным жыцці. Такая спадчына мае пазачасавую каштоўнасць. Да яе адносяцца дасягненні розных этапаў у жыцці народа, якія пераходзяць да новых пакаленняў, у новыя эпохі. Ад старажытных, стагоддзямі назапашаных традыцый шмат у чым залежаць своеасаблівасць духоўнага аблічча сучасных нацыянальных культур і іх далейшае развіццё.

***Традыцыйная культура*** ўключае ўсе віды творчай дзейнасці народа (вусную паэзію, музыку, танец, абрады, звычаі, народны тэатр, рамёствы), якія пераходзяць рознымі шляхамі з пакалення ў пакаленне, захоўваюць асаблівасці сваёй мясцовасці. Традыцыйная культура існуе ў двух відах: *першасным — аўтэнтычны



фальклор — і другасным — апрацаваныя, стылізаваныя, сцэнічныя формы вусна-паэтычнай творчасці*. Фальклор — гэта самастойны тып культуры, які мае самагодную матэрыяльную і духоўную каштоўнасць. Народнае мастацтва мінулага вылучаецца цэласнасцю, сінкрэтычнасцю, арганічнай сувяззю з жыццём. З'яўляючыся культурнай спадчынай мінулага, яно застаецца важнай часткай сучаснага культурнага працэсу, мае магутны культуратворчы патэнцыял, назапашаны за шматвяковы перыяд свайго бытавання. Народная творчасць у розных формах уяўляе сабой невычэрпную крыніцу для стварэння мастацкіх каштоўнасцей, з'яўляецца эфектыўнай формай далучэння насельніцтва да працэсу развіцця нацыянальнай культуры. Вельмі важна захаваць здабыткі народнай культуры для нашчадкаў, каб яны ведалі, як калісьці жылі людзі, якія песні спявалі, якія абрады выконвалі, як ткалі і вышывалі, якое адзенне насілі, якімі рэчамі карысталіся і інш.

Для збору, фіксацыі і даследавання традыцыйных здабыткаў культуры ў канцы XX ст. Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, а таксама Інстытутам мовазнаўства НАН Беларусі створана навуковая праграма даследавання і фіксацыі фальклорна-этнаграфічнай спадчыны. Да сур'ёзнага даследавання фальклорнай спадчыны далучыліся таксама Беларускі інстытут праблем культуры, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка, Беларускі саюз фалькларыстаў, абласныя і раённыя метадычныя цэнтры народнай творчасці, музеі і іншыя ўстановы і арганізацыі Міністэрства культуры.

Паколькі фальклор — гэта не музейны або архіўны матэрыял, а жывая культура, таму асноўная мэта сацыяльна-культурных інстытутаў — падтрымліваць яе, надаваць новыя імпульсы існаванню ўсіх відаў аўтэнтычнага фальклору. Важнейшыя задачы ў гэтай сувязі — мэтанакіраваная работа з традыцыяй у культурна-асветных і навучальных установах, адраджэнне забытых або рэдкіх тэхналогій народнага рамяства, стварэнне сістэмы пераемнасці фальклорнага і рамесніцкага вопыту, падтрымка носьбітаў і знаўцаў традыцыі, трансляцыя ўзораў і каштоўнасцей фальклору ў мастацкай самадзейнасці і прафесійнай творчасці, іх прапаганда і папулярызацыя.

Важнай задачай устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый культуры павінна стаць наладжванне пераемнасці паміж традыцыйнай культурай і сучасным культурным працэсам ва ўсіх яго

праявах, разнавіднасцях, формах. У адваротным выпадку для традыцыйнай культуры рэальнай становіцца пагроза паступовага затухання, а для сучасных відаў мастацтва адрыў ад каранёў можа стаць прычынай страты глыбіні і мнагамернасці вынікаў розных формаў творчасці. Менавіта таму сацыяльна-культурныя інстытуты рэспублікі сталі надаваць шмат увагі праблеме засваення традыцыйнай мастацкай культуры, стварэнню ўмоў для яе захавання і самаразвіцця. У 90-я гады XX ст. быў створаны шэраг рэгіянальных мэтавых праграм, скіраваных на падтрымку традыцыйнай культуры. Так, калектывам навукоўцаў краіны па заказу Міністэрства культуры распрацавана праграма “Адраджэнне традыцыйнай мастацкай культуры Палесся” па выніках трохгадовага комплекснага даследавання Усходняга і Заходняга Палесся. З гэтай мэтай праведзены шэраг мерапрыемстваў, у якіх прынялі ўдзел народныя майстры Гомельшчыны, Магілёўшчыны і іншых рэгіёнаў Беларусі. У іх ліку:

• Рэспубліканская выстаўка інсітнага (наіўнага) мастацтва, навукова-практычная канферэнцыя (1994);

• I Міжнародны фестываль фальклору (1994), дзе ўпершыню ва ўсходнеславянскай супольнасці была рэалізавана навукова абгрунтаваная канцэпцыя трохзвеннявой структуры фальклорнага мастацтва Беларусі: аўтэнтычнага, аматарскага, прафесійнага, праведзены іх раздзельны паказ;

• рэспубліканская выстаўка народнай творчасці на тэму “Вечназялёнае дрэва рамёстваў” (1996), якая паказала не толькі сучасны стан і ступень захаванасці старадаўніх традыцый народнага мастацтва, але і ўзровень падрыхтоўкі, арганізацыйнай работы з майстрамі;

• рэспубліканскае свята ганчарства “Ганчарны круг—96” у Бешанковіцкім раёне Віцебскай вобласці (1996), яно было першым “відавым” святам рамяства на ўзроўні рэспублікі і паклала аснову для правядзення падобных свят рамёстваў у далейшым;

• абласное свята ганчарства “Гліняны звон” у Любані, якое адбылося па выніках двухгадовай рэгіянальнай праграмы Любанскага раёна па адраджэнні традыцый ганчарства (1996);

• беларуска-польская выстаўка “Падвойныя дываны са збораў Польшчы і Беларусі”, навукова-практычная канферэнцыя на тэму “Праблемы адраджэння падвойнага ткацтва ў Беларусі” (1996). Была разгледжана праграма адраджэння ручнога ўзорыстага ткацтва, распрацаваная Беларускім інстытутам праблем культуры ў 1994 г. Праграма грунтуецца на аналізе праблем засваення аўтэнтычных формаў ручнога ткацтва ў культурна-асветных установах.



Праграму “Беларускі ручнік” можна лічыць прыкладам канкрэтнай мэтавай праграмы асветніцкага характару, якая мае навуковую аснову і плённа рэалізуецца. Па ўсёй рэспубліцы былі арганізаваны анкетаванне і работа па зборы інфармацыі. У кожнай вобласці прайшлі выстаўкі ручнікоў, адбыліся рэспубліканская выстаўка і навукова-практычная канферэнцыя.

У пачатку XXI ст. Беларускім інстытутам праблем культуры, БДУ культуры і мастацтваў, Беларускай акадэміяй мастацтваў, Беларускай акадэміяй музыкі, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны, Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы, Інстытутам мовазнаўства імя Я.Коласа Нацыянальнай акадэміі навук сумесна з творчымі саюзамі распрацавана Дзяржаўная праграма “Функцыянаванне і развіццё культуры Рэспублікі Беларусь да 2005 года”. У ёй вызначаны мэты і задачы, прыярытэты і асноўныя кірункі дзейнасці па стварэнні ўмоў для аднаўлення аўтэнтычнай традыцыі і натуральнага яе функцыянавання па сваіх спецыфічных законах.

Жыццяздольнасць народнай мастацкай культуры, як мы адзначалі, залежыць ад функцыянавання сістэмы пераемнасці мастацкіх традыцый. У сучасных умовах яна арыентуецца на арганізаваныя калектыўныя і індывідуальныя формы вывучэння, запісу і асваення лепшых узораў народнай творчасці. З гэтай мэтай у пачатку 90-х гадоў XX ст. пачалі стварацца праграмы захавання помнікаў гісторыі і культуры. У ліку першых распрацаваны рэспубліканскія комплексныя праграмы “Спадчына” і “Родная мова”. Асаблівае месца займае Рэспубліканская праграма дзяржаўнай падтрымкі традыцыйнай культуры, якая распрацавана ў адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь “Аб культуры” і рэкамендацыямі ЮНЕСКА аб захаванні фальклору. Асноўныя яе раздзелы прадугледжваюць удасканаленне сістэмы прававога забеспячэння; стварэнне сістэмы эканамічнай і фінансавай падтрымкі; ажыццяўленне арганізацыйных мер і мерапрыемстваў; стварэнне інфармацыйных сістэм у галіне фальклору і актывізацыю навуковых даследаванняў; стварэнне сістэмы пераемнасці фальклорнага і мастацка-рамесніцкага вопыту; папулярызацыю і распаўсюджанне беларускага народнага мастацтва ў рэспубліцы і за яе межамі. Праграма з’явілася стымулам для творчых і фінансавых намаганняў абласных і раённых органаў культуры па падтрымцы традыцыйнай культуры ў рэгіёнах. У гэты перыяд актывізавалася даследчая работа па вывучэнні і фіксацыі традыцыйнай культуры родных мясцін. Да гэтай работы далучыліся Дамы рамёстваў, Дамы фальклору і іншыя культурна-асветныя ўстановы.

Актыўным зборам фальклору, традыцыйных прылад працы, гістарычных звестак па бытаванні рамёстваў, апісанняў традыцыйных тэхналогій, вырабаў народных майстроў займаюцца Дамы рамёстваў. Яны ўзніклі ў пачатку 90-х гадоў XX ст. і занялі належнае месца ў структуры ўстаноў культуры. У 2002 г. у Беларусі налічвалася больш за 60 Дамоў рамёстваў (з іх 21 у сельскай мясцовасці). Паступова ўмацоўваецца сетка Дамоў (цэнтраў) фальклору, народнай творчасці, нацыянальнай культуры. У 2003 г. гэтых устаноў налічвалася 46 (з іх 37 у сельскай мясцовасці).

## 7.2. Формы і спосабы навучання і засваення традыцыйнай культуры

Установы культуры, акрамя фіксацыі помнікаў народнай спадчыны, займаюцца наладжваннем актыўнай творчай дзейнасці майстроў, забеспячэннем пераемнасці вопыту народных майстроў моладдзю і падлеткамі. У цэнтрах рамёстваў многіх раёнаў прадстаўлены традыцыйна развітыя ганчарства, ткацтва, вышыўка, разьба па дрэве, пляценне з розных матэрыялаў; унікальныя, амаль забытыя віды дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (падвойнае ткацтва, кавальская справа, роспіс тканіны, ручное пляценне паясоў і інш.); рамёствы, у якіх традыцыйная тэхналогія спалучаецца з выкарыстаннем новых матэрыялаў або тэхналогіі, не характэрнай для тых ці іншых рэгіёнаў (чаканка, халодная апрацоўка металу, макрамэ, фрывалітэ, пляценне з металічнага дроту і інш.); станковыя формы прафесійнай мастацкай творчасці, жывапіс, скульптура драўляная і ляпная гліняная і інш.

У Дамах рамёстваў ажыццяўляецца навучанне першасным навыкам ручной працы і асновам рамесніцкай справы. Сярод навучэнцаў ёсць школьнікі, моладзь, інжынерна-тэхнічныя работнікі, беспрацоўныя. Для некаторых рамесніцкая дзейнасць з'яўляецца нават галоўным сродкам заробку. У гуртках Дамоў рамёстваў існуюць як платныя, так і бясплатныя формы навучання. У якасці выкладчыкаў запрашаюцца або спецыялісты, якія маюць прафесійна-тэхнічную ці мастацкую падрыхтоўку, або асобы, што авалодалі рамяством самастойна. Спецыфіка вучэбнага працэсу ў Дамах рамёстваў заключаецца ў паглыбленай індывідуальнай працы майстра з кожным навучэнцам. Развіта сістэма асваення рамяства пад кіраўніцтвам мясцовых умельцаў, аўтэнтычных майстроў у сябе дома. Такая форма навучання характэрная для вясковых філіялаў Дамоў рамёстваў.



Установы культуры надаюць асаблівую ўвагу спосабам навучання і засваення традыцый. Гэтага вымагае своеасаблівасць формы існавання традыцыйнай культуры, якая прынцыпова адрозніваецца ад сучаснай культуры пісьмовага тыпу. Этнічная культура з'яўляецца мастацтвам вуснага тыпу, таму і перадача яе набыткаў у асноўным адбываецца вусна. У гэтым напрамку ўжо маюцца цікавыя вопыт і здабыткі. У шэрагу рэгіёнаў з'явіліся дзіцячыя калектывы, якія засвойваюць асаблівасці народных спеваў, танцаў, ігру на музычных інструментах не шляхам навучання, а вусным або шляхам імітацыі. У 90-я гады мінулага стагоддзя пачалі ствараць школы народнай творчасці, дзе дзеці асвойваюць майстэрства ткацтва, вышыўкі, саломапляцення, разьбы па дрэве, народных спеваў, ігры на гармоніку і інш. Да работы далучаны носьбіты традыцыі, і дзеці набываюць каштоўны вопыт, пераймаючы народную мастацкую спадчыну "з першых рук". Спеўная, гульнявая, танцавальная, абрадавая часткі мерапрыемстваў праходзяць на прыродзе. І гэта нават не столькі навучанне традыцыі, колькі спроба арганічнага ўваходжання ў яе.

Прыкладам мэтанакіраванай працы з дзецьмі па асваенні традыцыйнага мастацтва можа служыць школа старажытнай і народнай культуры, створаная пры Веткаўскім музеі народнай творчасці. Заняткі ў ёй праходзяць па спецыяльна распрацаванай праграме "Аз, букі, ведзі, глагол, дабро!", якая дыферэнцыравана для дзяцей ад 5 да 17 гадоў. Пры музеі працуе майстэрня па ткацтве. У Чачэрскім раёне добра наладжана дзейнасць па вывучэнні беларускага народнага танцавальнага этыкету. У гэтым жа раёне адноўлены унікальныя, амаль забытыя беларускія старадаўнія карагоды, карагодныя гульні, народныя тэатральна-харэаграфічныя прадстаўленні і інш.

Найбольш цікавымі формамі работы з дзецьмі па пераемнасці традыцый народнага мастацтва вылучаецца Брэсцкая вобласць. Тут дзеці ў школах народнай творчасці навучаюцца пэўным відам народнай культуры ў адпаведнасці з мясцовымі асаблівасцямі традыцыі. Па даных на 2002 г., у 12 раёнах вобласці існавалі 47 школ народнай творчасці; у 115 класах гэтых школ ад старэйшых носьбітаў традыцыі і маладых майстроў навучаліся 1353 вучні.

Сярод мерапрыемстваў па традыцыйнай культуры заслугоўвае ўвагі ўсталяванне традыцыі правядзення абласных свят рамёстваў, якія, безумоўна, з'яўляюцца эфектыўнымі формамі папулярызацыі дасягненняў народнага мастацтва, промыслаў, рамёстваў. Так, у Мінскай вобласці часта праводзяцца святы "Матчыны кросны" (г.Старыя Дарогі), "Лазовыя карункі" (г.Вілейка),

“Гліняны звон” (г.п. Радашковічы). У г.Іванава Брэсцкай вобласці папулярныя святы бандарства “Дубовая клёпка” і свята ганчарства “Гліняны званочак”.

Важную ролю ў адраджэнні фальклорнай спадчыны адыгрываюць аматарскія аб’яднанні, якія з’яўляюцца адной з найбольш мабільных народных формаў арганізацыі культуратворчай дзейнасці. Па даных на пачатак 2004 г., у краіне існавалі 857 аматарскіх аб’яднанняў па розных відах традыцыйнай культуры, што складала 19,4% ад агульнай колькасці аматарскіх аб’яднанняў. Характэрна, што арганізуюцца аматарскія аб’яднанні, дзе вывучаюць такія рэдкія і складаныя для аднаўлення віды традыцыйнай мастацкай культуры, як народныя абрады (40 аб’яднанняў), народны касцюм (23 аб’яднанні), інструментальны фальклор (23 аб’яднанні), лялечны тэатр “Батлейка” (15 аб’яднанняў). Найбольш распаўсюджанымі відамі традыцыйнага мастацтва, прадстаўленымі ў аматарскіх аб’яднаннях, з’яўляюцца песенны фальклор (81 аб’яднанне), народныя промыслы і рамёствы (80 аб’яднанняў), народныя гульні (53 аб’яднанні), народная проза (49 аб’яднанняў).

Аналіз развіцця фальклорна-этнаграфічных гуртоў у XX ст. у Беларусі паказвае, што абуджэнню цікавасці да нацыянальнай культуры, адраджэнню і развіццю рэгіянальнай харэаграфічнай і музычнай спадчыны садзейнічаюць фестывалі. Нягледзячы на аб’ектыўныя складанасці сацыяльна-эканамічнага характару, у сучасны перыяд праводзіцца шмат фестываляў і конкурсаў аматарскай творчасці. Сапраўднай энцыклапедыяй нацыянальнай духоўнай культуры можна назваць фестываль беларускага народнага танца “Палескі карагод”, які збірае аматарскія калектывы, розныя па стылі і ўзросце, з Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай абласцей і Мінска. Гасцямі свята бываюць творчыя калектывы Літвы, Расіі, Украіны, Польшчы. Разам з харэаграфічнымі калектывамі ўдзельнічаюць гурты народнай музыкі і песні, народныя майстры музычных інструментаў, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. На фестывалі гледачы маюць магчымасць убачыць дзесяткі цікавых мастацкіх праграм, сотні самабытных аўтэнтычных танцаў, мноства балетмайстарскіх пастановак, творчых знаходак, шмат выдатных выканаўцаў.

Аб тым, што развіццё фальклорнай музыкі ідзе паспяхова, сведчаць і іншыя фестывалі, якія адбываюцца ў рэгіёнах Беларусі. Так, традыцыйнымі сталі фестывалі фальклорных калектываў “Траецкі фэст”, “Жыцень”, фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”, якому ў 1995 г. быў нададзены статус міжнароднага, рэспубліканскі фестываль духавой музыкі “Беларускія фанфары”, фестываль “Іграй, гармонік”, якому быў нададзены статус рэспубліканскага, Усебеларускі фестываль народнага гумару ў Аўцюках, фестываль саламянага мастацтва. У апошнія гады вялікую папулярнасць атрымалі рэспубліканскія фестывалі выканаўцаў народнай песні “Галасы Радзімы”, якія праводзяцца па ініцыятыве БДУ культуры і мастацтваў.



Нараджэнню дзіцячых і маладзёжных фальклорных калектываў, аўтэнтычных гуртоў садзейнічаў рэспубліканскі эксперыментальны праект “Танцавальны фальклор і дзеці”, які ажыццяўляўся ў 2001—2003 гг. У яго рэалізацыі прынялі ўдзел 158 устаноў культуры, 97 устаноў адукацыі. У цэлым да праекта было далучана 2700 дзяцей. У рэчышчы праекта адбываліся вывучэнне фальклорнай спадчыны, навучанне дзяцей мясцовым народным танцам, карагодам, гульням, стварэнне танцавальных фальклорных калектываў.

### 7.3. Народныя святы як форма рэгуляцыі дзейнасці асобы

У любым грамадстве святы існуюць як абавязковы інстытут. У культурным кантэксце свята разглядаецца як частка арганізаванага і адрэгуляванага жыцця грамадства, яго слаёў і груп. Святочнае дзейства з’яўляецца эфектыўнай формай кампенсацыі, таму што ў гэты час ствараецца атмасфера прыўзнятага настрою.

Увага да свят з боку ўпраўленняў культуры аблвыканкамаў, аддзелаў культуры райвыканкамаў, устаноў і арганізацый культуры тлумачыцца тым, што святочнае дзейства ўзнаўляе ў памяці групы або грамадства ў цэлым каштоўнасці, далёкія ад паўсядзённага быцця, з якімі звязаны сэнс існавання асобы. Менавіта таму ў час свята адбываецца канцэнтрацыя культурнага жыцця і мастацкай творчасці. Яго правядзенне прадугледжвае архітэктурнае і дэкаратыўнае афармленне тэатралізаваных дзей, святочную драматургію, паэзію і прозу, музычныя мерапрыемствы, відовішчы і працэсіі, конкурсы і спаборніцтвы.

Вядомы даследчык гульнявой дзейнасці беларусаў А.Ю.Лозка разглядае народныя гульні як від актыўнага адпачынку, гістарычна сфарміраванага на аснове драматызаваных, умоўных або творчых дзеянняў, у якога склаліся пэўныя правілы і прыёмы забаў і які з’яўляецца сродкам фізічнага, разумовага і маральна-эстэтычнага выхавання. На тое, што мясцовыя старажытныя забавы ўплывалі на адметнасць народных свят, указвае сучасны

фалькларыст П.А.Гуд. У вёсках, мястэчках і гарадах Беларусі ў 90-я гады XX ст. узмацніўся працэс адраджэння традыцыйных свят народнага календара, якія былі забаронены ці зменены пад уплывам адпаведнай ідэалогіі: Раство, Вялікдзень, Тройца, Пятро, Пакравы і інш. У народныя святы, абрады, звычаі ўсё смялей уліваюцца гістарычныя, духоўна-царкоўныя элементы, адначасова яны дапаўняюцца разнастайнымі новымі фарбамі.

Вывучэнне рэжысуры тэатралізаваных фальклорных свят, народных відовішчаў, абрадаў, якія пашыраны сёння ў Беларусі, паказала, што ў народных святах прысутнічаюць амаль усе жанры мастацтва. Вельмі папулярнымі ў нас з'яўляюцца святы Гуканне вясны, Купалле і інш. У іх яскрава праяўляюцца светапогляд і культура нашых продкаў, элементы абрадаў спалучаюцца з аграрна-магічнымі дзеяннямі. Гуканне вясны ў Беларусі звязваецца з тым часам, калі сонца падымаецца высока і пачынае вызваляць зямлю з-пад снегу. Свята Гукання вясны ў розных рэгіёнах мае свае асаблівасці. Напрыклад, на Чэрыкаўшчыне дзяўчаты збіраюцца каля лазні, дзе з ільняной і пяньковай кастрыцы раскладваюць агонь і спяваюць песні-вяснянкі. У Рагачоўскім раёне дзяўчаты дзеляцца на два гурты, кожны з іх займае ўзгорак, дзе зямля падсохла, і гукаюць вясну, падаючы голас адзін аднаму. На Магілёўшчыне ў гонар свята Гукання вясны выпякаюцца з цеста фігуркі птушак і падкідваюцца ўгару з просьбай, каб хутчэй прыляцелі птушкі. У Клічаўскім раёне бытуе рытуал перакідвання праз дах свайго дома трэсак. У Жыткавічах з 1993 г. праводзіцца тэатралізаванае фальклорнае свята ў маштабах усяго раёна пад назвай "Гу-у, вясна!"

Ва ўсеагульную тэатралізаваную імпрэзу ператвараецца свята Купалле, удзел у якім прымушае людскія сэрцы суладна і радасна біцца. Сведчанне таму — масавыя купальскія святы ў Тураве і Баркалабаве (Быхаўскі раён), адроджаныя ў пачатку 90-х гадоў XX ст.

Агляд культурнага жыцця краіны ў наш час паказвае, што паўсюдна ў рэспубліцы ідзе адраджэнне беларускага кірмашу. Рэгіёнам, дзе беларускі кірмаш стаў многафункцыянальным святам, атрымаў новае асэнсаванне, з'яўляецца Палессе. Восеньскія кірмашы ператварыліся ў яркія формы падвядзення вынікаў працы, ушанавання лепшых працаўнікоў калгасаў і саўгасаў. У час кірмашоў наладжваюцца выстаўкі, фестывалі мастацтваў, праводзяцца спартыўныя спаборніцтвы, конкурсы народнай музыкі, атракцыёны, гульні і забавы. Штогадовы палескі кірмаш, які з 80-х гадоў праводзіцца на Століншчыне, збірае жыхароў не толькі са свайго раёна, але і з суседняга Дубровенскага (Украіна).



Улукаўскі вясковы кірмаш на Гомельшчыне ператварыўся ў міжнародны: у ім прымаюць удзел творчыя калектывы Расіі і Украіны. Цікавымі і змястоўнымі па сваёй структуры сталі кірмашы ў Валожыне, Жыткавічах, Тураве, Івянцы, Мсціславе, Гомелі і іншых гарадах. Беларускія кірмашы, заснаваныя на лепшых народных традыцыях, выклікаюць вялікую цікавасць ва ўдзельнікаў, вельмі папулярныя ў насельніцтва.

Знаёмства з гісторыяй развіцця кірмашоў Беларусі паказвае, што ў іх актыўна ўдзельнічаюць людзі розных узростаў. Асаблівую ўвагу рэжысёры кірмашовых святочных дзей надаюць наладжванню сюжэтна-гульнявых праграм для дзяцей, розных пацех і забаў. Абавязковым атрыбутам кірмашоў з'яўляюцца дзіцячыя пляцоўкі, на якіх прадаюцца дзіцячыя вырабы, праводзяцца конкурсы юных майстроў, спаборніцтвы, канцэрты дзіцячых калектываў мастацкай самадзейнасці. Гэтым самым кірмашы спрыяюць далучэнню дзяцей да традыцыйнай культуры, выхаванню ў іх павагі і любові да народнай спадчыны.

Даследаванне формаў і структуры сучаснага беларускага кірмашу дазволіла вылучыць і такую яго адметнасць, як прапаганда дасягненняў народных майстроў. У некаторых выпадках кірмашы ператвараюцца ў сапраўдныя святы народных рамёстваў (Гомель, Мсціслаў, Воранава і інш.). Нярэдка тэрыторыі, дзе праводзяцца кірмашы, афармляюцца як гарады майстроў, дзе з вазоў, фурманак, брычак, падвод прадаюцца вырабы ўмельцаў. Тут жа ганчарамі робіцца посуд, жанчыны ткуць посцілкі і дываны, майстры па дрэве прапануюць лыжкі, бочкі. На кірмашах ладзяцца конкурсы народных майстроў, праводзяцца фестывалі фальклорнага мастацтва, ігрышчы з традыцыйнымі забавамі.

Цікава святкуюцца Каляды, Вялікдзень, Сёмуха, Мікола, Шчодрык, Юр'е і інш. Часцей за ўсё святы адзначаюцца ў сям'і ці разам з бліжэйшымі сваякамі. Нярэдка традыцыйныя святы ператвараюцца ў масавае дзеянне, у арганізацыі якога бяруць удзел работнікі ўстаноў культуры, мясцовыя ўлады, царква і насельніцтва прылеглых да пэўнага месца вёсак і мястэчак. Так, на Магілёўшчыне бытуе разнастайная калядная абраднасць з наступнымі кампанентамі святочных абрадаў: куцця, абход двароў калядоўшчыкамі з віншавальнымі песнямі і гульнявымі тэатралізаванымі прадстаўленнямі калядных персанажаў, варажба. Каляды ператварыліся ў стыхійны народны карнавал.

Самым урачыстым і радасным святам з'яўляецца Вялікдзень (Пасха).

На восьмы дзень пасля Вялікадня святкуецца Радаўніца. У гэты дзень па рэлігійным язычніцкім звычаі здзяйсняюць трызну — памінкі па нябожчыку.

Сёмуха святкуецца праз сем тыдняў пасля Вялікадня. На Магілёўшчыне яе часцей за ўсё называюць Духам, Тройцай, Гранай нядзеляй. Асноўны сэнс гэтага свята — ушанаванне раслінасці і яднанне чалавека з прыродай. Сёмуха лічыцца жаночым святам, дзяўчаты і маладыя жанчыны ідуць у лес упрыгожваць бярозу, па дарозе водзяць карагоды і спяваюць. На Духа ладзяцца кірмашы, на якіх прадаюць свае вырабы народныя ўмельцы. Амаль у кожную хату прыязджаюць сваякі, знаёмыя, частуюцца, спяваюць, танцуюць, гуляюць.

Паэтычнасцю і маляўнічасцю вызначаюцца рытуалы беларусаў, звязаныя з Купаллем. Свята Купалы прыпадае на перыяд летняга сонцазвароту. У гэты дзень гаспадыні старанна вымятаюць хаты, двары і такім чынам нібыта выдаляюць усё нячыстае, нядобрае. Пад вечар дзяўчаты і жанчыны збіраюць травы і лугавыя кветкі, з якіх плятуць прыгожыя вянкі. Вечарам ладзіцца вогнішча, вакол якога водзяць карагоды і спяваюць купальскія песні. У купальскую ноч варожаць і шукаюць папараць-кветку.

У другой палове жніўня тры разы адзначаецца свята Спаса. Першы Спас, ці Макавей, — 14 жніўня; другі Спас, Яблычны, свята садавіны, — 19 жніўня; трэці, Хлебны, Спас, свята заканчэння жніва, — 29 жніўня.

Абрадава-відовішчнымі сталі і некаторыя сямейныя ўрачыстасці — хрэсьбіны, вяселле. На гэтых святах адбываюцца абрадавыя пераапрананне і маскаванне. Так, у большасці раёнаў Гомельшчыны, Магілёўшчыны пераапранутыя з'яўляліся на хрэсьбінах, калі дзялілі абрадавую страву — бабіну кашу. Хрэсьбіны ператвараюцца ў сапраўдны карнавал, бабу-павітуху вязуць на калясцы па вёсцы, а потым да крамы і патрабуюць выкупу.

Даследаванне формаў традыцыйнай культуры і яе бытавання ў розных раёнах Беларусі паказвае, што ў іх шырока выкарыстоўваюцца разнастайныя традыцыйныя святы і абрады. Для многіх жыхароў краіны народныя традыцыі з'яўляюцца неад'емнымі элементамі іх ладу жыцця, яны арганічна ўпісваюцца ў быт і нават не ўсведамляюцца на рацыянальным узроўні. Народныя святы і абрады аказваюць значны ўплыў на фарміраванне і задавальненне эстэтычных патрэбнасцей насельніцтва. Вельмі важна тое, што ініцыятарамі арганізацыі і правядзення каляндарных свят выступаюць перш за ўсё клубы, бібліятэкі, музеі і іншыя ўстановы культуры.



**Пытанні і заданні**

1. Назавіце адметнасці традыцыйнай культуры беларусаў.
2. Вызначце асноўныя задачы сацыяльных інстытутаў у галіне аховы і адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.
3. Якія формы і спосабы вывучэння, фіксацыі і асваення лепшых узораў народнай творчасці існуюць у цяперашні час?
4. Назавіце найбольш значныя праграмы захавання і адраджэння беларускай традыцыйнай культуры.
5. Што вы ведаеце пра асноўныя функцыі святочна-абрадавай культуры?

**Літаратура**

*Воловик, А.Ф., Воловик, В.А.* Педагогика досуга: учебник.— М.: Флинта, 1998.— 240 с.

*Гуд, П.А., Гуд, Н.І.* Беларускі кірмаш.— Мн.: Полымя, 1996.— 270 с.

*Гуд, П.А.* Тэхналогія стварэння свята: вучэб. дапам.— Мн.: Бел. дзярж. ун-т культуры, 2004.— 224 с.

*Гульні,* забавы, ігрышчы / склад. А.Ю.Лозка.— Мн.: Бел. навука, 1996.— 534 с.

*Культурно-досуговая* деятельность: учебник / под науч. ред. А.Д.Жаркова, В.М.Чижикова.— М.: Мос. гос. ун-т культуры, 1998.— 461 с.

*Сахута, Я.М.* Народнае мастацтва Беларусі.— Мн.: БелЭн, 1997.— 287 с.

*Смолік, А.І.* Сацыядынаміка культуры ў посткатастрофным соцыуме.— Мн.: Бел. ун-т культуры, 1999.— 247 с.

# 8. ЗАДАВАЛЬНЕННЕ ДУХОЎНЫХ І РЭКРЭАЦЫЙНЫХ ПАТРЭБНАСЦЕЙ АСОБЫ Ў ПРАЦЭСЕ АМАТАРСКАЙ ТВОРЧАСЦІ

## 8.1. Аматарская творчасць як сацыяльна-педагагічная сістэма

Адметную ролю ў сцвярджэнні Дабра, Ісціны, Хараства адыгрывае мастацкая культура. Яна актыўна і плённа ўздзейнічае на фарміраванне грамадскай думкі, дапамагае чалавеку ў пераадоленні цяжкасцей быцця. Анры Бергсан адзначаў, што мастацтва здольнае дапамагчы працэсу самаідэнтыфікацыі чалавека, вырашыць найбольш глыбокія ўнутраныя праблемы, дзякуючы ўменням выказваць інтуітыўна жыццёвы парыў, непасрэдна выяўляць субстанцыю быцця. Рэчаіснасць XXI ст. характарызуецца зменай структуры асноўных жыццёвых каштоўнасцей і ўсталяваннем маральнасці, міласэрнасці, спагадлівасці, у чым можа дапамагчы мастацтва. Культура неаднаразова паказвала плённасць сваіх мастацкіх ідэй і прынцыпаў, іх творчую невычарпальнасць у спасціжэнні і адлюстраванні чалавека, яго душы, складаных узаемасувязей з грамадствам і прыродай.

Прафесійная і аматарская мастацкая творчасць выконвае функцыі рэалізацыі духоўных інтарэсаў і патрэбнасцей асобы. У сістэме мастацкай культуры аматарская творчасць з'яўляецца складанай, шматграннай з'явай. Сёння яна ўяўляе сабой масавы сацыякультурны рух, які выступае сродкам далучэння мас да культуры, эстэтычнага, маральнага выхавання, гарманічнага развіцця чалавека, з'яўляецца адным са шляхоў стварэння мастацтва, паколькі многае з непрафесійнай творчасці стала неад'ем-



най часткай агульначалавечай духоўнай культуры. Расійскі мастацтвазнаўца Б.Асаф'еў неаднаразова звяртаў увагу на асаблівае псіхалагічнае ўздзеянне мастацкай творчасці. "Чалавек, які спазнаў радасць творчасці нават у самай мінімальнай ступені, паглыбляе свой жыццёвы вопыт і становіцца іншым паводле псіхічнага складу, чым чалавек, які толькі імітуе дзеянні іншых", — пісаў ён.

Адным з механізмаў чалавечай псіхікі, які задавальняе эстэтычную патрэбнасць, з'яўляецца здольнасць чалавека да мастацкага ўспрымання, мастацкага выяўлення ўнутранага свету. Мастацкая дзейнасць уяўляе складаны сінтэз пазнавальнай, камунікатыўнай, каштоўнасна арыентаванай і пераўтваральнай дзейнасці. У ёй умоўна вылучаюць рэпрадуктыўную, кагнітыўную і камбінаваную разнавіднасці. Першая характарызуецца паўторам у той ці іншай мастацкай форме раней існуючых прадметаў, спосабаў перадачы дзеянняў, з'яў. Камбінаваная дапускае стварэнне новых вобразаў не толькі на аснове вядомага, таго, што існавала ці існуе, але і пры дапамозе ўяўлення і фантазіі. Менавіта гэтая разнавіднасць дзейнасці чалавека і з'яўляецца сапраўды творчай. Яна грунтуецца на самых разнастайных аспектах дзейнасці чалавека, мысленні, уяўленні.

У працэсе развіцця мастацкай самадзейнасці сфарміравалася пэўная сістэма рэгулявання мастацкай творчасці насельніцтва, прадстаўленай рознымі відамі і формамі дзейнасці, рознымі ўзроўнямі і ступенямі каштоўнасцей. Яна ахоплівае дзейнасць розных устаноў культуры: дзяржаўных, прафсаюзных, ведамасных, а таксама камерцыйных; дамоў адпачынку; дзіцячых устаноў. Суб'ектамі гэтай дзейнасці з'яўляюцца аматарскія гурткі, суполкі, разнастайныя грамадскія аб'яднанні і ўстановы культуры.

У сучасных умовах значна пашырыліся межы інстытуцыяналізацыі самадзейнасці. Цяпер яна развіваецца не толькі ў клубах, але і на базе самых розных устаноў культуры, дзіцячых пазашкольных, а таксама працоўных калектываў. Толькі дзяржаўная сістэма ўстаноў клубнага тыпу мае каля 40 мадэлей.

Арганізацыяй мастацкай творчасці займаюцца цэнтры і Дамы вольнага часу, Дамы мастацкай творчасці, рамёстваў, цэнтры фальклору, Дамы сацыяльна-культурных паслуг, цэнтры моладзі, абласныя грамадска-культурныя цэнтры, культурна-спартыўныя, культурна-дзелавыя, культурна-камерцыйныя цэнтры, цэнтры ткацтва, Цэнтр нацыянальных культур, школы народнай творчасці і інш. Такім чынам, цесная сувязь аматарскай мастацкай творчасці з сацыяльнымі інстытутамі — характэрная яе рыса.

Аналіз мастацкай самадзейнасці з пазіцый прыкладной культуралогіі дае падставы сцвярджаць, што яна з'яўляецца састаўной часткай духоўнай культуры грамадства, якая спрыяе яе ўзбагачэнню і дэмакратызацыі, а таксама фарміраванню сістэмы вытворчасці і распаўсюджванню эстэтычных каштоўнасцей. Самадзейную творчасць можна лічыць і сацыяльна-педагагічнай сістэмай, якая функцыянуе ва ўмовах вольнага часу і скіравана на маральна-эстэтычнае выхаванне людзей шляхам далучэння іх да непасрэднай актыўна-творчай мастацкай практыкі. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь пры распрацоўцы агульных прынцыпаў дзейнасці дзяржаўных клубных устаноў у якасці іх асноўнай задачы вызначыла дзейнасць у сферы вольнага часу. Гэта дзейнасць прадугледжвае стварэнне спрыяльных умоў для самадзейнай творчасці ўсіх, хто жадае развіць свае мастацкія і інтэлектуальныя здольнасці, задавальненне культурных запатрабаванняў розных груп насельніцтва ў аднаўленні і ўзмацненні духоўных і фізічных сіл.

### 8.2. Культура і забеспячэнне сферы вольнага часу

Праблема вольнага часу належыць да ліку найбольш значных праблем чалавечага быцця, бо ў сваёй глыбіннай сутнасці яна ўбірае ў сябе як многія "адвечныя пытанні", што неадступна стаяць перад асобай, грамадствам, чалавецтвам, так і запатрабаванні практычнай дзейнасці людзей. У гэтай сферы назіраецца няўхільная тэндэнцыя да ўсё большага вызвалення чалавека ад неспрыяльных жыццёвых акалічнасцей. Культура ў шырокім сэнсе вызначае ўсе асноўныя параметры вольнага часу як для грамадства ў цэлым, так і для асобы ў прыватнасці. Культуралагічны аспект праблемы ў наш час значны ў такой жа ступені, як і аспект эканамічны. Менавіта ў адпачынкавай дзейнасці становіцца магчымай свабодная творчасць. Дзякуючы ёй аптымальна рэалізуюцца інтэлектуальныя і эмацыянальныя, духоўныя і фізічныя рэсурсы чалавека, што стварае псіхалагічную стабілізацыю яго жыцця ва ўсёй разнастайнасці формаў.

Духоўна-маральная і матэрыяльная эфектыўнасць вольнага часу ў значнай ступені залежыць ад узроўню і структуры сацыяльных і духоўных патрэб чалавека, развіцця яго самадзейнасці на аснове ўсталявання адпаведных зносін паміж людзьмі.

Для значнай часткі насельніцтва вольны час стаў адной з важнейшых жыццёвых каштоўнасцей. У сучасных умовах людзі маюць ад 2 да 5 гадзін вольнага часу штодня, аднак многія з іх



гэты час выкарыстоўваюць не заўсёды рацыянальна. Сацыяльна-эканамічная сітуацыя, якая склалася ў краіне, паўплывала на "адамашніванне" вольнага часу і культурнага спажывання. Многія арыентуюцца на адпачынак у сям'і. Яны рэдка ходзяць у кіно, тэатр, музеі, больш глядзяць перадачы па тэлебачанні, слухаюць радыё, чытаюць газеты, часопісы і мастацкую літаратуру. Такім чынам, перавага ў арганізацыі вольнага часу аддаецца дастаткова пасіўнаму адпачынку. У той жа час практыка сведчыць і пра тое, што пэўная частка людзей хацелі б авалодваць мастацкімі ўменнямі, быць удзельнікамі харавых калектываў, вакальна-інструментальных ансамбляў, удзельнічаць у рабоце аб'яднанняў аматараў музыкі, літаратуры, тэатра і кіно.

Сфера вольнага часу мяжуе з такімі катэгорыямі, як матэрыяльная і духоўная вытворчасць, сэнс людскога існавання, аддаленыя мэты чалавечай дзейнасці. Паняцце "вольны час" як метафара абазначае менавіта той час у жыцці чалавека, калі ён можа жыць натхнёна, без турбот аб хлебе надзённым, можа прыўзняцца над паўсядзённасцю, адчуць узлёт свайго духу, пазнаць прываблівасць разнастайнасці жыцця.

Праблема вольнага часу звязана са структурай і якаснымі характарыстыкамі грамадства, у якім асоба атрымлівае права і магчымасць мець адпаведны вольны час і бавіць яго згодна з традыцыямі, законамі, рэгламентацыямі, уласнымі поглядамі і звычкамі. Сацыяльная важнасць таго, як асоба або пэўны соцыум распараджаецца сваім вольным часам, яго ўнутраная структура ў значнай ступені прадвызначаюцца тымі магчымасцямі, якія дае асобе грамадства. Асноўная задача сацыякультурных інстытутаў заключаецца ў тым, каб выхаваць у асобы патрэбнасць і ўсвядомленае ўменне размяркоўваць вольны час не толькі з улікам уласнага жадання і магчымасцей, але і з арыентацыяй на адносіны "асоба—грамадства", якія ў наяўным выглядзе заўсёды прысутнічаюць у нашым жыцці і шмат у чым вызначаюць нашы паводзіны. Вольны час, як і час увогуле, — гэта прастора для развіцця асобы, яе здольнасцей, для фарміравання ўласнага ладу жыцця.

Адным з фактараў, якія вызначаюць стан грамадства, а значыць, і шматстайныя працэсы, што адбываюцца ў ім, з'яўляецца дзяржаўная палітыка. Яе ўстойлівасць, паслядоўнасць, накіраванасць знаходзяць свой адбітак у эканоміцы і масавай свядомасці, культуры і навуцы, выхаванні і сямейным ладзе — ва ўсіх чалавечых узаемадачыненнях. Значыць, дзяржаўная палітыка уплывае на паводзіны людзей, іх інтарэсы і запатрабаванні.

Вопыт паказвае, што шматлікія правапарушэнні, асабліва ў асяроддзі моладзі, адной з першакрыніц маюць “вольны час, які няма чым запоўніць”. На жаль, крыміналагічная праблематыка пры разглядзе пытанняў вольнага часу не выказвае тэндэнцыі да скарачэння. Зразумела, што яна шчыльна звязана з праблематыкай эканамічнай, культуралагічнай, педагагічнай і інш.

Вялікі сацыяльны здабытак, якім для грамадства з’яўляецца вольны час, пры нізкай культуры яго арганізацыі і ненапоўненасці шматлікімі відамі і формамі заняткаў, пераўтвараецца ў сапраўдную сацыяльную небяспеку. Таму галоўным застаецца пытанне зместу і структуры вольнага часу. Зразумела, што кожная дзяржава павінна быць зацікаўлена ў тым, каб вольны час меў адпаведную каштоўнасць як для асобы, так і для грамадства ўвогуле. Як і кожная іншая справа чалавечага жыцця, вольны час можа мець аксіялагічнае вымярэнне. Час жыцця чалавека можа “расцягвацца і сціскацца” ў залежнасці ад таго, чым ён напоўнены, якія прапорцыі складіся ў асобасным жыцці паміж “нявольным” і “вольным” часам.

Такім чынам, уяўленне пра вольны час як сферу жыццядзейнасці грамадства, што рэалізуе патрэбнасці асобы ў арганізаваным адпачынку, гульнёвай і святочнай дзейнасці, у сумесным вырашэнні сацыяльна-культурных праграм, дазваляе зняць з паняцця “вольны час” вузкае яго тлумачэнне як забаўляльнага занятку.

Культурная сфера вольнага часу сёння мае даволі развітую інфраструктуру і прадстаўлена шырокай сеткай культурна-асветных устаноў. Што тычыцца іх якаснай характарыстыкі, то можна адзначыць, што ў краіне даволі актыўна ідзе пошук іх новых мадэлей, тыпаў мона- і шматпрофільных устаноў культуры і вольнага часу, а таксама новых падыходаў да арганізацыі іх дзейнасці.

### 8.3. Мастацка-творчая дзейнасць сацыякультурных інстытутаў

Выхаванне ў сферы вольнага часу з пункту гледжання гуманістычнага падыходу — гэта спецыяльна арганізаваныя зносіны з мэтай развіцця сутнасных сіл чалавека, яго індывідуальнасці, самакаштоўнасці і самабытнасці. Сацыяльна-педагагічны падыход да развіцця тэорыі базіруецца на ўсведамленні таго, што ва ўмовах дэмакратызацыі і гуманізацыі ўсіх бакоў жыцця нашага грамадства чалавек становіцца мерай усіх каштоўнасцей. Менавіта гэтае палажэнне трэба разглядаць як асноўнае і прынцыпова значнае і ў развіцці тэорыі арганізацыі вольнага часу. Таму адной з галоўных прафесійных задач тут бачыцца стварэнне передумоў, неабходных для самаразвіцця асобы праз арганізацыю духоўна-творчай дзейнасці ва ўмовах культурнай сферы вольнага часу. Агульнавядома, што сфера вольнага часу дае магчымасць асабістага, індывідуальнага выбару сродкаў, спосабаў і формаў дзейнасці.



Логіка развіцця сучаснага грамадства прывяла да прынцыпова новага, іншага, чым гэта было раней, разумення сутнасці культурнай дзейнасці ў вольны час, выклікала неабходнасць абнаўлення падыходаў да ўсёй сістэмы яе арганізацыі. Не клуб, не клубная і не культурна-асветніцкая работа, а культурна-творчая дзейнасць ва ўсіх яе відах і формах, што адбываецца ў сферы вольнага часу, з’яўляецца сёння прасторай прафесійнай дзейнасці спецыялістаў з адпаведнай адукацыяй. Менавіта таму ў дзейнасці ўстаноў культуры галоўная роля адводзіцца падтрымцы і развіццю розных формаў мастацкай творчасці, якая аб’ядноўвае ў сваіх радах 309 тысяч чалавек, згуртаваных амаль у 27 тысяч суполак розных відаў і жанравай накіраванасці.

Найбольш распаўсюджанымі ***жанрамі аматарскай мастацкай творчасці*** з’яўляюцца харавое мастацтва, вакальныя ансамблі, сямейныя калектывы, ансамблі народнай музыкі і песні, студыі эстраднай песні, фальклорна-этнаграфічныя ансамблі. У наш час назіраецца тэндэнцыя да павелічэння колькасці вакальна-харавых калектываў. Гэта сведчыць аб тым, што групавыя спевы, якія з’яўляюцца традыцыйнымі для беларусаў, па-ранейшаму карыстаюцца папулярнасцю сярод людзей розных узростаў.

Вывучэнне мастацка-творчай дзейнасці калектываў ***вакальна-харавога жанру*** паказвае, што жыццё спарадзіла новую форму народнай творчасці — канцэртна-філарманічную дзейнасць, якая ўзнікла на базе існуючых клубных структур. Гэтая форма спрыяе павышэнню ўзроўню выканальніцкага майстэрства, развіццю жанравай разнастайнасці мастацкіх аб’яднанняў.

Цікавасць да народнай творчасці найбольш развіта ў моладзі (ад 21 да 30 гадоў) і людзей сярэдняга ўзросту (ад 41 да 50 гадоў), якія адносна вольныя ад хатніх спраў і імкнуцца праводзіць свой вольны час ва ўстановах культуры. Выкананнем народных песень ахвотней займаюцца жанчыны, у харавым мастацтве назіраецца тэндэнцыя да фемінізацыі харавога аматарства. Пазітыўнай з’явай з’яўляецца тое, што ў пачатку XXI ст. назіраецца рост дзіцячых

харавых і вакальных калектываў. Так, у 2004 г. сярод 8103 удзельнікаў вакальна-харавых калектываў было 2779 дзяцей.

Адметную ролю ў сацыяльна-культурным жыцці краіны адыгрываюць і працягваюць адыгрываць мастацкія самадзейныя калектывы ***інструментальна-аркестравага жанру***. Па даных статыстыкі, на 01.01.2002 г. у Беларусі налічвалася больш за 1028 інструментальных калектываў.

У апошняе дзесяцігоддзе ХХ ст. у Беларусі эфектыўна пачаў развівацца працэс адраджэння нацыянальных вытокаў інструментальнага народнага музіцыравання. Сталі стварацца капэлы беларускай народнай музыкі, аўтэнтычныя гурты народных музыкаў, з'явілася шмат таленавітых салістаў-інструменталістаў. Гэты працэс выяўляецца ў шматлікіх фестывалях і конкурсах народнай музыкі. У рамках фестываляў арганізуюцца конкурсы гарманістаў, ансамбляў народнай музыкі і аркестраў народных інструментаў.

Асноўнымі крытэрыямі для вызначэння пераможцаў з'яўляюцца сцэнічная культура, выканальніцкае майстэрства, адпаведнасць выконваемай праграмы асаблівасцям менавіта таго рэгіёну, які прадстаўляюць музычныя калектывы ці індывідуальныя выканаўцы. Падчас фестываляў нярэдка працуюць адкрытыя творчыя лабараторыі выканаўцаў на народных інструментах.

Арганічнай часткай нацыянальнай культуры са сваім спецыфічным прызначэннем з'яўляецца народная ***тэатральная творчасць***. У яе структуры больш за 200 аматарскіх драматычных тэатраў, тэатраў лялек, тэатраў мініяцюр і пантамімы і іншых, якія маюць званні “народны”, “узорны”, і 3,5 тысячы тэатральна-драматычных гурткоў. Прычым пераважная большасць з іх функцыянуе ў сельскай мясцовасці, дзе няма альтэрнатыўных тэатральных устаноў, і таму насельніцтва, што жыве далёка ад тэатральных цэнтраў, можа далучыцца да мастацтва тэатра выключна праз аматарскую творчасць. Улічваючы невялікую колькасць прафесійных тэатраў у Беларусі, можна сцвярджаць, што аматарскі тэатр — прыярытэтнае народнае мастацтва, якое захоўваецца і развіваецца пад уплывам сучаснай сацыяльна-культурнай сітуацыі ў дзяржаве.

Нягледзячы на матэрыяльныя нястачы, самадзейныя тэатры жывуць актыўным жыццём, выконваюць сваю сацыяльную і мастацка-творчую функцыі.

Цікавай з'явай тэатральнага аматарства можна лічыць пашырэнне спектра дзейнасці такой шматграннай жанравай формы, як тэатр мініяцюр. Хуткае ўкараненне гэтага жанру абумоўлена



яго мабільнасцю, шырокімі магчымасцямі рэжысёраў знайсці матэрыял для пастаноўкі.

Аналіз дзейнасці аматарскіх тэатраў, тэатральна-драматычных гурткоў сведчыць, што яны звяртаюцца да нацыянальнай драматургіі, айчыннага літаратурна-драматычнага матэрыялу. І калі раней класічны рэпертуар народных тэатраў складалі агульнавядомыя беларускія п'есы “Паўлінка”, “Прымакі”, “Мікітаў лапаць” і іншыя, то цяпер аматарскія тэатральныя калектывы пачалі ставіць незаслужана забытыя творы: “Салдат і яго жонка”, “Свецкі чалавек”, “Атрута” М.Гарэцкага, “Конскі партрэт” (Краснапольскі тэатр), “Пільнуй сваю хату” Л.Родзевіча (Капаткевіцкі народны драматычны тэатр), “Пісаравы імяніны” У.Галубка (Пінскі тэатр); новыя п'есы сучасных аўтараў: А.Дударава, Г.Марчука, У.Сауліча, С.Законнікава (Рэчыцкі, Лоеўскі і іншыя тэатры). Вывучэнне рэпертуару аматарскіх тэатраў паказвае, што яны выступаюць як носьбіты самабытнага народнага тэатральнага мастацтва, дзякуючы якому эфектыўней фарміруецца нацыянальная свядомасць, ідзе працэс эстэтычнага і маральнага выхавання.

У творчым развіцці і самарэалізацыі асобы значная роля належыць аматарскай ***харэаграфічнай творчасці*** ў розных яе відах і жанрах. Формы выяўлення танцавальнага мастацтва на аматарскай сцэне самыя разнастайныя. Аналіз стану аматарскага харэаграфічнага мастацтва ў Беларусі дазволіў вылучыць у сучаснай харэаграфіі класічны, народны, эстрадны, бальны і сучасны танцы. У ансамблях і студыях танца пры клубных установах у 2002 г. налічвалася 2540 харэаграфічных калектываў з агульнай колькасцю ўдзельнікаў 33011. З іх 101 калектыў меў званні “народны” і “ўзорны”.

У выкананні шматлікіх этнаграфічных калектываў папулярны аўтэнтычны фальклор. У Беларусі захаваліся асяродкі традыцыйнай культуры з характэрнымі фальклорнымі асаблівасцямі, што прываблівае мастацкія калектывы.

Адметнай з'явай харэаграфічнага мастацтва з'яўляецца станаўленне такога жанру, як спартыўна-бальны танец. Выключную ролю ў развіцці гэтага жанру адыгрывае БДУ культуры і мастацтваў, дзе ў 1995 г. было створана аддзяленне бальнага танца. Па ініцыятыве універсітэта пачалі праводзіцца міжнародныя рэйтынгавыя турніры па спартыўных бальных танцах “Minsk Open”, у якіх прымаюць удзел больш за 400 пар з многіх краін свету. У рэспубліцы існуе шмат ансамбляў бальнага танца, якія характарызуюцца цікавым для сцэнічнай інтэрпрэтацыі рэпертуарам.

Папулярнасць, асабліва ў моладзі, набылі ансамблі сучаснага эстраднага танца. Знаёмства з мастацка-творчай дзейнасцю ансамбляў сучаснага танца паказвае, што ў гэтым жанры назіраецца тэндэнцыя да сінтэзу формаў танца мадэрн з фальклорнымі матывамі, элементамі класічнага танца. Адметнымі рысамі харэаграфічных кампазіцый, што паказваюцца на эстраднай сцэне, з'яўляюцца мабільнасць сцэнічных формаў, лаканічнасць афармлення, забаўляльнасць, дэмакратычнасць. Усё гэта садзейнічае пераўтварэнню танцавальнай эстрады ў своеасаблівую лабараторыю, дзе ствараецца шмат новага і цікавага.

Развіццю самадзейнага харэаграфічнага мастацтва ў значнай ступені садзейнічаюць фестывалі і конкурсы, якія сістэматычна праводзяцца ў краіне: "Сожскі карагод", "Беларуская полька", "Беларусь — мая песня", "Віцебская сняжынка", "Брэсцкі баль" і інш.

Акрамя разгледжаных відаў і жанраў мастацкай творчасці, папулярнасцю ў насельніцтва карыстаюцца аматарскія аб'яднанні, гурткі, майстэрні і іншыя самадзейныя фарміраванні.Так, у 2001 г. іх налічвалася ў рэспубліцы 26 400 адзінак, у якіх бралі ўдзел 308 813 чалавек. Аматарскія аб'яднанні з'яўляюцца найбольш перспектыўнымі формамі арганізацыі вольнага часу, іх дзейнасць спрыяе творчай актыўнасці людзей. Менавіта аб'яднанні па інтарэсах і клубныя суполкі далі штуршок для стварэння новых тыпаў устаноў культуры. Ствараюцца клубы народных майстроў, Дамы рамёстваў, маладзёжныя цэнтры, Дамы тэхнічнай творчасці і інш. У 2002 г. у краіне існавалі 857 аматарскіх аб'яднанняў. Яны адыгрываюць значную ролю ў развіцці сутнасных сіл чалавека, яго індывідуальнасці, самакаштоўнасці і самабытнасці, таму што іх дзейнасць будуецца з улікам культурных і сацыяльных патрэбнасцей асобы, інтарэсаў і жадання самарэалізацыі ў сферы вольнага часу.

Такім чынам, аматарскія аб'яднанні ўяўляюць сацыяльныя згуртаванні людзей з агульнымі інтарэсамі і патрэбнасцямі, духоўнымі каштоўнасцямі і каштоўнаснымі арыентацыямі, сацыяльнымі ўстаноўкамі і матывамі творчай дзейнасці. Аматарскія аб'яднанні і ўстановы культуры новага тыпу маюць добрую аснову для пераўтварэння іх ва ўстановы фарміравання адпаведных зносін паміж людзьмі, самасцвярджэння асобы.



**Пытанні і заданні**

1. Назавіце асноўныя сацыяльныя функцыі аматарскай мастацкай творчасці.
2. Дайце азначэнне паняцця "вольны час".
3. Якія формы аматарскай творчасці існуюць у наш час?
4. Якія жанры аматарскай мастацкай творчасці найбольш распаўсюджаныя ў Беларусі?
5. Ахарактарызуйце інфраструктуру культурнай сферы вольнага часу.

**Літаратура**

*Грыгаровіч, Я.Д.* Эстэтычная накіраванасць асобы студэнта: педагагічны аспект.— Мн.: Бел. дзярж. ун-т культуры, 2002.— 403 с.

*Каргин, А.С.* Самодеятельное художественное творчество: история, теория, практика.— М.: Высш. шк., 1988.— 271 с.

*Кузьмініч, М.Л.* Мастацкая творчасць: універсітэцкая падрыхтоўка кадраў: вучэб. дапам.— Мн.: Бел. навука, 1998.— 142 с.

*Мишуров, Г.С.* Белорусское народно-инструментальное искусство: традиции и современность.— Мн.: Бел. гос. ун-т культуры, 2002.— 301 с.

*Яканюк, Н.П., Кузьмініч, М.Л.* Інструментазнаўства і інструментоўка для аркестраў і ансамбляў беларускіх народных інструментаў: вучэб.-метад. дапам. для студэнтаў спецыяльнасці "народная творчасць".— Мн.: Бел. дзярж. ун-т культуры, 2001.— 230 с.

*Яконюк, Н.П.* Народно-инструментальная музыкальная культура письменной традиции в Беларуси: опыт системного анализа.— Мн.: Бел. гос. ун-т культуры, 2001.— 270 с.

# 9. УЗНАЎЛЕННЕ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ І ГРАМАДСКАЙ КАШТОЎНАСЦІ ЧАЛАВЕКА СРОДКАМІ МАСТАЦТВА І ТВОРЧАГА САМАВЫЯЎЛЕННЯ

## 9.1. Фарміраванне экзістэнцыяльнага стану асобы пад уплывам стрэсавых парушэнняў

Важнай галіной навуковых ведаў, якія складаюць прыкладную культуралогію, з'яўляюцца сацыякультурная адаптацыя, фарміраванне спрыяльнага сацыяльна-культурнага асяроддзя. Адаптатыўная і кампенсатарная функцыі культуры набываюць сёння асаблівую значнасць. Справа ў тым, што сучасная сацыяльна-культурная сітуацыя ў свеце характарызуецца нарастаннем колькасці гуманітарных, экалагічных і тэхнагенных катастроф, ваенных канфліктаў і сацыяльна-эканамічных крызісаў, якія спараджаюць масавыя стрэсавыя парушэнні ў людзей.

На тэрыторыі Беларусі маецца таксама вялікая колькасць патэнцыяльна небяспечных прадпрыемстваў — аўтамабільны, трактарны, хімічныя заводы, шахты, нафтаперапрацоўчыя комплексы, магістральныя нафтаправоды і газаправоды, ваенныя аб'екты. Недалёка ад мяжы нашай краіны размешчаны атамныя электрастанцыі — Ігналінская (Літва), Чарнобыльская (Украіна) і Смаленская (Расія).

Найвялікшай тэхнагеннай катастрофай XX ст. спецыялісты лічаць аварыю на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Паводле падлікаў, зробленых Міжнародным агенцтвам па атамнай энергіі (МАГАТЭ), мільёны людзей у розных краінах пацярпелі ад яе ўздзеяння. Узровень радыеактыўнасці ў многіх еўрапейскіх краінах павялічыўся ў 100 разоў у параўнанні з натуральным фонам.



Каля 70 % радыеактыўных рэчываў, якія паступілі ў атмасферу Еўрапейскай часткі СССР у выніку катастрофы, прыпадае на тэрыторыю Беларусі.

У Беларусі ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы пацярпелі 27 гарадоў і 3221 населены пункт, дзе пражываў 1 840 951 чалавек. Экалагічныя і тэхнагенныя катастрофы, а таксама маштабныя сацыяльна-палітычныя ўзрушэнні змяняюць асноўныя параметры ўстойлівага развіцця грамадства на велізарных тэрыторыях. Масавае перасяленне людзей, спыненне прамысловай, сельскагаспадарчай вытворчасці, як і абмежаванае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, з'яўленне пагрозы здароўю мільёнаў людзей, а таксама значныя эканамічныя страты, парушэнне звыклага ладу жыцця, небяспека страты гістарычнай і культурнай спадчыны ствараюць у Беларусі новую сацыяльна-культурную сітуацыю. У пацярпелых раёнах назіраецца адметная сацыяльна-псіхалагічная і субклінічная карціна — стрэс. Паняцце "стрэс" першапачаткова выкарыстоўвалася ў фізіцы, дзе абазначала напружанасць, ціск на сістэму. У гуманітарных навуках яно абазначае ўзбуджэнне, напружанасць, якія адчувае чалавек. Стан псіхічнай напружанасці ў асобы можа ўзнікаць у працэсе паўсядзённай дзейнасці ў вельмі складаных умовах або пры надзвычайных абставінах, напрыклад у час і пасля тэхнагеннай катастрофы.

Галандскія псіхолагі М. і Б. Бакер вызначаюць ***стрэс*** як непажаданую фізіялагічную, псіхічную і псіхаэмацыянальную рэакцыю, выкліканую сітуацыяй, з якой асоба не змагла справіцца. Імі шырока ўжываецца тэрмін "эўстрэс", пад якім яны разумеюць карысную для здароўя напружанасць. Такі стан існуе паўсядзённа ў большасці людзей. Эўстрэс вымушае чалавека дзейнічаць, вызначаць аптымальныя спосабы вырашэння праблем. Негатыўны для здароўя напружаны стан называецца дыстрэсам.

Упершыню навуковае апісанне псіхічнага расстройства, выкліканага цяжкай псіхічнай траўмай, было зроблена англійскім урачом Э.Д.Эрыксанам у 1867 г. Ён прааналізаваў стан хворых, якія трапілі ў аварыі на чыгунцы, і вылучыў шэраг агульных сімптомаў псіхічнага расстройства: бяссонніцу, аслабленне памяці, увагі, адчуванне душэўнага дыскамфорту. Праблему траўматычнага стрэсу з розных бакоў даследавалі нямецкі неўролаг Г.Апенгейм, швейцарскі вучоны Е.Стэйрлін і інш. Але глыбокае псіхааналітычнае ўсведамленне траўматычнага неўрозу адбылося дзякуючы даследаванням аўстрыйскага ўрача-псіхіятра і псіхолага З.Фрэйда, які лічыў, што асноўнымі прычынамі псіхічных захворванняў з'яўляюцца нечаканасці і страх. У першай палове XX ст.

праблемы посттраўматычных стрэсавых парушэнняў актыўна распрацоўвалі амерыканскія вучоныя Э.Ліндэман, В.Нідэрланд, Р.Ліфтан, С.Леапольд, Н.Дзілан. Даследаваннем псіхафункцыянальнага стану ўдзельнікаў амерыкана-в'етнамскай вайны займаўся Б.Коладзін. Аналіз, праведзены вучонымі Еўропы і ЗША, паказвае, што ў пацярпелых, нягледзячы на розны характар траўмаў, назіраецца шэраг агульных сімптомаў псіхічных захворванняў.

Высветлілася, што стрэс з'яўляецца сапраўдным бедствам грамадства. Па даных амерыканскіх вучоных, 2/3 наведванняў паліклінік выклікана сімптомамі, у аснове якіх знаходзіцца стрэс. Большасць выпадкаў часовай непрацаздольнасці прыпадае на стрэс. Некаторыя амерыканскія эканамісты нават лічаць, што ўжо сёння стрэс абыходзіцца ЗША ў 150 млрд. долараў у год.

Да фактараў, што выклікаюць стрэс (стрэсараў), адносяцца моцныя фізічныя і псіхічныя траўмы, страта крыві, рэзкія змены тэмпературы, шэраг фармакалагічных уздзеянняў. У развіцці посттраўматычных стрэсавых расстройстваў важную ролю адыгрываюць наступныя фактары: раптоўнасць і нечаканасць (выбухі, катастрофы, стыхійныя бедствы); жорсткасць дзеянняў (вайна, тэрарызм); псіхалагічная або фізічная слабасць ахвяры; яе недастатковая сацыяльная падтрымка.

Такім чынам, перад дзяржавай, грамадскімі арганізацыямі, прадпрыемствамі і ўстановамі культуры, адукацыі і навукі паўстала задача аказання сацыяльнай, псіхолага-педагагічнай дапамогі пацярпеламу ад тэхнагеннай катастрофы насельніцтву.

Вывучэнне вопыту псіхадыягностыкі і псіхакарэкцыі еўрапейскіх краін (Германіі, Даніі) паказвае, што там праблемы рэабілітацыі распрацоўваліся медыцынскімі навукамі і ў некаторай ступені псіхалогіяй на стыку з медыцынай. У сучаснай сітуацыі паўстала задача стварэння комплексных праграм рэабілітацыі, якія ўключалі б сістэму розных па сваіх узроўнях і задачах псіхалагічных уздзеянняў. Спецыяльная псіхалагічная рэабілітацыя пацярпелых ад гуманітарных і тэхнагенных катастроф павінна быць шматбаковай, шматступеннай і разнастайнай.

У свеце ўжо назіраецца пэўны вопыт арганізацыі псіхалагічнай рэабілітацыйнай дапамогі дэзадапціраванай асобе. Нягледзячы на асаблівасці кожнага віду сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі, можна вылучыць агульныя асноўныя кірункі і формы дзейнасці. Гэта аказанне хворым псіхалагічнай падтрымкі па пераадоленні страху, актывізацыя жыццёвай пазіцыі, ліквідацыя рэнтных установак, творчая самарэалізацыя, забеспячэнне інтэнсіўных зносін, псіхалагічная асвета, сацыяльна-арганізацыйная праца.



Вопыт жа, назапашаны ў нашай краіне і за мяжой, паказвае, што і культуралагічныя, і псіхалагічныя фактары адыгрываюць вялікую ролю пры адаптацыі чалавека да неспрыяльных умоў жыцця. Псіхалагічная адаптацыя з улікам узрастання ролі яе культурных фактараў не менш важная, чым медыцынская прафілактыка.

Даследаваннямі вучоных выяўлена, што масавы сацыяльны стрэс выклікае некалькі тыпаў *адаптацыйных сіндромаў*. Найбольш пашыраныя з іх:

- павышаная саматызацыя трывожнага чакання, так званыя "ўцёкі ў хваробу";
- засяроджванне на непрыемных перажываннях, якія траўміруюць псіхіку;
- абясцэньванне патрэбнасцей (так званая сацыяльна-псіхалагічная апатыя).

Названыя тыпы псіхічных рэакцый спалучаюцца з няўстойлівым, вельмі зменлівым станам адаптацыйных працэсаў. У выпадку з'яўлення новых або актуалізацыі ранейшых трывожных уражанняў, перасцярогі, негатыўнага чакання яны могуць трансфармавацца ў працэс дэзадаптацыі.

Аналіз псіхакарэкцыйнай работы цэнтраў і пунктаў сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі паказвае, што псіхалагічная служба ў апошні час выкарыстоўвае магчымасці культуралагічнай метадалогіі.

## 9.2. Уплыў культуры на экзістэнцыяльны стан свядомасці асобы

Карэннае змяненне ўмоў жыццядзейнасці, не толькі сацыяльна-экалагічных, але і сацыяльна-эканамічных, сацыяльна-культурных, істотна паўплывала на лад жыцця і спосабы задавальнення асноўных патрэб насельніцтва.

Асоба, якая фарміруецца ў такіх умовах, мае вострую патрэбу ў сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі, у добра арганізаванай рэадаптацыі да новых умоў жыццядзейнасці. Да таго ж з дапамогай рэабілітацыі можна вярнуць чалавека ва ўлонне сваёй культуры і відаў дзейнасці, з якіх ён выключаецца па меры фарміравання псіхалагічнага стрэсу.

У гэтых абставінах важную ролю адыгрываюць культура і асабліва мастацтва. Задача культуры, падкрэсліваў М.С.Каган, заключаецца ў тым, каб захаваць дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу, але разам з тым пазбавіцца ад уласцівай яму тэндэнцыі

да пачварнага разрастання утылітарызму, індывідуалізму, бездухоўнасці і вылучыць у якасці прыярытэтаў маральныя і эстэтычныя каштоўнасці і ідэалы. У духоўнай вытворчасці культура выконвае шэраг функцый, якія неабходныя для рэгуляцыі грамадства, чалавека і яго дзейнасці. Поліфункцыянальнасць культуры адзначаюць многія вучоныя. Яны па-рознаму вызначаюць, класіфікуюць і апісваюць сацыяльныя функцыі культуры. Але сярод асноўных функцый многія сучасныя культуролагі вылучаюць *кампенсатарную*. А.С.Каргін лічыць, напрыклад, што гэтую функцыю выконваюць формы дзейнасці, звязаныя з пазіцыяй асобы ў грамадстве, а таксама формы адпачынку і псіхічнай разрадкі. Б.С.Ерасаў пад кампенсатарнай функцыяй разумее дзейнасць, якая забяспечвае розныя формы духоўнай і псіхалагічнай разрадкі, ухіленне ад рэальных цяжкасцей і адпачынак ад жыццёвых праблем.

Некаторыя культуролагі не ўжываюць паняцця “кампенсатарная функцыя”, а карыстаюцца тэрмінам “рэкрэацыйная дзейнасць”. Толькі ва ўмовах сацыяльна ўстойлівага грамадства, якое забяспечваецца дзякуючы эканамічнаму росту і справядліваму размеркаванню нацыянальнага прадукту, сацыяльныя інстытуты здольныя ствараць сістэму формаў, традыцый і звычаяў, што рэгламентуюць спосабы зняцця псіхічнай напружанасці ў людзей. Такімі формамі з’яўляюцца гульні, спорт, масавае мастацтва, вячоркі, пікнікі, разнастайныя хобі і інш. Важнейшую ролю адыгрываюць святы, правядзенне якіх прадугледжвае стварэнне атмасферы раскаванасці і творчасці. Ва ўмовах жа глабальных сацыяльных зрухаў сацыякультурным установам неабходна клапаціцца не столькі аб арганізацыі вольнага часу і адпачынку, колькі аб стварэнні асаблівай сферы, у якой бы падтрымліваліся часовыя нішы для эмацыянальна значнай рэалізацыі тых чаканняў, якія не могуць быць ажыццёўлены на справе. Такую духоўную кампенсацыю чалавек можа атрымаць ад заняткаў мастацкай культурай, творчай дзейнасцю, ад удзелу ў святах, фестывалях, конкурсах, ад зносін з прыродай і г.д.

Кампенсатарная дзейнасць разлічана ў асноўным на геданістычна арыентаванага гледача, які спадзяецца, што ўспрыманне мастацтва не будзе патрабаваць ад яго асаблівых намаганняў і будзе адбывацца лёгка, само па сабе. Сучасныя даследаванні паказваюць, што сярод насельніцтва прыкладна каля 50% геданістычна арыентаваных людзей.

Культура ў гэтым выпадку павінна стаць гаючай сілай, здольнай вярнуць індывіду цэласнасць: адчувальнага чалавека



зрабіць разумным, а рацыянальнага — эмацыянальным. На думку Гегеля, мастацтва існуе як сапраўдная творчасць і выконвае сваю вялікую місію да таго часу, пакуль яму ўдаецца пераадольваць сваімі вобразамі негатыўны жыццёвы матэрыял, сцвярджаючы сілу чалавечага духу. Яшчэ ў антычныя часы ўзнікла меркаванне, што, нягледзячы на драматычныя і трагічныя калізіі, творы мастацтва заўсёды аказваюць ачышчальны эфект, гарманізуюць страсці і эмоцыі, асвятляюць душу чалавека. Так, Арыстоцель у вядомай “Паэтыцы” адзначаў выхаваўчае і ачышчальнае значэнне музыкі, дзякуючы якой людзі атрымліваюць палёгку і вызваляюцца ад афектаў, адчуваючы радасць.

Падобныя думкі выказваў і Л.С.Выгоцкі. Пад ***катарсісам*** ён разумеў эмацыянальную рэакцыю, якая адбываецца ў двух супрацьлеглых кірунках і ў завяршальным пункце, як бы ў кароткім замыканні, знаходзіць сваё заканчэнне. Вывучэннем працэсу мастацкага ўспрымання займаўся нямецкі эстэтык Тэадор Ліпс, які адзначаў, што ўспрыманне — гэта не пазнанне аб’екта, а своеасаблівы катарсіс, які дазваляе адчуць самакаштоўнасць асабістай дзейнасці. Распрацоўкай тэорыі мастацкага ўздзеяння твораў выяўленчага мастацтва на асобу займаліся А.А.Патабня, М.А.Бярдзяеў, Р.Арнхейм і інш.

Прадстаўніком эстэтычных тэорый XX ст. з’яўляецца Анры Бергсан, які распрацаваў канцэпцыю нерацыянальных перадумоў мастацкай творчасці, дзе сцвярджае, што мастацтва здольнае паралізаваць празмернае развіццё рэфлексіі і ў выніку нейтралізаваць страх чалавека перад жыццём. Андрэ Мальро ў сваіх разважаннях зыходзіў з таго, што прырода мастацтва і яго асноўны сэнс заключаюцца ў ачалавечванні чалавека. Сацыяльныя функцыі мастацтва адстойвалі Жан Поль Сартр і Альбер Камю. “Няўлоўны і трывожны пошук, які вядзе мастацтва, — сцвярджаў А.Камю, — змякчае ліхаманкавую напружанасць загнанага чалавека, дапамагае палюбіць гэты абмежаваны і смяротны свет”.

Такім чынам, мастацкая культура адыгрывае адметную ролю ў існаванні і жыццядзейнасці людзей, забяспечвае ў спалучэнні з рацыянальным кантынуумам неабходную цэласнасць быцця і стымулюе творчае выяўленне чалавека.

### 9.3. Карэкцыя псіхафункцыянальнага стану асобы актыўнай і рэцэптыўнай музыкатэрапіяй

Выкарыстанне музыкі ў лячэбных мэтах (музыкатэрапія) мае старажытную гісторыю. Яшчэ ў “Каноне лекарскай навукі” Аві-

цэна сцвярджаў, што музыка можа выкарыстоўвацца ў якасці сродку вызвалення чалавека ад эмацыянальнага напружання і выратавання ад псіхалагічнага надлому.

Дваццаць гадоў у польскім горадзе Вроцлаве існуе Інстытут музычнай тэрапіі. Інстытут мае свае філіялы ў Варшаве, Гданьску, іншых гарадах. Эксперыментальна ўстаноўлена: найлепшае ўздзеянне на людзей, якія знаходзяцца ў стане стрэсу, аказваюць творы І.Баха, Э.Грыга і Л.Бетховена. Псіхолагі многіх краін свету адзначаюць дабратворны ўплыў музыкі на хворых неўрозамі і шэрагам псіхічных захворванняў. Даследаванні паказваюць: мелодыі, што ствараюць прыемны настрой, прыносяць чалавеку задавальненне, паскараюць яго пульс, павялічваюць сілу сардэчных скарачэнняў, паніжаюць артэрыяльны ціск, пашыраюць сасуды. У краінах Еўропы вялікая колькасць музыказнаўцаў, псіхолагаў, псіхатэрапеўтаў займаюцца пытаннямі практычнага выкарыстання музыкі для зняцця псіхалагічнага стрэсу. Створаны нават спецыяльныя музычныя праграмы, якія трансліруюцца па радыё на прадпрыемствах, ва ўстановах.

Спецыфічнай уласцівасцю музыкі з'яўляецца здольнасць ненавязліва і разам з тым моцна ўздзейнічаць на асобу, выклікаць глыбокія рэакцыі. Музычнае мастацтва не толькі выяўляе суб'ектыўныя пачуцці індывіда, але і з'яўляецца носьбітам вялікіх грамадскіх ідэй. Музыка дапамагае стварыць пэўныя грамадскія адносіны, уплывае на перакананні чалавека і яго светапогляд. Вядома, што музычнае мастацтва ўплывае не толькі на эмацыянальнае і эстэтычнае выхаванне, але і на пазнанне, эстэтычныя пачуцці і паводзіны чалавека, садзейнічае камунікацыі, умацоўвае чалавечыя адносіны. Душэўныя імпульсы і пабуджэнні, якія ўзнікаюць пры слуханні музыкі, уплываюць на характар чалавека.

Чэшскія музыкатэрапеўты З.Матэёва і С.Машура падкрэсліваюць спецыфічныя і унікальныя магчымасці мэтанакіраванага ўздзеяння музыкі на змяненне псіхалагічнага і саматычнага стану чалавека. Гэта ўздзеянне не толькі ў невербальнай, разнастайнай па форме эмацыянальнай сувязі музыкі з чалавекам, але і ў спецыфічным уздзеянні рытму, мелодыі і гармоніі, якія складаюць аснову музыкі і пранікаюць у глыбіню псіхікі. Кожны музычны твор уяўляе сабой сінтэз гэтых элементаў. Чалавек непасрэдна рэагуе на рытмічна-тактавы элемент працэсамі дыхання і кровазвароту, а працэсамі, што працякаюць ў вегетатыўнай нервовай сістэме, і дзейнасцю рэцэптараў — на мелодыю.

Шырокія магчымасці лячэбнага ўздзеяння музыкі на арганізм чалавека паслужылі штуршком для ўзнікнення новага навуковага



кірунку — музыкатэрапіі як аднаго з лячэбна-выхаваўчых метадаў. Пад ***музыкатэрапіяй*** разумеецца псіхатэрапеўтычны метад, які выкарыстоўвае музычнае мастацтва ў якасці лячэбнага сродку.

Тэорыя і практыка музыкатэрапіі ў наш час вельмі разнастайныя. Гэтая галіна падрабязна і глыбока распрацавана і пастаўлена на клінічную і эмпірычную асновы. Яна выкарыстоўваецца ў Галандыі, Даніі, Германіі, Ісландыі, Іспаніі, Нарвегіі, Фінляндыі, Польшчы, Чэхіі, Швецыі, ЗША, Расіі і іншых краінах свету. У заходнееўрапейскіх краінах і ЗША створаны таварыствы музыкатэрапеўтаў. Шырока вядомая дзейнасць трох еўрапейскіх музыкатэрапеўтычных цэнтраў, якія шмат зрабілі для развіцця музыкатэрапіі: Лонданскага, Капенгагенскага і Ратэрдамскага. Музыкатэрапія як вучэбны прадмет выкладаецца ў Венскай музычнай акадэміі, Гданьскай кансерваторыі і іншых еўрапейскіх вышэйшых навучальных установах. Яе актыўна выкарыстоўвалі расійскія тэрапеўты В.А.Гіляроўскі, Л.С.Брусілоўскі, В.Ю.Заўялаў і інш.

Тэарэтыкі і практыкі лічаць, што музыка ў параўнанні з іншымі відамі мастацтва валодае больш абстрактнымі і менш прадметнымі сродкамі выяўлення, яны аказваюць непасрэднае і інтэнсіўнае эмацыянальнае ўздзеянне. Музыка належыць да невербальнай формы камунікацыі, але ў пэўнай сферы пачуццяў і міжасобасных зносін яна больш рэзультатыўная, чым моўныя зносіны. На падставе тэарэтычных уяўленняў і вопыту мэтанакіравана выкарыстоўваюцца разнастайныя магчымасці актыўнай і пасіўнай музычнай камунікацыі ад яе прасцейшых формаў і да самастойнай творчай імправізацыі, якая мае лячэбныя мэты.

Вызначаюць ***актыўную*** і ***рэцэптыўную*** музыкатэрапію. Пад актыўнай разумеецца тэрапеўтычна накіраваная, актыўная музычная дзейнасць: узнаўленне, фантазіраванне, імправізацыя з дапамогай чалавечага голасу і музычных інструментаў. Рэцэптыўная музыкатэрапія прадугледжвае працэс успрымання музыкі з тэрапеўтычнай мэтай. Яна можа існаваць у камунікатыўнай, рэактыўнай і рэгулятыўнай формах. Камунікатыўная форма музыкатэрапіі прадугледжвае сумеснае праслухоўванне музыкі, накіраванае на падтрыманне ўзаемных кантактаў, узаемаразумення і даверу. Мэта рэактыўнай тэрапіі музыкай — дасягненне катарсісу. З дапамогай рэгулятыўнай формы музыкатэрапіі можна дабіцца зніжэння нервова-псіхічнай напружанасці. У лекарскай практыцы найчасцей ужываецца рэцэптыўная музыкатэрапія. Усе формы музыкатэрапіі сваімі спецыфічнымі метадамі

і сродкамі ўплываюць на людзей з сацыяльнымі, псіхічнымі або саматычнымі адхіленнямі, дапамагаюць выхоўваць і перавыхоўваць іх, падрыхтоўваюць да станоўчай адаптацыі ў нармальных жыццёвых умовах.

У Беларусі назапашаны пэўны вопыт выкарыстання музыкатэрапіі па-за клінікай, у музыкатэрапеўтычных цэнтрах, якія створаны ў 90-я гады мінулага стагоддзя пры санаторыях, школах, рэабілітацыйных пунктах. Даследчык музычнага мастацтва Беларусі А.І.Смагін лічыць, што спевы аказваюць станоўчы ўплыў на дыханне, сардэчную дзейнасць, страваванне. Ён адзначае лячэбнае ўздзеянне спеваў на дзяцей з псіхічнымі, саматычнымі, рухальнымі, моўнымі і іншымі парушэннямі. Асабліва карысныя групавыя спевы, якія з'яўляюцца дзейсным сродкам зняцця напружання, гарманізацыі асобы дзіцяці, даюць яму магчымасць заняць у групе выгаднае стабільнае становішча.

Музыкатэрапеўтамі заўважана, што эфектыўнасць спеваў залежыць ад асяроддзя, адпаведнага атмасферы расслаблення, камфорту, непасрэдных зносін і творчай радасці ад спеваў у групе. Спосаб і формы спеваў павінны быць прыемнымі, разнастайнымі па выразнасці. Гэтаму могуць садзейнічаць музычная імправізацыя і музычнае суправаджэнне, розныя камбінацыі спеваў з рытмічнай, светлавой сігналізацыямі, групавымі гульнямі, музыкамаляваннем.

Найбольш эфектыўнымі і папулярнымі сярод дзяцей і дарослых з'яўляюцца праграмы музычнай рэлаксацыі. На занятках выпрацоўваюцца свядомае і пачуццёвае ўспрыманне рытму, здольнасці псіхічна і саматычна падпарадкоўвацца ўплыву рытму музыкі. Эмоцыі, выкліканыя гарманічным зліццём рытму рухаў з рытмам музыкі, разам з паступовым паглыбленнем інтэнсіўнасці псіхічнага, саматычнага перажывання аказваюць непасрэднае станоўчае ўздзеянне, ствараюць спецыфічныя ўмовы для поўнага расслаблення і змены псіхічнага стану дзяцей, якія перанеслі стрэсавую сітуацыю.

У змесце музыкатэрапеўтычнага практыкуму гульні займаюць значнае месца. Пры дапамозе іх зместу рухальная энергія вызваляецца і адначасова рэгулюецца. У музычна-рухальных гульнях галоўным невербальным стымулам з'яўлялася музыка з вызначальнай, рэгулюючай і каардынуючай сілай музычнага рытму. Дзякуючы рэгулюючай сіле рытму музыка расслабляе і стымулюе ўздзеянне на рухі ўдзельнікаў гульні, якія адпавядаюць рытмам музыкі. Менавіта гэтым дасягаецца псіхічная і саматычная рэлаксацыя.



Музычна-рухальныя гульні з'яўляюцца крыніцай новых прыемных уражанняў, дзякуючы чаму ўмацоўваецца агульная псіхічная стабільнасць.

Вопыт сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі ў рэабілітацыйным цэнтры, які створаны ў клініцы НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне, сведчыць аб эфектыўным лячэбным уздзеянні ігры на музычных інструментах, рытмічнага дэкламавання, якія дапаўняюць, развіваюць вакальную, музычна-рухальную, моўную формы музыкатэрапіі. Галоўная каштоўнасць яе — не толькі ва ўсебаковай актывізацыі асобы, але і ў мэтанакіраваным лячэбна-выхаваўчым уздзеянні на паталагічна зменены рытм хворага з псіхічнымі і саматычнымі парушэннямі. Хворым прапаноўвалася групавая ігра на прымітыўных музычных інструментах: барабанах, тымпанах, драўляных бразготках, талерках, кастаньетах, маракасах, тамбурынах з талерачкамі і трохвугольніках. У далейшым прымяняліся джазавы барабан, металафон, кларнет, бубен. Папярэдняе знаёмства хворых з інструментамі заключалася ў запамінанні іх назваў, вызначэнні характару гучання, спосабаў правільнай ігры на іх. Для найлепшага засваення матэрыялу музыкатэрапеўты звярталіся да моўнай дзейнасці, адначасовай з гучаннем інструмента. Хворы, у руках якога знаходзіўся інструмент, іграў на ім у рытме дэкламавання, уся група называла інструмент. Гэтак жа арганізоўвалася дэкламацыя вядомых вершаў з выкарыстаннем розных музычных інструментаў.

Разам са спевамі, ігрой на музычных інструментах у актыўную частку музыкатэрапіі нярэдка ўключалася музыкамаляванне. Практыкі адзначаюць, што музыкамаляванне з'яўляецца не толькі выразным сродкам, але і спосабам асэнсавання канфліктаў, якія глыбока пранікаюць у псіхіку дзяцей.

Для зняцця псіхічнага напружання, развіцця фантазіі тэрапеўты часта спалучалі музыку з пантамімай як формай, у якой мову замяняюць рухі, жэсты і міміка. У якасці музычнага суправаджэння выкарыстоўвалася звычайна імправізацыя на фартэпіяна. На падрыхтоўчым этапе хворым расказвалі простыя, даступныя і блізкія іх інтарэсам маленькія апавяданні або драматычныя эцюды, якія суправаджала музычная імправізацыя. Затым тэрапеўт, выкарыстоўваючы прыёмы пантамімы, паказваў тое, што закладзена ў змесце, прапаноўваў хворым па чарзе працягваць яго апавяданне. Паступова заданне ўскладнялася. Тэрапеўт расказваў гісторыю або змест драматычнага твора ў суправаджэнні музычнай імправізацыі, потым з дапамогай адной толькі музыкі заахвочваў хворых паказваць некаторыя элементы яго

расказу. І, нарэшце, змест апавядання тлумачыўся толькі музыкай. Не размаўляючы з хворымі, тэрапеўт прымушаў іх прыдумаць выпадак, паказаць яго ў пантаміме. У выніку з дапамогай музыкі, пантамімы ўзмацняўся працэс зняцця псіхічнага напружання, рэгулявалася дзейнасць механізмаў прыроднага індывідуальнага і штучнага музычных рытмаў.

Такім чынам, музыка займае асобнае месца сярод мастацтваў па сіле эмацыянальнага ўздзеяння на чалавека, яна знаходзіцца на вышэйшай ступені эстэтычных каштоўнасцей і па сваім пачуццёвым выяўленні найбольш блізка ўспрыманню чалавека.

Выяўленне эфектыўнасці ўздзеяння музыкі на псіхафункцыянальны стан чалавека дае падставы сцвярджаць, што рэцэптыўная і актыўная музыкатэрапія павінна актыўна выкарыстоўвацца ў дачыненні да шырокага кола насельніцтва нашай краіны, якое мае патрэбу ў карэкцыі псіхалагічнага стану. У Беларусі неабходна ствараць разгалінаваную сетку музычных цэнтраў, якія б ажыццяўлялі эмацыянальную разрадку і рэгуляванне эмацыянальнага стану рознаўзроставага насельніцтва. Цэнтры музычнай тэрапіі маглі б ствараца на аснове ўстаноў клубнага тыпу. Рэабілітацыя насельніцтва сродкамі музычнага мастацтва і творчай дзейнасці можа быць адным з кірункаў клубнай работы.

### 9.4. Арттэрапія як спосаб пераадолення фрустрацыі і змянення самаацэнкі асобы

У сучасны перыяд вялікую папулярнасць набыла дзейнасць па выкарыстанні прыкладных відаў мастацкай творчасці для самавыяўлення асобы. Асабліва эфектыўным з'яўляецца метад арттэрапіі, які разглядаецца як сродак адаптацыі чалавека з дапамогай пластычнай выяўленчай творчасці. Тэрмін ''арттэрапія'' прапанаваны ў пачатку XX ст. рускім урачом А.І.Яроцкім для абазначэння спецыяльнага псіхатэрапеўтычнага метаду, які ўздзейнічае на асобныя бакі душэўнага жыцця. Творчыя віды рэабілітацыі, у прыватнасці разьба па дрэве, чаканка, лепка, маляванне, выпальванне, выраб мазаікі, вітражоў, цацак з тканіны, гліны, актыўна ўкараняюцца ў практыку рэабілітацыйных цэнтраў, псіхіятрычных і агульнасаматычных шпіталяў, клінік, школ, турмаў і інш. У літаратуры, прысвечанай рэабілітацыйным функцыям прыкладных відаў мастацкай творчасці, падкрэсліваецца асаблівае значэнне мастацтва як гарманізуючага фактару. Далучэнне да мастацтва садзейнічае ўзбагачэнню духоўнага свету



чалавека, стымулюе яго творчую актыўнасць і сацыякультурную дзейнасць.

Аматарская выяўленчая творчасць, якая развіваецца ў рэгіёнах, найбольш пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы, з'яўляецца актыўнай формай далучэння насельніцтва да мастацтва.

Мастакі, калекцыянеры шэрага заходнееўрапейскіх краін практыкавалі правядзенне выстаў у бальніцах, хоспісах. Вывучэнне лячэбнага ўздзеяння мастацтва на людзей з неўратычнымі расстройствамі сведчыць, што сузіранне твораў жывапісу, графікі дабратворна ўплывае на псіхафункцыянальны стан хворых. Аднак шматлікія клінічныя даследаванні псіхатэрапеўтаў паказваюць, што розныя творы выяўленчага мастацтва па-рознаму ўздзейнічаюць на хворых. Так, М.Е.Бурно пры тэрапіі сродкамі выяўленчага мастацтва рэкамендуе выкарыстоўваць творы Рафаэля, Веласкеса, Гойі, Рубенса, Ван Дэйка, Лявіцкага, Шышкіна, Фёдарава, Леанарда да Вінчы, Батычэлі, Пусэна, Ван Гога, Пікасо, Далі, Шагала, Рабушкіна, Мікеланджэла, Брулова, Сурыкава, Малявіна. М.Я. Лупічаў сцвярджае, што творы Батычэлі добра здымаюць болевы сіндром, карціны Матыса карысныя пры хваробе нырак, Пікасо — пры парушэннях у кары галаўнога мозга.

Арттэрапеўты прыйшлі да высновы, што на хворых дабратворна ўплываюць не толькі сузіранне твораў жывапісу, але яшчэ ў большай ступені непасрэдны ўдзел у маляванні, лепцы і іншых занятках. Шматлікія даследаванні клініцыстаў паказваюць, што маляванне дапамагае хвораму перш за ўсё тым, што адцягвае яго ад перажыванняў прыемным, эмацыянальным заняткам, які патрабуе затраты і эмацыянальных, і інтэлектуальных сіл. Расійскія псіхатэрапеўты Г.В.Буркоўскі і Р.Б.Хайкін падкрэслівалі камунікатыўную ролю сумеснага малявання. Яны адзначалі, што з яго дапамогай можна пераадолець фрустрацыю, змяніць самаацэнку чалавека.

Аматарская творчасць існуе ў дзвюх формах: арганізаванай, дзе пэўная частка мастакоў-аматараў аб'яднана ў студыі, гурткі, творчыя клубы, і ў форме самастойнай працы. Першая характарызуецца тым, што ў ёй самадзейныя аўтары працуюць у калектыўных аб'яднаннях пад непасрэдным кіраўніцтвам прафесійных ці вопытных самадзейных мастакоў. У гэтым выпадку з'яўляецца добрая магчымасць арганізацыі праектыўнай арттэрапіі, дзе задачай выступае атрыманне дадатковай інфармацыі аб праблемах асобных людзей ці групы ў цэлым. Праектыўны малюнак садзейнічае выяўленню і асэнсаванню цяжка вербалізуемых пра-

блем і перажыванняў чалавека. Для праектыўнай арттэрапіі якасць не мае істотнага значэння. Тэмы, што прапануюцца для малявання, могуць быць разнастайнымі і тычыцца як індывідуальных, так і агульных праблем.

Кожны мастак-аматар у сваіх творах, як правіла, адлюстроўвае тыя бакі жыцця, што з'яўляюцца для яго найбольш вядомымі і блізкімі. Аб'ект невычэрпных тэм — перш за ўсё сам характар вытворчай дзейнасці, якой пастаянна заняты мастак. Самадзейнаму мастаку вельмі важна паказаць знаёмую і блізкую яму працу ў яе натуральнай абалонцы, без дадатковых упрыгожанняў і падмалёвак. Кампазіцыі на вытворчую тэматыку ствараюцца з вялікай сур'ёзнасцю і адказнасцю, паколькі мастак не толькі адлюстроўвае знешні бок, але і імкнецца раскрыць унутраную сутнасць справы, з якой звязана ўсё яго жыццё.

Вобраз чалавека ў творчасці "наіўных" мастакоў займае адно з асноўных месцаў. Тыя абставіны, у якіх мастакі штодзённа працуюць, жывуць, адпачываюць, даюць найбагацейшы матэрыял для работы над партрэтам. Унутраная патрэба ў тым, каб адлюстраваць на палатне ці паперы сваіх сяброў, калег, суседзяў, сваякоў, знаёмых, стымулюе творчае самавыяўленне мастака. Творам самадзейных мастакоў уласцівыя стылізаванасць, спрошчанасць малюнка, каларыстычная абагульненасць, якая наблізкаецца да дэкаратыўна-плоскаснага рашэння, аднолькавасць апрацоўкі асноўных і другарадных дэталей, іх ярка выяўленая дыспрапорцыя. Тут значную ролю адыгрываюць асаблівасці пачуццёвага ўспрымання выканаўцы. Не менш важнымі з'яўляюцца і пошукі знешняга падабенства партрэтаванага. Аўтары імкнуцца падкрэсліць найбольш характэрныя рысы мадэлі, зафіксаваць асаблівасці твару, фігуры, якія маглі быць нават і не істотнымі для рашэння партрэта ў вобразным сэнсе. У рабоце над партрэтам, напрыклад, мала выкарыстоўваюцца колеры, "не падобныя на натуру", аднак смела і інтэнсіўна малююцца дэталі адзення, фон. У выніку партрэт набывае прыметы хутчэй партрэта-тыпу, чым канкрэтнага чалавека.

Творчасць для большай масы самадзейных мастакоў з'яўляецца крыніцай арганізацыі вольнага часу. Пэўная частка іх мастацтвам займаецца не выпадкова, таму што патрэбнасць у творчым самавыяўленні закладвалася яшчэ ў дзіцячыя гады, і толькі з прычыны сямейных, бытавых і іншых абставін не было магчымасці прысвяціць дадатковы час любімаму захапленню. Ужо значна пазней, калі былі вырашаны многія жыццёвыя пытанні, з'явіліся ўмовы для практычных заняткаў творчай дзейнасцю.



Некаторыя самадзейныя мастакі адносяцца да "спадчыннай" катэгорыі людзей з прыроджанымі здольнасцямі да выяўленчай творчасці. Патрэба ў творчай дзейнасці ў іх сфарміравалася праз працэс мастацкага афармлення насценных газет, лозунгаў, святочных транспарантаў ці праз капіраванне паштовак, рэпрадукцый з карцін вядомых майстроў жывапісу. Адным словам, рухальнай сілай людзей да творчага працэсу з'яўляюцца спантаннае жаданне сказаць сваё слова сродкамі мастацтва, адкрыць штосьці новае, рабіць са штодзённага прыгожае, цікавае, унутраная патрэба ў мастацкім самавыяўленні, рэалізацыі таленту, прыроднага дару.

Спецыялісты адзначаюць важнасць абмеркавання малюнкаў для пераадолення дэзадаптыўных паводзін людзей з псіхагеннымі расстройствамі. Мэтазгодна абмеркаванне пачынаць з выступлення члена гуртка або студыі аб тым, што хацеў паказаць аўтар малюнка, што ён жадаў выказаць. Члены гуртка або студыі выказваюць свае думкі аб тым, як яны зразумелі задуму мастака, якія пачуцці выклікае малюнак ці карціна. Пасля аўтар твора расказвае аб уласнай задуме і сваім разуменні малюнка. Асаблівую цікавасць уяўляюць разыходжанні ў разуменні і інтэрпрэтацыях членаў гуртка і мастака, якія могуць быць абумоўлены як наяўнасцю ў малюнку не асэнсаваных аўтарам элементаў, так і праекцыяй праблем іншых удзельнікаў абмеркавання. Пры інтэрпрэтацыі малюнка важна звяртаць увагу на змест, колер, форму, кампазіцыю, спецыфічныя асаблівасці малюнка і інш.

Амерыканскія арттэрапеўты Л.Гант і М.С.Шмаль адзначаюць, што, акрамя малявання, для самавыяўлення, самасцвярджэння і духоўнага ўзбагачэння асобы можна эфектыўна выкарыстоўваць іншыя прыкладныя віды мастацкай творчасці, якія добра развітыя ў соцыуме.

Наша краіна адметная багаццем і разнастайнасцю рамёстваў, промыслаў і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Апошняе адлюстроўвае светапогляд людзей, прыўносіць духоўны пачатак у штодзённасць. Паўсюдна ў нашай рэспубліцы шырока развітыя такія віды рамёстваў, як апрацоўка дрэва, чорных і каляровых металаў, ганчарства, вырабы з саломкі, лазы, бяросты, паперы, роспісы па дрэве, шкле, тканіне, ткацтва і вышыўка. Дзейнасць органаў і ўстаноў культуры Рэспублікі Беларусь скіравана ў асноўным на адраджэнне і развіццё нацыянальнай традыцыйнай культуры. Жанр дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва набыў шырокую папулярнасць сярод насельніцтва і падтрымку з боку ўстаноў культуры. У рэспубліцы вядзецца работа па аб'яднанні народных майстроў і мастакоў-аматараў у клубы, студыі, майстэрні, аматарскія

аб'яднанні, Дамы рамёстваў і цэнтры народных промыслаў. Асваенне традыцыйнага мастацтва ажыццяўляецца пры бібліятэках, музеях, школах і іншых установах. Па статыстычных даных, у 2002 г. у Беларусі існавалі 32 Дамы (цэнтры) рамёстваў, з іх сельскіх — 14; 30 Дамоў (цэнтраў) фальклору, з іх на сяле — 25; школ народнай творчасці — 40, з іх сельскіх — 39. Найбольшая колькасць новых тыпаў устаноў культуры існавала ў Гомельскай вобласці — 17 адзінак, з іх адзін раённы цэнтр фальклору (у Жыткавічах), 16 — сельскія.

Разгалінаваная сетка ўстаноў, дзе праводзяцца заняткі па асваенні традыцыйных і сучасных відаў мастацкай творчасці, сведчыць аб тым, што ў сацыякультурных інстытутаў нашай краіны ёсць рэальная магчымасць выкарыстання ў рэабілітацыйных мэтах метаду гештальттэрапіі.

### 9.5. Творчасць як сродак карэкцыі кагнітыўнай, эмацыянальнай і паводзінскай сфер асобы

Выкарыстанне творчай работы для выяўлення і раскрыцця асобы праз мастацкія і стваральныя заняткі абгрунтаваў амерыканскі псіхатэрапеўт Ф.С.Перлс. Гэты метад узнік у рэчышчы фенаменалагічнага падыходу, які патрабуе неабходнасць асэнсавання пацыентам існуючага і важнасць непасрэднага эмацыянальнага перажывання. Фенаменалагічны падыход у гештальттэрапіі супрацьпастаўляўся традыцыйнаму падыходу, пры якім намаганні псіхатэрапеўта накіроўваліся на пошукі прычын расстройстваў у пацыента ў мінулым. Узнікненне і задавальненне патрэбнасцей Перлс і яго прыхільнікі разглядалі як рытм фарміравання і завяршэння гештальтаў. Функцыянаванне матывацыйнай сферы павінна ажыццяўляцца па прынцыпе самарэгуляцыі арганізма. Чалавеку трэба знаходзіцца ў раўнавазе з сабой. Для захавання гармоніі неабходна толькі прыслухоўвацца да патрэбнасцей арганізма і не перашкаджаць іх рэалізацыі. Быць сабой, рэалізоўваць сваё "Я", свае патрэбнасці, схільнасці, здольнасці — гэта шлях да гарманічнай, здаровай асобы.

Парушэнне працэсу самарэгуляцыі, паводле аўтараў метаду гештальттэрапіі, назіраецца ў тых выпадках, калі якія-небудзь патрэбнасці не могуць быць задаволены па прычыне іх блакіравання сацыяльным асяроддзем. Тады энергія, назапашаная арганізмам для маніпуліравання ў знешнім асяроддзі, накіроўваецца на самога сябе. У гэтым выпадку чалавек адмаўляецца ад рэалізацыі свайго "Я". У выніку ўласныя мэты і патрэбнасці яго аказваюцца незадаволенымі, ён перажывае фрустрацыю, расчараванне і адчуванне бессэнсоўнасці існавання.



Нямецкі псіхатэрапеўт Е.Бініек абазначае тэрмінам "гештальттэрапія" *тэрапеўтычнае ўмяшанне праз выяўленчыя паводзіны* (Gestaltenlossen). Мэта гештальттэрапіі, паводле Е.Бініека, заключаецца ў тым, каб з дапамогай творчай дзейнасці абудзіць спантаннасць, арыгінальнасць, здольнасць раскрывацца душэўна. Значыць, далучэнне да творчай дзейнасці неабходнае не само па сабе, а ў якасці перадумовы аднаго з магутнейшых сродкаў уплыву на фарміраванне актыўнага супраціўлення захворванню.

У вызначаным кантэксце пад ***творчасцю*** разумеецца асобая форма творчай прадукцыйнай дзейнасці ў розных відах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якая адпавядае патрабаванням сацыяльнай рэабілітацыі і ў канчатковым выніку накіравана на аднаўленне дынамічнай раўнавагі сістэмы гомеастатычных самарэгулюемых механізмаў арганізма чалавека, пашкоджанага ў выніку стрэсавага ўздзеяння.

Такім чынам, зносіны чалавека з творчасцю не толькі крыніца абуджэння здольнасці ўспрымаць і ствараць прыгожае. Творчасць можна разглядаць як сродак развіцця спецыфічнай і разам з тым універсальнай здольнасці, якая можа быць выкарыстана ў любой сферы чалавечай дзейнасці і пазнання. Навыкі, набытыя ў працэсе творчасці, чалавек можа пераносіць у працоўную, вучэбную, сацыяльную дзейнасць, сферу быту і зносіны.

Значыць, далучэнне дэзадаптаваных людзей да творчасці стымулюе ў поўнай меры іх развіццё, таму што творчая дзейнасць выступае, з аднаго боку, як сродак актывізацыі і ўмацавання ўласцівасцей і здольнасцей, неабходных у іншых відах дзейнасці, з другога — як спецыфічная форма пазнання рэчаіснасці, неад'емная частка культуры, без авалодання якой немагчымая актыўная сацыяльная дзейнасць.

Мэтам і задачам гештальттэрапіі найбольш адпавядаюць Дамы (цэнтры) рамёстваў, якія маюць прыстасаваныя да творчай дзейнасці будынкі, класы, майстэрні. Яны ў параўнанні з сельскімі клубамі лепш забяспечаны кваліфікаванымі кадрамі, абсталяваннем і інструментам, неабходнымі матэрыяламі і сыравінай, метадычнай літаратурай па рамёствах. Менавіта гэтым тлумачыцца шырокае распаўсюджванне аматарскай мастацкай творчасці, якая характарызуецца значнымі змястоўнымі, вобразнапластычнымі і тэхніка-выканаўчымі дасягненнямі ў засваенні

набытага багажу народнага мастацтва, атрыманні яго ў спадчыну, пераасэнсаванні і далейшым развіцці.

У Дамах рамёстваў, гуртках і студыях папулярны такі від творчай дзейнасці, як скульптура, што развіваецца ў разнастайных формах, матэрыялах і мастацка-вобразных манерах. Найбольш распаўсюджанай і даступнай для непрафесійных творцаў з'яўляецца скульптура малых формаў. Майстры-аматары аб'ёмнай пластыкі актыўна і паспяхова асвойваюць такія матэрыялы, як дрэва, гіпс, а таксама кераміку.

У творах аматараў-скульптараў атрымліваюць самае шырокае адлюстраванне рэальныя і актуальныя бакі жыцця. Значнае месца ў скульптуры, і асабліва ў драўлянай пластыцы, займаюць фальклорныя матывы. Многія майстры звяртаюцца да класічнага народнага мастацтва. Яны быццам нанава пераасэнсоўваюць яго эстэтычныя каноны, бяруць тэмы і ўзоры, праламляючы іх праз прызму сучаснага жыцця.

У выставачных экспазіцыях прыметна павялічылася колькасць работ гумарыстычнага і сатырычнага зместу. У сюжэты сваіх твораў аўтары ўводзяць жывёл, птушак, раслінны свет. Яны кампануюць адзіную сэнсавую карціну. Для сваіх шматфігурных кампазіцый часта запазычваюць сюжэты і тэмы з літаратурных крыніц, казак, прымавак, многае бяруць з фальклору, па-свойму яго перапрацоўваюць і трактуюць. Можна адзначыць, што творчасць кожнага майстра ўяўляе сабой адзін са шляхоў пазнання матэрыяльнага свету. Некаторыя з іх звяртаюцца да гісторыі далёкага мінулага нашага народа, спрабуюць раскрыць яго невычэрпны па багацці і сіле духоўны патэнцыял, другія выкарыстоўваюць і перапрацоўваюць сучасны матэрыял, трэція выдатна адчуваюць сябе ў свеце легендаў і фантазій. Усё гэта садзейнічае расслабленню, зняццю напружанасці, умацаванню ўпэўненасці ў сабе, абуджэнню творчых сіл.

Арттэрапеўты заўважылі дабратворны ўплыў на псіхіку дэзадаптаваных людзей такіх мастацка-прыкладных работ, як лепка, пляценне, вязанне, вышыўка. Асаблівага развіцця дасягнула керамічная творчасць. Пад кіраўніцтвам майстроў-аматараў і кваліфікаваных выкладчыкаў засвойваюцца розныя спосабы вытворчасці ганчарных вырабаў і іх апрацоўкі. Пры дапамозе ганчарнага круга і ручной лепкі вырабляюцца посуд і утылітарна-дэкаратыўная кераміка. Папулярным відам самадзейнага мастацтва з'яўляецца выраб разнастайных рэчаў бытавога прызначэння і дэкаратыўнага ўпрыгожання саломы, лазы, лубу, бярösты, чароту і інш.



Такім чынам, дзейнасць сацыяльна-культурных інстытутаў па вывучэнні, захаванні і развіцці народнага мастацтва стварае перадумовы для актыўнага выкарыстання арттэрапіі і гештальттэрапіі ў мэтах карэкцыі кагнітыўнай, эмацыянальнай і паводзінскай сфер дэзадаптаванага чалавека.

Адным з кірункаў сучаснай арттэрапіі з'яўляецца выкарыстанне танца, пластыкі і рытмікі ў лячэбных і прафілактычных мэтах. Развіццё і станаўленне харэатэрапіі пачаліся ў 30-я гады XX ст. і былі звязаны з псіхатэрапеўтычнай дзейнасцю Чэйза. Распрацоўкай гэтага арттэрапеўтычнага метаду займаліся Т.Менегеці і С.Слаўсан, якія аднасілі харэатэрапію да формаў тэрапіі фізічнай актыўнасцю.

У працэсе псіхадынамічнай харэатэрапіі, па меркаванні спецыялістаў, вырашаецца ізалявана або комплексна шэраг задач: тэрапія занятасці і павышэння рухальнай актыўнасці, камунікатыўны трэнінг і арганізацыя сацыятэрапеўтычных зносін, расслабленне і рост дэзадаптаванай асобы, пошук аўтэнтычных шляхоў развіцця. Харэаграфічныя заняткі маюць некалькі аспектаў, псіхатэрапеўты разглядаюць фізічны, псіхічны і сацыяльны. У клінічнай практыцы харэатэрапія ажыццяўляецца ў форме актыўнай групавой і індывідуальнай псіхатэрапіі. У пазаклінічных умовах выкарыстоўваецца ў масавых танцавальных рытуалах і фестывалях міжгрупавая, сацыядраматычная і сацыяльная харэатэрапія. Па прычыне актыўнага адраджэння культуры народнага танца, развіцця спартыўна-бальных і сучасных танцаў магчымае выкарыстанне харэатэрапеўтычнага метаду для пераадолення пачуцця трывогі, безабароннасці і бессэнсоўнасці існавання.

Аналіз метадаў і прыёмаў рэабілітацыйных праграм, якімі карыстаюцца заходнееўрапейскія медыцынскія і сацыякультурныя ўстановы, сведчыць аб іх эфектыўным уздзеянні на працэс аднаўлення станоўчага ўспрымання жыцця, сям'і і грамадства. Сацыяльна-псіхалагічная рэабілітацыя сродкамі мастацтва і творчай дзейнасці ў апошняй чвэрці XX ст. выйшла за межы медыцынскіх устаноў і з'яўляецца адным з кірункаў працы ўстаноў мастацтва і культуры.

### 9.6. Бібліятэрапія як метад змянення экзістэнцыяльнага стану асобы

Рэгуляванне эмацыянальнага стану, павышэнне сацыяльнай актыўнасці чалавека з дапамогай літаратуры і мастацтва ажыццяўлялі яшчэ антычныя вучоныя. Арыстоцель, у прыватнасці,

выказваў меркаванне аб уздзеянні душы на цялесныя праявы і падкрэсліваў, што праз суперажыванне і страх трагедыя дабіваецца ачышчэння (катарсісу) духу. Мноства псіхакатарсісных прыёмаў выкарыстоўвалася ў сярэднявеччы, дзе змяншэння афектыўнай напружанасці і пачуцця палёгкі дабіваліся праз удзел у пэўных рытуалах, абрадах, святах і звычаях. Вялікае ўздзеянне на людзей аказваюць пропаведзі, замовы і заклінанні.

Дабратворнай эмацыянальнай усхваляванасцю, уражлівымі, захапляльнымі заняткамі ў XVIII ст. спрабавалі лячыць хворых многія вучоныя.

Вялікае значэнне для ажыццяўлення нацыянальнай праграмы псіхічнага аздараўлення насельніцтва Еўропы мае бібліятэрапія. Бібліятэрапія знаходзіцца на стыку бібліятэказнаўства і медыцыны, прычым апошняя аб'ядноўвае бібліяпсіхалогію і медыцынскую псіхалогію. Мэтанакіраванае чытанне садзейнічае развіццю эмацыянальнай сталасці, падтрымцы псіхічнага здароўя. Бібліятэрапія выкарыстоўваецца для папярэджвання росту псіхічных захворванняў. Заснавальніца бібліятэрапіі ў ЗША А.Браен лічыць бібліятэрапію навукай псіхалагічнай дыетэтыкі.

У шматлікай літаратуры па бібліятэрапіі не існуе адзінай думкі наконт ролі бібліятэкі ў медыцынскай і псіхалагічнай рэабілітацыі. Паводле У.М.Мясішчава, бібліятэрапія ўяўляе сабой складанае спалучэнне кнігазнаўства, псіхалогіі і псіхатэрапіі. М.Мілер, па методыцы якой працуюць урачы і бібліятэкары ў многіх санаторыях краін СНД, выводзіць бібліятэрапію з кнігазнаўства. Шэраг заходнееўрапейскіх псіхатэрапеўтаў лічаць, што бібліятэрапія з'яўляецца кампанентам псіхатэрапіі хворых неўрозамі і некаторай часткі псіхічных хворых. Яна павінна ажыццяўляцца толькі ўрачом-псіхатэрапеўтам ці псіхіятрам без удзелу бібліятэкара. Усе гэтыя выказванні выводзіліся з назалагічна-дыферэнцыраваных, клініка-бібліятэрапеўтычных даследаванняў, якія высвятлялі ўздзеянне літаратуры на хворага ў працэсе клініка-псіхатэрапеўтычнага лячэння. Менавіта гэтым кіравалася Асацыяцыя бальнічных бібліятэк ЗША, вызначаючы паняцце “бібліятэрапія” як выкарыстанне спецыяльна адабранага для чытання матэрыялу ў якасці тэрапеўтычнага сродку ў агульнай медыцыне і псіхіятрыі з мэтай вырашэння асабістых праблем пры дапамозе накіраванага чытання.

Такі падыход да бібліятэрапіі, безумоўна, мае права на жыццё, калі разглядаць яе як метад клінічнага лячэння псіхічна хворых. Сярод насельніцтва, пацярпелага ад розных узрушэнняў, безумоўна, ёсць саматычныя і псіхасаматычныя пацыенты, і пры



іх лячэнні ў клінічных умовах неабходна выкарыстоўваць метад накіраванага чытання, ажыццяўляемы псіхатэрапеўтам. Але ў значнай часткі насельніцтва (86,7%) невысокая ступень праяўлення псіхалагічнага стрэсу, стан так званай сацыяльна-псіхалагічнай апатыі. Да гэтай катэгорыі больш падыходзіць бібліятэрапія, якая мае выхаваўчы, асветніцкі характар. У дадзеным выпадку бібліятэрапія павінна садзейнічаць духоўнаму росту асобы, яе псіхалагічнай падтрымцы, абуджэнню цікавасці да новай самарэалізацыі.

Такім чынам, у бібліятэказнаўчым аспекце ***бібліятэрапія*** — гэта адна з формаў кіравання чытаннем, якая ставіць перад сабой лячэбныя мэты. Яна з'яўляецца таксама часткай лячэбнай педагогікі, таму што самым шырокім чынам выкарыстоўвае кнігу на ўсіх этапах лячэбнага і выхаваўчага працэсу. Бібліятэрапія — псіхатэрапеўтычны метад, у аснове якога ляжыць выкарыстанне спецыяльна падабранай літаратуры, пераважна мастацкай, для духоўнай падтрымкі, псіхалагічнай раўнавагі, захавання стану душэўнага камфорту.

Бібліятэкар можа рэкамендаваць чытачу белетрыстыку і літаратуру іншага характару з мэтай адцягнення ад заклапочанасці, трывогі, выкліканых вынікам катастрофы. Кніга павінна дапамагаць людзям зразумець свае псіхалагічныя і фізіялагічныя рэакцыі, папоўніць або выправіць веды пра свой псіхафункцыянальны стан і тым самым садзейнічаць іх спрыяльнаму эмацыянальнаму фону. Бібліятэкар з дапамогай спецыяльна падабранай літаратуры можа ўзмацніць уяўленне чытача аб агульнапрынятых сацыяльных і культурных узорах, прыкладах паводзін, падаўляючы такім чынам некаторыя інфантыльныя ўстаноўкі, стымуляваць яго ўяўленне і даць замену — задавальненне, якое ў рэальнасці чытач не змог бы выкарыстаць без прыняцця пэўных мер бяспекі.

Паколькі ў публічных бібліятэках невялікіх гарадоў і вёсак выкарыстоўваюцца ў асноўным мастацкія творы і вельмі рэдка папулярныя кнігі ў белетрыстычнай форме, бібліятэрапію можна аднесці да метадаў эстэтатэрапіі. У сувязі з тым, што масавая бібліятэка зусім не звязана з лячэбным працэсам, бібліятэрапія прапануе выкарыстанне мэтанакіраванага, спецыяльна падабранага чытання дзеля вырашэння асабістых праблем. Творчыя бібліятэкары-практыкі разглядаюць бібліятэрапію як адну з формаў работы з карыстальнікамі і ўключаюць у гэтае паняцце ўвесь комплекс бібліятэчных мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб дапамагчы людзям далучыцца да здабыткаў сусветнай культуры. Бібліятэрапеўтычнымі паслугамі могуць карыстацца

ўсе катэгорыі чытачоў. Аднак у гэтым працэсе ёсць свае асаблівасці. Вывучэнне тэрапеўтычнага ўздзеяння чытання паказвае, што бібліятэрапеўту вельмі важна вызначыць эмацыянальны тып асобы, прадбачыць магчымую рэакцыю на кнігу, пастаянна помніць, што галоўная задача бібліятэрапіі — фарміраванне аптымістычнага бачання акалічнасцей. У той жа час неабходна ўважліва сачыць, каб кніга, дапамагаючы вырашыць унутраныя канфлікты, не ператварылася ў свайго роду наркотык, які адводзіць чытача ад рэчаіснасці.

Большасць сучасных бібліятэрапеўтаў выдзяляюць *тры кірункі ў методыцы лячэння кнігамі*:

- бібліятэказнаўчы, дзе кніга выконвае ролю толькі заспакаяльнага фактару;
- бібліятэрапію як частку псіхатэрапіі;
- бібліятэрапію як састаўны кампанент лячэбнага працэсу, што ажыццяўляецца ў цесным кантакце ўрача і бібліятэкара.

Ва ўмовах масавага абслугоўвання насельніцтва і неразвітасці бібліятэрапеўтычнага метаду ў нашай краіне магчыма выкарыстанне бібліятэрапіі як бібліятэказнаўчага аспекту. Мэтанакіраванае чытанне ў гэтым выпадку выконвае аздараўленчыя, выхаваўчыя, псіхалагічныя, сацыяльныя, этычныя і эстэтычныя задачы. Яно становіцца адной з частак рэабілітацыі, якая дапамагае дэзадаптаванаму чытачу перапрацаваць і асэнсаваць узніклыя праблемы, падтрымаць яго ў перыяд рэадаптацыі, пазбавіцца ад непатрэбнага самааналізу, назойлівых думак.

Практыкамі заўважана, што кнігі не толькі могуць аказваць заспакаяльнае ўздзеянне, але яны могуць быць і танізуючым сродкам, які стварае бадзёры і добры настрой. Мастацкая літаратура можа выраўноўваць эмацыянальны стан, садзейнічаць выхаванню волі, рабіць характар больш устойлівым.

Аналіз арганізацыі і зместу масавай работы бібліятэк дае падставы сцвярджаць, што іх дзейнасць уключае як элементы псіхіятрыі, так і бібліятэчныя метады і формы. Бібліятэкары праводзяць групавыя і індывідуальныя гутаркі з чытачамі, высвятляюць іх запатрабаванні, рэкамендуюць тую ці іншую літаратуру. Безумоўна, гэта неад’емная частка тэрапеўтычнага працэсу. Адначасова выкарыстоўваюцца такія бібліятэчныя формы работы, як правядзенне аглядаў і выстаў літаратуры, дыспутаў і канферэнцый чытачоў, літаратурных вечароў і іншых мерапрыемстваў, мэтай якіх з’яўляецца найбольш поўнае задавальненне духоўных патрэб розных катэгорый чытачоў. На долю адной беларускай публічнай бібліятэкі прыпадае прыкладна 2100 патэнцыяльных чытачоў. У



мэтах далучэння насельніцтва да сістэматычнага чытання і карыстання фондамі бібліятэк іх супрацоўнікі выкарыстоўваюць розныя індывідуальныя формы масавай работы. У практыку работы бібліятэк увайшлі сямейныя чытанні, калі ў бібліятэку прыходзяць сем’ямі, сем’ямі ўдзельнічаюць у гульнях, конкурсах, святах. Цэнтральная дзіцячая бібліятэка г.Гомеля сістэматычна праводзіць вячоркі, якія ў асноўным прысвячаюцца народным святам і абрадам. Пры Магілёўскай абласной бібліятэцы створаны аб’яднанні пачынаючых паэтаў, мастакоў, вынаходнікаў. Пры многіх бібліятэках створаны карцінныя галерэі, экспазіцыі вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, музеі рознай накіраванасці, лялечныя тэатры. Нярэдка ладзяцца мерапрыемствы па-за сценамі бібліятэк, у парках адпачынку, інтэрнатах, клубах, на прадпрыемствах і інш. Новай і змястоўнай формай папулярызацыі кнігі з’яўляюцца тэатры кнігі, якія дазваляюць не традыцыйна, а ў форме інсцэніраваных урыўкаў з твораў знаёміць чытачоў з кнігай.

Такім чынам, бібліятэкі адыгрываюць важную ролю ў духоўным фарміраванні асобы, пэўным чынам садзейнічаюць рэабілітацыі насельніцтва. Дзейнасць бібліятэк для многіх людзей становіцца фактарам, які адцягвае іх ад паўсядзённых думак, трывогі за будучыню, дапамагае пераносіць душэўныя і фізічныя пакуты. Многія бібліятэкі працуюць з улікам узроставых, прафесійных і іншых асаблівасцей чытачоў, надаюць шмат увагі праблемам дзіцячага чытання. Развіццё электронных мас-медыя, якія не патрабуюць такіх інтэлектуальных намаганняў для ўспрымання, як чытанне, паступова пачало выцясняць з жыцця дзяцей патрэбу чытаць кнігі. Пад актыўным уплывам аўдыё-, відэасродкаў інфармацыі і масавай культуры паступова змяняецца субкультура дзяцінства. Зыходзячы з вышэйпададзенага, намаганні бібліятэчных работнікаў канцэнтруюцца на дзейнасці па развіцці дзіцячага чытання. У нашай краіне створана шматлікая разгалінаваная сетка бібліятэк, якія абслугоўваюць дзяцей і юнакоў. Асноўнымі карыстальнікамі бібліятэк з’яўляюцца маладыя людзі ва ўзросце да 20 гадоў (65—70%) і пенсіянеры (10%). Дзейнасць дзіцячых і школьных бібліятэк характарызуецца шматграннасцю, нестандартнасцю формаў папулярызацыі кнігі. З гэтай мэтай у Буда-Кашалёўскай, Добрушскай, Нараўлянскай, Гомельскай дзіцячых бібліятэках праводзяцца творчыя конкурсы, ствараюцца гурткі, дзе дзеці набываюць навыкі і ўменні малявання, саломапляцення, вышывання, ткацтва. Пры арганізацыі выставак, бібліяграфічных аглядаў улічваюцца запатрабаванні юных чытачоў.

Важнай задачай бібліятэк з'яўляецца абслугоўванне людзей пенсіённага ўзросту. Бібліятэкі шырока інфармуюць іх аб новых паступленнях літаратуры, імкнуцца павысіць якасць іх абслугоўвання, далучыць да грамадскай дзейнасці. Надаецца шмат увагі індывідуальнаму кіраванню іх чытаннем. Пры рабоце з пенсіянерамі ўлічваюцца іх псіхалагічныя асаблівасці, надаецца ўвага вывучэнню і аналізу працэсу іх сацыяльнай адаптацыі. З мэтай пераадолення замкнёнасці пажылых людзей, актывізацыі іх зносін пры бібліятэках ствараюцца клубы, у якіх абмяркоўваюцца мастацкія творы, праводзяцца розныя мерапрыемствы.

З фонду публічных бібліятэк праз завочныя або нестацыянарныя формы абслугоўвання атрымліваюць літаратуру інваліды. Для іх кніга — часам адзінае акно ў вялікі свет, сябра і дарадчык, суразмоўца і лекар. Абслугоўванне інвалідаў і людзей з фізічнымі недахопамі — вельмі складаная справа, якая патрабуе сацыяльна-рэабілітацыйнай накіраванасці. Умела арганізаванае абслугоўванне хворых людзей можа дапамагчы ім весці актыўнае жыццё, займацца прафесійнай дзейнасцю.

Для бібліятэкара важныя не толькі прафесійныя веды, але і ўменні кантактаваць з чытачом, у час размовы ствараць аптымальную для яго атмасферу цеплыні і душэўнасці. Важную ролю адыгрывае жыццёвы вопыт бібліятэрапеўта, які дапаможа знайсці выйсце з сітуацыі. У чытачу трэба бачыць сябра, што трапіў у бяду, але не хворага, як гэта прынята ў медыцыне.

Галоўным сродкам уздзеяння ў бібліятэрапіі з'яўляюцца *тэксты*. Бібліятэкар рыхтуе іх для выкарыстання ў лячэбных мэтах. Па меркаванні расійскага бібліязнаўцы В.С.Крэйдзенкі, у бібліятэрапіі выкарыстоўваюцца тры асноўныя групы тэкстаў.

1. Мастацкая літаратура: любыя літаратурныя жанры (раманы, эпічныя і драматычныя творы, апавяданні, паэзія, дзіцячая літаратура, гумарэскі, казкі, міфы, паданні і інш.). Шырока выкарыстоўваюцца мемуары, аўтабіяграфічныя творы. Усе яны ўспрымаюцца чытачамі спакойна.

Шырока распаўсюджана практыка складання бібліятэрапеўтамі так званых "лячэбных" спісаў кніг. Аналіз літаратуры, якая найбольш выкарыстоўваецца ў рабоце з дэзадаптаванымі людзьмі, дае падставы вылучыць творы:

а) пра людзей, якія перамаглі фізічныя немачы. Бібліятэрапеўтычным эфектам валодаюць кнігі пра вядомых людзей, якія не скарыліся перад бядой, а цаной велізарнага напружання волі, праяўляючы выключныя мужнасць і энергію, сталі карыснымі членамі грамадства, атрымалі прызнанне і вядомасць або з вялікім натхненнем працягвалі або працягваюць творчую дзейнасць;

б) аптымістычнай накіраванасці, якія дазваляюць адцягнуць ад жудасных думак, звязаных са стратай родных, любімых;

в) якія дапамагаюць пераадолець духоўнае бязладдзе, цяжкія ўспаміны аб мінулым;

г) якія адцягваюць ад складаных побытавых, прафесійных і іншых праблем. Для гэтай мэты могуць выкарыстоўвацца і прыгодніцкія кнігі, а таксама фантастыка.

2. Тэксты простыя, але адаптаваныя, а таксама ўрыўкі з твораў, якія падрыхтаваны да тэрапеўтычнай працы. Галоўны сэнс гэтых твораў у тым, што надзея абуджае волю да жыцця, дае сілы для барацьбы з хваробамі, а адсутнасць надзеі, адзінота, чалавечая абыякавасць асуджаюць на гібель.

Але падрыхтоўка такіх тэкстаў, асабліва іх выкарыстанне, выклікаюць пэўныя цяжкасці і некаторы недавер чытачоў. Таму вопытныя бібліятэкары лічаць, што выкарыстанне адаптаваных твораў павінна быць абмежаваным. Падбіраюцца па пэўных тэрапеўтычных тэмах і цытаты, прымаўкі, урыўкі з твораў і г.д.

3. Тэксты, спецыяльна створаныя для тэрапеўтычных мэт. Да такіх адносяцца малітвы, замовы. Вытокі іх знаходзяцца ў далёкай старажытнасці, яны грунтуюцца на веры нашых продкаў у магічную сілу слова.

Пры рэкамендацыі кнігі ў бібліятэрапеўтычных мэтах неабходна ўлічваць наступныя прынцыпы:

а) ступень даступнасці выкладання;

б) герой кнігі павінен знаходзіцца ў сітуацыі, максімальна падобнай на тую, якая актуальная для чытача, каб па прыкладзе героя дзейнічаць у пэўнай сітуацыі адэкватна.

Вынікі шэрага бібліятэрапеўтычных даследаванняў сведчаць аб значнай ролі міжасобасных зносін у чытацкай дзейнасці карыстальнікаў. Гэта тычыцца здаровых і хворых.

Пад міжасобаснымі зносінамі чытачоў, уключаных у сумесную пазнавальную дзейнасць ва ўмовах бібліятэкі, разумеюцца абмен інфармацыяй аб творах друку, расказ аб прачытаным, прамая або ўскосная рэкамендацыя кніг і часопісаў для чытання. Менавіта таму бібліятэкары надаюць увагу арганізацыі чытацкіх канферэнцый, літаратурных вечароў, прэзентацый кнігі, індывідуальнай рабоце з чытачом. У час такіх сустрэч карыстальнікі абменьваюцца творамі, абмяркоўваюць змест, найбольш яркія эпізоды, даюць ім эмацыянальную ацэнку. Размова аб прачытанай кнізе яднае

ўдзельнікаў, выклікае адэкватнасць узаемных рэакцый і нават пэўную ідэнтычнасць успрымання і ацэнак.

Асновай для міжчытацкіх зносін з'яўляецца эмацыянальны кантакт, які дазваляе знайсці спосаб больш поўнага самавыяўлення, выкарыстаць жыццёвы вопыт у распрацоўцы і фарміраванні індывідуальных і групавых прынцыпаў, навыкаў паводзін, нормаў маралі. Таму вопытныя бібліятэрапеўты рэкамендуюць ажыццяўляць бібліятэрапію ў індывідуальнай і групавой формах. Пры індывідуальнай бібліятэрапіі чытанне адбываецца па складзеным бібліятэрапеўтам плане з далейшым разборам прачытанага. Пры групавой бібліятэрапіі, акрамя патрабаванняў, якія ўлічваюцца пры стварэнні любой групы, неабходны яшчэ падбор членаў групы па ступені начытанасці і чытацкіх інтарэсах. Падбіраецца невялікі па аб'ёме твор, які калектыўна чытаецца. У выніку дыскусіі выяўляецца структура чытацкіх адносін у групе, высвятляюцца адносіны да чытання мастацкай літаратуры; у тых, хто мала чытае, узнікае цікавасць да чытання.

Нярэдка пры абмеркаванні канкрэтнай кнігі ва ўдзельнікаў зносін актывізуецца асацыятыўная памяць, узнікае жаданне расказаць пра кнігу, незнаёмую іншым. Да гутаркі далучаюцца ўспаміны аб розных кнігах, адбываецца абмен інфармацыяй аб прачытаным. Пры гэтым можа ўзнікнуць больш ці менш працяглая цікавасць да акрэсленай тэмы або аўтара.

У спецыяльных і публічных бібліятэках краіны каардынуюцца арганізацыя і кіраванне міжчытацкімі зносінамі, вывучаюцца чытацкая структура групы, узроўні чытацкага развіцця калектыву, абмяркоўваюцца канкрэтныя меры па пераадоленні негатыўных з'яў, даследуецца далейшая перспектыва развіцця калектыўных чытацкіх кантактаў. Вывучэнне міжчытацкіх зносін — вельмі неабходны кірунак бібліятэрапіі. Праз развіццё чытацкай культуры бібліятэкары імкнуцца дапамагчы кожнаму чалавеку знайсці душэўнае супакаенне.

Даследаванне відаў і метадаў бібліятэрапеўтычнай дзейнасці дазваляе выдзеліць такі від самавыяўлення, як творчае пісанне (creative writing). Пры чытанні і пісанні выкарыстоўваюцца вобразы, асацыяцыі для ажыўлення пагаслых пачуццяў чытача, для натхнення яго творчасцю.

Асаблівасць літаратуры ў тым, што яна тым мацней уздзейнічае на чалавека, чым больш выклікае ў яго асацыяцый. Вобраз нараджае новыя вобразы, часам адно слова здольнае прымусіць асобу перажыць з'яву, якая мела месца ў жыцці, і напоўніць яе новым сэнсам. Таму бібліятэкары шырока выкарыстоўваюць



разнастайныя творчыя конкурсы: "Я малюю казку", "Я расказваю казку", "Творчасць нашых чытачоў" і інш. Заўважана, што праз сваё творчае літаратурнае сачыненне чытач узбагачаецца, у яго ўзмацняецца пачуццё задавальнення. Сваёй літаратурнай работай карыстальнік, па сутнасці, выказвае рашучасць больш актыўна ісамастойна працаваць над сабой, трымацца больш упэўнена ў адносінах да знешняга асяроддзя, супрацьстаяць неспрыяльнай сітуацыі.

Даказана ўзаемасувязь чытання, літаратурнай творчасці і станаўлення пэўных тыпаў паводзін чытача. Пры гэтым чытач адзначае непасрэдна назіраемыя ўзоры рэагавання, мовы, дзейнасці, а потым сам пераймае іх ад літаратурных герояў. Узоры для пераймання можна знаходзіць і ў працэсе чытання мастацкай літаратуры.

Вобраз станоўчага чалавека, яго прыклад патрэбны чытачам не меней, чым лекі і свежае паветра. Аналізуючы паводзіны персанажаў, іх характары, карыстальнік нярэдка ідэнтыфікуе іх з жывымі людзьмі. Адны псіхолагі называюць гэта падстаноўкай, другія — пераносам (псіхалагічныя рысы персанажа цалкам ці часткова пераносяцца на чалавека, які знаёмы чытачу ў жыцці ці па іншых творах). Цікавай падаецца і другая з'ява, калі жывыя людзі "ўстаўляюцца" чытачом у мастацкі твор, правяраюцца меркаю персанажаў.

Для чытача асабліва характэрная пастаноўка на месца персанажа самога сябе. Тут здзяйсняецца эфект самапазнання, які цесна звязаны з самарэфлексіяй і самавыхаваннем. Неасэнсаванае імкненне атаясамліваць сябе з моцнымі, добрымі героямі на фоне аднамернага, плоскаснага ўспрымання характару і фабульнага падыходу да твора тлумачыць, чаму чытачы часта аддаюць перавагу маламастацкай літаратуры, у якой фабула захоплівае. У працэсе абслугоўвання чытачоў заўважана, што карыстальнікам падабаюцца аднагеройныя апавяданні, гіпербалізацыя жыццёвых з'яў і чалавечых якасцей. Яны захапляюцца кнігамі, дзе апісваюцца неверагодныя прыгоды непераможных літаратурных персанажаў. Як заканамернасць гэтага этапу літаратурнага развіцця можна разглядаць цікавасць да коміксаў.

Рэфлексія, выкліканая мастацкім творам, часам становіцца крыніцай абуджэння сумлення, фарміравання новага светаадчування, новых крытэрыяў для ацэнак з'яў і ўчынкаў людзей. Паўната адчуванняў, адкрыцці, зробленыя ў працэсе чытання і літаратурнай творчасці, выклікаюць радасць, якую можна назваць мастацкай асалодай. Натхненне, адухоўленасць, напоўненасць выклікаюць жаданне падзяліцца ёю з другімі, даюць імпульс асабістай творчасці.

Такім чынам, бібліятэка мае шырокія магчымасці ўплыву на людзей, якія ў выніку сацыяльных узрушэнняў атрымалі значныя псіхапаталагічныя расстройствы. З дапамогай навуковай, навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры бібліятэрапеўт можа дапамагчы асобе пазнаць сябе, свой стан, пазбавіцца ад трывожных сумненняў, навучыць разумець моцныя і слабыя бакі свайго характару, пашырыць сферу інтарэсаў, сфарміраваць уяўленне аб агульнапрынятых сацыяльных і культурных узорах і тым самым пазбавіцца ад антысацыяльных установак.

Даследаванне тэорыі і практыкі бібліятэрапеўтычнай дзейнасці ў нашай рэспубліцы, краінах СНД і Еўропы пераконвае, што мэтанакіраванае чытанне могуць ажыццяўляць як лекары, так і бібліятэкары, якія прайшлі спецыяльную падрыхтоўку з улікам спецыфікі работы з дэзадаптаванымі людзьмі.

Сярод сацыяльна-культурных інстытутаў нашай краіны бібліятэкі адносяцца да самых шматлікіх устаноў. У 2002 г. у Беларусі налічвалася 11,5 тыс. публічных і спецыяльных бібліятэк, якія ўваходзілі ў розныя дзяржаўныя і недзяржаўныя структурныя фарміраванні. 5,6 тыс. бібліятэк падпарадкоўваліся Міністэрству адукацыі, 4,8 тыс. — Міністэрству культуры. На фінансаванні прафсаюзных арганізацый знаходзіліся 0,4 тыс.; 0,3 тыс. — утрымліваліся прадпрыемствамі і 0,2 тыс. — медыцынскімі ўстановамі.

Для арганізацыі і правядзення эфектыўнай бібліятэрапеўтычнай дзейнасці патрэбныя высокакваліфікаваныя кадры. Бібліятэкару, які працуе з дэзадаптаванай асобай, неабходна мець шырокую падрыхтоўку ў галіне санітарнай асветы, валодаць праблемамі, звязанымі з псіхалогіяй унушэння. Асабліва гэта тычыцца бібліятэкараў лячэбных устаноў.

Аднак знаёмства са структурай вучэбных планаў факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў і Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума дае падставы сцвярджаць, што навучэнцы гэтых устаноў не вывучаюць курсы па прынцыпах арганізацыі і кіравання спецыяльнымі бібліятэкамі, па методыцы адбору кніг для псіхічна хворых людзей, работы з людзьмі, якія знаходзяцца ў рэактыўным стане. Сацыялагічныя апытанні, праведзеныя ў ходзе даследавання, паказалі, што бібліятэкары не атрымліваюць такіх ведаў у перыяд павышэння кваліфікацыі ў Беларускім інстытуце праблем культуры. Але, на жаль, супрацоўнікі публічных бібліятэк не маюць неабходных ведаў, уменняў і навыкаў для вядзення прафесіянальнай рэабілітацыйнай работы метадам мэтанакіраванага чытання. Такая дзейнасць вядзецца ў асноўным на інтуітыўным узроўні.



У сувязі з гэтым у шэрагу краін свету надаецца значная ўвага падрыхтоўцы кадраў. Так, у ЗША бібліятэрапеўты рыхтуюцца ў бібліятэчнай школе пры універсітэце штата Мінесота. Студэнты там атрымліваюць веды аб прынцыпах і практыцы адбору кніг для псіхічна хворых людзей.

У Францыі, напрыклад, існуюць 246 спецыялізаваных бібліятэк, укамплектаваных старанна адабранай літаратурай з улікам магчымай рэакцыі розных груп хворых. З іх фондаў выключана літаратура, што аказвае прыгнятальнае ўздзеянне на асобу.

У нашай краіне, на жаль, не заўсёды фарміруюцца фонды з улікам тэрапеўтычнага ўздзеяння кнігі. У публічных бібліятэках павінны стварацца спецыяльныя бібліятэрапеўтычныя фонды, а літаратура для чытання класіфікавацца ў залежнасці ад захворванняў. Бібліёграфамі і бібліятэказнаўцамі ў многіх краінах свету вызначаны прынцыпы адбору і класіфікацыі літаратуры ў мэтах рэабілітацыі. Так, польскія і чэшскія бібліятэрапеўты класіфікуюць лячэбную літаратуру па наступных групах:

1) кнігі заспакаяльныя (седатыўныя);
2) кнігі, якія дзейнічаюць узбуджальна (стымулюючыя);
3) кнігі, якія дзейнічаюць змешаным спосабам, але з перавагай элементаў інтэлектуальнай рэфлексіі.

Першая група, да якой адносяцца заспакаяльныя кнігі, у тым ліку казкі, павінна складаць прыкладна палову кніжнага фонду; у другую групу ўваходзяць літаратура аб вандроўках, прыгодах, дэтэктывы, навуковая фантастыка; у апошнюю — уключаецца літаратура, у якой утрымліваюцца разважанні на тэму жыцця, адносін чалавека да сябе і іншых, да рэчаіснасці.

Нельга сказаць, што такая літаратура ў фондах публічных бібліятэк не існуе, але колькасць яе не адпавядае патрэбнасцям, многія выданні ўстарэлі, у іх не ўлічваюцца сацыяльна-эканамічныя і маральна-духоўныя ўстаноўкі сучаснага грамадства.

Карэннай перабудовы працы патрабуюць бібліятэкі медыцынскіх устаноў. У фондах адсутнічаюць спецыяльна адабраныя кнігі для хворых і медыцынскіх работнікаў па пытаннях выкарыстання бібліятэрапіі ў лячэбных мэтах.

Такім чынам, аналіз дзейнасці публічных і спецыяльных бібліятэк Рэспублікі Беларусь паказвае, што бібліятэрапія як метад кіравання чытаннем людзей з посттраўматычным стрэсам знаходзіцца на этапе станаўлення і патрабуе сур'ёзных намаганняў сацыяльных інстытутаў нашага грамадства.

**Пытанні і заданні**

1. Пад уплывам якіх фактараў узнікаюць стрэсавыя парушэнні ў людзей?
2. Дайце азначэнне адаптатыўнай і кампенсатарнай функцый культуры.
3. Якія віды мастацтва актыўна выкарыстоўваюцца спецыялістамі для карэкцыі псіхафункцыянальнага стану?
4. Пералічыце асноўныя кірункі сучаснай арттэрапіі.
5. Якія віды і метады бібліятэрапеўтычнай дзейнасці выкарыстоўваюцца псіхатэрапеўтамі і бібліятэкарамі?

**Літаратура**

*Арттерапия* в эпоху постмодерна / под ред. А.И.Копытина.— СПб.: Изд-во "Речь" совместно с изд-вом "Семантика-С", 2002.— 224 с.

*Бурно, М.Е.* Терапия творческим самовыражением: метод. рек. Мин-ва здравоохранения СССР.— М.: Медицина, 1989.— 303 с.

*Матейова, З., Машура, С.* Музыкотерапия при заикании / пер. с чеш.— Киев: Вища шк., 1984.— 304 с.

*Психотерапевтическая* энциклопедия / под ред. Б.Д.Карвасарского.— СПб.: ПитерКом, 1998.— 752 с.

*Сацыяльна-псіхалагічная* рэабілітацыя насельніцтва мастацтвам: практ. дапам. для работнікаў культуры / пад рэд. А.І.Смоліка.— Мн.: Бел. ун-т культуры, 1998.— 82 с.

*Селье, Г.* Стресс без дистресса / пер. с англ.— М.: Прогресс, 1979.— 124 с.

# 10. ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ І КАМУНІКАТЫЎНЫЯ ТЭХНАЛОГІІ Ў КУЛЬТУРЫ

## 10.1. Сутнасць інфарматызацыі культуры

Новыя віды вытворчасці: электроніка і інфарматыка, біятэхналогія, касмічная вытворчасць і індустрыя культуры — набылі ў XXI ст. глабальны характар. Яны сталі найбольш дынамічным кампанентам як матэрыяльнай, так і духоўнай вытворчасці.

Для гуманітарных сфер разгортванне інфарматызацыі з'яўляецца задачай надзвычайнай актуальнасці. Трэба ўлічваць, што сучаснае грамадства ў некаторай ступені становіцца і "постэканамічным", таму што ў ім побач з сектарам вытворчасці матэрыяльных даброт і паслуг у значнай меры пашыраецца сектар "духоўнай вытворчасці чалавека". Духоўная вытворчасць становіцца ўсё больш вызначаным пачаткам у сукупнай вытворчасці, падначальвае яе структуру, змест і дынаміку. Культура, як адзначае амерыканскі футуролаг Д.Бел, з'яўляецца найбольш дынамічным, нават у параўнанні з тэхнікай, кампанентам цывілізацыі.

У постіндустрыяльным грамадстве складваецца і прынцыпова іншы тып вытворчасці, распаўсюджвання і захавання ведаў. Камп'ютэрызацыя асноўных сфер чалавечай дзейнасці апошняй чвэрці XX ст. разам з выключна важкімі дасягненнямі ў сферы стварэння, распаўсюджвання, пошуку інфармацыі прывяла да пранікнення інфармацыйных тэхналогій практычна ва ўсе віды культурнай дзейнасці. Дзякуючы дасягненням у галіне штучнага інтэлекту пашырыліся магчымасці інтэлектуальных сістэм інфармацыйнай падтрымкі разнастайных творчых працэсаў. У выніку

інфармацыйныя тэхналогіі атрымалі значнае развіццё ў сферах творчай дзейнасці чалавека. Мадэліраванне культурных працэсаў з'яўляецца складанай праблемай, таму што культура як сфера чалавечай дзейнасці характарызуецца максімальнай (адносна іншых сфер) доляй творчасці. Гэта азначае высокую ступень уплыву інтэлектуальных фактараў.

Станаўленне інфармацыйнага грамадства ўносіць істотныя змены ў формы і спосабы яго ўзаемадзеяння з культурай. Асаблівае месца культуры ў агульнай структуры інфармацыйнага грамадства вызначаецца тым, што, з аднаго боку, інфармацыя аб культуры мае самы шырокі арэал спажывання, з другога боку, гэта інфармацыя прызначана для любой асобы без абмежаванняў. Таму месца інфармацыі аб культуры ў глабальных інфармацыйных структурах павінна быць вельмі значным. Ступень гэтай значнасці істотна ўплывае на ацэнку культурнага і творчага ўзроўню асоб і ўсяго грамадства ў цэлым. Значыць, для культуры важна вызначыць яе месца ў будучай структуры інфармацыйнага грамадства.

Пад ***інфарматызацыяй культуры*** неабходна разумець працэс распрацоўкі і сістэмнай арганізацыі сукупнасці тэхналагічна разнастайных фармалізаваных спосабаў атрымання, захавання і перадачы інфармацыі аб культуры з мэтай павышэння яе якасці і хуткасці дастаўкі. Сучасны стан інфарматызацыі характарызуецца ў першую чаргу апорай на інтэлектуальныя і кібернетычныя тэхналогіі, узаемадзеянне і ўзаемапранікненне ведаў разнастайных галін чалавечай дзейнасці.

Інфарматызацыя як глабальны працэс садзейнічае з'яўленню не толькі новых інфармацыйных тэхналогій і іх пранікненню ў разнастайныя сферы дзейнасці чалавека, але патрабуе і змен у сацыяльных і культурных формах і працэсах у грамадстве. Інфарматызацыя змяняе спосабы стварэння мастацкіх твораў і, больш таго, абумоўлівае ўзнікненне зусім новых (віртуальных) мастацкіх формаў.

Такім чынам, неабходнасць інфарматызацыі культуры абгрунтавана задавальненнем узрастаючых інфармацыйных патрэб грамадства ў цэлым і кожнага чалавека за кошт паляпшэння якасці і надзейнасці захавання вялікіх аб'ёмаў назапашанай разнастайнай інфармацыі аб культуры, павышэння хуткасці інфармацыйнага абмену. Інфармацыя, якую атрымлівае чалавек у працэсе сваёй жыццядзейнасці, веды, якімі ён валодае, з'яўляюцца асновай фарміравання інфармацыйных патрэбнасцей асобы. Інфармацыйная патрэбнасць — гэта асэнсаваная або не асэнсаваная суб'ектам неабходнасць у атрыманні пэўных звестак аб рэчаіснасці. Яна фарміруецца на аснове патрэбнаснага стану суб'екта, які ў працэсе дзейнасці стварае ідэальную мадэль гэтай дзейнасці, сутыкаецца з недахопам інфармацыі. Немагчымасць стварэння закончанай мадэлі прыводзіць да стварэння патрэбнаснага стану. Вызначэнне характару неабходнай інфармацыі прыводзіць да напаўнення патрэбнаснага стану канкрэтным зместам і пераўтварэння яго ў інфармацыйную патрэбнасць.



Фарміраванне інфармацыйных патрэбнасцей грамадства адбываецца ў асноўным пад уплывам канкрэтна-гістарычнай сітуацыі і назапашанага сукупнага сацыяльнага вопыту. Інфармацыйныя патрэбнасці пэўнай сацыяльнай групы абумоўлены перш за ўсё агульнай накіраванасцю дзейнасці, месцам гэтай групы ў сацыяльнай структуры грамадства, а таксама канкрэтна-гістарычнымі ўмовамі. Фарміраванне інфармацыйных патрэбнасцей асобы адбываецца пад уплывам усіх вышэйпералічаных фактараў.

Адзінства біялагічнага і сацыяльнага ў чалавеку абумоўлівае асаблівасці яго інфармацыйных патрэбнасцей, якія адпаведна існуюць на двух узроўнях: біялагічным і сацыяльным.

Біялагічныя інфармацыйныя патрэбнасці — гэта арганічныя (біягенныя) патрэбы любых жывых істот у паступленні сенсорнай інфармацыі. Каб захаваць сябе як від, чалавеку неабходна мець і задавальняць патрэбнасць у кантакце з сабе падобнымі, з навакольным асяроддзем. Гэта забяспечвае паступленне ў мозг раздражняльнікаў, якія стымулююць і забяспечваюць паўнацэнную яго работу. На біялагічным узроўні ўзнікае таксама патрэбнасць арыентацыі ў навакольным асяроддзі. Задавальняючы яе, чалавек, будучы істотай біялагічнай, выбірае пэўны тып паводзін, які забяспечвае яго паспяховую жыццядзейнасць, зберагае яго як від. У чалавека ўзнікае таксама патрэбнасць у перайманні, імітаванні паводзін іншай, сабе падобнай асобы. Гэта спрыяе перадачы назапашанага вопыту, выпрацоўцы эканамічнага рэжыму жыццядзейнасці.

Сацыяльная прыналежнасць чалавека абумоўлівае сацыялізацыю ўсіх вышэйпералічаных інфармацыйных патрэбнасцей і іх праяўленне ў наступных аспектах: патрэбнасць быць інфармаваным; патрэбнасць у сацыяльнай арыентацыі; патрэбнасць у сацыяльнай ідэнтыфікацыі. Задавальненне іх спрыяе псіхалагічнаму камфорту асобы, упэўненасці, выпрацоўцы адпаведных, прынятых у грамадстве паводзін, вызначэнню сябе як асобы, знаходжанню свайго асабістага месца ў соцыуме, пэўнай прафесійнай, дэмаграфічнай, грамадскай, палітычнай і іншых групах.

Інфармацыйныя патрэбнасці асобы дынамічныя і бязмежныя. Яны фарміруюцца і мяняюцца разам з інфармацыйнымі працэсамі ў грамадстве, змяненнем інфармацыйнага патэнцыялу соцыуму і ўзроўнем асабістага інфармацыйнага вопыту.

На фарміраванне інфармацыйных патрэбнасцей чалавека, безумоўна, уплываюць спецыфіка яго прафесійнай дзейнасці, месца, якое ён займае ў грамадскім раздзяленні працы, сацыяльная роля, якую ён выконвае, назапашаны ўласны вопыт у той або іншай сферы грамадскай практыкі. Прычым на пэўных этапах жыцця чалавека гэтыя фактары становяцца дамінуючымі.

У сучасным грамадстве ўзрастае попыт на інфармацыю аб культуры. Каб задаволіць патрэбнасці людзей у інфармацыі, неабходна выкарыстоўваць новыя інфармацыйныя тэхналогіі, заснаваныя на шырокім ужыванні камп'ютэрнай тэхнікі. *Асноўнымі **рысамі інфармацыйнага грамадства** з'яўляюцца*:

- пераўтварэнне дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі на аснове тэхналагічнага спалучэння з камп'ютэрнымі сеткамі;
- роўныя магчымасці доступу і хуткага атрымання поўнай і дакладнай інфармацыі любога віду і прызначэння;
- роўныя магчымасці аператыўнай камунікацыі паміж асобамі, установамі незалежна ад іх дзяржаўнай прыналежнасці і тэрытарыяльнага месцазнаходжання;
- стварэнне і развіццё новых формаў дзейнасці на аснове інфармацыйных тэхналогій, у тым ліку ў сферы творчасці, выхавання, адукацыі.

У культурнай сферы шырокі і хуткі абмен інфармацыяй садзейнічае фарміраванню нормаў і каштоўнасцей, якія адпавядаюць патрэбнасцям пэўнага грамадства.

Тэрмін "інфармацыйнае грамадства" замацаваўся ў сацыялогіі ў пачатку 80-х гадоў ХХ ст. Гэтаму садзейнічалі "бум" інфарматыкі і камерцыйная рэклама, якая характарызавала камп'ютэр як свайго роду кантроль у будучым. Інфармацыйнае грамадства неабходна разумець як такое грамадства, дзе інфармацыя і ўзровень яе выкарыстання карэнным чынам уплываюць на эканамічнае развіццё і сацыяльна-культурныя змены. У грамадстве існуе сістэма сацыяльных інстытутаў, у межах якіх здзяйсняецца станаўленне інфармацыйнай культуры асобы: сям'я, вучэбна-выхаваўчыя ўстановы, рэлігійныя цэнтры, музеі, бібліятэкі, архівы, органы навуковай інфармацыі, выдавецтвы, кнігагандлёвыя прадпрыемствы і інш. Пастаянны рост аб'ёму сацыяльнай інфармацыі, ускладненне камунікацыйных працэсаў выклікалі ўзнікненне новых праблем: тэхнакратызацыі мыслення, магчымасці ніве́ліравання духоўных каштоўнасцей, пагрозы дэгуманізацыі грамадскага жыцця, маніпуліравання свядомасцю асобы і інш. У такіх умовах узрасла патрэба ў павышэнні культуры выкарыстання інфармацыйных рэсурсаў грамадства, узмацненні спосабаў абароны інфармацыі, фарміраванні маральных прынцыпаў, адэкватных новай інфармацыйнай сітуацыі, пашырэнні камп'ютэрнай і бібліятэчна-бібліяграфічнай адукаванасці. Іншымі словамі, у кожнага чалавека павінен быць сфарміраваны высокі ўзровень інфармацыйнай культуры, які дазволіць яму не толькі адаптавацца і камфортна адчуваць сябе ў сучаснай інфармацыйнай сітуацыі, але і актыўна ўдзельнічаць у пераўтварэнні рэчаіснасці.



## 10.2. Асаблівасці інфарматызацыі духоўнай культуры

Магістральным шляхам станаўлення інфармацыйнага грамадства з'яўляецца працэс інфарматызацыі. Асаблівасці працэсу інфарматызацыі ў сферы культуры вызначаюцца перш за ўсё спецыфікай самой інфармацыі аб культуры. Слова "інфармацыя" паходзіць ад лац. *informatio* — тлумачэнне, выкладанне, паведамленне. Існуе мноства азначэнняў паняцця "інфармацыя". Адны пад ім разумеюць звесткі, якія з'яўляюцца аб'ектам захавання, пераўтварэння і распаўсюджвання ў сістэме камунікацый. Іншыя інфармацыю разглядаюць як звесткі аб навакольным свеце, якія ўспрымаюцца чалавекам. Нярэдка інфармацыя ўяўляецца як даныя, якія належаць уводу ў ЭВМ, захоўваюцца ў яе памяці, апрацоўваюцца на ЭВМ і выдаюцца карыстальнікам.

Утварэнне інфармацыі прадугледжвае абавязковую наяўнасць крыніцы інфармацыі (аб'екта, які перадае), паведамлення (упарадкаванай пэўным чынам сукупнасці сігналаў), асяроддзя, якое перадае, сродкаў перадачы паведамлення, карыстальніка інфармацыі (суб'екта, што ўспрымае).

У любой натуральнай або штучнай сістэме інфармацыя выконвае наступныя ***функцыі***:

- *намінацыі* (забяспечвае індывідуалізацыю аб'ектаў, іх адносін, якасцей і іншае, што дазваляе ў далейшым іх успрымаць, адрозніваць, фіксаваць, перадаваць, інтэрпрэтаваць);
- *камунікацыі* (забяспечвае абмен сукупнасцю ўпарадкаваных сігналаў паміж адрасантам і адрасатам);
- *кіравання* (забяспечвае рэгуляванне паводзін асобы, выбар аптымальнага рэжыму жыццядзейнасці);

— *адаптацыі* (забяспечвае магчымасць прыстасавання асобы да навакольнага асяроддзя, соцыуму, спрыяе камфортнаму самаадчуванню);

— *кумуляцыі* (забяспечвае назапашванне прыроднага, сацыяльнага вопыту, захаванне сацыяльнай памяці грамадства).

Інфармацыя з'яўляецца вынікам біялагічнай і сацыяльнай жыццядзейнасці чалавека, асноўнай крыніцай яго ведаў аб рэчаіснасці. Інфармацыя, ствараемая, захоўваемая і распаўсюджваемая ў соцыуме, надзвычай разнастайная па знакавай прыродзе, спосабах успрымання, сродках фіксацыі і ўзнаўлення. Яна мае форму і змест. Змест адлюстроўвае асаблівасці фрагментаў рэчаіснасці, на якія накіравана пазнавальная дзейнасць суб'екта. Форма адпавядае псіхафізічным асаблівасцям яе трансляцыі і ўспрымання. Змястоўныя і фармальныя характарыстыкі інфармацыі вельмі разнастайныя.

Інфармацыя аб духоўнай культуры адносіцца да сацыяльнай інфармацыі і падзяляецца на наступныя ***віды***:

• *масавыя*, прызначаныя для грамадства ў цэлым, незалежна ад дзялення яго на розныя сацыяльныя групы. Гэта інфармацыя ўяўляе сукупнасць звестак, даступных кожнаму члену грамадства, збіраецца і распаўсюджваецца па афіцыйных каналах, сродках масавай інфармацыі;

• *групавыя*, арыентаваныя на пэўную мэтавую сацыяльную (узроставую, прафесійную, палітычную і інш.) групу з аднароднымі інфармацыйнымі патрэбнасцямі;

• *асобасныя*, разлічаныя на канкрэтнага чалавека і перадаваемыя пры міжасобасных зносінах.

Духоўная культура выкарыстоўвае разнастайную інфармацыю, якая адрозніваецца асаблівасцямі ўспрымання яе індывідамі. Вылучаюць гукавую, візуальную, аўдыяльную, аўдыёвізуальную, тактыльную, смакавую і інш.

У залежнасці ад выкарыстання выразных сродкаў вылучаецца інфармацыя, выражаная пры дапамозе мімікі, руху, жэстаў; гукаў (членараздзельных і нечленараздзельных); у фіксаванай знакавай форме (пісьмо, малюнкі, графікі, чарцяжы); у рэчавай форме (будынкі, прылады працы, прадметы спажывання).

Па спосабе адлюстравання ў свядомасці чалавека інфармацыя бывае: лагічнай (вынік аб'ектывізаванага, паслядоўнага і заканамернага адлюстравання рэчаіснасці); эстэтычнай (вынік суб'ектыўнага, вобразна-асацыятыўнага адлюстравання рэчаіснасці).

Такім чынам, можна канстатаваць, што інфармацыя аб культуры мае складаную, слаба фармалізаваную і амаль не абмежаваную па аб'ёме структуру (схема 10.1). Таксама значная разнастайнасць тэхналогій фіксацыі, большасць з якіх мае унікальную многаўзроўневую структуру, адлюстроўвае асаблівасці інфармацыі аб культуры. Гэты від інфармацыі вызначаецца (у параўнанні з інфармацыяй іншых галін) найбольшым аб'ёмам; найвышэйшай складанасцю і многаўзроўневасцю; шматлікасцю структурных сувязей як унутрыродавага, так і знешняга характару; найвышэйшай дынамікай.



Пры гэтым у дачыненні да мастацкай культуры ў цэлым адсутнічае адзіная уніфікаваная мова яе апісання, а сама магчымасць стварэння і існавання такой мовы цяжка паддаецца рацыянальнай ацэнцы. Пры гэтым культура ўяўляецца як вялікая многаўзроўневая кібернетычная сістэма. Аналіз аб'ектаў вядзецца з пазіцый сістэмнага падыходу. Сістэмны падыход мае велізарнае значэнне пры даследаванні культуры з прычыны слабай фармалізаванасці апісанняў яе аб'ектаў. Менавіта агульная тэорыя сістэм займаецца заканамернасцямі стварэння і ўдасканалення мадэляў. Іх можна назваць дакладнымі, але яны не з'яўляюцца матэматычнымі ў сэнсе класічных межаў матэматыкі. У той жа час матэматычная мадэль — найбольш пажаданае і дасканалае адлюстраванне.

Схема 10.1

**Віды інфармацыі аб духоўнай культуры**



***Мэтамі*** інфармацыйнага мадэліравання культуры з'яўляюцца стварэнне і ўдасканаленне навукова-метадычнага забеспячэння сістэм інфармацыйнай падтрымкі, навучання і канструявання ў культуры для павышэння хуткасці стварэння, атрымання і дакладнасці інфармацыі аб культуры на базе інфармацыйных тэхналогій. Гэтыя мэты можна сфармуляваць як вызначэнне, апісанне і ўдасканаленне структуры і функцый духоўнай культуры з улікам яе ўласных і глабальных інфармацыйных працэсаў.

Асаблівасці інфармацыйнага мадэліравання духоўнай культуры вынікаюць са спецыфікі інфармацыі аб культуры. Група праблем тычыцца як уласных, так і тэхналагічных цяжкасцей мадэліравання, разглядаемага ў якасці працэсу.

Да значных праблем адносіцца адсутнасць адзінай "сістэмы зносін" паміж дакладнымі і гуманітарнымі навукамі, якая б дазваляла апісваць аб'екты культуры дакладнымі метадамі на базе агульнапрынятых тэрмінаў.

Складанасць заключаецца ў розных падыходах да азначэння сутнасці творчых працэсаў паводле іх фармалізацыі (спецыялісты па мадэліраванні), з аднаго боку, і паводле ўласна творчасці (творцы і гуманітарныя даследчыкі), з другога. Узнікае яна таму, што працэс мадэліравання прадугледжвае сумесную ўзгодненую дзейнасць абодвух названых бакоў, без якой немагчыма разлічваць на поспех.

Мадэліраванне ёсць фармалізацыя. Творчы працэс не можа быць цалкам фармалізаваным, таму што інакш ён губляе творчую сутнасць. Аднак некаторыя часткі, прыдатныя для фармалізацыі, існуюць і ў творчых працэсах. Пры гэтым трэба ўлічваць, што сама творчасць таксама развіваецца. Адна з задач мадэліравання — забяспечыць умовы для паскарэння гэтага развіцця. Пры асваенні мадэліраваннем пэўных частак творчага працэсу творчасць усё роўна рухаецца, знаходзячыся наперадзе, выступаючы ў якасці ліміту фармалізацыі.

Нягледзячы на пералічаныя складанасці інфарматызацыі сацыякультурнай сферы, у гэтым кірунку ўжо дасягнуты значныя поспехі. Камп'ютэрызацыя як глабальны працэс з'явілася магутным каталізатарам распрацовак інфармацыйных мадэляў узораў мастацкай культуры. Праблемы ўкаранення камп'ютэрнай тэхнікі ў культуру паказалі неабходнасць праектавання і стварэння метадычнага забеспячэння з улікам спецыфікі прадметнай галіны.



## 10.3. Інфармацыйная культура спецыяліста сацыякультурнай сферы

Інфармацыйная культура — новы навуковы кірунак у сістэме навук сацыягуманітарнага комплексу. Ён аформіўся і стаў актыўна развівацца ў канцы 80—90-х гадоў XX ст., што абумоўлена паступальным развіццём чалавечай супольнасці, выключнай важнасцю інфармацыі ў гэтым працэсе. Разглядаемае паняцце фарміруецца на стыку адукацыі і культуры і ўжываецца для характарыстыкі шырыні ведаў спецыяліста. Расійскі даследчык гэтай праблемы Н.Б.Зіноўева лічыць, што пад ***інфармацыйнай культурай*** неабходна разумець сацыяльна-прагрэсіўную дзейнасць чалавека па фарміраванні ведаў, уменняў і навыкаў ствараць і выкарыстоўваць інфармацыю ў мэтах гарманізацыі асобы, пераадолення недахопаў дысфункцыянальнага спажывання інфармацыі, распазнавання інфармацыйных маніпуляцый і ўменняў супрацьстаяць ім.

Аб'ём зместу паняцця "інфармацыйная культура асобы" мае светапоглядны, культуралагічны, маральна-этычны, псіхалагічны, сацыяльны, тэхналагічны аспекты (схема 10.2) і ўключае:

- усведамленне сутнасці, законаў і заканамернасцей функцыянавання інфармацыі ў грамадстве, тэарэтычнае асэнсаванне ролі інфармацыі ў кантэксце культуры і ўздзеяння яе на асобу;
- выхаванне асабістай адказнасці, прынцыпаў і перакананняў, якія б супярэчылі ўспрыманню сацыяльна-дэструктыўнай інфармацыі і дэзінфармацыі і маніпуліраванню імі;
- выпрацоўку аптымальнай рэакцыі на інфармацыю, якая пастурае, яе адэкватнае ўспрыманне;
- набыццё неабходнага ўзроўню інфармаванасці як абавязковай умовы сацыялізацыі асобы, паспяховай вучэбнай і прафесійнай дзейнасці;
- валоданне сучаснымі інфармацыйнымі тэхналогіямі, знаёмства з інфармацыйнымі рэсурсамі грамадства, выпрацоўку навыкаў пошуку неабходнай інфармацыі, яе захаванне, перапрацоўку, выкарыстанне.

Інфармацыйная культура — комплексны навуковы кірунак, таму што ён цесна ўзаемазвязаны з шэрагам навуковых дысцыплін:

- гнасеалогіяй, тэорыяй інфармацыі і сацыяльных камунікацый, тэорыяй культуры (у яе межах інфармацыя разглядаецца як феномен матэрыяльнага і ідэальнага свету ў кантэксце сусветнай культуры);

• псіхалогіяй, сацыялогіяй, фізіялогіяй (у межах інфармацыйнай культуры асоба разглядаецца як суб'ект інфармацыйнай дзейнасці, вывучаюцца яе інфармацыйныя патрэбнасці на сацыяльным і біялагічным узроўнях);

• педагогікай, інфарматыкай, бібліяграфазнаўствам, бібліятэказнаўствам, архівазнаўствам, музеязнаўствам (функцыянаванне інфармацыі разглядаецца ў межах сацыяльных інстытутаў: сям'я, вучэбна-выхаваўчыя ўстановы, масавыя камунікацыі).

Тым не менш інфармацыйная культура з'яўляецца самастойным навуковым кірункам прыкладной культуралогіі. Ён мае свой аб'ект і прадмет вывучэння. *Аб'ектам* інфармацыйнай культуры з'яўляецца сістэма інфармацыйных узаемаадносін грамадства і асобы, *прадметам* — працэс гарманізацыі ўнутранага свету чалавека ў працэсе стварэння і спажывання інфармацыі.

Курс "Інфармацыйная культура асобы" ўведзены ў вучэбныя планы вышэйшых навучальных устаноў культуры і мастацтва. Ён займае важнае месца ў структуры падрыхтоўкі спецыялістаў у сферы культуры і мастацтва. Гэта абумоўлена асаблівасцямі сучаснай грамадскай практыкі: паскарэннем і ўскладненнем інфармацыйных працэсаў, актыўным пранікненнем камп'ютэрных тэхналогій ва ўсе сферы жыццядзейнасці чалавека. Значнае павелічэнне аб'ёму і ўскладненне зместу ствараемай інфармацыі абвастрылі праблемы арыентацыі ў назапашаных грамадствам інфармацыйных масівах, узмацнілі патрабаванні да ўзроўню вытворчасці і прадстаўлення новых ведаў, захавання правоў аўтара на створаную ім або іншымі асобамі інфармацыю. Перад кожным спецыялістам, асабліва калі ён займаецца навуковай дзейнасцю, узнікаюць праблемы выпрацоўкі аптымальнага алгарытму пошуку інфармацыі, адбору найбольш каштоўных дакументаў з усёй сукупнасці знойдзеных, якаснай працы з дакументна фіксаванай інфармацыяй, правільнага афармлення спасылачнага апарату да прадуктаў уласнай навуковай дзейнасці.

Схема 10.2

**Структура аспектаў інфармацыйнай культуры**






Спецыялісты ў галіне культуры і мастацтва за час вучобы павінны засвоіць шырокі спектр агульнагуманітарных, агульнанавуковых і прафесійных ведаў, у тым ліку прынцыпы і прыёмы пошуку, збірання, сістэматызацыі, абагульнення, стварэння і прадстаўлення інфармацыі, правядзення навуковых даследаванняў, адпаведных профілю іх будучай прафесіі. Таму практыка падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйназванай катэгорыі патрабуе вывучэння курса "Інфармацыйная культура асобы". Зразумела, арыентацыя ў інфармацыйных рэсурсах грамадства, валоданне камп'ютэрнымі тэхналогіямі, уменне весці эфектыўны пошук інфармацыі, рацыянальна працаваць з тэкставым матэрыялам не з'яўляюцца асноўнымі патрабаваннямі да спецыялістаў у галіне культуры і мастацтва і адпаведна магістральным кірункам вучэбнага працэсу па іх падрыхтоўцы. Аднак ва ўмовах інфарматызацыі асноўных сфер жыцця грамадства, актывізацыі навукова-даследчай дзейнасці менавіта гэты аспект падрыхтоўкі павінен забяспечыць інфармацыйна-камфортную сітуацыю вучэбнай, навуковай, а ў будучым прафесійнай і навукова-даследчай дзейнасці. У спецыяліста павінны быць сфарміраваны культура спажывання інфармацыі, культура выбару інфармацыі, культура пошуку інфармацыі, яе аналізу і перапрацоўкі, культура засваення, стварэння, перадачы і абмену інфармацыяй.

Асноўная мэта курса "Інфармацыйная культура асобы" — фарміраванне ў будучых спецыялістаў у галіне культуры і мастацтва цэласнага ўяўлення аб заканамернасцях функцыянавання інфармацыі ў грамадстве і асаблівасцях інфармацыйнай дзейнасці спецыяліста падчас выканання сваіх прафесійных абавязкаў і правядзення навуковых даследаванняў. Курс уключае як агульнатэарэтычную частку, так і аперацыйна-тэхналагічную. Агульнатэарэтычная частка дае ўяўленне аб сутнасці інфармацыі, яе рассейванні і канцэнтрацыі, асноўных разнавіднасцях, заканамернасцях яе стварэння і распаўсюджвання, змяшчае агульную характарыстыку інфармацыйных рэсурсаў грамадства. Аперацыйнатэхналагічная частка змяшчае матэрыял аб асаблівасцях выкарыстання інфармацыйных рэсурсаў пэўнай групай карыстальнікаў, выпрацоўцы стратэгіі пошуку неабходнай інфармацыі, стварэнні і афармленні першасных і другасных дакументаў.

## 10.4. Мультымедыйныя тэхналогіі ў культуры Рэспублікі Беларусь

Задачы мадэліравання мастацкіх працэсаў на базе метадаў матэматыкі ставіліся даўно. Найбольшыя поспехі ў руху камп'ютэрызацыі культуры дасягнуты ў заходнееўрапейскіх краінах і ЗША.

Першы этап камп'ютэрнай інфарматызацыі грамадства, які шырока вядомы пад назвай "аўтаматызацыя", быў накіраваны галоўным чынам на выкарыстанне камп'ютэраў для рашэння ўнутраных задач арганізацый, устаноў, прадпрыемстваў.

З шырокім распаўсюджаннем персанальных камп'ютэраў і з'яўленнем шырокадаступных тэлекамунікацыйных сетак змяніўся напрамак інфарматызацыі. Яе аб'ектам стала грамадства ў цэлым, пачаўся пераход да прынцыпова новага інфармацыйнага грамадства. У сферы культуры тэлекамунікацыйныя камп'ютэрныя сеткі дазваляюць выйсці за межы ўнутраных тэхналагічных задач і рэалізаваць сродкамі інфарматыкі па сутнасці галоўны ланцуг, а іменна стварэнне аб'екта культуры — культурнае абслугоўванне — выкарыстанне.

Значнымі з'яўляюцца і поспехі ў камп'ютэрызацыі бібліятэчнай і музейнай справы. У краінах Захаду музеі займаюць істотнае месца ў глабальных інфармацыйных структурах. Узнікаюць і ажыццяўляюцца праекты электронных экспазіцый, створаны базавыя праграмна-тэхнічныя сродкі аўтаматызацыі ўліку музейных рэчаў. У ЗША разгортваецца камп'ютэрызацыя паркаў і іншых месцаў адпачынку. Камп'ютэрызацыя інтэнсіўна пранікае і ў сферу культуралагічнай і мастацкай адукацыі. Інтэнсіўна развіваецца працэс камп'ютэрызацыі музычнага мастацтва. Гэта звязана з тым, што само ўзнікненне музычнай сістэмы (ладу) ажыццяўлялася на базе матэматычных ведаў.

Мастацкая культура ва ўсё большай ступені адлюстроўваецца ў глабальнай камп'ютэрнай сетцы Internet. У першую чаргу гэта датычыць масавых жанраў і відаў.

Развіццё мультымедыйных тэхналогій адкрыла новыя магчымасці для выхаду культуры Беларусі ў сусветную культурную прастору. Мастацтва і культура ў цэлым — адзін з галоўных сярод традыцыйных сродкаў сувязей паміж людзьмі. І на сёння асаблівую актуальнасць набывае задача найбольш поўнага выкарыстання мультымедыйных тэхналогій у гэтай галіне ведаў.

Актыўная работа ў пазначаным напрамку пачалася ў 90-я гады мінулага стагоддзя і паспяхова працягваецца. Першыя яе вынікі ўжо знайшлі практычнае прымяненне. На мову камп'ютэра пера-



кладзены і прадстаўлены ў выглядзе мультымедыйных кампакт-дыскаў шэраг тэм з народнага і прафесійнага мастацтва. Гаворка ідзе аб беларускай архітэктуры і яе сувязях з прыродным асяроддзем, ландшафтам, кліматычнымі фактарамі; аб беларускім іканапісе на фоне гісторыі хрысціянства; аб традыцыйным беларускім адзенні і яго рэгіянальнай спецыфіцы. У эксперыментальна-пошукавым плане падрыхтаваны і выдадзены мультымедыйны матэрыял "100 рарытэтаў з музеяў Беларусі". Падрыхтаваны арыгінал-макеты шэрага выпускаў: "Вытокі майстэрства", "Народныя песні Цэнтральнай Беларусі", "Музеі Беларусі" (ілюстраваны мультымедыйны даведнік).

У лабараторыі мультымедыйных тэхналогій Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры ствараецца серыя выданняў "Культура Беларусі: лепшыя старонкі". У праект уключаны распрацоўкі па наступных напрамках:

- *прафесійнае мастацтва і мастацтвазнаўства:* літаратура, тэатр, музыка, харэаграфія, кіно, выяўленчае мастацтва, архітэктура, тэлебачанне, эстрада, цырк і інш.;
- *народная творчасць і фалькларыстыка*: песенная, інструментальная, танцавальная; мастацкія промыслы і рамёствы, традыцыі і рытуалы, святы, самадзейнае мастацтва і інш.;
- *мастацкая адукацыя*: пачатковая, сярэдняя, вышэйшая мастацкая адукацыя, навукова-метадычнае забеспячэнне адукацыі;
- *матэрыяльная культура*: помнікі, гістарычныя пахаванні, мемарыяльныя комплексы, манументальнае мастацтва, ландшафтныя помнікі, паркі, фонды (архіваў, музеяў, кіно, бібліятэк і інш.), будынкі і памяшканні (тэатраў, канцэртных залаў, салонаў, галерэй і інш.), электронныя сродкі і інш.;
- *культура нацыянальных меншасцей*;
- *творчыя саюзы Беларусі*: Саюз мастакоў, Саюз тэатральных дзеячаў, Саюз кампазітараў, Саюз архітэктараў і інш.;
- *музеі Беларусі*: прыродазнаўчыя, гістарычныя і інш.;
- *культура і рэлігія*: канфесіі ў Беларусі, традыцыі, абрады і рытуалы, мастацтва і рэлігія, адукацыя і выхаванне і інш.;
- *культуралогія*: гісторыя беларускай культуры, бібліяграфія культуралогіі, персаналіі;
- *культура ў міжнародным аспекце*: беларускае мастацтва за мяжой, сусветная мастацкая культура ў Беларусі, супрацоўніцтва з замежнымі арганізацыямі, узаемадзеянне культур.

Пералічаныя напрамкі могуць колькасна і якасна мяняцца ў залежнасці ад тэарэтычных падыходаў, патрабаванняў часу, наяўнасці творчых калектываў, запатрабаванняў насельніцтва, рынач-

най кан'юнктуры і інш. Агульная ідэя зводзіцца да таго, каб як мага шырэй паказаць беларускую культуру ў мультымедыйным варыянце. Вопыт выкарыстання мультымедыйных выданняў сведчыць аб вялікай перавазе мультымедыйнай прадукцыі над іншымі формамі фіксацыі дасягненняў культуры. Кампактнасць, комплекснасць, дынамізм дазваляюць карыстальніку бачыць і аналізаваць вялікую колькасць з'яў культуры. Мультымедыйныя выданні прызначаны спрыяць набыццю паўнацэнных ведаў аб гісторыі Беларусі. Яны замяняюць вялікую колькасць кніг, энцыклапедый, даведнікаў і інш. Аб'ём тэкставай, ілюстрацыйнай, аўдыё- і відэаінфармацыі, размешчаны на адным кампакт-дыску, забяспечвае карыстальніку хуткі пераход ад аднаго раздзела мультымедыйнага выдання да другога, ствараючы такім чынам аптымальныя магчымасці для набыцця ведаў. Пераклад такіх выданняў на іншыя мовы будзе, безумоўна, садзейнічаць наладжванню і паглыбленню кантактаў паміж краінамі.

У бібліятэчнай справе Беларусі ў межах разнастайных дзяржаўных і ведамасных навукова-тэхнічных праграм вядуцца праектныя работы па ўкараненні тыпавых тэхнічных рашэнняў, на базе якіх ствараецца бібліятэчная камп'ютэрная сетка краіны.

Шмат зроблена на шляху інфарматызацыі музейнай галіны. Вынікам укаранення новых інфармацыйных тэхналогій у музейную практыку, перш за ўсё ў структуру музейных фондаў, можна лічыць новую версію АІС “Фонды”, якая актыўна ўкараняецца ў большасці музеяў. Праводзіцца праца па замене старой версіі на новую і адпаведна канвертацыі даных у музеях рэспубліканскага значэння. Для дадзенай сістэмы ў рамках дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы “Культура” былі створаны стандарт навуковага апісання музейных прадметаў, а таксама варыянт універсальнай класіфікацыйнай схемы музейных калекцый; для шэрага апісальных катэгорый АІС распрацоўваюцца слоўнікі — дыскрыптары і гласарыі. Акрамя таго, лабараторыяй музейнага праектавання Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры разам з фірмай “ІНЕАК” была прапанавана і зацверджана Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь канцэпцыя рэспубліканскага Зводнага электроннага каталога музейных каштоўнасцей. Яго стварэнне дазволіць не толькі сістэматызаваць усю інфармацыю аб музейным фондзе краіны, але і будзе спрыяць актыўнай ідэнтыфікацыі спадчыны і яе захаванню.

У Мінскай вобласці ўсе дзяржаўныя музеі цэнтралізаваны (за кошт абласнога бюджэту), забяспечаны не толькі камп'ютэрнай тэхнікай, але і пакетам адпаведных праграм па навуковай інвентарызацыі музейных фондаў. У выніку ў 2002 г. музеі Мінскай вобласці прадэманстравалі самы высокі паказчык навуковай апрацоўкі музейных фондаў — 93% . Толькі Любанскі музей народнай славы ўвёў у музейную базу даных 6000 адзінак асноўнага фонду.



Плённа працуюць у галіне засваення новых інфармацыйных тэхналогій Мазырскі аб'яднаны краязнаўчы музей, Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік, гісторыка-культурны музей-запаведнік “Заслаўе”, Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей і шэраг іншых музеяў. Некаторыя з іх маюць уласныя web-сайты. Так, 8 беларускіх музеяў прадстаўлены на сайце Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (www.natlibr.org.by), ёсць таксама сайты Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка (www.psu.unibel.by/museum), музея М.Шагала (www.Chagall.vitebsk.by) і музея воінаў-інтэрнацыяналістаў у Віцебску (www.v3.vitebsk.by/afgan).

Узровень працэсу музейнага дакументавання, безумоўна, уплывае і на якасць музейнай прэзентацыі, хаця і не з'яўляецца вызначальным.

Адзначаючы пэўныя дасягненні ў напрамку камп'ютэрызацыі сацыяльна-культурнай сферы, трэба заўважыць, што па шэрагу прычын мультымедыйныя тэхналогіі ў галіне культуры ў Беларусі развіваюцца недастаткова інтэнсіўна. Сярод іх вызначальнай з'яўляецца невялікая колькасць творчых калектываў, у склад якіх уваходзяць даследчыкі — мастацтвазнаўцы, культуролагі і спецыялісты ў галіне мультымедыйных тэхналогій.

Да гэтага часу яшчэ дакладна не акрэслены галоўныя мэты інфарматызацыі. Імі з'яўляюцца:

- забеспячэнне магчымасці доступу да культурных каштоўнасцей рэспублікі шырокага кола спажыўцоў і спецыялістаў незалежна ад іх дзяржаўнай прыналежнасці і тэрытарыяльнага размяшчэння;
- павышэнне “трываласці” ўстаноў культуры за кошт іх тэхнічнага пераасняшчэння і адаптацыі да новых умоў інфармацыйнага грамадства;
- шырокая прапаганда беларускай культуры ў рэспубліцы і свеце.

Для рэалізацыі гэтых мэт неабходна вырашыць наступныя ***задачы:***

- стварыць ва ўстановах і арганізацыях культуры інфармацыйныя тэхналогіі і базы даных па культуры;
- стварыць інфармацыйныя сховішчы і базы даных электронных копій аб'ектаў культуры;

• забяспечыць шырокі тэлекамунікацыйны доступ да аб'ектаў культуры;

• забяспечыць стварэнне і развіццё новых відаў твораў культуры і мастацтва на аснове інфармацыйнай тэхнікі і інфармацыйных тэхналогій;

• стварыць шырокадаступныя інфармацыйныя культуралагічныя сістэмы для аматараў і прафесіяналаў;

• прадугледзець выдавецкую дзейнасць на аснове беспаперных тэхналогій;

• стварыць тэматычныя і рэгіянальныя цэнтры культуры ў сетцы Internet і шырока абслугоўваць на іх базе кола спажыўцоў.

Для вырашэння практычных задач інфарматызацыі культуры неабходна:

• стварыць аўтаматызаваны рэестр устаноў культуры, якi з'явіцца асновай для развіцця аўтаматызацыі кіравання культурай у рэгіёнах;

• мадэрнізаваць тэхналагічныя аўтаматызаваныя сістэмы і сеткі ў сістэме публічных бібліятэк на базе найноўшых сродкаў інфарматыкі;

• стварыць зводны электронны каталог бібліятэк рэспублікі;

• распрацаваць і ўкараніць аўтаматызаваныя тэхналагічныя сістэмы ў музеях рэспублікі;

• стварыць інфармацыйнае сховішча электронных копій музейнага фонду і музейных электронных экспазіцый у Internet;

• стварыць на базе Нацыянальнай бібліятэкі электроннае кніжнае сховішча і электронную бібліятэку з ахопам фондаў вядучых публічных бібліятэк.

Камп'ютэрызацыя культурнага працэсу — гэта надзённая неабходнасць. Эфектыўны рух да карыстальніка мультымедыйнай прадукцыі культурнага профілю мае вялікае значэнне пры пераходзе да сучаснага інфармацыйнага грамадства.



**Пытанні і заданні**

1. Як вы разумееце паняцце "інфарматызацыя культуры".
2. Дайце азначэнне паняцця "інфармацыйная патрэбнасць".
3. Пералічыце асноўныя рысы інфармацыйнага грамадства.
4. Чым вы растлумачыце асаблівасці інфарматызацыі культуры?
5. Прааналізуйце асноўныя кірункі развіцця інфарматызацыі беларускай культуры.
6. Якія задачы неабходна вырашыць для рэалізацыі галоўных мэт інфарматызацыі культуры?

**Літаратура**

*Аб інфарматызацыі:* Закон Рэспублікі Беларусь: Прыняты 6 вер. 1995 г. // Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.— 1995.— №33.— Арт.428.— С.3—15.

*Бураўкін, А.Г.* Інфармацыйныя тэхналогіі ў мастацтве / навук. рэд. М.А.Ярмаш.— Мн.: Бел. ун-т культуры, 1999.— 250 с.

*Зарипов, Р.Х.* Кибернетика и музыка.— М.: Наука, 1971.— 235 с.

*Кузьмініч, Т.В.* Інфармацыйная культура асобы: вучэб. дапам.— Мн.: Бел. дзярж. ун-т культуры, 2002.— 168 с.

# 11. КАДРЫ КУЛЬТУРЫ

## 11.1. Супярэчнасці кадравай палітыкі і іх пераадоленне

Сучасны спецыяліст сацыяльна-культурнай сферы імкнецца асэнсаваць падзеі, якія адбываюцца ў грамадстве, далучыцца да пошуку сацыяльнах рашэнняў, што ўплываюць на грамадскае і асабістае жыццё. Ён жадае быць актыўным удзельнікам кожнай падзеі, у якую ўцягваецца па сваіх службовых абавязках, закліку сэрца, волі лёсу. Асабліва высокія патрабаванні прад'яўляюцца да асобы кіраўніка, яго функцыянальных, дзелавых, камунікатыўных і этычных якасцей.

Доўгі час дзяржаўныя і грамадскія інстытуты культурна-асветнай адукацыі выпускалі спецыялістаў бібліятэчнай справы, інструктараў і метадыстаў клубнай работы, кіраўнікоў самадзейнай мастацкай і навукова-тэхнічнай творчасці, супрацоўнікаў музеяў, лектараў, арганізатараў культасветнай работы ў дзяржаўных і прафсаюзных органах, у працоўных калектывах і па месцы жыхарства. Гэтыя спецыялісты далучалі людзей да розных формаў самадзейнай творчасці, ажыццяўлялі эстэтычную адукацыю дзяцей, займаліся арганізацыяй адпачынку розных груп насельніцтва.

У аснову падрыхтоўкі культасветработнікаў было пакладзена празмерна шырокае разуменне культурна-асветніцкай дзейнасці, якая прадугледжвала і палітычную асвету, і эканамічную адукацыю, і працоўнае выхаванне, і развіццё разнастайных відаў і формаў самадзейнай творчасці, і многае іншае. Безумоўна, у такіх умовах выпускнікі інстытутаў культуры і культурна-асветных вучылішчаў не маглі дасканала ведаць работу ўсіх азначаных сфер, у тым ліку і работу культурна-адпачынкавай сферы. Спецыяліст апошняй павінен ведаць духоўныя каштоўнасці асобы,



асаблівасці яе фізіялогіі, псіхалогіі, этыкі, эстэтыкі і інш. Вельмі важнае значэнне для такога работніка мае веданне педагогікі сацыякультурнай дзейнасці.

У перыяд сістэмнай трансфармацыі беларускага грамадства вызначыліся новыя грані кадравай праблемы. Яе сацыялагічныя даследаванні фіксавалі стрыманыя ацэнкі сітуацыі ў гэтай галіне. Даследаванні сярэдзіны і другой паловы 90-х гадоў XX ст. сведчаць аб тым, што вялікая частка рэспандэнтаў — прадстаўнікоў розных сацыяльна-прафесійных груп — выказвалі тую ці іншую ступень незадаволенасці кадравай сітуацыяй у сферы культуры. Фіксавалася змяненне складальнікаў гэтай незадаволенасці і фактараў, якія яе абумоўліваюць. Так, калі ў даследаваннях перыяду, ахарактарызаванага як пачатак актыўных сацыяльных пераўтварэнняў, пераважалі такія паказчыкі, як дрэнная запаўняльнасць штатаў устаноў культуры (наяўнасць вакансій), цякучасць кадраў, дык пазней на першы план выходзіць такі паказчык, як недахоп менавіта патрэбных спецыялістаў. Гэта значыць, што сацыяльна-эканамічныя абставіны стварылі ва ўстановах культуры сітуацыю, калі работнік павінен не проста займаць працоўнае месца, а быць прафесіяналам. Сярод іншых прычын, якія далі падставы работнікам культуры ацаніць кадравую сітуацыю як не зусім здавальняючую (74% рэспандэнтаў) або як зусім нездавальняючую (26% рэспандэнтаў), названы такія: “Штаты запоўнены, але ўзровень падрыхтоўкі некаторых спецыялістаў не адпавядае функцыянальным абавязкам”, “Многія работнікі не выяўляюць належнай ініцыятывы”, “Частка спецыялістаў адстае ад патрабаванняў часу”, “Кадраў не хапае, ёсць вакансіі”, “Слабы прыток свежых сіл, мала моладзі”.

Аналіз паказаў, што першыя дзве прычыны звязаны з недастатковым узроўнем прафесійнай падрыхтоўкі работнікаў культуры. Адукацыйны патэнцыял работніка — гэта сінтэз агульнаадукацыйных, агульнакультурных і спецыяльных ведаў, атрыманых у сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, на курсах павышэння кваліфікацыі, перападрыхтоўкі і шляхам самаадукацыі. Даследаванні сведчаць аб тым, што работнікі культуры ўсіх катэгорый адчуваюць патрэбнасць не толькі ў пастаянным папаўненні сваіх ведаў, асновы якіх яны набылі ў навучальных установах, але і ў атрыманні якасна новай інфармацыі, неабходнасць у якой узнікла па прычыне змены зместу і формаў іх дзейнасці.

Так, загадчыкі аддзелаў культуры вылучылі ў якасці прыярытэтных веды:

- па эканамічных і юрыдычных пытаннях — 59,7%;

• у галіне кіравання, арганізацыі дзейнасці і эканомікі ўстаноў культуры — 58,3%;
• па методыцы і арганізацыі культурна-асветнай работы — 51,4%;
• у канкрэтных галінах мастацтва і культуры — 44,4%;
• па менеджменце — 43,1%;
• па сацыялогіі кіравання — 31,9%;
• па псіхалогіі і педагогіцы — 30,6%;
• грамадска-палітычныя — 15,3%.

Дырэктары Дамоў культуры і загадчыкі клубаў, паводле апытанняў, маюць патрэбу ў ведах па такіх дысцыплінах, як тэорыя і гісторыя культуры, гісторыя мастацтва, этналогія і фалькларыстыка, педагогіка, клубная работа, арганізацыя клубнай справы, а таксама ў галінах кіравання, у культуры і культурнай палітыцы за мяжой. Што тычыцца набыцця ведаў у галіне культуры і культурнай палітыкі за мяжой, то цікавасць да гэтага ўзнікла ў апошнія гады, верагодна, у сувязі з пашырэннем кантактаў з замежнымі ўстановамі культуры і мастацкімі калектывамі.

Для радавых спецыялістаў характэрна свая шкала пераваг, хаця ў цэлым яна ўключае прыблізна той жа набор дысцыплін, што і ў дырэктараў Дамоў культуры. Праўда, на першы план тут выходзяць такія дысцыпліны, як псіхалогія, асноўная спецыяльнасць, педагогіка, гісторыя мастацтва і інш.

Захаваны практычна нязменным на працягу многіх гадоў пералік дысцыплін, па якіх работнікі культуры хацелі б пастаянна атрымліваць новыя веды (дакладней, у якіх яны адчуваюць недахоп), сведчыць не толькі аб тым, што гэтыя навукі імкліва развіваюцца, але і аб тым, што ў навучальных установах, якія закончылі рэспандэнты, ёсць праблемы з выкладаннем названых прадметаў. Сказанае датычыць не толькі навучальных устаноў культуры і мастацтва, але ў большай ступені іншых ССНУ і ВНУ, выпускнікі якіх працуюць у сферы культуры.

Такім чынам, дзейнасць ва ўмовах змены сацыяльна-эканамічнай сітуацыі патрабуе ўдасканалення кадравай палітыкі ў сацыякультурнай сферы, накіраванай на павышэнне матэрыяльнай зацікаўленасці кожнага работніка, яго агульнаадукацыйнага і прафесійнага ўзроўняў; новых формаў работы па падборы, расстаноўцы і навучанні кадраў; паляпшэння ўмоў працы і быту работнікаў; умацавання працоўнай і выканаўчай дысцыпліны; укаранення дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу.

У цяперашніх умовах менавіта кадравая служба павінна стаць тым механізмам, які заклікаты забяспечыць стабільны якасны ўзровень як калектыву ў цэлым, так і асобнага работніка. Сукупнасць гэтых метадаў уплывае на канчатковыя вынікі працы ўстаноў культуры.



Разам з тым неабходна адзначыць, што да нашага часу структура кадравых службаў і сістэма іх работы ў некаторых установах сферы культуры застаюцца ранейшымі, што з'яўляецца галоўным тормазам у справе ўдасканалення формаў і метадаў працы. Па-ранейшаму галоўнымі функцыямі кадравых службаў застаюцца ўлік, справаздачнасць і дакументальнае афармленне прыёму, перамяшчэння і звальнення супрацоўнікаў. Падбор, навучанне і выхаванне кадраў, высвятленне прычын парушэння працоўнай і выканаўчай дысцыпліны, прафадбор і адаптацыя, атэстацыя кіраўнікоў і спецыялістаў, вывучэнне, падагульненне і ўкараненне ў практыку перадавога айчыннага і замежнага вопыту і многія іншыя пытанні вырашаюцца недастаткова канструктыўна.

Стаўшы на шлях самастойнага развіцця, беларускае грамадства, па сутнасці, аказалася не падрыхтаваным у кадравых адносінах да правядзення радыкальных пераўтварэнняў, звязаных з пераходам да сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі. Гэта перш за ўсё датычыць кіраўніцкага персаналу і спецыялістаў, у тым ліку занятых у сацыякультурнай сферы. Да цяперашняга часу яшчэ не выйшла з ужытку заганная форма фінансавання сферы культуры па рэшткавым прынцыпе, гэта значыць, што ў культуру прынята ўкладаць толькі тое, што застаецца пасля фінансавання матэрыяльнай вытворчасці. Адсюль уся сфера пераважна інтэлектуальнай працы (адукацыя, культура, навука, кадры якой не ствараюць рэчыўных даброт, а аперыруюць інфармацыйнымі каштоўнасцямі і закладваюць фундамент усякага працоўнага працэсу) па-ранейшаму лічыцца другараднай. Ва ўмовах крызісу эканоміць на гэтай сферы стала звыклым.

На мяжы стагоддзяў вельмі востра паўстала праблема змяняльнасці кадраў. Аб яе складанасці красамоўна сведчыць той факт, што значная колькасць работнікаў сферы культуры — пенсіённага і перадпенсіённага ўзросту. Прычына гэтага — адсутнасць матэрыяльных і маральных стымулаў, якія маглі б прыцягнуць у галіну моладзь, утрымаць спецыялістаў са стажам і практычным вопытам работы. Меры па сацыяльнай падтрымцы маладых спецыялістаў дзяржавай дэкларараваны, але не гарантаваны. Не дзіўна, што пры сучаснай тэндэнцыі адтоку прафесіяналаў са сферы культуры адсутнічае сістэма раўнацэннага іх замяшчэння маладымі спецыялістамі з адпаведнай культуралагічнай адукацыяй. Даследаванні паказваюць прамую залежнасць паміж працягласцю стажу працы і вынікамі працы работніка: па меры павелічэння

стану вынікі, як правіла, паляпшаюцца пры ўмове, калі работнік сістэматычна павышаў кваліфікацыю ў вучэбных цэнтрах і займаўся самаадукацыяй. Акрамя таго, чым вышэйшая ў работніка матывацыя да працы менавіта ў дадзенай установе, тым вышэйшыя яго працоўная і творчая актыўнасць, аддача, канчатковы вынік.

Уваходжанне ў сацыяльна арыентаваную рынкавую эканоміку патрабуе карэннага пераасэнсавання ў справе арганізацыі працы і кіравання ў сферы культуры. Пры гэтым неабходна мець на ўвазе, што задача гэтая — адна са складанейшых і шматаспектных у сваім практычным вырашэнні.

Работніку культуры абавязкова трэба мець спецыяльную базавую адукацыю, а яе адсутнасць можа толькі часткова кампенсавацца вопытам працы.

Такім чынам, пераход ад адной сістэмы каштоўнасцей да другой вымагае фарміравання новых патрэбнасцей у кадравым аспекце іх інстытуялізацыі.

## 11.2. Статус сучаснага спецыяліста сацыяльна-культурнай сферы

Навуковае асэнсаванне сутнасці, прыроды і спецыфікі сацыяльна-культурнай дзейнасці вымагае ад культуролагаў тэарэтычнага абгрунтавання прафесіяграмы яе арганізатара, вызначэння патрабаванняў да яго, а таксама аб'ектыўных магчымасцей і ўмоў падрыхтоўкі спецыялістаў, якія маглі б кваліфікавана і эфектыўна прапагандаваць дасягненні культуры і ўцягваць розныя групы насельніцтва ў сацыякультурную творчасць.

Галоўнымі праваднікамі працэсаў стварэння, пашырэння і спажывання нацыянальна прыярытэтных культурных каштоўнасцей і даброт выступаюць установы культуры грамадска-дзяржаўнага сектара. Сярод іх вылучаюцца музеі, бібліятэкі, клубныя ўстановы, якія з'яўляюцца асноўнымі ў далучэнні насельніцтва да традыцыйных і класічных каштоўнасцей нацыянальнай і сусветнай культур.

Агульны агляд сацыякультурных працэсаў, характэрных сёння для краіны і ўстаноў сферы культуры, кадравых змен, якія ў іх адбываюцца, паказвае, што спецыялістаў трэба рыхтаваць да практычнай бібліятэчна-інфармацыйнай, камерцыйнай, арганізацыйна-кіраўніцкай дзейнасці ў розных галінах народнай гаспадаркі, на ўнутраным і знешнім рынках Рэспублікі Беларусь. Такія



спецыялісты прызначаны для працы ў бібліятэках усіх тыпаў, бібліятэчна-інфармацыйных службах і рэкламных офісах, аддзелах маркетынгу, навукова-тэхнічнай і камерцыйнай інфармацыі, канцэрнах, холдынгах, акцыянерных аб'яднаннях, Дамах гандлю, біржах, дызайнавых кампаніях, вытворчых кааператывах, а таксама ў агенцтвах па зборы дзелавой інфармацыі.

Спецыяліст можа быць выкарыстаны ў якасці камплектатара кніжных фондаў, каталагізатара і класіфікатара, сакратара-рэферэнта, перакладчыка, маркетолага, работніка па праблемах попыту, арганізацыі грамадскай думкі, працаўніка ў галіне арганізацыі камерцыйнай і дзелавой інфармацыі, а таксама на іншых пасадах, якія маюць дачыненне да бібліятэчнай, інфармацыйнай і камерцыйнай дзейнасці, да менеджменту, маркетынгавых даследаванняў і інфармацыі бізнесу.

Вялікае значэнне мае падрыхтоўка спецыялістаў розных спецыялізацый для работы ў сацыякультурнай сферы: па сацыяльна-прававой абароне грамадзян, сацыяльнай рабоце з сям'ёй і дзецьмі, для школьных і пазашкольных ўстаноў вольнага часу, фондаў дабрачыннасці, санаторна-курортнага абслугоўвання і інш.

Адным са значных напрамкаў у падрыхтоўцы сацыяльных работнікаў з'яўляецца падрыхтоўка бібліятэкараў-бібліятэрапеўтаў. Для людзей з абмежаванымі магчымасцямі фізічнага развіцця сур'ёзнай праблемай становіцца пошук формаў самарэалізацыі. Звужэнне поля дзейнасці чалавека вядзе да заніжэння самаацэнкі, адмоўна адбіваецца на сацыяльнай актыўнасці.

Праведзенае ў Мінску даследаванне паказала, што 90% людзей з абмежаванымі магчымасцямі пры дастатковым інтэлекце зніжаюць сваю жыццёвую актыўнасць з-за дэпрэсіўных станаў, якія выяўляюцца пры перажыванні ўласнай непатрэбнасці, цяжару для блізкіх людзей. Выйсце бачыцца ў падрыхтоўцы спецыялістаў, якія маглі б аказваць адпаведную псіхалагічную дапамогу інвалідам пры карыстанні бібліятэкамі. З дапамогай кніг чалавек можа набыць звесткі па любой галіне ведаў, у тым ліку і па медыцыне. Кнігі дапамагаюць запоўніць вольны час, знайсці выйсце з крызіснай сітуацыі, а бібліятэка часам з'яўляецца адзіным месцам яго зносін з людзьмі.

Улічваючы даволі шырокі спектр і вялікі аб'ём падрыхтоўкі ў рэспубліцы кадраў па музычнай спецыяльнасці праз сістэму музычных школ, школ з эстэтычным ухілам, вучылішчаў культуры і мастацтва, каледжаў, мэтазгодна прадугледзець шырокі спектр спецыялізацый у галіне культуры на базе музычнага мастацтва, гэта значыць разнастайнага менеджменту, розных формаў

тэрапіі: сацыяльнай, арттэрапіі, псіхатэрапіі — сродкамі культурнай дзейнасці і мастацтва.

Вялікі рэзерв для падрыхтоўкі спецыялістаў утрымліваецца ў пашырэнні факультэта інфармацыйна-дакументных камунікацый БДУ культуры і мастацтваў. Спецыялісты дадзенага профілю арыентаваны на новую глабальную міжнародную палітыку, на працу ў віртуальнай рэальнасці, якая ў бліжэйшы час стане першачарговай праблемай для ўсіх развітых краін. Перанос назапашанай чалавецтвам інфармацыі на электронныя носьбіты сёння з'яўляецца праблемай еўрапейскага ўзроўню, а заўтра стане праблемай эканамічнага дабрабыту і стабільнасці кожнай дзяржавы ў любым пункце зямнога шара. У сувязі з дадзенай перспектывай актуальнай з'яўляецца падрыхтоўка менеджэраў інфармацыйных сістэм. Магутныя сучасныя сродкі камунікацый патрабуюць прафесійнай працы з інфармацыяй. Грамадству, арыентаванаму на перспектыву, патрабуюцца спецыялісты, здольныя на належным узроўні кіраваць працэсам адбору, набыцця, апісання, арганізацыі, захавання, рэдагавання, аналізу, інтэрпрэтацыі, ацэнкі, сінтэзу, размеркавання інфармацыі і кіравання ёю ў камунікатыўных сродках. Асновы падрыхтоўкі спецыялістаў дадзенага напрамку ўжо ў пэўнай ступені закладзены ў праектныя праграмы развіцця БДУ культуры і мастацтваў. Іх канкрэтызацыя і рэалізацыя — справа бліжэйшай будучыні.

Безумоўна, сучасныя спецыялісты неабходны тым установам культуры, якія з даўніх пор служылі цэнтрамі распаўсюджання і захавання культурных традыцый народа. Музеі, бібліятэкі, тэатры, Палацы і Дамы культуры, іншыя культурныя ўстановы інстытуцыяналізуюць традыцыі нацыі, акумулююць калектыўныя веды і таму жыццёва неабходныя грамадству. У сувязі з гэтым яны адносяцца толькі да дзяржаўнага сектара і не могуць стаць суб'ектамі рынкавых адносін, па крайняй меры большасць. Аднак грамадская трансфармацыя Рэспублікі Беларусь не магла не адбіцца на дзейнасці і нават існаванні гэтых галін культуры. Новыя напрамкі жыццядзейнасці і з'яўленне прыватнага сектара ў эканоміцы адарвалі значную частку людзей ад ужывання тых паслуг, якія аказвалі музеі, бібліятэкі і клубы. У выніку незапатрабаванымі аказаліся дзесяткі і нават сотні бібліятэк, музеяў, клубных устаноў, што немінуча выклікала рэзкае змяненне патрэбнасцей рэспублікі ў спецыялістах, якія абслугоўваюць гэтую сферу культуры.

У якіх жа спецыялістах у першую чаргу адчуваюць патрэбу ўстановы культуры? На думку апытаных дырэктараў Дамоў культуры і загадчыкаў клубаў, гэта акампаніятары, культарганізатары, рэжысёры масавых свят, харэографы, фалькларысты і спецыялісты па народных промыслах і рамёствах, клубныя работнікі, дыск-жакеі, мастакі, дызайнеры.



## 11.3. Прафесіянальныя якасці спецыялістаў сацыякультурнай сферы

Адной з найважнейшых статусных характарыстык культуры з'яўляецца яе кадравы састаў, што аб'ядноўвае людзей спецыфічных спецыяльнасцей: акцёраў, музыкантаў, мастакоў, кіраўнікоў мастацкіх калектываў, выкладчыкаў школ мастацтваў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, бібліятэкараў, кіраўнікоў і работнікаў упраўленняў і аддзелаў культуры, а таксама навучэнцаў, студэнтаў, аспірантаў і дактарантаў сферы культуры.

Кадры культуры ў цэлым — гэта ўстойлівая, дзейсная, разгалінаваная сістэма, якая здольна самастойна задавальняць усе асноўныя мастацка-культурныя запатрабаванні грамадства і эстэтычныя патрэбы людзей: навучанне мастацтву дзяцей, падлеткаў і моладзі; забеспячэнне патрэб прафесіянальных і самадзейных мастацкіх калектываў у выканаўцах і кіраўніках; падрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі кадраў культуры; фарміраванне прафесарска-выкладчыцкага корпуса; міждзяржаўныя мастацкія сувязі Беларусі і інш.

Аналіз дынамікі асноўных паказчыкаў развіцця кадравага патэнцыялу галіны культуры паказвае, што ў кадравай палітыцы адбываюцца станоўчыя зрухі. Так, з 1999 г. па 2004 г. выявілася тэндэнцыя павелічэння агульнай колькасці тых, хто працуе ў сферы культуры і мастацтва. За гэты перыяд яна ўзрасла амаль на 700 чалавек. Павялічылася колькасць кіраўнікоў, якія маюць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю. Колькасць спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй у сферы культуры ў 2004 г. складала амаль 40%, а з сярэдняй спецыяльнай — каля 50%.

Паступова выпраўляецца гендэрны перакос і мае тэндэнцыю да дасягнення гендэрнай раўнавагі. Напрыклад, у сферы мастацтва ў пачатку XXI ст. было занята 47% жанчын і 53% мужчын.

Разглядаючы ўзровень адукацыі загадчыкаў раённых і гарадскіх аддзелаў культуры, трэба адзначыць, што на працягу апошніх дзесяцігоддзяў першачарговае значэнне набылі не столькі кіраўніцкія навыкі і ўменні загадчыка (хаця гэта, безумоўна, важныя якасці), колькі іх творчыя і індывідуальныя здольнасці, агульныя і спецыяльныя веды. Абсалютная большасць кіраўнікоў (95,8%)

маюць вышэйшую адукацыю. Сярэдняя спецыяльная адукацыя стала не характэрнай для спецыяліста такога ўзроўню, яе маюць каля 4,2%. Гэта пераважна асобы, якія працавалі на працягу 15—20 гадоў у аддзеле культуры на пасадзе інспектараў і маюць вялікі практычны вопыт. Што датычыць базавай адукацыі загадчыкаў аддзелаў, то больш за палову іх маюць спецыяльную адукацыю ў галіне культуры і мастацтва. Пераважна гэта выпускнікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, а таксама Беларускай акадэміі мастацтваў, Беларускай акадэміі музыкі, вучылішчаў культуры і мастацтва. Другі напрамак адукацыі — педагагічны. Трэцяя частка з іх закончылі педуніверсітэт або БДУ, пераважна гістарычны або філалагічны факультэт, кожны дзесяты закончыў грамадска-палітычную ўстанову. Істотны недахоп існуючай сістэмы базавай адукацыі ў тым, што яна ў недастатковай меры арыентавана на падрыхтоўку кіраўнікоў. Гэта вядзе да таго, што адаптацыйны перыяд маладых кіраўнікоў зацягваецца на 1,5—2 гады.

Вывучэнне прафесіянальных якасцей спецыялістаў сацыякультурнай сферы сведчыць: абсалютная большасць кіраўнікоў устаноў культуры ў перспектыве хацела б прымаць на працу работніка з вышэйшай спецыяльнай адукацыяй. Перавага аддаецца выпускнікам Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў. Выпускнікі ж сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў аказваюцца найбольш падрыхтаванымі ў галіне педагогікі і па асноўнай спецыяльнасці за кошт большай колькасці практычных заняткаў, прадугледжаных праграмамі навучання. Таму яны нядрэнна спраўляюцца з такой справай, як арганізацыя і кіраванне самадзейнымі калектывамі і аматарскімі аб'яднаннямі. У цэлым жа сукупны партрэт спецыяліста, якога хацела б мець установа культуры клубнага тыпу, пакуль выглядае прыблізна наступным чынам: гэта мужчына з вышэйшай адукацыяй (узровень адукацыі прадвызначаецца пасадай), выпускнік Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, які мае даволі вялікі вопыт працы.

У шэрагу найбольш дзейсных метадаў павышэння эфектыўнасці чалавечага фактара адно з важнейшых месцаў займае праца з кадрамі. Гэта набывае асаблівую актуальнасць ва ўмовах пераходу да рынкавых формаў гаспадарання. Відавочна, што поспех прыходзіць да тых, хто здолеў пабудаваць разумную кадравую палітыку, якая абапіраецца на сістэму навуковых культуралагічных ведаў. Зразумела, нельга не браць пад увагу і творчы стыль кіравання, які ўключае разам з іншымі складальнікамі



ветлівасць, карэктнасць, цярплівасць у адносінах да супрацоўнікаў і кліентаў. Кожны работнік культуры павінен адчуваць сябе неад'емным у звяне "ўстанова культуры — кліент (чытач, слухач, глядач, наведвальнік)".

Гарантыя занятасці для пастаянных кадраў не раўназначная захаванню працы па спецыяльнасці. Пры неабходнасці работнікі павінны праходзіць перападрыхтоўку і пераводзіцца на іншыя ўчасткі. Практыка гарызантальнага перамяшчэння кадраў, звязаная з дадатковым асваеннем і (або) пераменай роду заняткаў (неспецыялізаваная кар'ера), можа прымяняцца не толькі для ажыццяўлення манеўру рэсурсамі, але і для таго, каб даць чалавеку магчымасць паспрабаваць свае сілы ў справе, якая яго цікавіць. Часам гарызантальнае перамяшчэнне, звязанае з прадастаўленнем больш творчай, высокааплатнай або прэстыжнай працы, выступае альтэрнатывай павышэння па службовай лесвіцы. Так звычайна ўтрымліваюцца спецыялісты, якія "выраслі" са сваёй пасады і не прэтэндуюць на перамяшчэнне па вертыкалі.

Раскрыццё творчага патэнцыялу чалавека дасягаецца з дапамогай шэрага фактараў.

*1. Максімальнае дэлегаванне паўнамоцтваў (правоў і адказнасці) начальнікаў усіх узроўняў іх падначаленым.* Такі прыём заснаваны на перакананні, што справу лепш за ўсіх ведае той, хто непасрэдна займаецца ёй. Менеджэр (асабліва ніжэйшага і сярэдняга звёнаў) павінен ператварыцца з камандзіра ў каардынатара і памочніка ў дзейнасці сваіх падначаленых.

*2. Права выказваць і адстойваць уласную думку.* У адваротным выпадку не можа быць размовы аб самастойнасці і прадпрымальнасці. Калі чалавек памыляецца, трэба спакойна і аргументавана даказаць яго памылку.

*3. Статус работніка павінен залежаць не ад яго пасады, а ад здольнасцей, якасці і эфектыўнасці працы.* Таму не выключаецца распрацоўка больш дасканалай сістэмы ацэнкі супрацоўнікаў, згодна з крытэрыямі якой кожнаму работніку прысвойваецца пэўны каэфіцыент, які адлюстроўвае яго працоўныя якасці і ўплывае на памер яго даходаў або маральныя стымулы. Такая сістэма стрымлівае пабуджэнні кіраўніцтва да адміністравання.

*4. Прыярытэт гарызантальных сувязей перад вертыкальнымі.* Гэта стане магчыма пры аснашчэнні кожнага работніка надзейным сродкам камунікацыі з усімі зацікаўленымі асобамі, напрыклад з дапамогай асабістага тэрмінала, які дазваляе шырока выкарыстоўваць камп'ютэрную сувязь і мець магчымасць доступу да розных банкаў даных, у тым ліку Internet.

*5. Абарона энтузіястаў і цярплівасць да няўдач.* Поспех любой дзейнасці ў сферы культуры, у тым ліку ажыццяўленне канкрэтнай культурнай праграмы, залежыць не толькі ад колькасці ўдзельнікаў і памераў асігнаванняў, але і ад наяўнасці энтузіястаў і наватараў. Гісторыя развіцця культуры паказвае, што асноўныя новаўвядзенні тут ажыццяўляліся самаахвярнымі людзьмі.

Перманентнае развіццё таленавітых прафесіяналаў (энтузіястаў сваёй справы), прадастаўленне ім шырокіх магчымасцей для творчасці даюць высокія вынікі ў тым выпадку, калі адпрацавана эфектыўная сістэма матывацыі да працы. Практыка вядучых замежных краін паказвае, што папярэдняе павышэнне зарплаты звыш пэўнай мяжы перастае быць генератарам, які пабуджае да актыўнай працы. Дзейснымі стымуламі выступаюць жаданне рэалізаваць свае веды і майстэрства; гонар за сваю працу; стварэнне ў людзей пачуцця пераможцаў (калі яны не бяруць на сябе невыканальных абавязкаў); групавы прынцып арганізацыі ўсёй працы, які прадугледжвае ўзаемны кантроль калег за яе вынікамі; штогадовая атэстацыя ў выглядзе гутарак начальніка і падначаленага, якая заканчваецца падпісаннем выніковага дакумента абодвума бакамі.

Забеспячэнне высокага ўзроўню даходаў дасягаецца не столькі заработнай платай, колькі прэміяльнымі выплатамі, памер якіх залежыць ад вынікаў працы. Такая форма аплаты робіць натуральным захаванне даходаў у перыяды эканамічнага крызісу і тым самым дазваляе пазбягаць працоўных канфліктаў.

Дзеля таго каб накіраваць энергію людзей у патрэбнае рэчышча і эфектыўна кіраваць працэсам стварэння і аказання культурных паслуг, неабходна ўжо сёння выпрацоўваць у работнікаў імкненне да дасканаласці як ладу жыцця. Для гэтага трэба распрацаваць сістэму пэўнага набору перакананняў, сумесных каштоўнасцей. Стрыжнем такой сістэмы можа служыць павага да чалавека, яго сумленнай працы па адраджэнні, захаванні і памнажэнні лепшых дасягненняў, традыцый агульнанацыянальнай культуры.

Гэтыя і іншыя базавыя прынцыпы дадуць жыццё мноству іншых, з якіх можна скласці кодэкс паводзін. Пры мэтанакіраванай працы з дапамогай эфектыўных метадаў і на аснове падмацавання слоў матэрыяльнымі і маральнымі стымуламі кадры культуры ў XXI ст. дапамогуць краіне спачатку выйсці з крызісу, а потым стаць у адным шэрагу з перадавымі дзяржавамі ў галіне развіцця эканомікі. І гэта не утопія, паколькі такая сістэма адпавядае менталітэту беларусаў. Аднак сістэма запрацуе тады, калі работнікі і кіраўнікі ўсіх рангаў сваім асабістым прыкладам



будуць праводзіць гэтыя каштоўнасці ў жыццё. Адсюль павышаная ўвага да іх падрыхтоўкі перш за ўсё ў галінах менеджменту, маркетынгу, псіхалогіі, эканомікі, права і інш.

Вялікую ролю ў сцвярджэнні каштоўнасцей устаноў культуры і галіны ў цэлым іграюць працоўныя абрады і рытуалы, якія замацоўваюць традыцыі, ствараюць атмасферу свята. Самае эфектыўнае маркетынгавае кіраванне прадугледжвае выпрацоўку доўгатэрміновых, сярэднетэрміновых і кароткатэрміновых мэт, якія павінны быць вартымі і прывабнымі. Сусветны вопыт паказвае, што ў доўгатэрміновым плане такой мэтай можа служыць павышэнне якасці культурных паслуг. Гэта не разавыя мерапрыемствы, а перманентны працэс. І тут патрэбныя высокі прафесіяналізм, уменні, навыкі, здольнасці працаўнікоў сферы культуры.

Важнае значэнне ў кадравай палітыцы мае прынцып кансенсусу. Ён закладваецца ў працэдуры атэстацыі.

Ва ўмовах сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі галоўным заказчыкам любой дзейнасці становіцца спажывец. Установы культуры як вытворцы культурных даброт павінны папярэдне высвятляць або фарміраваць з дапамогай рэкламы патрэбнасці так, каб задаволіць іх. Толькі ў гэтым выпадку попыт на культурныя паслугі будзе павышацца, а адпаведна будуць квітнець установы культуры і галіна ў цэлым. Ажыццявіць такі комплекс работ змогуць кадры новай генерацыі. Частка такіх кадраў ужо ёсць, але большасць трэба яшчэ падрыхтаваць і перападрыхтаваць, а для гэтага неабходны значныя інвестыцыі.

У прафесійных колах работнікаў культуры дамінуе думка аб тым, што сучасная сацыяльна-эканамічная сітуацыя прымусіць установы культуры ўсё больш арыентавацца на камерцыйную дзейнасць, развіваць платныя паслугі. У сувязі з гэтым сацыякультурным установам найбольш патрэбны спецыялісты па маркетынгу і рэкламе. Прычым трэба адзначыць, што менавіта спецыялісты ў рэкламнай справе больш за ўсё цікавяць культасветустановы. Далей ідуць акампаніятары, харэографы (сёння развіццё харэаграфіі з’яўляецца самым прыбытковым бізнесам пасля дыскатэк), дыск-жакеі, рэжысёры масавых свят, спецыялісты па народных промыслах і рамёствах, фалькларысты, гукарэжысёры, мастакі і дызайнеры і інш. Пералічаныя спецыяльнасці ўскосна сведчаць аб актыўным развіцці шоу-бізнесу нават у маштабах раёнаў і асобных населеных пунктаў. Меншая папулярнасць у музейных работнікаў, педагогаў, сацыёлагаў.

Новае асэнсаванне сутнасці, прыроды і спецыфікі сучаснай сацыякультурнай дзейнасці патрабуе, каб кадравая палітыка ў галіне

культуры стала прадметам паўсядзённай увагі прыкладной культуралогіі.

***Асноўныя кірункі сучаснай кадравай палітыкі*** ў сферы культуры наступныя:

• павышэнне якасці падрыхтоўкі спецыялістаў і ўдасканаленне структуры ў адпаведнасці з патрабаваннямі жыцця;

• забеспячэнне падрыхтоўкі прафесіяналаў, здольных захаваць і развіць дасягненні беларускай мастацкай культуры;

• у максімальнай ступені задавальненне ў кадравых адносінах усёй сукупнасці дзеючых мастацкіх устаноў і творчых калектываў;

• структурная перабудова сеткі навучальных устаноў і прынцыпаў яе фінансавання;

• распрацоўка методык ранняга выяўлення таленту і яго падтрымкі;

• фарміраванне галіновай сістэмы сацыяльнай падтрымкі работнікаў культуры;

• падтрымка імкнення маладых людзей да развіцця сваіх творчых здольнасцей, да задавальнення адукацыйных запытаў у сферы мастацтва;

• падрыхтоўка навуковых кадраў.

Азначаныя кірункі кадравай палітыкі даюць магчымасць падрыхтаваць культуролага сацыяльна-культурнай сферы, здольнага працаваць ва ўмовах сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў, урбанізацыі, напружанасці духоўнага жыцця, вастрыні вырашаемых грамадствам эканамічных і маральных праблем.



**Пытанні і заданні**

1. Вызначце сутнасць і значэнне чалавечага фактара ў кіраванні сацыяльна-культурнай сферай.
2. Назавіце асноўныя сацыяльныя аспекты кадравай палітыкі ў перыяд сістэмнай трансфармацыі беларускага грамадства.
3. Назавіце асаблівасці стылю кіраўніка ўстановы культуры.
4. Укажыце прынцыпы падбору кадраў на кіруючыя пасады ў галіне культуры.
5. Якія патрабаванні да асобы кіраўніка і яго паводзін прад'яўляюцца ў сучасных умовах?

**Літаратура**

*Богоудинова, Р.З. и др.* Профессиональная подготовка работников социокультурной сферы: прогнозирование, проектирование, практическая реализация: [Проблемы регионального культурологического образования] / Богоудинова Р.З., Румянцев Е.Д, Юсупов Р.Р.— Казань: Медицина, 1999.— 242 с.

*Вохрышева, М.Г.* Современные стратегии культурологического образования / Самар. акад. культуры и искусств.— Самара, 2001.— 232 с.

*Горлова, Н. Н.* Культурная политика, культурологическое образование: региональный аспект / Краснодар. гос. акад. культуры.— Краснодар, 1997.— 200 с.

*Грыгаровіч, Я.Д., Смолік, А.І., Рагачова, Л.М.* Падрыхтоўка кадраў культуры ў Рэспубліцы Беларусь: сучасны стан і перспектывы.— Мн.: Бел. дзярж. ун-т культуры, 2001.— 158 с.

*Кадры культуры* и проблемы их подготовки: материалы межвуз. науч.-практ. конф. / Моск. гос. ин-т культуры.— М., 1990.— 204 с.

*Кузьмініч, М.Л.* Мастацкая творчасць: універсітэцкая падрыхтоўка кадраў: вучэб. дапам.— Мн.: Бел. навука, 1998.—142 с.

*Культурологическое* образование: Комплекс учеб. программ с метод. рекомендациями по культурол. дисциплинам / Рос. гос. пед. ун-т им. А.Н.Герцена.— СПб., 1998.— 312 с.

*Проблемы* подготовки специалистов в вузах культуры: сб. науч. тр. / Моск. гос. ин-т культуры.— М., 1990.— 157 с.

# 12. КУЛЬТУРАЛАГІЧНАЯ АДУКАЦЫЯ ЯК АСНОВА ФАРМІРАВАННЯ СПЕЦЫЯЛІСТА САЦЫЯЛЬНА-КУЛЬТУРНАЙ СФЕРЫ

## 12.1. Асаблівасці культуралагічнай адукацыі

Фарміраванне асноў прафесійнага майстэрства з'яўляецца важнейшай умовай эфектыўнага выканання сацыяльна-культурнымі інстытутамі сваіх грамадска значных функцый. Гэтыя асновы вызначаны ў Канцэпцыі нацыянальнай школы Беларусі. Найбольш важныя з іх наступныя: устаноўка на светапоглядны плюралізм; прызнанне роўнасці розных відаў чалавечага вопыту (інтэлектуальнага, рэлігійнага, маральнага і інш.); арыентацыя ў адукацыі на развіццё здольнасцей, звязаных з дзейнасным мысленнем (рэфлексія, дыялог і інш.); адмаўленне педагога ад пазіцыі носьбіта абсалютнай ісціны, які мае права прымаць рашэнні за навучэнца; змена ролі педагога ў адукацыйным працэсе, кваліфікацыя педагога як транслятара ведаў і ўменняў, пасрэдніка паміж навучэнцамі і культурай; арыентацыя ў сувязі з узрастаннем дынамізму грамадскага жыцця на фарміраванне сістэмнага сітуацыйнага мыслення; перамяшчэнне акцэнтаў у змесце адукацыі з навукі на культуру ў цэлым; рэалізацыя практыкі дыялога культур, полікультурнасці; арыентацыя на "дзетацэнтрызм", сцвярджэнне ідэалогіі самабытнасці дзяцінства як асаблівай субкультуры, якая захоўвае духоўныя традыцыі чалавецтва. Варта адзначыць своечасовасць і актуальнасць рэалізацыі ў бліжэйшай будучыні канцэптуальна новага, культуралагічнага падыходу да праблемы вышэйшай адукацыі ўвогуле і культуралагічнай у прыватнасці.



У сучасных умовах сістэма вышэйшай культуралагічнай адукацыі павінна хутка, мабільна, гнутка рэагаваць на змены ў грамадстве і патрэбнасці часу, прадбачыць перспектывы патрабаванняў на дзесяць—пятнаццаць гадоў наперад, калі студэнт атрымае адукацыю і адаптуецца на працоўным месцы, калі замацуюцца прафесійныя ўменні і навыкі. Адначасова адукацыя павінна забяспечваць і сённяшнія патрэбнасці, адпавядаць тым задачам, тым пасадам, якія функцыянуюць у сучаснай сацыякультурнай сітуацыі. Таму яна вымушана захоўваць адносную стабільнасць адукацыйнай структуры на доўгую перспектыву і быць досыць кансерватыўнай у вызначэнні аб'ёму інфармацыі, тых ведаў, уменняў, навыкаў, якія забяспечваюць якаснае выкананне службовых абавязкаў.

Задача ўскладняецца шырынёй, шматварыянтнасцю і поліаспектнасцю самога феномена культуры. Маючы спецыфічныя рысы вялікай сістэмы (разнастайнасць кампанентаў, змест навучання, тэхналогіі навучання, кіраванне ім, іерархічнасць структуры самой культуры, вялікія інфармацыйныя патокі, шматмэтавы характар функцыянавання і інш.), культуралагічная адукацыя характарызуецца шэрагам асаблівасцей, веданне якіх дазволіць акрэсліць шляхі развіцця асобных элементаў гэтай сістэмы з мэтай яе ўпарадкавання і ўдасканалення.

У першую чаргу гэта *змястоўнасць адукацыі* — праблема вельмі складаная не толькі з-за вялікага патоку інфармацыі, адрасаванага студэнту, але і шматэлементнасці самой культуры, якая з'яўляецца поліфункцыянальнай сістэмай чалавечых каштоўнасцей. Калі дадаць да гэтага, што характар, поспех, эфектыўнасць прафесійнай дзейнасці вызначаюцца не толькі аб'ёмам засвоеных ведаў і ўменнем іх выкарыстоўваць, але і здольнасцю асобы да далейшага прафесійнага развіцця, самаадукацыі, калі схільнасць да самаўдасканалення робіцца першаснай асновай прафесійнай каштоўнасці спецыяліста, вырашэнне названай праблемы робіцца галоўным.

Якія б жорсткія патрабаванні ні прад'яўляліся да асобы і якія б яны ні былі не толькі па змесце, але і па форме прад'яўлення, асоба ўсё роўна прыме іх у адпаведнасці з характарам і ступенню сваёй самабытнасці, якая вызначаецца ўзроўнем развіцця свядомасці, сфарміраванасцю патрэбнасцей, развіццём здольнасцей і ўласцівасцей асобы. Сам чалавек выбірае для сябе (свядома або несвядома) мэты, фармулюе задачы, выбірае шляхі для іх дасягнення і рэалізацыі.

Авалоданне зместам адукацыйных праграм павінна суправаджацца фарміраваннем уменняў, фармулёўкай асноўных мэт

выконваемай працы, аналізам шляхоў іх дасягнення, практычнай дзейнасцю ў адной са сфер культуры. Асновай гэтага працэсу выступаюць фундаменталізацыя прадметных ведаў, азнаямленне са спосабамі і сродкамі рэалізацыі дзейнасці, якія дазваляюць студэнту перайсці ад абстрактных ведаў, прапануемых агульнагуманітарнымі дысцыплінамі, да канкрэтных прафесійных уменняў і навыкаў, якія вызначаюць прадукцыйнасць прафесійнай дзейнасці. Такі падыход і далейшае развіццё асобы ў сваю чаргу абумоўлены ўстойлівасцю матывацыі няспыннай пазнавальнай дзейнасці на працягу далейшага жыцця, прафесійнай скіраванасцю асобы, яе працавітасцю, адказнасцю і інш.

Перагляд зместу культуралагічнай падрыхтоўкі студэнта, фундаменталізацыя прадметных ведаў закліканы забяспечыць сістэмнасць навуковага пазнання, няспыннасць адукацыі, пастаянны прафесійны рост будучага спецыяліста.

Ушчыльную да выкладзенай вышэй прымыкае *праблема хуткай страты актуальнасці набытых у ВНУ ведаў* па прычыне высокіх тэмпаў росту інфармацыі. Вырашэнне гэтай праблемы знаходзіцца ў плоскасці павышэння фундаменталізацыі адукацыі, інтэгравання курсаў, звязаных з рознымі тыпамі і відамі культуры ў храналагічным аспекце, арыентацыі іх на перспектыўнае развіццё культурных працэсаў, праектаванне ўздымаў і спадаў культуры, сацыякультурнай дынамікі. Авалоданне зместам адукацыйных праграм пры гэтым суправаджаецца фарміраваннем навыкаў творчага мыслення і спосабаў самастойнага здабывання новых ведаў.

Спробы вырашэння праблемы старэння прафесійных ведаў актыўна робяцца ў апошнія дзесяцігоддзі многімі дыдактыкамі. Прапануюцца розныя спосабы адбору і метады перадачы значнай інфармацыі, магчымасці аб'яднання розных груп дысцыплін, інтэграцыя ведаў, разгрупаваных у розных дысцыплінах, вывучэнне "стыкавых" дысцыплін, якія значна змяняюць змест і структуру навуковых ведаў, інтэлектуальна-пазнавальныя магчымасці асобных навук.

Часцей за іншыя абмяркоўваецца праблема інтэграцыі між дысцыплінамі, што дазваляе ўзгадняць не толькі навуковы змест вучэбных дысцыплін, але і канчатковыя мэты навучання па кожнай з іх у ВНУ ў цэлым. Гэта працэсы аб'яднання вучэбных дысцыплін адносна даследавання (рашэння) пазнавальных і прафесійных праблем (задач). Значыць, у дзейнасці выкладчыкаў і студэнтаў "апарат" кожнай дысцыпліны (метадалогія, асноўныя паняцці, палажэнні і інш.) свядома выкарыстоўваецца як сродак



пабудовы адпаведных "партрэтаў" пэўных курсаў, што неабходна ў іх аб'яднанні ў цэласную мадэль гэтага працэсу. Ажыццяўленне міжнароднай інтэграцыі дазволіць будаваць цэласныя мадэлі вывучаемых з'яў, ствараць умовы для разумення студэнтамі гэтых з'яў і рашэння пазнавальных і прафесійных задач.

Пошукі вырашэння праблемы "старэння—абнаўлення" ведаў вядуцца таксама ў галіне *стварэння адукацыйных модуляў,* асабліва пры рэалізацыі ідэі бесперапыннай адукацыі. Модуль разумеюць як праграмную адзінку, што ўяўляе адносна замкнёны адрэзак навучання, у якім вялікія па аб'ёме і часе курсы падзяляюцца на асобныя адзінкі, сфармуляваныя ў адпаведнасці з іх мэтамі, зместам, тэхналогіямі. Кожны модуль мае адносную самастойнасць, у той жа час з'яўляецца прыступкай у авалоданні матэрыялам курса або дысцыпліны.

Модульная сістэма цяпер выкарыстоўваецца ў Германіі ў працэсе дыстанцыйнага навучання, а таксама ў некаторых каледжах Амерыкі пры адукацыі дарослых. Такая сістэма дазваляе паслядоўна засвойваць матэрыял, выкарыстоўваць веды ў практычнай дзейнасці і толькі пасля гэтага пераходзіць да наступнай прыступкі спасціжэння ведаў. Яна выкарыстоўваецца і ў постдыпломны перыяд для абнаўлення ведаў, набыцця новых, неабходных для якаснага выканання прафесійнай дзейнасці. Модульны прынцып, паводле меркавання вучоных, ёсць спосаб далейшай пасляуніверсітэцкай адукацыі.

Такім чынам, рашэнне праблемы "даўгачаснасці" спецыяліста прадвызначае фундаменталізацыю ведаў, інтэграцыю дысцыплін, арыентацыю адукацыі на перспектывы развіцця культуры, выпрацоўку ўменняў самастойнага набыцця ведаў.

Наступная асаблівасць культуралагічнай адукацыі — *у неабходнасці зняцця бар'ераў спецыялізацыі,* якія дакладна падзяляюць адукацыю ў сферы культуры на розныя спецыяльнасці, часта зусім не звязаныя адна з адной. Нават у такім маналітным і развітым відзе культуры, як мастацкая, адукацыя ў розных жанрах вельмі аўтаномная, напрыклад спецыялізацыі ў галіне музыкі не перакрыжоўваюцца з вывучэннем выяўленчага мастацтва, з харэаграфіяй і інш.; дысцыпліны, як правіла, сканцэнтраваны толькі ў рамках спецыялізацыі; часта не захоўваецца і сінхранічны прынцып навучання.

Адпаведнасць культуралагічнай адукацыі структуры самой культуры патрабуе такой яе пабудовы, якая дазваляла б спецыялістам розных профіляў вывучаць культуру ў цэлым і ў гарызантальным, і ў вертыкальным разрэзе з азнаямленнем з асноўнымі

відамі і тыпамі культуры. Гаворка ідзе аб тым, каб спецыялісты розных профіляў маглі з поспехам працаваць над рашэннем агульных адукацыйных задач.

Пералічаныя асаблівасці абагульняюцца і сінтэзуюцца ў праблеме адаптацыі культуралагічнай адукацыі да пастаянна зменлівай сацыяльнай сітуацыі і патрэбнасцей грамадства (схема 12.1). Адным з фактараў з'яўлення гэтай праблемы выступае гістарычна сфарміраваная арыентацыя адукацыі не на перспектыву развіцця культуры, а на яе рэтраспектыву. Аслабленасць прагнастычнага элемента адукацыі, адсутнасць або малая колькасць даследаванняў тэндэнцый развіцця культуры ў будучым, традыцыя вывучэння культур, якія зніклі ў часе, іх ідэалізацыя і часта фетышызацыя абмяжоўваюць магчымасць насычэння зместу культуралагічнай адукацыі сучасным матэрыялам, фактамі вышэйшага ўзроўню развіцця культуры свету.

Схема 12.1

**Асноўныя адметнасці культуралагічнай адукацыі**




Часткова апраўданнем могуць быць імкненне вышэйшай школы перадаваць устойлівыя ў навуцы факты і з'явы, паняцці і тэндэнцыі, прывязанасць да прыкладных вынікаў і прызнаных ідэй. Аднак інтэнсіўнае развіццё навукі і культуры, імклівы рост патрэбнасці ў спецыялістах культуралагічнага профілю, хуткае змяненне патрабаванняў грамадства да іх падрыхтоўкі будуць павялічваць наступствы такога адставання. Праблема гэтая настолькі сур'ёзная на мяжы стагоддзяў, што абяцае стаць важнейшай для педагогаў і прыкладных культуролагаў у бліжэйшы час.



Яе вырашэнне патрабуе не толькі кароткатэрміновага прагназіравання, зробленага на падставе запатрабаванняў і патрэбнасцей тых сацыяльных інстытутаў, устаноў, у якіх будуць працаваць спецыялісты, але і доўгатэрміновага навуковага прагназіравання развіцця рэгіянальнай і глабальнай культуры. Такія даследаванні з'яўляюцца асновай выпрацоўкі і ўдакладнення патрабаванняў да спецыялістаў, распрацоўкі аптымальных стандартаў культуралагічнай адукацыі, вучэбных планаў, рабочых праграм, якія рэгламентуюць і вызначаюць змест адукацыі. Гэта з аднаго боку.

З другога, развіццё і ўдасканаленне культуры пэўнага рэгіёна непасрэдна звязаны з дзейнасцю і якасцю падрыхтоўкі прафесійных работнікаў культуры, якія займаюцца сацыяльна-культурнай дзейнасцю. Гэты кірунак прыкладной культуралогіі, у адпаведнасці з якім рыхтуюцца транслятары культуры, вызначае ў значнай ступені развіццё першага — ведаў аб культуры, яе ўзроўні ў наступныя дзесяцігоддзі, далейшае развіццё навукі.

## 12.2. Структураванне культуралагічных ведаў

Развіццё розных напрамкаў культуралагічнай адукацыі звязана з сінтэзам навук, узніклых у выніку велізарнага росту інфармацыі, надзвычай інтэнсіўным ростам і складанасцю камунікатыўных навук, трансфармацыяй культуралагічных ведаў, узнікненнем новых навук аб чалавеку як суб'екце культуры. Культуралогія як навука характарызуецца не толькі сувязямі між дысцыплінамі, але і міжгаліновымі сувязямі, якія ўзбагачаюць яе паняційны і тэрміналагічны апарат, метадалогію і інструментарый, памнажаюць і пашыраюць яе змястоўны бок.

У такой сітуацыі мэтазгодна вычленіць вучэбныя дысцыпліны ў асобныя ***блокі*** для іх вывучэння. Тыя, што маюць фундаментальнае значэнне, складаюць *агульнанавуковы блок*, арыентаваныя на прыкладныя веды — *блок прыкладных кампанентаў навукі*. Першы блок разглядаецца як сукупнасць тых сістэмных ведаў агульнанавуковага характару, якія вызначаюць асноўныя культуралагічныя паняцці і катэгорыі, асноватворныя метады і прынцыпы, агульнанавуковыя падыходы да прадмета культуралогіі (агульная тэорыя навукі, тыпы навук, інфармацыйныя, сацыяльна-псіхалагічныя і педагагічныя веды з пункту гледжання сістэмнага значэння).

Блок прыкладных кампанентаў навукі аб'ядноўвае паняцці, метады, тэорыі як прыкладнога характару, так і між дысцып-

лінамі, праз якія адбываецца пераход ад агульнасістэмных культуралагічных ідэй да канкрэтных задач сацыякультурнай і мастацкай дзейнасці. Да дадзенага блока адносяць тэорыю кіравання і арганізацыю сацыякультурных і інфармацыйных сістэм, розныя тыпы тэхналогій сацыякультурнай дзейнасці, шматлікіх методык і сродкаў трансляцыі культуралагічных ведаў. Наяўнасць у другога блока значнай колькасці трансляцыйных уласцівасцей толькі ўзбагачае і робіць больш значным вывучэнне яго кампанентаў. Змястоўны бок ведаў дакладна структуруецца адпаведна выкладзенай намі ў папярэднім параграфе структуры культуры.

Прапанаваная блочная сістэма арганізацыі ведаў дазваляе акрэсліць дастаткова выяўлены шлях далейшага падзелу навук на вучэбныя курсы і дысцыпліны культуралагічнай адукацыі ў адпаведнасці з прынцыпам унутранай супадпарадкаванасці: асноўны курс, які змяшчае абагульнены навуковы матэрыял па найбольш важных культуралагічных кампанентах; адзін або некалькі спецыялізаваных курсаў, якія развіваюць ідэі і тэорыі асноўнага і поўна ўлічваюць профіль падрыхтоўкі спецыяліста; практычныя курсы арганізацыйнага і метадычнага ўзроўняў, якія ўдакладняюць і канкрэтызуюць асноўны і спецыялізаваныя курсы, а таксама прафесійныя ўменні і навыкі студэнтаў.

Такая сістэма структуравання ведаў, накіраваная на падрыхтоўку сучаснага спецыяліста сферы культуры, дапаможа вырашыць многія праблемы культуралагічнай адукацыі, актуальныя для вышэйшых навучальных устаноў.

### 12.3. Прафесіянальная падрыхтоўка спецыялістаў сацыякультурнай сферы ў навучальных установах Беларусі

Глыбокае і ўсебаковае асэнсаванне ролі культуры ў трансфармацыйны перыяд сведчыць аб тым, што сацыяльна-культурная дзейнасць аб'ектыўна становіцца ўмовай удасканалення сацыяльнай рэчаіснасці, важнай формай самавыяўлення, самарэалізацыі асобы. Перамены ў змесце і арганізацыі сацыяльна-культурнай, адпачынкавай дзейнасці, якія распачаліся ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, патрабавалі пераасэнсавання і карэкціроўкі дзейнасці навучальных устаноў па падрыхтоўцы работнікаў культуры і мастацтва.

Вывучэнне дынамікі развіцця навучальных устаноў рэспублікі паказвае, што структура навучальных устаноў культуры і мастацтва за 90-я гады XX ст. колькасна не змянілася, толькі назіралася тэндэнцыя змены іх профілю. Традыцыйная асветніцкая накіраванасць дзейнасці навучальных устаноў не ўпісвалася ў новыя контуры сацыяльна-культурнай сферы, якія былі выкліканы пераўтваральнай практыкай і не адпавядалі яе сацыяльна-аднаўленчаму, сацыяльна-педагагічнаму, сацыяльна-абарончаму характару. Спецыяльнасць культасветработніка трансфармавалася ў шэраг роднасных спецыяльнасцей і спецыялізацый. У першай палове 90-х гадоў у вышэйшых навучальных установах культуры і мастацтва з'явіліся новыя спецыяльнасці: сацыяльны работнік-псіхолаг, менеджэр, сацыяльны педагог, культуролаг, рэжысёр народных абрадаў і свят, арганізатар сацыяльна-культурнай дзейнасці і інш.



Падставай для ўзнікнення новых культуралагічных спецыяльнасцей з'явілася сацыяльна-культурная дзейнасць, накіраваная на стварэнне ўмоў для найбольш поўнага развіцця, самасцвярджэння і самарэалізацыі асобы, групы людзей у сферы адпачынку. Роля арганізатара адпачынку насельніцтва набыла асаблівую сацыяльную каштоўнасць у сувязі з тым, што ў сацыяльна-культурнай, адпачынкавай сферы цэнтрам усеагульнага прыцягнення сталі малыя групы, камерныя формы пазнавальнай, культурна-творчай, рэкрэацыйнай дзейнасці. Уводзячы новыя спецыяльнасці, спецыялісты сацыяльна-культурных інстытутаў зыходзілі з таго, што мэтавай установкай культуролага, менеджэра, сацыяльнага работніка павінна быць развіццё ў канкрэтнай супольнасці людзей творчых здольнасцей, а таксама метадаў, з дапамогай якіх гэтыя здольнасці фарміруюцца і рэалізуюцца.

Галоўнай задачай сацыяльнага работніка, культуролага, менеджэра, сацыяльнага педагога ўстаноў культуры з'яўляецца стварэнне ўмоў для найбольш поўнага развіцця і самаразвіцця, самасцвярджэння і самарэалізацыі розных катэгорый насельніцтва социуму ў сферы вольнага часу. У такой фармулёўцы задачы прафесіі, з аднаго боку, бачыцца развіццёвая, стымулюючая сутнасць адпачынкавай дзейнасці, з другога — выступае кампенсатарная прырода актыўнасці чалавека ў сферы вольнага часу. У рамках сацыяльна-культурнай дзейнасці педагог-арганізатар вольнага часу павінен ствараць такія ўмовы, якія садзейнічалі б максімальнай самарэалізацыі асобы ўдзельніка самадзейнага калектыву ці разавага наведвання ўстановы культуры. Дзейнасць такой установы павінна не дубліраваць, а дапаўняць дзейнасць іншых сацыяльных інстытутаў.

Асноўная ролевая функцыя спецыяліста сацыяльна-культурнай сферы ўключае шэраг вытворных. Яны павінны адпа-

вядаць найбольш агульным праблемам і сітуацыям рэчаіснасці, якія складаюць сутнасць прафесіі. Аналіз сацыяльна-культурнай сітуацыі ў разглядаемым соцыуме дае падставы вызначыць шэраг ролевых функцый работніка ўстаноў культуры.

Выпускнікі вышэйшых навучальных устаноў культуры і мастацтва павінны ўдзельнічаць у стварэнні неабходных сацыяльна-эканамічных умоў развіцця і рэкрэацыі ў розных формах адпачынкавай дзейнасці соцыуму. Менавіта гэтая функцыя з'яўляецца вызначальнай як для арганізатараў клубнай работы, так і для кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. Яны павінны быць здольнымі да прагназіравання, выпрацоўкі канструктыўных рашэнняў, суперажывання, эфектыўнага ўзаемадзеяння з іншымі людзьмі, мець навыкі кіравання малымі групамі, нефармальнымі супольнасцямі.

Актуальнай з'яўляецца праблема нарматыўна-прававога забеспячэння розных формаў сацыяльных ініцыятыў і самадзейнасці насельніцтва. У сувязі з гэтым культуролагі і сацыяльныя работнікі павінны абараняць разам з пэўнымі сацыяльнымі інстытутамі канстытуцыйную свабоду асобы ва ўмовах вольнага часу.

Забеспячэнне адпачынкавых формаў самадзейнасці насельніцтва адносіцца таксама да асноўных функцый арганізатараў сацыякультурнай дзейнасці і заключаецца не толькі ў распрацоўцы, карэкцыі і рэалізацыі сацыяльна-культурных, адпачынкавых ініцыятыў, праграм, праектаў, але і ў развіцці самадзейнасці насельніцтва, паколькі гэта з'яўляецца стратэгічнай лініяй ва ўмовах трансфармацыі грамадскага жыцця.

У сувязі з шырока распаўсюджаным пострраўматычным стрэсам у пацярпелага ад катастрофы насельніцтва выступае такая функцыя спецыяліста сацыяльна-культурнай сферы, як кампенсатарная дзейнасць. Сацыяльныя работнікі, псіхолагі, сацыяльныя педагогі, культуролагі сродкамі культуры, мастацтва, аматарскай творчасці павінны дапамагаць жыхарам соцыуму ў пераадоленні посткатастрофнага стрэсавага стану, цяжкасцей адаптацыі, пераарыентацыі на новы лад жыцця.

Аналіз узроўню прафесійнай падрыхтоўкі спецыялістаў сацыяльна-культурнай сферы краіны сведчыць аб тым, што ранейшая сістэма іх мастацкай адукацыі не зусім адпавядала запатрабаванням часу, таму яе неабходна было ўдасканаліць. А калі ўлічыць, што падрыхтоўкай кадраў мастацтвазнаўчых і культуралагічных спецыяльнасцей займаюцца толькі тры вышэйшыя і 21 сярэдняя спецыяльная навучальныя ўстановы, то стане зразумелым, што сацыяльна-культурная сфера нездавальняюча забяспечана кадрамі.



Такім чынам, перад сацыяльнымі інстытутамі краіны востра паўстала праблема насычэння сацыякультурнай сферы прафесійна падрыхтаванымі кадрамі, якім давядзецца працаваць у спецыфічных умовах адкрытага мікрасацыяльнага асяроддзя. Гэта павінны быць спецыялісты па аказанні сацыяльнай дапамогі насельніцтву, арганізацыі яго litarнабаковай дзейнасці ў сферы вольнага часу, вырашэнні выхаваўча-адукацыйных задач, карэкцыі паводзін і сацыяльнай рэабілітацыі асобных груп насельніцтва.

У Канцэпцыі развіцця вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь у новых умовах вызначаны два асноўныя кірункі падрыхтоўкі спецыялістаў для культурна-асветных устаноў: забеспячэнне галіны культуры, з аднаго боку, арганізатарамі аматарскай мастацкай творчасці, а з другога — арганізатарамі правядзення вольнага часу і адпачынкавай дзейнасці насельніцтва. Сутнасць праблемы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў сацыяльна-культурнай сферы заключаецца ў пераадоленні яскрава выражаных супярэчнасцей паміж велізарнай колькасцю сацыяльна значных задач і некампетэнтнасцю многіх работнікаў у іх вырашэнні.

У працэсе рэформы вышэйшай школы, якая прыпала на 90-я гады XX ст., беларускія вышэйшыя навучальныя ўстановы культуры і мастацтва імкнуліся пераадолець існуючыя супярэчнасці паміж аб'ектыўнымі патрэбамі сучаснай сацыяльна-культурнай сферы ў прынцыпова новым тыпе спецыялістаў і адсутнасцю навучальных устаноў, якія б забяспечвалі падрыхтоўку такіх спецыялістаў. У сучасны перыяд у краіне адбылося пераўтварэнне ранейшых інстытутаў ва універсітэты, што дазволіла распачаць падрыхтоўку па шэрагу новых спецыяльнасцей. Так, у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў у гэты час былі ўведзены 12 новых спецыялізацый, сярод якіх менеджмент сацыяльна-культурнай сферы, арганізацыя сацыякультурнай дзейнасці, рэжысура масавых відовішчаў і свят, народныя рамёствы, фальклорнае мастацтва, народная творчасць, рэжысура тэатральнай творчасці, сусветная і айчынная мастацкая культура, сацыяльна-псіхалагічная рэабілітацыя сродкамі мастацтва і інш. Новыя спецыялізацыі ўводзіліся ў Беларускай акадэміі музыкі і Беларускай акадэміі мастацтваў. Адначасова вышэйшыя навучальныя ўстановы актыўна займаліся абнаўленнем зместу навучання.

У 1998 г. былі выпрацаваны дзяржаўныя стандарты вышэйшай прафесійнай адукацыі, якія вызначылі змест культуралагіч-

най і мастацкай адукацыі. Важна, што стандартамі ўстанаўліваліся таксама патрабаванні да ўзроўню прафесійнай падрыхтаванасці асоб, якія атрымлівалі культуралагічную і мастацкую адукацыю. Створаная мадэль вышэйшай прафесійнай адукацыі была зарыентавана як на сусветныя стандарты гуманітарнай адукацыі, так і на нацыянальна-культурныя асаблівасці развіцця Рэспублікі Беларусь. З улікам гэтага былі вызначаны асноўныя напрамкі гуманітарнай падрыхтоўкі і базавыя вучэбныя дысцыпліны.

Развіццё працэсаў трансфармацыі зместу і тэхналогіі сацыяльна-культурнай дзейнасці выклікала неабходнасць падрыхтоўкі спецыялістаў па арганізацыі розных відаў грамадскай і індывідуальна значнай дзейнасці насельніцтва на прынцыпах творчасці, самакіравання, самадзейнасці, эканамічнай мэтазгоднасці. Грамадству патрэбен быў прафесіянал, які б інтэграваў веды і ўменні педагагічных і мастацтвазнаўчых прафесій.

З пачатку 90-х гадоў XX ст. пачала дзейнічаць сістэма сацыяльнай службы. Педагагічныя вышэйшыя навучальныя ўстановы распачалі падрыхтоўку школьных практычных псіхолагаў і сацыяльных педагогаў.

Дзейнасць школьнага сацыяльнага педагога зарыентавана на работу з дзецьмі і падлеткамі. Сусветная ж практыка сведчыць, што ў кваліфікаванай сацыяльна-псіхалагічнай дапамозе маюць патрэбу ўсе катэгорыі насельніцтва. Таму ў 1994 г. рашэннем Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь у Беларускім універсітэце культуры была распачата падрыхтоўка студэнтаў па спецыяльнасці “сацыяльная работа”. Перад універсітэтам была пастаўлена задача падрыхтаваць спецыялістаў, якія б маглі займацца аналітычнай, дыягнастычна-рэабілітацыйнай, карэкцыйна-тэрапеўтычнай і арганізацыйна-кіруючай дзейнасцю ў посткатастрофным соцыуме.

Падрыхтоўка спецыялістаў пачалася на дзённай і завочнай формах навучання. На завочнай форме навучання акадэмічныя групы былі сфарміраваны з работнікаў тых устаноў культуры, якія знаходзіліся ў забруджаных раёнах пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Выкладчыкі дзіцячых музычных школ, супрацоўнікі музеяў, клубаў, кіраўнікі мастацкіх калектываў атрымалі магчымасць пазнаёміцца з сучаснымі тэндэнцыямі культурна-асветніцкай дзейнасці, з новымі кірункамі прафесійнага майстэрства, а таксама паглыбіць веды па асновах прафесійнага мастацтва. У працэсе навучання ў студэнтаў фарміруюцца прафесійныя веды, уменні і навыкі, неабходныя для авалодання складаным майстэрствам арганізацыі культурнай дзейнасці ў вольны



час з рознаўзроставымі групамі насельніцтва. Шэраг спецыяльных дысцыплін знаёмяць студэнтаў са спецыфікай працы сацыяльнага работніка ва ўмовах экалагічнага крызісу. Будучыя спецыялісты авалодваюць методыкай пачуццёвага ўспрымання прыроды, формамі, метадамі і сродкамі экапедагогікі. Значная ўвага пры гэтым надаецца вывучэнню сучаснай сістэмы сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі насельніцтву краін Заходняй Еўропы і Рэспублікі Беларусь.

Пры вывучэнні розных класіфікацыйных напрамкаў псіхатэрапіі асноўная ўвага надаецца азнаямленню з псіхатэрапіяй асобы мастацтвам і гульнёй.

Студэнты авалодваюць асновамі сцэнарнага майстэрства і рэжысуры, формамі і метадамі арганізацыі культурна-адпачынкавай дзейнасці. У працэсе практычных і індывідуальных заняткаў будучыя спецыялісты набываюць навыкі адбору культурных праграм, засвойваюць асновы мастацтваў слова, песні, танца, да таго ж вывучаюць методыку арганізацыі разнастайных культурных праграм для рознаўзроставага насельніцтва.

У вучэбны план уключаны некалькі відаў практыкі: вучэбная, вытворчая і пераддыпломная. Практыка — частка агульнага працэсу падрыхтоўкі спецыялістаў, форма вучэбнага працэсу ва ўмовах, набліжаных да іх будучай дзейнасці. Вучэбная практыка праводзіцца ў розных тыпах культурна-асветных устаноў, у аздараўленчых цэнтрах і санаторыях. У працэсе вытворчай практыкі студэнты вывучаюць розныя аспекты сацыяльных, сацыяльна-педагагічных і сацыякультурных праблем мікраасяроддзя асобы ў бытавых і вытворчых умовах.

Пасля папярэдняй адаптацыі выпускнікі універсітэта рыхтуюцца для работы ва ўстановах сацыякультурнай сферы, у пазашкольных і школьных установах, рэабілітацыйных і эстэтычных цэнтрах, клубах па месцы жыхарства, дзіцячых аздараўленчых цэнтрах, у санаторыях і дамах адпачынку, недзяржаўных грамадскіх арганізацыях, дзіцячых дашкольных установах, дзіцячых аддзяленнях бальніц, у хоспісах, дамах састарэлых, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, навукова-даследчых арганізацыях.

Аналіз сферы дзейнасці кадраў культуры і мастацтва паказвае, што многа выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў працуюць у якасці выкладчыкаў музыкі і спецінструментаў, сусветнай і айчыннай мастацкай культуры, бібліятэкараў, кіраўнікоў мастацкіх калектываў, рэжысёраў масавых відовішчаў і свят у забруджаных радыенуклідамі раёнах. З улікам гэтай акалічнасці

ў вучэбныя планы ўсіх спецыяльнасцей уключаны спецкурсы, што садзейнічаюць фарміраванню навыкаў і ўменняў.

Выпускнікі вышэйшых навучальных устаноў добра падрыхтаваныя да музычна-педагагічнай дзейнасці. За гады навучання яны атрымліваюць глыбокую музычную адукацыю, авалодваюць спецыяльнымі выканальніцкімі навыкамі і педагагічнымі ўменнямі, што потым дазваляе ім на належным узроўні выкладаць музычныя і харэаграфічныя дысцыпліны ў дзіцячых школах мастацтваў, у музычных вучылішчах, вучылішчах мастацтваў.

### 12.4. Сістэма бесперапыннай культуралагічнай і мастацкай адукацыі

У нашай краіне створана сістэма бесперапыннай адукацыі. Найбольш таленавітая, здольная да сацыяльна-культурнай дзейнасці моладзь паступае на падрыхтоўчыя аддзяленні і курсы. Ёсць таксама шэраг агульнаадукацыйных школ з музычным, мастацкім, архітэктурна-мастацкім, харэаграфічным, тэатральным і агульнаэстэтычным ухіламі, якія супрацоўнічаюць з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Пасля заканчэння школ іх выпускнікі працягваюць навучанне ў ВНУ.

У Беларусі сфарміравалася шматгаліновая сістэма культуралагічнай і мастацкай адукацыі *з трыма ўзроўнямі: пачатковым, сярэднім спецыяльным і вышэйшым*. У 1998 г. у краіне налічваліся 508 школ мастацкай адукацыі, 21 музычная, харэаграфічная і культурна-асветная сярэдняя спецыяльная навучальная установа і тры вышэйшыя навучальныя ўстановы (табл. 12.1).

Галоўную ролю ў сістэме мастацкай адукацыі Беларусі адыгрываюць тры вышэйшыя навучальныя ўстановы — Беларуская

Табліца 12.1

**Колькасны склад навучальных ўстаноў культуры і мастацтва***

| Тыпы ўстаноў | Колькасць | |
|---|---|---|
| | устаноў | студэнтаў і навучэнцаў |
| ВНУ | 3 | 5815 |
| ССНУ | 21 | 7250 |
| Школы | 508 | 90225 |
| Усяго | 532 | 102993 |

* Падлікі зроблены на падставе даных, змешчаных у кн.: Дзейнасць навучальных устаноў мастацтва і культуры: аналітычна-статыстычны агляд. — Мн., 1998; Беларуская культура сёння.— Мн., 2002.



дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў. Яны набылі статус буйных культурных і навуковых цэнтраў, дзе сканцэнтраваны значны педагагічны і навукова-творчы патэнцыял.

На ўзроўні сучасных патрабаванняў рыхтуюцца высокакваліфікаваныя спецыялісты для ўсіх рэгіёнаў рэспублікі, дзейнічае двухузроўневая сістэма падрыхтоўкі кадраў.

Наша краіна мае унікальную, пабудаваную на дзяржаўным узроўні сістэму работы з адоранымі дзецьмі. Створаны ў 1996 г. Спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі ўзяў пад сваю апеку больш за тысячу юных дараванняў. Працуе Цэнтр па рабоце з адоранай моладдзю, дзе сабраны унікальны матэрыял для электроннага каталога, устаноўлены сувязі з усімі рэгіёнамі краіны, наладжана міжнароднае супрацоўніцтва. Для работы з талентамі прыцягваюцца вядучыя айчынныя майстры культуры і мастацтва, існуе сістэма правядзення дзіцячых і маладзёжных творчых спаборніцтваў.

У краіне створана пэўная сістэма арганізацыі дзіцячых і маладзёжных конкурсаў, многія з якіх маюць статус міжнародных. Сярод іх — конкурсы юных піяністаў імя І.Цвятаевай, камерных ансамбляў імя М.К.Агінскага, выканаўцаў на народных інструментах імя І.Жыновіча, юных кампазітараў імя Ю.Семянякі, конкурс “Музыка надзеі”, выстаўкі, пленэры, прысвечаныя Рэрыхам, Шагалу, Экзюперы, Рэпіну.

З 1999 г. традыцыйна ладзяцца злёты маладых паэтаў Міншчыны “Нас слова Купалы да творчасці кліча”, дзе працуюць своеасаблівыя творчыя лабараторыі пад кіраўніцтвам вядомых беларускіх літаратараў Р.Баравіковай, В.Іпатавай і інш.

Вялікая роля ў эстэтычным выхаванні належыць прафесійным мастацкім калектывам і тэатрам, канцэртным арганізацыям. Гэтую ролю яны выконваюць праз спектаклі і спецыяльныя канцэртныя праграмы, тыдні тэатра, кнігі, музыкі, выяўленчага мастацтва для дзяцей і моладзі. Да гэтай працы далучаюцца творчыя саюзы пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў і інш.

Заслугоўвае распаўсюджвання вопыт работы з 1990 г. залаў камернай музыкі ў Мінскай вобласці. Зараз тут працуюць 25 такіх залаў на базе музычных школ і школ мастацтваў. Як правіла, за год канцэрты наведваюць каля 25 тысяч слухачоў, у асноўным школьнікаў.

Важным звяном у сістэме бесперапыннай культуралагічнай і мастацкай адукацыі з’яўляюцца сярэднія спецыяльныя навучаль-

ныя ўстановы. У 21 ССНУ рыхтуюцца спецыялісты па 48 спецыяльнасцях і спецыялізацыях. Гэта мастакі-афарміцелі, выкладчыкі дзіцячых музычных, мастацкіх, харэаграфічных школ, канцэртмайстры, бібліятэкары, арганізатары самадзейнай мастацкай творчасці ў клубных установах. Тут працуюць каля 2000 выкладчыкаў. Сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы — цэнтры актыўнага рэгіянальнага асветніцтва, асноўныя крыніцы абітурыентаў для ВНУ мастацтваў, яны вырашаюць праблему задавальнення патрэб рэгіёнаў у спецыялістах гэтага ўзроўню. У 2003 г. выпушчаны 1863 спецыялісты.

Пачатковая мастацкая адукацыя з'яўляецца асноўнай крыніцай папаўнення студэнцкага кантынгенту прафесійных навучальных устаноў. Дзіцячыя школы мастацтваў выяўляюць і развіваюць мастацкія здольнасці дзяцей, прывіваюць прафесійныя навыкі і арыентуюць у выбары прафесіі. Значная частка выпускнікоў школ — патэнцыяльныя прафесіяналы; па статыстыцы сярод студэнтаў ВНУ мастацтваў іх да 80%, а ў акадэміі музыкі — 95%. Школы мастацтваў не абмяжоўваюцца заняткамі ў класах, праводзяць актыўную канцэртную дзейнасць, большасць з іх з'яўляюцца сапраўднымі дзіцячымі філармоніямі. Арганізуюцца мастацкія выстаўкі, у некаторых школах паспяхова дзейнічаюць мастацкія салоны вырабаў дзіцячай творчасці.

Працягваецца пераўтварэнне дзіцячых музычных школ у школы мастацтваў (з адкрыццём класаў харэаграфіі, выяўленчага мастацтва), іх стала 211 (у 2002 г. — 191).

У апошнія гады быў зроблены яшчэ адзін крок па ўдасканаленні сістэмы бесперапыннай адукацыі. Улічваючы востры недахоп кадраў ва ўстановах культуры і мастацтва Гомельскай і Магілёўскай абласцей, пры Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў былі створаны каледжы. Такія каледжы створаны на базе Гомельскага музычнага вучылішча і Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума. Падчас навучання ў каледжах навучэнцы авалодваюць асноўнымі дысцыплінамі першага — другога курсаў вучэбнага плана універсітэта і адразу пры паступленні ва універсітэт залічваюцца на трэці курс. У 1994 г. па хадайніцтве Гомельскага аблвыканкама на базе Мазырскага музычнага вучылішча быў створаны філіял Беларускага універсітэта культуры і мастацтваў, дзе рыхтуюць кіраўнікоў народных харавых калектываў, аркестраў і ансамбляў народнай інструментальнай музыкі. На вучобу туды прымаюць спецыялістаў, якія працуюць ва ўстановах культуры Гомельскай вобласці.



У мэтах паляпшэння кадравай сітуацыі ў рэгіёнах у гарадах Брэсце, Віцебску, Гомелі і Гродне адкрыты філіялы кафедраў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Апраўдаў сябе і мэтавы кантрактны прыём моладзі з сельскай мясцовасці. Ён ажыццяўляецца з ліку асоб, што маюць сярэднюю адукацыю, жывуць у сельскай мясцовасці, выявілі здольнасці і цікавасць да работы ва ўстановах культуры і мастацтва. Падставай для ўдзелу абітурыентаў у конкурсе на мэтавае месца звычайна з'яўляецца аформлены абітурыентам і раённым аддзелам культуры кантракт. Мэтавая кантрактная форма навучання дазваляе прыняць у ВНУ культуры і мастацтва значную колькасць юнакоў і дзяўчат, якія пасля заканчэння ВНУ ўладкоўваюцца на працу ва ўстановы культуры, размешчаныя на перыферыі.

У Слуцку, Маладзечне, Вілейцы і Мядзеле працуюць цэнтры мастацкай творчасці навучэнцаў, якія намаганнямі работнікаў культуры і адукацыі пераўтварыліся ў аўтарытэтныя дзяржаўныя ўстановы, дзе больш за 3,5 тыс. хлопчыкаў і дзяўчынак займаюцца па спецыяльных праграмах эстэтычнага цыкла, працуюць студыі, гурткі, вядзецца паўсядзённая і мэтанакіраваная работа па ўваходжанні дзяцей у свет прыгажосці, творчасці, духоўнага ўзбагачэння.

Такім чынам, дзяржаўная адукацыя ў сферы культуры і мастацтва мае ўстойлівую сістэму, якая захоўвае прынцыпы пераемнасці і бесперапыннасці навучання. Пачатковае, сярэдняе спецыяльнае і вышэйшае звёны як часткі гэтай сістэмы паспяхова функцыянуюць, трывала ўзаемазвязаны, забяспечваюць роўныя ўмовы ўсім жадаючым на атрыманне мастацкай адукацыі.

### 12.5. Паслядыпломная культуралагічная адукацыя

Важнейшай праблемай сацыяльна-культурнай палітыкі з'яўляецца стварэнне эфектыўнай сістэмы павышэння прафесійнага ўзроўню работнікаў культуры. Гэтая катэгорыя спецыялістаў, улічваючы творчы характар сваёй працы, яе шматфункцыянальнасць, зменлівасць формаў і зместу, больш чым іншыя мае патрэбу ў пастаянным узбагачэнні новымі ідэямі і перадавым вопытам.

У працэсе даследавання, праведзенага БелДІПК, высветлілася, што ў канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя з 9680 культасветработнікаў краіны вышэйшую спецыяльную адукацыю мелі толькі 1406 чалавек (16%), з 880 супрацоўнікаў музеяў і экскурсаводаў —

57 супрацоўнікаў (6,3%), з 9422 бібліятэкараў — 2827 чалавек (31%). Яшчэ больш складаная кадравая сітуацыя ў забруджаных радыёнуклідамі раёнах. Так, вышэйшую спецыяльную адукацыю мелі 25% бібліятэкараў Магілёўшчыны і 17 — Гомельшчыны, культасветработнікі Магілёўскай вобласці — 9,8% і 17% — Гомельскай вобласці. Амаль 70% супрацоўнікаў устаноў культуры адчувалі неабходнасць у павышэнні кваліфікацыі. Толькі 8% рэспандэнтаў былі поўнасцю задаволены сваімі прафесійнымі ведамі.

Адным з дзейсных механізмаў, здольных змяніць такую сітуацыю, з'яўляецца стварэнне на базе вышэйшых навучальных устаноў культуры і мастацтва разгалінаванай сістэмы павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў. У яе задачы павінны ўваходзіць удасканаленне прафесійнага майстэрства работнікаў культуры, якія маюць прафесійную падрыхтоўку; пераарыентацыя кадраў з неспецыяльнай падрыхтоўкай; засваенне прафесійных навыкаў тымі, хто не мае ніякай прафесійнай падрыхтоўкі.

Адной са структур, якая заклікана вырашаць праблемы павышэння прафесійнага майстэрства кадраў культуры і мастацтва, з'яўляецца Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры, адкрыты ў 1991 г. У ім вядуцца навуковыя, навукова-практычныя і прыкладныя даследаванні ў галіне культуры. Адначасова БелДІПК — гэта навучальная ўстанова, якая ажыццяўляе павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўку работнікаў культуры. Пры вучэбным аддзеле інстытута створаны кафедры, якія займаюцца праблемамі псіхалогіі, педагогікі, культуралогіі і тэорыі кіравання. Тут ажыццяўляецца перападрыхтоўка кадраў у галіне культуры па спецыяльнасцях "эканоміка і кіраванне сацыякультурнай сферай", "дэкаратыўна-прыкладное мастацтва", "музейная справа", "ландшафтна-паркавая архітэктура" і інш.

Галоўная задача БелДІПК — павышэнне агульнай і прафесійнай культуры супрацоўнікаў сацыяльна-культурных інстытутаў краіны. Але аднаму інстытуту цяжка вырашаць гэтую праблему. Ва ўстановах і арганізацыях культуры Беларусі, якія ўваходзяць у сістэму Міністэрства культуры, працуюць каля 26 850 чалавек. За перыяд з 1996 г. па 2001 г. павышэнне кваліфікацыі прайшлі 8403 кіраўнікі і спецыялісты, а на абласных курсах — 8182 чалавекі.

Даследаванне гэтай праблемы дае падставы сцвярджаць, што пэўную ролю ў павышэнні прафесійнага майстэрства адыгрываюць абласныя навукова-метадычныя цэнтры, якія існуюць пры ўпраўленнях культуры аблвыканкамаў. Яны забяспечваюць работу пастаянна дзеючых курсаў, на якіх не радзей аднаго раза ў



чатыры — пяць гадоў на працягу месяца праходзяць перападрыхтоўку работнікі ўстаноў культуры. Знаёмства са зместам навучання паказала, што асноўнымі формамі навучання на курсах з'яўляюцца семінары, дзелавыя гульні, абмен вопытам, стажыроўкі на базе лепшых устаноў культуры, лабараторныя і практычныя заняткі, разбор канкрэтных праблемных сітуацый. Метадычныя цэнтры ўдзельнічаюць ў распрацоўцы тэматыкі, вучэбных планаў і праграм курсаў павышэння кваліфікацыі, вырашэнні арганізацыйных пытанняў.

Аналіз сістэмы павышэння прафесійнага майстэрства работнікаў культуры Гомельскай і Магілёўскай абласцей сведчыць аб тым, што і раённыя аддзелы культуры выконваюць значны аб'ём работы па распаўсюджванні перадавых метадаў і формаў культурна-адпачынкавай дзейнасці. Асноўнымі формамі павышэння кваліфікацыі культасветработнікаў у раёне з'яўляюцца пастаянна дзеючыя семінары, якія праводзяцца, як правіла, не радзей аднаго раза ў квартал на працягу аднаго — трох дзён, а таксама практычныя заняткі і паказальныя культурна-адпачынкавыя мерапрыемствы. Навучальны год раённых семінараў завяршаецца навукова-практычнай або навукова-метадычнай канферэнцыяй. Семінары звычайна праходзяць на базе абласных, гарадскіх і раённых бібліятэк, музеяў, Дамоў культуры, клубных устаноў новага тыпу.

Сярод разнастайных формаў павышэння прафесійнага майстэрства работнікаў культуры і мастацтва асабліва важная роля адводзіцца завочнаму навучанню. Яно з'яўляецца гарантаваным спосабам забеспячэння ўстаноў культуры ўласнымі кадрамі спецыялістаў, найбольш эфектыўным сродкам павышэння кваліфікацыі. Так, у 2003 г. у вышэйшых навучальных установах культуры і мастацтва завочна навучаліся 1906 студэнтаў, у сярэдніх спецыяльных навучальных установах — 674.

Глыбокае і ўсебаковае вывучэнне дзейнасці сацыяльна-культурных інстытутаў па фарміраванні кадравага патэнцыялу паказала, што існуючая ў краіне сістэма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі садзейнічае папаўненню прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў культуры спецыялістамі. Сучасная сацыякультурная сітуацыя ў краіне характарызуецца дынамічным развіццём, актуалізуюцца індывідуальныя асаблівасці, нацыянальная самабытнасць, аўтарскі пачатак. Усё гэта вылучае на першы план праблемы навукова-тэарэтычнага асэнсавання ролі і месца сацыяльна-культурных інстытутаў у культурных працэсах, удакладнення іх функцый, задач і мэт, з аднаго боку, і метадычнага забеспячэння

спецыялістаў сацыяльна-культурнай дзейнасці новай методыкай, эфектыўнымі сродкамі і формамі работы — з другога.

**Пытанні і заданні**

1. У чым спецыфіка культуралагічнай адукацыі?
2. Якія блокі культуралагічных ведаў вам вядомы?
3. Назавіце новыя культуралагічныя спецыяльнасці і спецыялізацыі, што адкрыліся ў ВНУ ў канцы XX ст.
4. Якія ўзроўні культуралагічнай і мастацкай адукацыі можна вылучыць?
5. Дзе спецыялісты сацыякультурнай сферы павышаюць сваю кваліфікацыю?

**Літаратура**

*Ариарский, М.А.* Прикладная культурология.— СПб.: С.-Петербург. гос. ун-т культуры и искусства, 1999.— 530 с.

*Грыгаровіч, Я.Д., Смолік, А.І., Рагачова, Л.М.* Падрыхтоўка кадраў культуры ў Рэспубліцы Беларусь: сучасны стан і перспектывы.— Мн.: Бел. дзярж. ун-т культуры, 2001.— 158 с.

*Кузьмініч, М.Л.* Гісторыя музычнага выхавання і адукацыі (ад старажытнасці да XIX ст.): вучэб. дапам.— Мн.: Бел. ун-т культуры, 2000.— 188 с.

*Сборник* концептуально-программных документов по развитию национальной системы образования.— Мн.: Мин-во образования Респ. Беларусь, 2001.— 223 с.

*Дзяржаўная* праграма “Функцыяніраванне і развіццё культуры Рэспублікі Беларусь да 2005 года”.— Мн.: Мін-ва культуры Рэсп. Беларусь, 2002.— 70 с.

*Вучэбнае выданне*

**Грыгаровіч** Ядвіга Дамінікаўна
**Смолік** Аляксандр Іванавіч

**ПРЫКЛАДНАЯ КУЛЬТУРАЛОГІЯ**

*Вучэбны дапаможнік*

Рэдактары І.В.Смяян, Л.Ц.Спірыдонава
Набор, вёрстка, мастацкае афармленне
і фотаздымкі П.В.Бокача

Падп. у друк “__”_____ 2005 г. Фармат 60х84 1/16.
Друк афсетны. Папера пісчая №2. Ум. друк. арк. 13,25.
Ул.-выд. арк. 15,0. Тыраж _____ экз. Заказ ___.